2. Тамсама. Вильна, 1891. Т. 18: Акты о копных судах. 1522—1707.
3. Тамсама. Вильна, 1895. Т. 22: Акты Слонимского земского суда. 1555—1570.
4. Тамсама. Вильна, 1912. Т. 36: Акты Минского гродского суда. 1582—1590.
5. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Спб., 1863. Т. 1. 1361—1598 гг.
6. Тамсама. Спб., 1865. Т. 2. 1599—1637.
7. Архив Юго-Западной России, издаваемый Временной комиссией для разбора древних актов. Киев, 1859. Ч. 1. Т. 1: Акты, относящиеся к истории православной церкви в Юго-Западной России.
8. Тамсама. Киев, 1907. Ч. 8. Т. 5: Акты об украинской администрации XVI—XVII вв.
9. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. Старажытныя акты. А. з. 163.
10. Довнар-Запольский М. В. Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI в. Киев, 1905. Приложения.
11. Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске ... Витебск, 1890. Вып. 20.
12. Опись документов Виленского центрального архива древних актовых книг. Вильна, 1901. Вып. 1: Акты Россиенского земского суда за 1575—1586 гг.
13. Тамсама. Вильна, 1913. Вып. 10: Акты Брестского гродского суда за 1575—1715 гг.
14. Русская историческая библиотека. Юрьев, 1914. Т. 30: Литовская метрика. Отд. 1—2. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1.
15. Тамсама. Пг., 1915. Т. 33: Литовская метрика. Отд. 1. Ч. 3: Книги публичных дел. Т. 1: Переписи войска литовского.
16. Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў Ф. 389. (Метрыка Вялікага княства Літоўскага). Воп. 1. А. з. 34.
17. Тамсама. А. з. 35.
18. Тамсама. А. з. 37.
19. Тамсама. А. з. 38.
20. Тамсама. А. з. 40.
21. Тамсама. А. з. 41.
22. Тамсама. А. з. 58.
23. Тамсама. А. з. 60.
24. Тамсама. А. з. 64.
25. Тамсама. А. з. 86.
26. Тамсама. А. з. 229.
27. Тамсама. А. з. 231.
28. Тамсама. А. з. 234.
29. Тамсама. А. з. 239.
30. Тамсама. А. з. 245.
31. Тамсама. А. з. 246.
32. Тамсама. А. з. 247.
33. Тамсама. А. з. 249.
34. Тамсама. А. з. 255.
35. Тамсама. А. з. 256.
36. Тамсама. А. з. 260.
37. Тамсама. А. з. 261.
38. Тамсама. А. з. 262.
39. Тамсама. А. з. 266.
40. Тамсама. А. з. 268.

41. Тамсама. А. з. 569.
42. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь у г. Мінску. Ф. 694. Воп. 4. А. з. 1726.
43. Тамсама. Воп. 7. А. з. 655.
44. Тамсама. Ф. 1727. Воп. 1. А. з. 1.
45. Тамсама. Ф. 1751. Воп. 1. А. з. 1.
46. Тамсама. Ф. 1769. Воп. 1. А. з. 13.
47. Тамсама. А. з. 14.
48. Archiwum domu Sapiehów. Lwów, 1892. T. 1: Listy z lat 1575—1606.
49. Archiwum książąt Lubartowiczów—Sanguszków w Sławucie. Lwów, 1890. T. 3: 1432—1534.
50. Тамсама. Lwów, 1890. T. 4: 1535—1547.
51. Тамсама. Lwów, 1910. T. 7: 1554—1572. Dyplomataryusz gałęzi Niesuchojeżskiej. T. 2.
52. Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji wileńskiej. Kraków, 1932—1948. T. 1.

*Сяргей Каблоў*

## ПАДВОДНАЯ АРХЕАЛОГІЯ НА БЕЛАРУСІ

Падводная археалогія сёння ператварылася ў самастойную навуковую дысцыпліну (яшчэ ў 1955 г. на першым кангрэсе падводных археолагаў у Францыі некаторыя навукоўцы прапаноўвалі прызнаць падводную археалогію самастойнай навукай). Аб ёй напісаны сотні кніг і артыкулаў, у шэрагу краін створаны навуковыя ўстановы, якія займаюцца праблемамі падводнай археалогіі [39, с. 10].

Вывучэнне затопленых пабудоў і гарадоў дазваляе часта па-новаму паглядзець на памеры горада, развіццё гандлю, узровень будаўнічага мастацтва. Падводная археалогія здольная вырашыць пытанні аб вялікіх міграцыях у старажытнасці. Пры яе дапамозе можа быць асветлена гісторыя марскіх народаў, напрыклад фінікійцаў. Гідраархеалогія дае цалкам іншы матэрыял, чым палявая археалогія. І, нарэшце, вядома, што ў вадзе рэчы захоўваюцца значна лепш, чым ў зямлі [28, с. 12].

За апошнія 20 год падводная археалогія паступова набыла міжнароднае прызнанне, і яе адкрыцці зараз шмат часцей, чым у мінулым, скарыстоўваюцца ў агульнагістарычных і археалагічных даследаваннях. З'явіліся новыя сродкі электроннага знаходжання і пошуку, гідралакатары і іншыя прыборы, якія дазволілі паскорыць збор інфармацыі на месцы і яе апрацоўку.

І калі піянеры падводных раскопак праводзілі параўнанні з матэрыялам, атрыманым на сушы, то ў нашыя часы назапашаны аб'ём інфармацыі дазваляе перайсці

да больш глыбокіх параўнанняў саміх падводных знаходак [48, с. 5].

На Беларусі больш 10 тысяч азёр і 21 тысяча рэк, на берагах якіх здаўна сяліліся людзі. Многія з паселішчаў у выніку зменаў клімату і розных геадынамічных працэсаў апынуліся пад вадой і сёння ўяўляюць каштоўны матэрыял для археолагаў.

Тэрыторыя Беларусі была заселена з глыбокай старажытнасці. Верагодна, ужо тады рэкі служылі транспартнымі шляхамі, бо неалітычныя стаянкі часцей за ўсё размяшчаліся на ўзбярэжжах.

У эпоху ранняга жалеза значэнне рэк як сродкаў сувязі павялічваецца і асаблівую вагу яны набываюць у часы Кіеўскай Русі, калі водныя шляхі сталі важнейшымі міжплемяннымі шляхамі зносін. На іх аснове ўзнікае шэраг камунікацый, якія мелі значэнне як для асобных зямель Кіеўскай Русі, так і для ўсёй дзяржавы ў цэлым [20, с. 7].

Пісьмовыя сведчанні аб водных шляхах вельмі сціплыя. Мы можам пра іх меркаваць па напрамках адзначаных у летапісах паходаў, перамяшчэнняў. З выключнай упэўненасцю можна гаварыць аб вядомым шляху «з вараг у грэкі», пра вялікую ролю якога сведчаць знаходкі скарбаў арабскіх і візантыйскіх манет [20, с. 11].

Некаторыя звесткі аб старажытных водных шляхах дае і тапаніміка. У прыватнасці, назва Волак-Завалочча ўказвае на наяўнасць валокаў паміж рачнымі сістэмамі. Падобныя назвы ёсць у Уздзенскім, Карэліцкім, Маладзечанскім раёнах [20, с. 11].

Перавагі рачных шляхоў у параўнанні з сухапутнымі на беларускіх землях відавочныя. Знаходжанне на водападзелах Балтыйскага і Чорнага мораў ператварала гэтыя землі ў своеасаблівы вузел водных шляхоў, адчыняла магчымасць руху ва ўсіх напрамках. Немалаважнае значэнне меў і сам характар рэк — адсутнасць парогаў, вадаспадаў, быстрын.

Ўсе водныя шляхі, іх асноўныя напрамкі і адгалінаванні склаліся перш за ўсе як грузавыя артэрыі [20, с. 34] і цалкам магчымыя знаходкі пад вадой рэшткаў прычалаў, прыстаняў, затануўшых суднаў і грузаў. Можна спадзявацца, што каштоўны матэрыял захоўваюць воды азёр і рэк, на ільдзе якіх адбываліся так званыя лядовыя бітвы, святыя крыніцы язычніцкіх часоў, затопленыя паселішчы і рэшткі мастоў сярэднявечча.

На падставе пісьмовых крыніц і практычных даследаванняў на тэрыторыі рэспублікі можна вызначыць наступныя катэгорыі гідраархеалагічных помнікаў: 1) пáлевыя паселішчы; 2) затопленыя паселішчы; 3) затануўшыя чаўны, караблі; 4) помнікі часоў паганства і культавыя камяні; 5) сляды баёў, патопленая зброя; 6) пахаванні ў вадзе; 7) прыстані, прычалы, рэшткі мастоў, старажытныя затопленыя дарогі; 8) затопленыя клады. А цяпер спынімся больш падрабязна на кожнай з іх.

**Пáлевыя паселішчы.** Выкарыстоўваць водную стыхію чалавек пачаў з даўніх часоў, і старажытнымі сведкамі гэтага з'яўляюцца палевыя канструкцыі, на якіх размяшчаліся і цяпер размяшчаюцца паселішчы людзей.

Герадот (V ст. да н. э.), успамінаючы паход Дарыя на Ніжні Дунай, апісваў палевыя паселішчы мясцовых жыхароў: «...Яны жылі на самым возеры такім чынам: пасярод возера, на высокіх палях стаяць падмосткі, да якіх вядзе перакінуты з берага мост. Гэтыя сваі, што трымаюць падмосткі, пабудаваны яшчэ ў даўні час самімі жыхарамі. Дзяцей яны прывязваюць за палі, каб не зваліліся ў возера. А калі яны падымуць масніцу і апусцяць у ваду пустую карзіну, то за кароткі час выцягнуць яе поўную рыбы...» [8, с. 27].

Палевыя паселішчы узводзіліся чалавекам у эпоху неаліту. Некаторыя працягвалі існаваць і ў раннім жалезным веку. Узнікненне палевых пабудоў звязана з прымітыўнай формай земляробства на дрыгвістых месцах, якое спалучалася з развітым рыбалоўствам. З развіццём металургіі і плужнага земляробства ўзвядзенне свайных збудаванняў спынілася. Неабходнасць абароны ад дзікіх звяроў і варожых плямёнаў таксама адыгрывала пэўную ролю пры ўзвядзенні палевых паселішчаў [29, с. 13—14].

Палевыя паселішчы вядомы і ў цяперашні час у некаторых адсталых народаў у Інданезіі, Меланезіі, Новай Гвінеі, у некаторых абласцях Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі.

Палевыя збудаванні былі адкрыты ў Еўропе ў сярэдзіне мінулага стагоддзя на Цюрыхскім возеры ў Швейцарыі, а потым і ў іншых заходнееўрапейскіх краінах [25, с. 64].

Палевыя паселішчы, ці паселішчы на насцілах, складаюць асобную катэгорыю археалагічных помнікаў Латвіі. Іх сістэматычнае вывучэнне пачалося тут з 1959 г. пад кіраўніцтвам Я. Апалса з дапамогай сучаснага падвод-

нага спорта. Стала вядома 10 такіх паселішчаў у азёрах Латвіі [2, с. 275].

На тэрыторыі Беларусі сляды палевых пабудоў адзначаны ўпершыню ў 40-я гады М. І. Алексеюком. Яны адшуканы на воз. Улла ў Віленскім раёне. Другім месцам знаходжання палевых збудаванняў стала воз. Вейна ў в. Лубяны Бялынічскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1952 г. гэты археалагічны помнік даследаваў беларускі археолаг К. М. Палікарповіч. Даўжыня паляў аказалася 4 м [29, с. 13—14].

На Беларусі звесткі аб рэштках старажытных збудаванняў на палях даволі шматлікія. Успаміны аб іх можна знайсці ў Ф. Пакроўскага [34, с. 47], В. Ісаенкі [21, с. 34].

Адзінае са свайных паселішчаў, на якім праводзіліся падводныя даследаванні,— гэта пасяленні на воз. Сенніца. Работы праводзіліся ў 1989 г. і вынікам іх стала адкрыццё 4 новых паселішчаў эпохі неаліту і бронзы [19, с. 153]. Падводныя даследаванні праводзіліся аквалангістамі Экспедыцыі падводных гісторыка-археалагічных даследаванняў (ЭПГАД) Дзяржаўнага музея Рэспублікі Беларусь.

**Затопленыя паселішчы.** Прыкладам гарадоў, якія тонуць у цяперашні час, можа быць Венецыя. У час моцнага землетрасення ў 1692 г. знік пад вадой горад Порт-Раял. У выніку наступлення Чорнага мора на сушу пад вадой апынулася частка старажытных гарадоў Паўночнага Прычарнамор'я: Ольвія, Херсанес, Фанагорыя і г. д. На дне Сухумскай бухты захоўваюцца разваліны Дыяскурыяды [25, с. 42, 163].

Прыклад затопленага паселішча на Беларусі — паселішча ля гарадзішча Маскавічы [17, с. 3]. Падводныя даследаванні тут вядуцца з 1979 г. Гэта адзіны больш-менш вывучаны падводны аб'ект на тэрыторыі рэспублікі. Прычынай затаплення паселішча з'явілася ўзняцце ўзроўню вады ў воз. Неспіш [17, с. 3]. І гэта не адзіны прыклад. Так, на малым востраве воз. Лепельскага (Віцебская вобл.) размешчана паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку. У сувязі з узняццем вады востраў цяпер затоплены [21, с. 34]. Ёсць звесткі аб затопленым паселішчы на дне воз. Свіцязь. Цікавая легенда звязана з возерам, якое знаходзіцца непадалёку ад сяла Дзераўное (б. Слонімскі ўезд), згодна з якой гэтае возера ўтварылася на месцы вёскі, якая праваліласяпад зямлю [34,

с. 22]. А калі верыць словам рыбакоў, то частку замка Стэфана Баторыя ў Гродне ў форме сцяны з аконнымі нішамі можна назіраць на дне р. Нёман [34, с. 50]. Верагодна дапусціць, што шмат паселішчаў каменнага веку аказаліся затопленымі, таму што яны звычайна знаходзіліся ля самай вады.

**Затануўшыя чаўны, караблі.** Як ужо адзначалася вышэй, азёры і рэкі Беларусі адыгрывалі вялікую ролю ў яе эканамічным развіцці. У эпоху Кіеўскай Русі фарміраваўся шлях «з вараг у грэкі». Частка гэтага шляху праходзіла і па тэрыторыі сучаснай Беларусі [31, с. 11]. Ад галоўнага шляху адыходзілі адгалінаванні на захадзе, уверх па Бярэзіне і да Нёмана, а таксама ўверх па Прыпяці да рэк



Мал. 1. Човен (так званая дубіца), знойдзены ў воз. Іказнь. На такіх чоўнах трымаўся, верагодна, наплаўны мост у XVI ст.

сістэмы Віслы (Буга). Такім чынам, беларускія водныя шляхі былі часткай вялікай і вельмі разгалінаванай сеткі водных дарог [20, с. 20]. І несумненна, што на дне гэтых рэк ляжыць не адно судна.

Вывучэнне старажытных караблёў, бадай, самае цяжкае ў падводнай археалогіі. Занадта складаныя іх пошукі. Але ж такія знаходкі, як, напрыклад, комплекс рэчаў аднаго часу і звычайна добрай захаванасці, ніколі не ўдасца адшукаць пры палявых раскопках. Аднак важнымі ўяўляюцца не толькі знаходкі сусветна вядомых затануўшых караблёў, а, да прыкладу, старажытных чаўноў. Так, яшчэ ў 1937 г. заснавальнікам савецкай падводнай археалогіі прафесарам Р. А. Арбелі былі праведзены працы па падняцці старажытнага чоўна з Буга [18, с. 56]. Дзве старажытныя лодкі падняты з дна Акі [3, с. 89]. Вядомы знаходкі суднаў каля вострава Хорціца на Дняпры [49, с. 395].

На Беларусі таксама адзначаюцца знаходкі рэшткаў суднаў. Так, паводле слоў старажылаў, іх знаходзілі каля сяла Доўгая Дубрава Жыткавіцкага раёна [7, с. 39—44]. У Калінкавіцкім раёне на балоце паміж сялом Малыя Аўцюцэвічы і Вялікія Аўцюцэвічы перад вайной 1914 г. былі знойдзены рэшткі судна і воск [7, с. 39—44].

У часопісе «Крывіч» за 1923 г. змешчана паведамленне аб тым, што сярод лясоў Тураўскага і Азяранскага лясніцтва ёсць возера, у якім знаходзяць рэшткі старажытных караблёў.

У эпоху Кіеўскай Русі існавалі даволі разнастайныя тыпы суднаў. Будаўніцтва іх вялося ў месцах, багатых лесам, і вельмі вялікае значэнне для суднабудавання мелі лясістыя беларускія землі, размешчаныя каля водных шляхоў [20, с. 20].

Самымі старажытнымі суднамі ва ўсходніх славян з'яўляліся лодка, ладдзя, човен і струг. Паводле звестак грэчаскага пісьменніка Канстанціна Багранароднага, славяне яшчэ ў X ст. хадзілі ў Візантыю на лодках-аднадрэўках. На ладдзях у IX—X стст. плавалі па Дняпры «з вараг у грэкі». «Русская правда» (1054 г.) упамінае струг і човен [22, с. 290]. Мясцовае значэнне для перамяшчэння грузаў і людзей, рыбнай лоўлі, палявання, плытагонства мелі розныя лодкі: дзяўбаныя (човен, камяга, дуб, шугалея) і дашчаныя. Апошнія атрымалі распаўсюджанне ў другой палове XIX ст. [5, с. 103]. А. Сапуноў адзначаў, што ў сярэдзіне XIII ст. па Заходняй Дзвіне і Каспле ха-

дзілі дашчаныя ўчаны [43, с. 345]. У пачатку XV ст. на Нёмане атрымалі вядомасць віціны [5, с. 103—104]. Павелічэнне грузавых перавозак у канцы XVI—XVII ст. абумовіла будаўніцтва суднаў большага танажу — байдакоў, шкутаў, барак [26, с. 213—214].

Значнасць водных шляхоў змянялася ў залежнасці ад змяненняў у эканамічным і палітычным жыцці. Росквіт вялікага шляху «з вараг у грэкі» прыпадае на IX—X стст., пасля чаго ў сувязі з узмацненнем феадальнай раздробленасці і татара-мангольскага нашэсця яго значэнне зменшылася [20, с. 38].

З утварэннем Вялікага княства Літоўскага ўзрастае роля накірунку па Заходняй Дзвіне, Нёману, Бугу (Ганзейскі саюз). А з XVI ст. пачынаецца новы этап у гісторыі беларускіх водных шляхоў. Шэраг дакументаў сведчыць аб узрастанні рачных перавозак у Рэчы Паспалітай, куды ўваходзіла ў той час Беларусь [20, с. 38]. І знаходкі пад вадой суднаў гэтага часу таксама ўяўляюць вялікую цікавасць для археолагаў і гісторыкаў.

**Помнікі часоў паганства і культавыя камяні.** Пад словам «язычніцтва» мы разумеем дахрысціянскія і нехрысціянскія рэлігіі. Язычніцтва — гэта частка агульначалавечага комплексу вераванняў і абрадаў. Яно стала вызначальным фактарам ідэалогіі славянства і без яго вывучэння і аналізу нельга зразумець духоўную культуру народаў Кіеўскай Русі.

Нашы продкі абагаўлялі прыроду, пакланяліся ідалам, якія ўвасаблялі яе сілы. Звычайна іх выразалі з дрэва, але ў паўночна-заходняй частцы ўсходнеславянскага рэгіёна побач з драўлянымі былі распаўсюджаныя і каменныя ідалы. Сонечным боствам у славян быў Даждзьбог. Гаспадаром неба лічыўся Сварог. Уладаром ветру — Стрыбог, заступнікам жывёлы — Велес. Уладаркай пачатку прыроды была Мокаш. Вышэй за ўсіх быў Пярун — бог грому і маланкі [41, с. 415].

Гаворачы аб рэлігіі славян, Пракоп Кесарыйскі (VI ст. н. э.) пісаў: «Яны паважаюць рэкі і німфаў і ўсялякія іншыя боствы, прыносяць ахвяры ўсім ім і пры дапамозе гэтых ахвяраў праводзяць і гаданні» [36, с. 297].

Летапіс у адносінах да першых стагоддзяў нашай эры характарызуе славян як адданых язычніцтву: «бяху же тогда погане: жруще озером и кладезем и рощением». Тут вераванні славян абазначаюцца перш за ўсе як сістэма магіі пладавітасці, стрыжнем гэтай сістэмы былі малебны

аб дажджы, якія праводзіліся ля азёр, калодзежаў і крыніц [40, с. 13]. Нават на сучаснай карце мы можам адшукаць мноства назваў, звязаных з культам вады: Святое возера, Святы ключ і г. д.

Пазнейшыя настаўленні супраць язычніцтва пастаянна ўпамінаюць «молення кладезнаа и речнаа», прынясенне ахвяраў рэкам і крыніцам: «а друзии к кладязям приходяще моляться и в воду (жертву) мечють» [40, с. 13].

Праз усе крыніцы XI—XIII стст. праходзіць апісанне асноўных славянскіх маленняў, такіх, як малебны, звернутыя да прыроднай вады (рэкі, азёры, крыніцы) з просьбай своечасовага даравання вады нябеснай — дажджу [41, с. 134—135].

Знаходкі часоў язычніцтва сустракаюцца і па сённяшні дзень. Так, напрыклад, у 1966 г. на дне аднаго з заліваў Дняпра быў знойдзены двухтваравы бронзавы ідал. Было адшукана некалькі ідалаў у Себежскім раёне на дне высыхаючых азёр. Сенсацыяй мінулага стагоддзя была знаходка ў 1848 г. у рацэ Збруч на руска-аўстрыйскай мяжы ў Галіцыі каменнага ідала. Гэтая знаходка ўвайшла ў літаратуру пад назвай збручскага ідала, ці «Святавіда». Цяпер ён захоўваецца ў Кракаўскім музеі [41, с. 232].

На тэрыторыі Беларусі знаходкі каменных ідалаў таксама магчымыя. У Дзяржмузеі Беларусі захоўваецца ідал, адшуканы каля Шклова ў ручаі. У артыкуле М. Мялешкі «Камень у вераннях і паданнях беларусаў», апублікаваным у 1928 г., адзначаецца, што на адным з астравоў Богінскага возера на Браслаўшчыне стаяла каменная чалавекападобная фігура ў палову чалавечага росту са складзенымі на грудзях рукамі і адбітай галавой. Фігуру называлі «Стод». Потым яна была скінута ў возера [30, с. 176].

Да старажытных збудаванняў, звязаных з язычніцтвам, адносяцца рэшткі святых дубоў. Нашы продкі абагаўлялі дубровы, пакланяліся дрэвам. У язычніцкім кульце славянаў першачарговае значэнне мела пачытанне дуба. Дуб лічыўся дрэвам жыцця [41, с. 211]. Канстанцін Багранародны так апісвае пакланенне русаў на в. Хорціца святому дубу: «...яны прыносяць у ахвяру жывых пеўняў, кругом утыкаюць стрэлы, а некаторыя кавалкі мяса, хлеба і што мае кожны, як патрабуе іх звычай [41, с. 211]».

Характэрныя прыкметы святасці дубоў — убітыя ў іх

ікλы або сківіцы дзікіх жывёл, часцей за ўсё дзіка [41, с. 211].

У 1909 г. з дна ракі Дзясны (каля Чарнігава) быў падняты дуб з увагнанымі ў яго 4 дзікавымі ікламі [41, с. 212].

Цікавае адкрыццё было зроблена ў 1975 г., калі з дна Дняпра, ніжэй вусця Дзясны, быў падняты мораны дуб, у ствол якога ўстаўлена 9 вепраўых сківіц, што складаюць форму квадрата, ікламі вонкі. Знаходка датавалася сярэдзінай VIII ст. [41, с. 212].

Маюцца звесткі і аб святых дубах на тэрыторыі Беларусі. Так, напрыклад, Г. Штыхаў у «Археалагічнай карце Беларусі» ўпамінае в. Палыкавічы Магілёўскага раёна, каля якой ёсць крыніца і старажытны дуб, якія да нядаўняга часу шанаваліся насельніцтвам як «святыя» [50, с. 226].

*«Барысавы камяні».* У беларусаў быў шырока распаўсюджаны культ камянёў. У XIX — пачатку XX ст. шэраг даследчыкаў займаўся зборам звестак аб культавых камянях — Ф. Пакроўскі, А. Сапуноў, М. Мялешка, Е. Раманаў. Працягваецца такая праца на тэрыторыі рэспублікі і сёння.

Болей чым дзе камянёў, якія ўшаноўваліся да нядаўняга часу, вядома ў рэчышчы Заходняй Дзвіны, а таксама ў яе прытоку Дзісне. Гэта тры камяні каля г. Дзісна (каля в. Накоўнікі, два каля в. Балоткі — вялікі пісанік, «Сулиборь хрьст»), два ў рэчышчы каля в. Падкасцельцы за 5 км ад Полацка і ў г. п. Друя [15, с. 3].

З усіх малельных камянёў асабліва папулярныя былі «Барысавы камяні» ў рэчышчы Заходняй Дзвіны. Аб іх у навуковай літаратуры ідуць спрэчкі ўжо каля двух стагоддзяў, ім прысвечаны шматлікія публікацыі. Чаму ж менавіта «Барысавы» і якія функцыі яны выконвалі?

У кнізе «Язычество Древней Руси» Б. Рыбакоў піша: «Больш за ўсё камянёў справядліва звязваюць з полацкім князем Рагвалодам-Барысам. На каменнях высечаны вялізныя крыжы і надпісы: «Господи помози рабу своему Борису». Дата вызначаецца даволі дакладна: Барыс Усяславіч, сын знакамітага князя-чарадзея, княжыў вельмі нядоўга — з жніўня 1127 г. і не далей чым да лютага 1129 г. Князь Барыс заступіў на прастол у разгар страшэннага неўраджаю і голаду і ў час голаду па загаду князя на ўсіх прыкметных валунах высякаюць аднатыповыя надпісы з імем Барыса [41, с. 674].

Што ж датычыцца функцый гэтых камянёў, то тут адзінай думкі няма. Б. Рыбакоў лічыць, што надпісы на іх былі зроблены для распаўсюджання хрысціянства [14, с. 69—74], А. Кіркор — для ўвекавечвання памяці княства Барыса [14, с. 69—74]. К. Тышкевіч дапускае, што камяні служылі памежнымі знакамі ўладанняў полацкіх князёў [14, с. 69—74], а В. Жучкевіч у сваёй манаграфіі піша аб лоцманскім значэнні «Барысавых камянёў» [20, с. 37].

Першы ўспамін аб адным з «Барысавых камянёў» змешчаны ў «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай», напісанай у XVI ст. У ёй гаворыцца: «... того и теперь явное сведоцтво каждый найде камень в Двине высокий, от Дисны миля, а от Полоцка миль 7, межи Двиною и Дисною, на низ порогов едучи, на котором камени есть крест и того князя Бориса под ним напис: Вспоможи, господи, раба своего Бориса, сына Гинвилова. А то написано литерами русскими» [37, с. 22]. Размова, як відаць, ідзе аб адным з дзісенскіх камянёў. Есць успамін аб камянях і ў «Хроніцы» Мацея Стрыйкоўскага [14, с. 69—74]. На пачатку XIX ст. Н. Румянцаў са зборніка Т. Мальгіна «Зерцало российских государей» даведаўся пра існаванне ў раёне Оршы каменя з надпісам-малебнам аб дапамозе Васілю Рагвалоду (1171 г.). Пачаліся пошукі падобных камянёў. У 1818 г. вяліся работы па ўпарадкаванню судаходства на Заходняй Дзвіне. Былі знойдзены яшчэ 4 камяні. Улічваючы прашэнне Н. Румянцава, урад прыняў пастанову аб іх захаванні [14, с. 69—74].

Які ж лёс «Барысавых камянёў» сёння?

Камень каля в. Падкасцельцы вядомы ў літаратуры як першы «Барысаў камень». У 1981 г. ён быў падняты з дна ракі і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора ў Полацку. На ім высечаны чатырохканцовы крыж на Галгофе, па баках крыжа манаграмы і надпіс «І. Х... господи помози рабу своему Борису...» Два іншыя камяні, каля вёсак Накоўнікі і Балоткі, былі знішчаны (узарваны) у сярэдзіне нашага стагоддзя [14, с. 69—74].

Самы маленькі з «Барысавых камянёў» з надпісам «Сулиборь хрьст» і высечаным крыжам на шлемападобнай Галгофе быў зімой 1887—1888 гг. падняты з дна ракі і адпраўлены ў Маскву. Зараз ён знаходзіцца ў музеі-заказніку «Каломенскае». Пяты з «Барысавых камянёў» выяўлены пры ўпадзенні ракі Друйкі ў Заходнюю Дзвіну каля г. п. Друя. На камені высечаны шасціканцовы крыж

з пашыранымі канцамі і надпіс, падобны на надпісы на астатніх камянях [14, с. 69—74]. Зараз ён знаходзіцца пад вадой і ўяўляе сабой даволі цікавы аб'ект для падводных даследаванняў, таму што ў адрозненне ад ўсіх іншых «дзвінскіх пісанікаў» мала вядомы ў навуковай літаратуры [15, с. 13].

**Сляды баёў, патопленая зброя.** Лёс не «абдзяліў» Беларусь войнамі. І кожная з іх пакінула свой след нашчадкам: радкі ў летапісах, курганы, надмагіллі, зброя ў зямлі і вадзе.

У мінулым стагоддзі ў рацэ Кляве каля в. Даргішкі Ашмянскага павета быў знойдзены старажытны меч, а ў рацэ Уле — шпоры, цуглі, дзіды [33, с. 106]. Пры абследаванні ў 1989 г. рэшткаў драўлянага маста каля вострава на воз. Іказнь Браслаўскага раёна была выяўлена добра захаваная баявая сякера з часткай драўлянага тапарышча [46, с. 17].

Як правіла, зброя, знойдзеная ў вадзе, апынулася там ў выніку баёў, што праходзілі ў гэтых мясцінах. І такіх



Мал. 2. Рэчы XI—XIV стст., здабытыя з воз. Неспіш каля гарадзішча Маскавічы ў 1988 г.

месцаў на Беларусі шмат. Так, у 1230 г. адбылася бітва аб'яднаных войскаў беларускіх князёў з літоўскімі войскамі князя Рынгольда на правым беразе ракі Нёман каля в. Магільна [27, с. 10].

У 1276 г. падчас бітвы каля ракі Акунёўкі з рускімі і літоўскімі войскамі загінула ў рацэ шмат татараў хана Курдана [23, с. 156].

1812 год. Па загаду Багратыёна быў спалены мост праз раку Бярэзіну ў горадзе Барысаве, а ўсе крамы з прадуктамі, гарматы і порах затоплены ў рацэ [6, с. 22]. А восенню таго ж года ў час пераправы праз Бярэзіну ў в. Студзенкі загінула прыблізна 30 000 чалавек французскага войска і шмат абозу [6, с. 22].

Гэта толькі некаторыя факты, якія ўзгадваюцца дакументамі. І як ведаць, можа, падводныя даследаванні ў мясцінах баёў дазволяць зусім па-іншаму ацаніць маштабы і значэнне той ці іншай бітвы.

**Пахаванні ў вадзе.** Пахаванні ў вадзе шырока бытавалі ў скандынаўскіх народаў і ў народаў Прыбалтыкі. Вядомы і антычныя пахаванні ў амфарах на дне мора. Аб пахаванні знакамітага руса ў чоўне на Волзе расказваў Ібн-Фадлан [24, с. 144].

А вось як апісваецца пахаванне караля вестготаў Аларыха І, памерлага ў 410 г.: «Была запруджана плацінай рака і калі рэчышча агалілася, выкапалі глыбокую магілу на дне. Потым, апусціўшы ў яе залатую труну і ўсе скарбы, яны разбурылі плаціну і рака вярнулася ў сваё рэчышча» [9, с. 83].

Амерыканскімі вучонымі на дне воз. Лох-Нэс на глыбіні 10 м былі знойдзены круглыя курганы эпохі старажытных кельтаў — керны, узведзеныя з каменя [38, с. 5].

У СССР у 1939—1940 гг. пры збудаванні Арцёмаўскай дамбы ў Апшаронскім праліве на глыбіні 1,5 м ад узроўню мора былі выяўлены 9 каменных трун, у якіх ляжалі шкілеты скіфскіх воінаў [38, с. 47].

На Беларусі магчымы знаходкі затопленых магіл і нават цэлых могілак. Так, напрыклад, ёсць даныя пра каменныя крыжы на воз. Шо ў Глыбокскім раёне Віцебскай вобласці. Усе вядомыя пахаванні знойдзены выпадкова, і работа ў гэтым напрамку ўяўляецца вельмі перспектыўнай, таму што пахаванні ў вадзе спецыяльна ніколі не вывучаліся [1, с. 129—131].

**Прыстані, прычалы.** Аб падводных даследаваннях старажытных марскіх партоў ёсць шмат навуковай

літаратуры. На тэрыторыі Беларусі больш рэальныя знаходкі затопленых рэшткаў прыстаняў і прычалаў, бо водныя шляхі Беларусі, асноўныя іх напрамкі склаліся перш за ўсё як грузавыя артэрыі [20, с. 34]. Вялікую цікавасць павінны ўяўляць акваторыі каля такіх буйных старажытных гарадоў, як Полацк, Віцебск, Мінск, Гродна. Што ж датычыцца прычалаў, то яны могуць быць каля кожнага гарадзішча, якое знаходзіцца на востраве ці на ўзбярэжжы.

**Рэшткі мастоў, старажытныя затопленыя дарогі.** Гэта найбольш распаўсюджаная катэгорыя гідраархеалагічных помнікаў Беларусі, таму што масты для сувязі з берагам мелі амаль усе замкі, манастыры і паселішчы, якія знаходзіліся на астравах азёр. Асабліва шмат іх на Віцебшчыне. Гэта і гарадзішча на воз. Дрысвяты (Браслаўскі раён) [50, с. 33], і астраўны замак на воз. Іказнь, які належаў князю Сапегу і меў даволі арыгінальную канструкцыю маста [33, с. 5]. Вялікую цікавасць ў гэтых адносінах уяўляюць азёры Лепельскае, Мядзельскае, Мястра [50, с. 195].

На Беларусі вызначаецца і іншая катэгорыя мастоў — праз рэкі. Так, у мястэчку Масты (Гродзенская вобласць) быў калісьці каменны мост праз Нёман, на якім размяшчаліся дробныя крамы; апоры маста былі складзены з дубовых брусоў, а знутры запоўнены каменнямі [34, с. 31].

Каменныя вымасткі могуць быць дваякага роду — рэшткі дарог ці рэшткі свяцілішчаў. На тэрыторыі рэспублікі часта сустракаюцца месцы з назвай Перуноў мост (Чэрвеньскі раён), Чортаў мост (Браслаўскі раён). У двух месцах воз. Нарач гісторык А. Кіркор назіраў падводныя каменныя грады. На яго думку, яны штучныя. Адна з іх называецца «Чортава грэбля». Паводле падання, яе пабудаваў чорт, які хацеў злучыць мастом сяло Наносы і мястэчка Мядзіоль, якія знаходзіліся на процілеглых берагах возера. З-за вялікіх памераў возера чорт не паспеў выканаць работу, як праспяваў певень, і таму грэбля засталася незакончанай [33, с. 33].

**Затопленыя клады.** Пра клады сведчыў Арыстафан, Ксенафонт, Платон (V—IV стст. да н. э.), Арыстоцель (IV ст. да н. э.), Плутарх (II—III стст. н. э.) і шмат іншых старажытных аўтараў [42, с. 39].

Па колькасці знойдзеных кладаў Беларусь займае адно з першых месцаў у свеце і ў гэта лёгка паверыць,

зірнуўшы на карту манетных кладаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі [42, с. 42]. Адразу кідаецца ў вочы, што асноўная колькасць іх знаходзіцца ўздоўж водных шляхоў. А рэкі даволі часта змянялі свае рэчышчы, паводкі размывалі берагі і ў выніку ўсяго гэтага не выключана магчымасць знаходак у рэках старажытных манетаў, залатых і срэбных упрыгожанняў. Прыкладам таму — Заходняя Дзвіна ў раёне Віцебска, якая да гэтага часу працягвае дарыць энтузіястам-калекцыянерам старажытныя манеты і фрагменты вырабаў з бронзы, шкла. Не лішнім будзе тут успомніць і паданне аб пахаванні караля вестготаў Аларыха I, калі воды ракі сталі надзейнымі ахоўнікамі пахаваных скарбаў. Знаходзяць каштоўныя рэчы і ў азёрах. Так, у мінулым стагоддзі на беразе Старапагосцінскага возера (былы Дзісенскі павет) тутэйшым жыхаром была знойдзена дыядэма з залатымі падвескамі [33, с. 12].

Да гэтага часу не адшуканы «клад Напалеона», хаця яго пошукі вяліся і ў Сямлёўскім возеры (раён Вязьмы), у воз. Стаячым каля г. п. Крупкі і на рацэ Бярэзіне [32]. Магчыма, што вялікія і цяжкія рэчы абозу арміі Віктора да гэтага часу захоўваюцца на дне воз. Сялява [32]. Хаваюць іх і воды Дняпра. Пры пераправе праз гэтую раку Напалеон аддаў загад знішчыць лішнія трафеі і вызваліць коней. Больш таго, ён сам каля гадзіны пры ўездзе на мост праз Дняпро выбіраў з абозу карэты і павозкі, якія належалі знішчэнню [32]. Адносна падзей 1812 г. на Беларусі існуе шмат паданняў. У адным з іх гаворыцца, што ў Барысаўскім уездзе ў балоце ляжыць жалезная скрынка са скарбамі, вывезенымі французамі з Масквы і кінутымі ў час адыходу. Мясцовыя сяляне спрабавалі яе падняць, але вяроўкі ўвесь час рваліся. Тады вырашылі, што скрынка праклятая, і перасталі паказваць гэтае месца. Цяпер пра яго забыліся [32].

Пад Маладзечнам расказваюць, што французы адбіваліся ад казакаў у замку Агінскага. Потым пайшлі, пакідаўшы казну і нарабаванае дабро ў балоцістае возера [32].

На тэрыторыі Беларусі пошукі старажытных рэчаў пад вадой пачаліся яшчэ ў мінулым стагоддзі. Так, вясной 1813 г. на месцы пераправы французаў праз Бярэзіну дасталі некалькі гармат, ранцаў, скрынак і іншых трафеяў. Пошукі праводзіў маёр ведамства водных і шасейных дарог [32].

У 1889 г. адбылася спроба падняць адзін з «Барысавых камянёў» з Заходняй Дзвіны каля в. Падкасцельцы. Пасля малебна сотні людзей цягнулі камень, але безвынікова [14, с. 69]. Гэты камень быў падняты з дапамогай аквалангістаў толькі восенню 1981 г. і, як мы ўжо адзначалі, устаноўлены ў Полацку каля Сафійскага сабора [44]. У 1896 г. пры правядзенні расчысткі і паглыблення рэчышча Бярэзіны на месцы пераправы французаў былі праведзены пошукавыя работы. Знойдзена шмат касцей, некалькі фрагментаў стрэльбаў, шаблі, шпоры, дзіды і шмат манет [32].

Былі і нечаканыя знаходкі. Так, у рацэ Усвячы, правым прытоку Дзвіны, каля былога фальварка Усвяты выяўлены дзве касцяныя восці [21, с. 32]. У Дняпры, непадалёку ад Рагачова, знойдзена сякера ці матыга з рога з дзвюма адтулінамі [21, с. 53], а ў рацэ Шчары, насупраць сяла Парэчча, каля левага берага настаўнікам мясцовай народнай школы — частка каменнай, добра захаванай табліцы з нейкімі надпісамі ці знакамі. Яна была перададзена Папярэдняму камітэту IX Археалагічнага з'езда [34, с. 28].

У 1909—1911 гг. сябрам Віцебскай навуковай архіўнай камісіі памешчыкам І. Х. Каладзеевым вяліся раскопкі каля в. Студзенкі на месцы пераправы войск Напалеона праз раку Бярэзіну. Раку адвялі другім рэчышчам і знайшлі некалькі пудоў зброі. У 1912 г. бібліятэка і прыватны музей І. Х. Каладзеева былі перададзены ў Маскву ў Музей гісторыі Айчыннай вайны 1812 года [35, с. 37].

У 40-я гады XX ст. М. Алексяюк упершыню ў рэспубліцы адзначыў сляды палевых паселішчаў на воз. Улла ў Вілейскім і на воз. Вейна ў Бялыніцкім раёнах. У 1952 г. палевыя збудаванні былі абследаваны беларускім археолагам К. Палікарповічам [29, с. 13].

З 1979 г. вядуцца падводныя даследаванні на воз. Дзерба (заліў воз. Неспіш) у Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці. Гэтае старажытнарускае паселішча існавала па суседству з горадам Браславам, першы ўспамін аб якім летапісы адносяць да 1065 г. Рэшткі гэтага паселішча знаходзяцца злева ад тракту Браслаў — Друя, на беразе возера. Маскавіцкае гарадзішча вядома ў акрузе пад назвай «Замак». Бытуюць паданні пра закапаную на гары срэбраную лодку і затопленую ў возеры залатую. З 1976 г. у Маскавічах вядуцца археалагічныя раскопкі, у ходзе якіх устаноўлена, што ўмацаванне было па-

будавана ў XI ст., а загінула ў выніку рабавання і пажару ў канцы XIII — пачатку XIV ст. Яно адыгрывала ваенна-палітычную функцыю, ролю адміністрацыйнага, гандлёвага і культурнага цэнтра і знаходзілася ва ўладанні полацкіх феадалаў. Дэшыфроўка аэрафотаздымка паказала густую забудову ўздоўж берагавой лініі. Таксама было заўважана, што з возера пастаянна вымываюцца рэчы і фрагменты керамікі, якія адносяцца да часу існавання паселішча. Гэтыя факты навялі на думку, што рэшткі паселішча каля сцен замка з часам апынуліся пад вадой. У 1979 г. упершыню былі праведзены невялікія падводныя даследаванні на возеры, працягнутыя ў 1981 г. пры дапамозе мінскіх аквалангістаў-аматараў [16, с. 104—105].

Праведзеныя падводныя працы ў Маскавічах выявілі, што частка паселішча апынулася пад вадой яшчэ ў старажытнасці і, верагодней за усё, гэта адбылося ў перыяд позняга сярэднявечча, калі адзначаецца павышэнне ўзроўню сусветнага акіяна [4, с. 282].

У красавіку 1982 г. пры Беларускім дзяржаўным музеі была створана Экспедыцыя падводных гісторыка-археалагічных даследаванняў, якая ў 80-я гады правяла невялікія гідраархеалагічныя работы на Богінскім возеры, у рэчышчы ракі Свіслач у Мінску, а таксама работы па абследаванню «Барысавага каменя» ў г. Дзісна Міёрскага раёна і г. п. Друя Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці. Праводзіліся падводныя работы і на воз. Сенніца ў 1989 г. [15, с. 45].

Аквалангістамі ЭПГАД у 1982 і 1983 гг. былі працягнуты даследаванні і на гарадзішчы Маскавічы.

Работы 1983 г. вяліся з 29 красавіка па 2 мая. Папярэдне для выяўлення перспектыўных месцаў будучых падводных даследаванняў зімой правялі комплекс геафізічных работ, вынікам якіх стала карта магнітнага поля ўчастка возера з выяўленымі анамаліямі [11]. Па прывязках, зробленых у 1982 г., былі адшуканы вуглы раскопу мінулага сезона. Раскоп быў пашыраны на 2 квадраты (2×2 м). Вуглы раскопу пазначылі вешкамі, па якіх рабілася прывязка з дапамогай рулеткі да базавай лініі. У аснову работ былі пакладзены традыцыйныя метады палявой археалогіі. Аквалангісты, вольныя ад работы пад вадой, забяспечвалі падачу глебы наверх і яе прамыўку. Прамыўка і адбор рэчаў праводзіліся на рэшатах з нержавеючай сталі (памер ячэек 5×5 мм). Вынікам даследаванняў 1982—1983 гг. стаў шэраг старажытна-

рускіх рэчаў, сярод якіх бронзавыя ўпрыгожанні, вырабы з косці і металу [11].

У жніўні 1985 г. работы на воз. Дзерба былі працягнуты пры дапамозе аквалангістаў завода «Авіярамонт». Іх мэтай, як і раней, было вызначэнне памераў неўмацаванага паселішча і ўстанаўленне стратыграфіі культурнага слою ў прыбярэжнай акваторыі [12]. Пры беглым аглядзе дна возера ў некалькіх месцах адзначаны ўчасткі з каменнымі вымасткамі. У прыбярэжнай акваторыі былі закладзены 4 шурфы. Расчыстка культурнага слою праводзілася помпай МП-800 і грунтасосам, які накіроўваўся на месца даследуемага ўчастка аквалангістам, што знаходзіўся на дне. Прадукты адсмокту прапускаліся праз краты, прымацаваныя да плыта. Пры з'яўленні частак культурнага слою адсмокт донных адкладанняў спыняўся і далейшы пад'ём глебы праводзіўся ўручную. На плоце глеба прамывалася і перабіралася на спецыяльных кратах. Затым яна ссыпалася ў гумавую лодку і адвозілася на бераг. Глыбіня шурфа вызначалася з дапамогай мернай лінейкі. У выніку даследаванняў былі знойдзены фрагменты шкляных бранзалетаў, бронзавыя спіральныя пранізкі, лязо нажа, сінхронныя рэчам на гарадзішчы. Праведзеныя работы сведчылі аб наяўнасці культурнага гідраархеалагічнага слою ў акваторыі возера, якая на 30 м адступала ад берага, і аб яго нераўнамернасці і рознахарактарнасці [12].

У ліпені 1987 г. невялікія гідраархеалагічныя работы на возеры праводзіліся сіламі групы падводных даследаванняў Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Гор-



Мал. 3. Рэчы XV—XVII стст., знойдзеныя ў 1989 г. у воз. Іказнь

кага «Alba Rossika». Работы 1987 г. пацвердзілі назіранні мінулых гадоў і далі новы матэрыял — акрамя паверхневага агляду на дне было закладзена 6 шурфоў. Для выяўлення межаў паселішча шурфы знаходзіліся на рознай адлегласці ад берагавой лініі і наносіліся на план пры дапамозе рулеткі і компаса. У выніку работ быў знойдзены вузкі пласцiністы бранзалет і фрагмент жалезнай шпоры з шыпам. Вызначэнне астэалагічнага матэрыялу паказала, што большая колькасць касцей належала ласю, дзіку і каню [17].

Работы 1979—1987 гг. пацвердзілі неабходнасць правядзення даследаванняў адной групай аквалангістаў з пастаянным складам, бо з-за няўзгодненасці дзеянняў зніжалася практычная каштоўнасць саміх даследаванняў.

Вялікія падводныя пошукі на возеры былі праведзены ў ліпені 1988 г. аквалангістамі «Alba Rossika». У аснове работ, як і раней, ляжалі метады традыцыйнай палявой археалогіі. За кропку прывязкі браўся шурф N 6 мінулага года. Быў распрацаваны раскоп у 60 кв. м на глыбіні ад 1,5 да 3 м. Устаноўленыя кантрольныя кропкі пазначаліся на паверхні афарбаванымі буямі і вешкамі пад вадой. Для арыенціроўкі аквалангіста ў мутнай вадзе паміж вешкамі квадратаў была нацягнута канатная сетка. Каардынаты кантрольных кропак вызначаліся метадам трыангуляцыі [13].

Пошукі вяліся з выратавальнага плыта ПВН-10, выкарыстанне якога дазваляла праводзіць работы з двух бакоў, адначасова на двух квадратах па методыцы папярэдніх экспедыцый: глеба падымалася наверх і прамывалася і перабіралася ўжо на беразе. Пры правядзенні даследаванняў выкарыстоўваліся апараты АВМ-1м і АВМ-7с і гідракасцюмы мокрага тыпу.

У ходзе даследаванняў былі адшуканы 53 індывідуальныя знаходкі, сярод якіх бронзавыя і шкляныя ўпрыгожанні, касцяны грэбень, шпоры, замкі і іншыя рэчы і прадметы побыту XII—XIV стст. Знойдзена вялікая колькасць керамікі (фрагменты) і астэалагічнага матэрыялу [13]. Устаноўлены папярэднія межы паселішча і вызначаны план работ на наступны сезон.

У ліпені 1989 — жніўні 1990 г. ГПД «Alba Rossika» праводзіліся невялікія гідраархеалагічныя работы па вывучэнні акваторыі воз. Іказнь у Браслаўскім раёне Віцебскай вобласці. Асноўнай мэтай іх было вывучэнне характару дна каля вострава, на якім у XV—XVII стст. знахо-

дзіўся замак. Вядома, што ў 1504 г. Ян Сапега атрымаў дазвол пабудаваць у Іказні замак, дзе пастаянна знаходзіўся вялікі гарнізон. У 1654 г. ён быў заняты маскоўскім войскам і разбураны. Замак злучаўся з берагам драўляным наплаўным мостам на спецыяльных чаўнах, які ў выпадку небяспекі хутка разбіраўся, а чаўны прытопліваліся [47, с. 106]. Меркавалася, што пад вадой уцалелі рэшткі гэтага маста. Работы вяліся на глыбіні 1,5—5 м у вельмі мутнай вадзе, ужываўся метад палос ад пастаўленага буя [45, с. 55]. У ходзе візуальнага агляду дна возера была выяўлена вялікая колькасць дошак, якія мелі гарызантальнае становішча і месцамі здаваліся адным цэлым пакрыццём з напрамкам у бок супрацьлеглага берага. Адшукана некалькі паляў з металічнымі скобамі, размешчанымі каля мяркуемага месца знаходжання маста. Па усёй даследаванай тэрыторыі адзначана вялікая колькасць каменняў, якія ляжалі на дошках, і вуглі.

Знойдзена баявая сякера XVI ст. з часткай драўлянай рукаяці, цэлыя кафлі XV і XVII стст., фрагменты керамікі [46].

У ліпені 1991 г. работы на возеры, у якіх прымалі ўдзел тыя ж самыя аквалангісты, былі працягнуты. З дна возера быў падняты і дастаўлены ў музей даўбёны човен (так званая дубіца). Човен знаходзіўся на тым месцы, дзе, як меркавалася, у старажытнасці праходзіў мост. Непадалёку былі знойдзены яшчэ 2 чаўны меншага памеру, але, на жаль, зафіксаваць дакладнае месца іх не ўдалося. Патрабуюцца далейшыя пошукі. Тады, магчыма, мы зможам адказаць на пытанне, ці былі чаўны элементамі пантоннага маста [51].

У ліпені 1991 г. ГПД «Alba Rossika» праводзіліся гідраархеалагічныя работы і на воз. Дрысвяты каля в. Пашавічы. Пры даследаваннях каля вострава Замак было дакладна ўстаноўлена месцазнаходжанне двух мастоў, што злучалі востраў з берагам. Пацверджаны даныя дакументальных крыніц і плана XVII ст., што захоўваецца ў Варшаве. Каля рэшткаў мастоў былі знойдзены фрагменты керамікі, некалькі жалезных вырабаў [51].

Праведзеныя работы паказалі несумненную каштоўнасць і перспектыўнасць гідраархеалагічных даследаванняў. Удалося вызначыць іх аптымальную методыку ў заглееных вадаёмах з дрэннай бачнасцю, а менавіта

выкарыстоўванне зборнай рамы квадрата, канатнай сеткі на раскопе, абазначэнне кантрольных кропак буямі, выкарыстанне грунтасоса для змыву донных назапашванняў. У выніку гідраархеалагічных разведак на Браслаўскіх азёрах выяўлена некалькі новых аб'ектаў, вывучэнне якіх дазволіць пашырыць поле дзейнасці для археалогіі ў цэлым і такім чынам дапоўніць карціну гістарычнага мінулага Беларусі.

## ЗВОД ГІДРААРХЕАЛАГІЧНЫХ ПОМНІКАЎ БЕЛАРУСІ

| Месца знаходжання | Катэгорыя помніка | Аўтар працы, якая змяшчае ўспамін аб помніку |
|---|---|---|
| **Палевыя паселішчы** | | |
| 1. воз. Белае (м. Азёры Гродзенскага павета) | рэшткі пабудоў на палях | Ф. Пакроўскі |
| 2. воз. Вейна (в. Лубяны Магілёўскай вобл.) | палі | В. Ісаенка |
| 3. воз. Езярышча (в. Мястэчка Віцебскай вобл.) | рэшткі пабудоў на палях | В. Ісаенка |
| 4. воз. Сенніца * (Віцебская вобл.) | рэшткі паселішчаў на палях | А. Мікляеў |
| 5. воз. Святое (в. Астроўна Віцебскай вобл.) | палі | В. Ісаенка |
| 6. воз. Улла (в. Цынцэвічы Мінскай вобл.) | палі | В. Ісаенка |
| 7. воз. Чырвонае (в. Пухавічы Гомельскай вобл.) | палі | В. Ісаенка |
| **Затопленыя паселішчы** | | |
| 1. в. Дзераўное, возера | паданне аб вёсцы, якая правалілася | Ф. Пакроўскі |
| 2. р. Днепр (г. Рэчыца) | рэшткі замчышча(?) | М. Ткачоў |
| 3. р. Заходні Буг (г. Драгічын) | частка старажытнага горада | Ф. Пакроўскі |
| 4. воз. Котра (в. Бершты Гродзенскай вобл.) | на востраве стаянка мезаліту | В. Ісаенка |
| 5. воз. Лепельскае (г. Лепель) | на затопленым востраве паселішча эпохі неаліту і бронзы | В. Ісаенка |
| 6. р. Лясная (в. Пакровы Брэсцкай вобл.) | на востраве паселішча неаліту | В. Ісаенка |
| 7. воз. Неспіш * (в. Маскавічы Браслаўскага р-на) | паселішча часткова пад вадой | Г. Штыхаў |
| 8. р. Нёман (г. Гродна) | частка замка Стэфана Баторыя пад вадой | М. Ткачоў |

| Месца знаходжання | Катэгорыя помніка | Аўтар працы, якая змяшчае ўспамін аб помніку |
|---|---|---|
| 9. воз. Нешчарда (Віцебская вобл.) | рэшткі замчышча часткова пад вадой | М. Ткачоў |
| 10. воз. Пагост (Пінскі р-н) | паселішча | В. Ісаенка |
| 11. воз. Рагознае (в. Ветлы Брэсцкай вобл.) | паселішча | В. Ісаенка |
| 12. воз. Свіцязь (Гродзенская вобл.) | паселішча | В. Ісаенка |
| 13. воз. Спораўскае (Бярозаўскі р-н) | паселішча | В. Ісаенка |
| **Затануўшыя чаўны, караблі** | | |
| 1. в. Доўгая Дубрава, у дрыгве (Мозырскі р-н) | рэшткі судна | А. Гарановіч |
| 2. воз. Іказнь* (Браслаўскі р-н) | човен | М. Ткачоў |
| 3. в. М. Аўцюцевічы (Калінкавіцкі р-н) | рэшткі судна | А. Гарановіч |
| **Помнікі часоў паганства і культавыя камяні** | | |
| 1. воз. Богінскае (Браслаўскі р-н) | каменны ідал | М. Мялешка |
| 2. р. Друйка*, упадзенне ў Зах. Дзвіну (Віцебская вобл.) | «Барысаў камень» | Л. Дучыц |
| 3. в. Палыкавічы (Магілёўскі р-н) | святыя крыніца і дуб | Г. Штыхаў |
| **Сляды баёў, патопленая зброя** | | |
| 1. р. Бярэзіна (г. Барысаў) | патопленая зброя 1812 г. | Д. Васілеўскі |
| 2. р. Бярэзіна (в. Студзенка Барысаўскага р-на) | пад час пераправы загінула каля 30000 французскага войска | Д. Васілеўскі |
| 3. р. Нёман (в. Магільна) | бітва 1230 года | У. Ластоўскі |
| 4. р. Акунёўка (за Мозырам) | бітва 1276 года | У. Ластоўскі |
| **Пахаванні ў вадзе** | | |
| 1. р. Нёман (в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на) | курган, які размываецца вадой | Г. Штыхаў |
| 2. воз. Шо (Глыбоцкі р-н) | каменныя крыжы | Л. Дучыц |
| **Прыстані, прычалы, рэшткі мастоў, старажытныя затопленыя дарогі** | | |
| 1. г. Дзісна (злучэнне р. Дзісны з Зах. Дзвіной) | мост на востраў | Г. Штыхаў |
| 2. воз. Дрысвяты* (Браслаўскі р-н) | 2 масты на востраў | Г. Штыхаў |
| 3. воз. Іказнь* (Браслаўскі р-н) | мост на востраў | М. Ткачоў |

| Месца знаходжання | Катэгорыя помніка | Аўтар працы, якая змяшчае ўспамін аб помніку |
|---|---|---|
| 4. воз. Лепельскае (р-н Лепеля) | мост на востраў | Г. Штыхаў |
| 5. воз. Мядзельскае (в. Кабыльнікі Мінскай вобл.) | мост на востраў | Г. Штыхаў |
| 6. воз. Мядзель (Мінская вобл.) | мост на востраў | Г. Штыхаў |
| 7. воз. Мястра (г. п. Мядзель) | мост на востраў | Г. Штыхаў |
| 8. воз. Нарач (Мінская вобл.) | «Чортава грэбля» | Ф. Пакроўскі |
| 9. р. Нёман (г. п. Масты Гродзенскай вобл.) | каменны мост | Ф. Пакроўскі |
| 10. воз. Азярышча (Гарадоцкі р-н) | 2 масты на востраў | Б. Брэжго |
| 11. воз. Суша (Лепельскі р-н) | мост на востраў | Г. Штыхаў |
| 12. воз. Неспіш * (Браслаўскі р-н) | мост на востраў | К. Шыдлоўскі |
| 13. м. Чарэя (Гомельская губерня) | мост на востраў | М. Бэз-Карніловіч |
| **Адзінкавыя знаходкі** | | |
| 1. р. Днепр (каля Рагачова) | сякера ці матыга з дзвюма адтулінамі | В. Ісаенка |
| 2. воз. Дрыса (в. Забор'е Віцебскай вобл.) | прылады каменнага веку | В. Ісаенка |
| 3. воз. Засвяцце (в. Лелікава Кобрынскага р-на) | фрагменты керамікі | Г. Штыхаў |
| 4. р. Клева (в. Даргішкі Ашмянскага павета) | старажытны меч | Ф. Пакроўскі |
| 5. в. Новая Воля (б. Гродзенская губерня) | дзве каменныя сякеры з адтулінамі | Ф. Пакроўскі |
| 6. воз. Салаты (м. Друскенікі Гродзенскага павета) | каменны молат | Ф. Пакроўскі |
| 7. воз. Старапагосцінскае (с. Н. Пагост Дзісенскага павета) | дыядэма з залатымі падвескамі | Ф. Пакроўскі |
| 8. р. Усвяча (б. фальварак Усвяты Віцебскай вобл.) | двое касцяных восцяў | В. Ісаенка |
| 9. р. Улла (в. Кашэты Віленскай губерні) | шпоры, цуглі, дзіды | Ф. Пакроўскі |
| 10. р. Шчара (с. Парэчча б. Гродзенскай губерні) | частка каменнай табліцы | Ф. Пакроўскі |

* — аб'ект, на якім праводзіліся падводныя даследаванні.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Александров А. А. Неуловимый погребальный обряд // Тезисы Псковского научно-практического семинара. Псков, 1988.

2. Апалс Я. Раскопки поселения на оз. Арайшу // Археологические открытия 1967 г. М., 1968.
3. Блаватский В. Д. О подводной археологии // Советская археология. 1958. № 3.
4. Брукк К. Климаты прошлого. М., 1952.
5. Буракоўская Н. І. Сплаўны промысел // Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984.
6. Васілеўскі Д. Помнікі старасьвеччыны на Аршаншчыне // Наш край. 1927. № 2.
7. Гарановіч А. Наш край. 1928. № 8—9.
8. Геродот. История. Л., 1972.
9. Горбовский А., Семенов Ю. Закрытые страницы истории. М., 1988.
10. Дучиц Л. В. Отчет о полевых исследованиях за 1982 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси. Дело № 812.
11. Дучиц Л. В. Отчет о полевых исследованиях за 1983 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси. Дело № 845.
12. Дучиц Л. В. Отчет о полевых исследованиях за 1985 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси. Дело № 952.
13. Дучиц Л. В., Коблов С. В. Отчет о подводных исследованиях у городища Масковичи за 1988 г.; Дучиц Л. В. Отчет о полевых исследованиях за 1988 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси. Дело № 1060.
14. Дучыц Л. У. Барысавы камяні // Весці АН Беларусі: Сер. грамад. навук. 1985. № 4.
15. Дучиц Л. В. Обследование «Борисовых камней» и других культовых камней в русле Западной Двины у г. Дисна Миорского района Витебской обл.: Отчет о полевых исследованиях за 1983 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси.
16. Дучиц Л. В. Городище Масковичи (к вопросу о порубежных городах Полоцкого княжества) // Тезисы докладов советской делегации на V Международном конгрессе славянской археологии. М., 1984; Отчет о полевых исследованиях за 1981 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси.
17. Дучиц Л. В. Отчет о полевых исследованиях за 1987 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси. Дело № 999.
18. Елисеев П. Основоположник советской гидроархеологии // Спортсмен-подводник. 1985. № 73.
19. Ждановіч В. Вашчылаў хутар // Маладосць. 1989. № 10.
20. Жучкевич В. А. Дороги и водные пути Белоруссии. Мн., 1972.
21. Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. Мн., 1968.
22. История культуры Древней Руси. М.; Л., 1948.
23. Кажадуб А. Рака вады жывой // Маладосць. 1989. № 11.
24. Ковалевский А. П. Книга Ахмеда Ибн-Фадлана о его путешествии на Волгу в 921—922 гг. Харьков, 1956.
25. Кондратов А. М. Атлантиды ищите на шельфе. Л., 1988.
26. Кузнецов В. П. Речные деревянные суда. Л., 1956.
27. Ластоўскі У. Кароткая гісторыя Беларусі. Вільна, 1910.
28. Марсден П. Актуальные проблемы подводной археологии // Музеи. 1983.
29. Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. Т. 1.
30. Мялешка М. В. Камень у вераннях і паданнях беларусаў // Зап. Аддз. гуманіт. навук: Працы катэдры этнаграфіі. Т. 1. Кн. 4.
31. ПВЛ. М., 1950. Т. 1.
32. Пилипчик В. Сокровища Наполеона // Знамя юности. 1987. 26—28 июня.

33. Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильно, 1892.
34. Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. Вильно, 1895.
35. Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1982. № 3.
36. Прокопий из Кессарии. Война с готами. М., 1950.
37. ПСРЛ. М., 1975. Т. 32.
38. Разумов Г. А., Хасин М. Ф. Тонущие города. М., 1978.
39. Роберт Ф. Маркс. Подводное наследие может погибнуть // Музеи. 1983.
40. Рыбаков Б. А. Языческое мировоззрение русского средневековья // Вопросы истории. 1974. № 1.
41. Рыбаков Б. А. Язычество Древней Руси. М., 1988.
42. Рябцевич В. Н. О чем рассказывают монеты. Мн., 1977.
43. Сапунов А. Река Западная Двина. Витебск, 1893.
44. Смелый В. Операция «Борисов камень» // Трактор. 1981. № 11.
45. Спортсмен-подводник. 1982. № 67.
46. Ткачев М. А. Отчет о полевых исследованиях за 1989 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси. Дело № 1182.
47. Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мн., 1991.
48. Флеминг Н., Раднап М. Погружение в прошлое // Курьер ЮНЕСКО. 1987. № 3.
49. Шаповалов Г. И. Гидроархеологические исследования в реке Днепр у острова Хортица // АО. 1971.
50. Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. Мн., 1971.
51. Шыдлоўскі К. С. З дапамогай аквалангістаў // Браслаўская звязда. 1991. 18 верас.

*Аляксандр Мядзведзеў*

## АБ ХРАНАЛОГІІ ПОМНІКАЎ КУЛЬТУРЫ ШТРЫХАВАНАЙ КЕРАМІКІ Ў I—V стст. н. э. (па матэрыялах Панямоння)

У гісторыі насельніцтва Еўропы ў азначаны перыяд (I—V стст.) — перыяды рымскі і вандровак народаў па храналогіі старажытнасцяў Цэнтральнай Еўропы — мелі месца значныя культурныя змены (складаюцца і знікаюць археалагічныя культуры, праходзяць вялікія міграцыі плямён). З'яўляюцца культуры, носьбітаў якіх можна атаясаміць з канкрэтнымі гістарычнымі плямёнамі, якія, у сваю чаргу, паслужылі асновай для фарміравання народнасцяў сярэднявечча. Гэты працэс відавочны і на тэрыторыі Прыбалтыкі, дзе існуюць культуры, насельніцтва якіх было продкамі куршаў, жамайтаў, земгалаў, ліваў і іншых народнасцяў [40; 42].

Аднак на сучасным узроўні даследаванняў можа скласціся ўражанне, што частка культур лясной паласы Усходняй Еўропы, у тым ліку культура штрыхаванай керамікі, не была закранута такім працэсам змен і знаходзілася на перыферыі тагачаснага свету.

Арэал культуры штрыхаванай керамікі ў I—V стст. ахоплівае ўсходнюю Літву, паўднёва-ўсходнюю Латвію і значную частку Беларусі (Панямонне і Сярэднюю Беларусь) і таму больш дасканалае вывучэнне яе старажытнасцяў мае вялікае значэнне для ўдакладнення шляху гістарычных працэсаў, якія прывялі да складання беларускай народнасці.

Помнікі культуры штрыхаванай керамікі даследаваліся А. Р. Мітрафанавым, А. А. Егарэйчанкам — на Беларусі, Е. А. Данілайтэ-Грыгалавічэне, У. Даўгудзісам, А. Лухтанам, А. Ушынскасам — у Літве, Я. Я. Граўдонісам, А. Васкс — у Латвіі. Па выніках прац гэтых даследчыкаў з'явіліся дзве храналагічныя шкалы старажытнасцяў гэтай культуры. Так, па матэрыялах Сярэдняй Беларусі А. Р. Мітрафанавым былі выдзелены тры этапы (VII—VI стст. да н. э., IV—I стст. да н. э., I—V стст. н. э.). На апошнім этапе мелі месца значныя змены ў эканоміцы і культуры (шырокае бытаванне вырабаў з жалеза, высокі ўзровень рамёслаў, распаўсюджанне штрыхаванай керамікі рабрыстай формы як асноўнага тыпу посуду) [19, с. 102—103]. Па матэрыялах Літвы былі вылучаны таксама тры перыяды (I тыс. да н. э., II—IV стст. н. э., IV—V стст. н. э.) [7, с. 12—13], якія адрозніваюцца ад храналагічных этапаў Беларусі. У I ст. н. э. у Літве адбывалася скарачэнне арэала культуры, у IV—V стст. н. э. — яе знікненне [41, с. 222]. У апошні час пачатак другога перыяду, калі з'яўляецца штрыхаваны посуд рабрыстай формы, адносяць да апошняй чвэрці I тыс. да н. э. [33, с. 137]. Тым не менш можна адзначыць супадзенне дзвюх храналогій для I—V стст. н. э. з улікам таго, што нельга дакладна вызначыць пачатак гэтага этапа (у межах апошняй чвэрці I тыс. да н. э. — I ст. н. э.) і існуюць адрозненні ў датаванні знікнення культуры (IV ці V стст. н. э.). Да таго ж такое шырокае датаванне перыяду (I—IV/V стст. н. э.) не адпавядае сучаснаму ўзроўню развіцця археалогіі. Неабходна больш дробная перыядызацыя, як гэта было зроблена для могільнікаў Літвы [39], што ў сваю чаргу дазволіць разгледзець змены,

якія мелі месца ў жыцці насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі.

Для распрацоўкі больш дакладнай храналогіі старажытнасцяў культуры штрыхаванай керамікі выкарыстоўваюцца матэрыялы помнікаў Беларускага Панямоння (вярхоўе Нёмана, басейн р. Віліі) (мал. 1—3). На гарадзішчы Кашчэлічы Валожынскага раёна Мінскай вобласці (раскопкі А. А. Егарэйчанкі і аўтара) удалося вызначыць 5 будаўнічых гарызонтаў у забудове і ўмацаванні пляцоўкі, а на гарадзішчы Малышкі — 4 гарызонты (раскопкі А. Р. Мітрафанава). Комплексы знаходак даюць магчымасць вызначыць вузкую дату (калі помнік ці гарызонт датуюцца часам існавання ўсіх рэчаў — у прамежку паміж пачаткам ужывання самай позняй і заканчэннем выкарыстання самай ранняй). Да таго ж дата пазнейшага будаўнічага гарызонта дазваляе ўдакладніць дату папярэдняга пласта.

На жаль, самы ранні гарызонт на гарадзішчы Кашчэлічы (пласты 7—10) не мае датаваных знаходак (тут знойдзена большасць вырабаў з косці), і не выключаецца, што гарадзішча пачало засяляцца ў I ст. да н. э. У другім гарызонце (пласт 6) знойдзена жалезная посахападобная шпілька (мал 1:*1*). Такія ўпрыгожанні былі шырока распаўсюджаны ў розных культурах працяглы час (ад бронзавага веку да XIII ст. н. э.). Але знаходка з Кашчэліч своеасаблівая па форме (верхняя частка круглай формы зроблена з патоўшчанага granёнага (рамбічнага) стрыжня і мае патончаны завіток). Яна, як і шпількі, што маюць верхнюю частку з патоўшчанага стрыжня пяцівугольнага сячэння (Малышкі (мал. 1:*10, 11*), Гарадзішча (мал 1:*15*)), сустракае аналогіі толькі на помніках венгоржаўскай групы заходнебалцкай культуры і датуецца I ст. н. э. [44, с. 360, мал. 182д]. Такія вырабы на Беларусь маглі трапіць цераз Занямонне (Літва) [35, мал. 108:*3*].

У наступным, трэцім, гарызонце на гарадзішчы Кашчэлічы (мал. 1:*2—8*) знойдзены цэлы комплекс рэчаў. Так, бронзавую фібулу (мал. 1:*2*) можна аднесці да тыпу А.68 (паводле О. Альмгрэна) ці да моцнапрафіляваных вырабаў заходніх тыпаў (падгрупа I, варыянт 1в, паводле А. К. Амброза) [2, с. 36, табл. 7:*3*] і датаваць 40—70 гг. н. э. Яны выраблялiся ў прыдунайскіх правінцыях Рымскай імперыі (Норык і Панонія), сустракаліся на могільніках ліпіцкай культуры [29, с. 38], у




Мал. 1. Комплексы знаходак з помнікаў Беларускага Панямоння

насыпе кургана 3 на могільніку Атвержычы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці [13, табл. 10:*16*]. У Цэнтральнай Еўропе такія фібулы з'яўляюцца паказальнікам фазы В1в і сустракаюцца ў старажытнасцях амаль усіх культур. Вядомы яны таксама на помніках венгоржаўскай групы заходнебалцкай культуры [44, с. 359] і ў Літве [39, с. 184]. Такім чынам, такія фібулы маглі трапіць на Беларусь як праз паўночна-ўсходнюю Польшчу і Літву, так і праз Палессе.

У комплексе прысутнічае і жалезная посахападобная шпілька (мал. 1:*3*), аналагічная вырабу з папярэдняга гарызонту, толькі стрыжань яе, з якога зроблена верхняя частка, менш патоўшчаны. З іншых упрыгожанняў адзначым бронзавы спіральны (у 3 віткі) бранзалет дыяметрам 6 см, зроблены з дроту круглага сячэння дыяметрам 0,3 см (мал 1:*7*), і рагавую шпулю, якая з'яўляецца верхняй часткай шпількі. Аналогіі бранзалетам вядомы толькі на помніках зарубінецкай культуры (Чаплін, Вароніна), дзе яны датуюцца I—II стст. н. э. [12, с. 161, 172; 13, с. 53, табл. 40:*5, 10, 11;* 14, с. 36—37; 26, с. 142]. Рагавыя шпулі з адтулінамі для насадкі на жалезны стрыжань знойдзены на помніках Літвы і адносяцца да I ст. н. э. [32, с. 75, мал. 41—43].

З прылад працы ў гэтым гарызонце знойдзены сякеры і іх абломкі (мал. 1:*4, 5, 8*). Так, сякеры са стрыжнем (мал. 1:*4*) выяўлены і на гарадзішчы Лабеншчына [18, с. 71, мал. 20:*16*], на помніку днепра-дзвінскай культуры Дзевічкі [27, с. 65, мал. 40:*1*], а таксама сярод старажытнасцяў Эстоніі, Латвіі і Літвы [28, с. 160, 195, 202—203, мал. 43:*4;* 40, табл. 33:*5*; 34, с. 25, 37, мал. 14] у комплексах I—II стст. н. э. Два жалезныя абломкі (мал. 1:*5, 8*) з'яўляюцца фрагментамі вузкалязовых правушных сякер. Большая частка такіх сякер з'яўляецца ў Літве з II ст. н. э. [39, с. 162], а ў I ст. н. э. (фаза В1) яны сустракаліся зноў жа на помніках венгоржаўскай групы заходнебалцкай культуры [44, с. 361, мал 163в].

Такім чынам, трэці гарызонт гарадзішча Кашчэлічы (мал. 1:*2—8*) трэба датаваць другой паловай I ст. н. э., а папярэдні — першай паловай I ст. н. э.

Да гэтага часу можна аднесці і знаходкі з ніжняга гарызонта гарадзішча Малышкі Вілейскага раёна Мінскай вобласці (даследаванні А. Р. Мітрафанава). Сярод рэчаў ёсць і жалезныя посахападобныя шпількі

(мал. 1:*10, 11*), якія, як ужо адзначалася, датуюцца I ст. н. э. Знойдзены там і абломак жалезнай падковападобнай фібулы дыяметрам 5,3 см (мал 1:*9*). Аналогіі вядомы на помніках зарубінецкай культуры (Чаплін) [14, с. 35—36; 21, с. 105—108, мал. 57, 58], дзе датуюцца I ст. да н. э. — II ст. н. э. Такія вырабы ёсць на помніках дз'якаўскай культуры (34 шт.) і датуюцца таксама шырока (I ст. да н. э. — VII ст. н. э.) [25, с. 47—48]. Аднак у апошні час удакладнена верхняя храналагічная мяжа зарубінецкай культуры (канец I — пачатак II ст. н. э.) [20, с. 19] і таму гэтыя знаходкі трэба датаваць I ст. да н. э. — I ст. н. э.

Знойдзена ў гэтым гарызонце і зброя. Гэта абломкі ад трох утулкавых двухшыпавых наканечнікаў дроцікаў (мал. 1:*12, 13*) (пяро і ўтулка). Несумненна, яны належаць да вырабаў даўжынёй больш 20 см. Такія дроцікі знойдзены на гарадзішчах Лабеншчына, Аўгустова, Банцараўшчына [16, с. 252, мал. 2:*1*; 17, с. 196, мал. 71:*5*; 18, с. 71, мал. 20:*1*], на гарадзішчы днепрадзвінскай культуры Загаваліна [27, с. 60, мал. 37:*3*]. Па форме да гэтых вырабаў блізкі наканечнік з пахавання 189-га могільніка Чаплін [22, с. 156, мал. 55:*15*]. Іншыя вырабы (3 шт.) маюць меншую даўжыню. Л. Д. Пobаль спрабаваў датаваць гэтыя знаходкі па аналагах са скіфскай культуры [21, с. 101—105]. Аднак наканечнікі дроцікаў са скіфскіх курганоў, якія падобны зарубінецкім, датуюцца V—III стст. да н. э. [15, с. 44—45], што супярэчыць датаванню пачатку зарубінецкай культуры (не раней пачатку II ст. н. э.) [11, с. 18; 20, с. 17]. I таму па аналагах з помнікаў пшэворскай культуры такія наканечнікі дроцікаў можна датаваць I—II стст. н. э. (фазы B1 і B2) [45, с. 83].

На гарадзішчы Малышкі знойдзены жалезны ўтулкавы наканечнік дзіды з пяром вярбаліставай формы (мал. 1:*14*). Аналогія яму вядома таксама на могільніку Чаплін (пахаванні 70, 140, 272) [22, с. 90, мал. 28:*12*, с. 130, мал. 44:*7*, с. 202, мал. 73:*10*], прычым у двух пахаваннях разам з імі былі знойдзены жалезныя падковападобныя фібулы [22, с. 92, 199—201].

Комплекс знаходак дазваляе датаваць ранні гарызонт на гарадзішчы Малышкі I ст. н. э. Не трэба выключаць і магчымасці больш дробнага датавання для гэтага гарызонта, таму што некаторыя вогнішчы ў памяшканнях жылля перабудоўваліся некалькі разоў [18, с. 25].

На гарадзішчы каля в. Гарадзішча Мядзельскага раёна Мінскай вобласці слой, на жаль, не ўдалося падзяліць на будаўнічыя гарызонты. Але знаходкі дазваляюць вызначыць этапы засялення. Да ранняга этапа адносяцца жалезная посахападобная шпілька (мал. 1:*15*), жалезная ўтулкавая сякера (мал. 1:*16*), бронзавая дыскападобная фібула (мал. 1:*17*). Шпілька, як ужо адзначалася, належыць да вырабаў I ст. н. э. (Кашчэлічы, Малышкі). Фібула мае дыяметр 10 см, па краі якога зроблена патаўшчэнне. У цэнтры дыска знаходзіцца выступ вышынёй 3 см, а з ніжняга боку — выступ з адтулінай і два загнутыя стрыжні (верагодна, рэшткі шарніра з дзвюх стоек). Падобныя круглыя фібулы-брошы з шарнірам з дзвюх стоек шырока вядомы як у Цэнтральнай Еўропе, так і ў гарадах Паўночнага Прычарнамор'я, і выраблялiся ў майстэрнях заходніх правінцый Рымскай імперыі. Датуюцца такія вырабы I—III стст. н. э. [2, с. 31—32; 30, табл. X:*222, 223, 228*], прычым брошы без эмалі адносяцца да I—II стст. н. э., як і фібула з Гарадзішча.

Жалезная сякера даўжынёй 13,3 см, з шырынёй ляза 3,7 см мае ўтулку квадратнай формы памерам 2,4×2,5 см пры яе даўжыні 6,2 см (мал. 1:*16*). Такія вырабы вядомы з іншых помнікаў культуры штрыхаванай керамікі (Івань, Слуцк) [8, с. 109—110] і на гарадзішчы Чаплін [21, с. 127], што дазваляе адносіць такія знаходкі да I ст. да н. э. — I ст. н. э. Такім чынам, па комплексу знаходак слой можна датаваць I ст. н. э.

На гарадзішчы Малышкі ёсць гарызонты, якія адносяцца да больш позняга часу (мал. 2:*1—5*). У другім знойдзена жалезная прафіляваная фібула, якая з'яўляецца імітацыяй моцнапрафіляваных фібул заходніх тыпаў з асаблівасцямі воінскіх фібул (нарэзкі на спіцы) (мал. 2:*1*). Гэта дазваляе датаваць яе другой паловай I ст. н. э. — пачаткам II ст. н. э. Адзначым знаходку дзвюх жалезных посахападобных шпілек (мал. 2:*3—4*), якія з'яўляюцца развіццём больш ранніх вырабаў. Жалезная вузкалязовая правушная сякера (мал. 2:*2*) дасягае даўжыні 16,8 см, шырыня ляза 6,4 см. Сякеры такога тыпу вядомы ў Жамайціі (Літва) да 150 г. н. э., у цэнтральнай Літве — 150—300 гг. н. э. і на тэрыторыі астатняй Літвы з 300 г. н. э. [39, с. 162]. Але ў заходніх балтаў такія вырабы існавалі і ў I ст. н. э. [44, с. 361,




Мал. 2. Комплексы знаходак II ст. н. э. з помнікаў Панямоння

мал. 163в]. Таму гэты тып на Беларусі трэба датаваць пачынаючы з I ст. н. э. У комплексе быў знойдзены брусок з кварцыту, які мог служыць крэсівам (мал. 2:*5*). Аналогіі яму вядомы на гарадзішчы Кунігішкяй-Паевоніс (Занямонне, Літва, I—V стст. н. э.) [35, мал. 41:*4*].

У трэцім гарызонце гарадзішча Малышкі выяўлена бронзавая падкавападобная фібула, якая аздоблена выемчатай эмаллю (мал. 2:*6*). Гэты выраб датуецца другой паловай II ст. н. э. [5, с. 29], як і ўвесь гарызонт. У сваю чаргу, папярэдні гарызонт датуецца першай паловай II ст. н. э.

На гарадзішчы Кашчэлічы ў чацвёртым будаўнічым гарызонце знойдзены жалезныя посахападобныя шпількі (мал. 2:*7—8*), бронзавы спіральны бранзалет (мал. 2:*9*) і абломак жалезнай касы (мал. 2:*10*). Шпількі з'яўляюцца развіццём больш ранніх вырабаў (мал. 1:*1, 3*). Таўшчыня іх верхняй часткі аднолькавая з таўшчынёй вастрыя. Такія вырабы бытуюць аж да V ст. н. э. Бранзалет адносіцца да I—II стст. н. э. Каса захавалася ў выглядзе абломка ляза даўжынёй 12,3 см і таўшчынёй 4,3 см (мал. 2:*10*). Такія косы на помніках Літвы сустракаюцца з II ст. н. э., у тым ліку і ў Занямонні і ўсходняй Літве [43, с. 117—119, карта 65]. Гэтыя даныя дазваляюць датаваць гарызонт II ст. н. э.

Матэрыялы IV—V стст. н. э. адзначаны на большай колькасці помнікаў (мал. 3). Так, на гарадзішчы Кашчэлічы да яго адносяцца знаходкі з верхняга, пятага, будаўнічага гарызонта (пласты 1—2) (мал. 3:*1—4*). Там знойдзены жалезны ўтулкавы наканечнік дзіды (мал. 3:*1*), які мае лаўраліставую форму пяра і лязо рамбічнага сячэння. Дзіду можна аднесці да тыпу IVБ і датаваць IV—V стст. н. э. (па матэрыялах Літвы) [10, с. 45]. Ёсць і жалезная спражка авальнай формы памерам 5,4×4 см, якая зроблена са стрыжня авальнага сячэння роўнай таўшчыні (мал. 3:*2*). У старажытнасцях Польшчы і чарняхоўскай культуры спражкі такога тыпу датуюцца другой паловай III — першай паловай IV стст. н. э. [6, с. 42—43; 36, с. 377—378]. Знойдзена таксама каменнае праселка (мал. 3:*3*) дыяметрам 3,8 см, з дыяметрам адтуліны 1 см. Прамыя аналогіі гэтаму вырабу вядомы з могільнікаў заходняй Літвы (Рудайчай I, Сенкай, Паланга, Ладзінінкай, Тубаусяй) [37, с. 80. мал. 5:*4*; 38, с. 118, мал. 3:*5*; 48, с. 131; мал. 7:*16*, 12:*2*; 31, с. 148, мал. 4:*4*; 46, с. 201], дзе сустракаюцца з канца

II — пачатку III стст. н. э. да VII ст. н. э. Гэта дазваляе датаваць праселка з Кашчэліч III—V стст. н. э.

Вельмі цікавай з'яўляецца знаходка жалезнага сярпа (мал. 3:*4*). Ён мае вялікія памеры (даўжыня ад канца чаранка да вастрыя 40 см, шырыня ляза 4,5 см, даўжыня чаранка 10 см), заканчэнне ляза крыху выгнута ўверх. На канцы чаранка ёсць адагнуты ўбок шып. Сярпы з такім мацаваннем рукаяці (чаранок з шыпам) сустракаюцца на помніках розных культур. Але павелічэнне памераў характэрна для вырабаў Літвы ў другой чвэрці I тыс. н. э. [50], а сярпы з адагнутым уверх вастрыём ляза вядомы ва ўсходняй Літве ў IV—V стст. н. э. [4, с. 11—12]. Гэтым часам (IV—V стст. н. э.) трэба датаваць і знаходку з Кашчэліч.

На падставе ўсіх даных апошні будаўнічы гарызонт гарадзішча Кашчэлічы трэба датаваць IV—V стст. н. э. з верагодным яго аднясеннем не раней другой паловы III ст. н. э.

Гарызонт гэтага часу выяўлены і на гарадзішчы Малышкі. Там была знойдзена жалезная спражка авальнай формы (мал. 3:*6*) (аналагічная вырабу з Кашчэліч), якая таксама датуецца другой паловай III — першай паловай IV ст. н. э. Ёсць і абломак жалезнага ўтулкавага наканечніка дзіды (мал. 3:*5*), які захаваўся на даўжыню 12,5 см, пяро авальнага сячэння — на даўжыню 4,5 см. Па асаблівасцях формы (выразная мяжа паміж пяром і ўтулкай, сячэнне пяра) дадзены выраб можна аднесці да тыпу IГ ці IVБ, якія сустракаюцца на могільніках Літвы IV—VIII стст. [10, с. 29, 45], і гэта дазваляе датаваць знаходку з Малышак у межах IV—V стст. н. э.

Ёсць цікавыя знаходкі на гарадзішчы Гарадзішча Мядзельскага раёна (даследаванні А. Р. Мітрафанава, А. А. Егарэйчанкі) (мал. 3:*7—10*). Сярод іх бронзавы скроневы пярсцёнак з завостраным канцом (мал. 3:*7*). Такія пярсцёнкі вядомы на помніках усходняй Літвы IV—V стст. н. э. [43, с. 6—8, карта 2]. Знойдзена і бронзавая трапецападобная падвеска (мал. 3:*8*), якая была ўпрыгожана кропкамі ў ніжняй частцы. Можна яе аднесці да IV—V стст. н. э., але не выключана прыналежнасць гэтага вырабу да больш позняй, банцараўскай культуры. Акрамя таго, была знойдзена жалезная спражка авальнай формы памерам 5,6×2,4 см, якая зроблена са стрыжня з патаўшчэннем пярэдняга боку (мал. 3:*9*). Па аналогіях у Польшчы і на помніках

чарняхоўскай культуры яна датуецца другой паловай IV— першай паловай V ст. н. э. [6, с. 44—45].

Да рыштунку вершніка адносіцца жалезная шпора з адагнутымі кручкамі (мал. 3:*10*). Усяго на гарадзішчы Гарадзішча былі знойдзены тры такія вырабы. Знаходкі шпор гэтага тыпу вядомы на гарадзішчах Аношкі Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці (даследаванні Э. М. Зайкоўскага) і Варонча Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці (даследаванні У. У. Хартановіча). Іх можна аднесці да тыпу V (паводле У. Б. Пярхаўка), аналогіі ім сустракаюцца ў старажытнасцях многіх культур, у тым ліку і на паселішчах сярэдняй Беларусі (Лабеншчына) [18, с. 76, мал. 26:*1*] і Літвы (Сакішкяй) [33, с. 122, мал. 26:*3*]. Па сваіх прапорцыях вырабы з Панямоння адносяцца да варыянту А (толькі па шырыні бліжэй да варыянту Б) [24, с. 117], што дазваляе датаваць іх III—V стст. н. э.

Такім чынам, па комплексу знаходак позні перыяд жыцця на гарадзішчы каля в. Гарадзішчы можна датаваць IV— першай паловай V ст. н. э.

На гарадзішчы каля пас. Гарадзішчы Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці таксама ёсць матэрыялы гэтага часу. Сярод іх бронзавы скроневы пярсцёнак (мал. 3:*11*), які, як і папярэдні такі выраб (мал. 3:7), таксама можна датаваць IV—V стст. н. э. Знойдзены пацеркі, сярод якіх шкляная трохчасткавая пранізка цёмна-фіялетавага колеру (мал. 3:*12*), што адносіцца да тыпу 95с і сустракаецца сярод старажытнасцяў Цэнтральнай Еўропы ў другой чвэрці I тыс. н. э. [49, с. 33, табл. 2:*95с*; 47, с. 53, 118—119]. Другая пацерка была зроблена з бурштыну і мела дыяметр да 1,5 см з адтулінай дыяметрам 0,2 см пры сячэнні біканічнай формы (мал. 3:*13*). Яе можна аднесці да тыпу біканічных (тыпы 12, 13 паводле Е. М. Аляксеевай), якія датуюцца I—IV стст. н. э., але большая іх частка ўжывалася ў III—IV стст. н. э. [1, с. 24]. Акрамя таго, знойдзены абломак жалезнай двухшыпавай стралы (мал. 3:*14*) даўжынёй 2,4 см і шырынёй паміж шыпамі 2 см, з пяром, якое мае рамбічнае сячэнне. Аналогіі яму вядомы толькі з гарадзішча Кунігішкяй-Паевоніс (Занямонне, Літва) II—IV стст. н. э. [10, с. 73—74]. Усё гэта дазваляе датаваць жыццё на гэтым помніку IV ст. н. э., не выключаючы магчымасці засялення і ў пачатку V ст. н. э.

Цікавыя знаходкі зроблены на селішчы Ізбішча Ла-

гойскага раёна Мінскай вобласці В. В. Казеем. Сярод іх шкляная двухчасткавая пацерка-пранізка фіялетавага колеру (мал. 3:*16*), якая аналагічная знаходцы з Гарадзішча (мал. 3:*12*). Маецца і абломак жалезнай арбалетнай фібулы, ад якой захавалася плоская спінка шырынёй 0,5 см, таўшчынёй 0,2 см. Такі выраб у старажытнасцях чарняхоўскай культуры адносіцца да фібул тыпу Б2е і датуецца 330—430 гг. н. э. [6, с. 35, 44—45].

Час знікнення помнікаў культуры штрыхаванай керамікі можна ўдакладніць па датаванні ранніх помнікаў культур, якія змяняюць яе ў Панямонні (культуры банцараўская і ўсходнелітоўскіх курганоў).

Помнікі культуры ўсходнелітоўскіх курганоў з'яўляюцца ў заходняй частцы Панямоння, вакол возера Свір. Сярод знаходак у пахаваннях былі бронзавыя і жалезныя арбалетныя фібулы (Жэлядзь, Чорная Лужа) [23, с. 108, 133, табл. 1:*5, 6*], якія аднолькавыя са знаходкай з селішча Ізбішча і таксама датуюцца 330—430 гг. н. э. Да гэтага часу можна аднесці і селішча культуры ўсходнелітоўскіх курганоў каля в. Засвір [9, с. 55—56].

На паселішчы банцараўскай культуры каля в. Равячка Мядзельскага раёна Мінскай вобласці (даследаванні А. Р. Мітрафанава ў 1975 г.) быў выяўлены жалезны ўтулкавы наканечнік дзіды з лязом ромбападобнай формы. Ён адносіцца да тыпу ІГ і аналогіі такім вырабам сустракаюцца ва ўсходняй Літве ў другой палове V—VI стст. н. э. [10, с. 29—31]. Сярод знаходак адзначым абломак бронзавага бранзалета з пласцінкі шырынёй 0,7 см і таўшчынёй 0,2 см, на знешнім баку якой маецца выступ-рабро. Такі ж бранзалет вядомы з кургана ў в. Цагельня (усходняя Літва) у комплексе з касцяным грэбнем і жалезнымі В-падобнымі рыфленымі спражкамі (матэрыялы захоўваюцца ў Эрмітажы). Увесь гэты комплекс можна датаваць другой паловай V ст. [3, с. 31—33, мал. 41—43]. Такім чынам, і селішча Равячка можна аднесці да часу не раней другой паловы V ст. н. э.

Супастаўленне датаў усіх паселішчаў культуры штрыхаванай керамікі (мал. 1—3) дазваляе падзяліць разглядаемы перыяд на 4 стадыі. Але варта дадаць, што дадзеная храналогія можа дапоўніцца пасля выкарыстання матэрыялаў помнікаў сярэдняй Беларусі і Літвы. Межы паміж стадыямі не з'яўляюцца дакладнымі.

Стадыю 1 можна датаваць І ст. н. э. і падзяліць

на дзве часткі — першая (1а) і другая (1б) паловы I ст. н. э. Не выключана магчымасць з'яўлення помнікаў гэтай стадыі і ў I ст. да н. э. Стадыя 2 датуецца II ст. н. э. і таксама падзяляецца на дзве часткі — першую (2а) і другую (2б) паловы II ст. н. э. (мал. 2). У наяўных матэрыялах маецца хіатус (III ст. н. э.) паміж другой і наступнай стадыяй засялення гарадзішчаў, прычым існуе магчымасць скарачэння гэтага разрыву толькі да першай паловы III ст. н. э. Наяўнасць хіатуса ў засяленні гарадзішчаў і адсутнасць змен у насельніцтва (няма розніцы ў масавым матэрыяле (гліняны посуд і праселкі) паміж гарызонтамі 2-й і 4-й стадый) дае магчымасць сцвярджаць, што ў гэты час адбываўся пераход насельніцтва на селішчы. Гарадзішчы захоўваліся як сховішчы для пэўнай акругі. Такім чынам, III ст. н. э. з'яўляецца стадыяй 3.

Пачатак стадыі 4 можна аднесці да 300 г. н. э. Яна характарызуецца працэсам знікнення культуры. Жыццё на паселішчах розных частак Панямоння закончылася ў розныя часы. У заходняй частцы (вакол воз. Свір) помнікі культуры штрыхаванай керамікі зніклі на мяжы IV—V стст. н. э. пад націскам насельніцтва культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Ва ўсходняй частцы (вярхоўі р. Віліі) знікненне паселішчаў мела месца ў сярэдзіне V ст. н. э. (па датаванні селішчаў Ізбішча і Равячка). Такім чынам, стадыя 4 датуецца IV— першай паловай V ст. н. э.

Супастаўленне выдзеленых стадый з фазамі сярэднееўрапейскай храналогіі (перыяды рымскі і вандровак народаў), якая прымяняецца для магільнікаў Літвы [39] і старажытнасцяў Украіны [6], паказвае іх блізкасць і амаль аднолькавасць. Так, стадыя 1а суадносіцца з ранняй фазай ранняга рымскага часу (B1), стадыі 1б і 2а — з позняй фазай раннерымскага часу (B2), стадыя 2б — з пераходнай фазай да познерымскага часу (B2/C1); стадыя 3 — з ранняй і сярэдняй фазамі познерымскага часу (C1 і C2) (ці толькі C1, калі прымаць наяўнасць меншага хіатуса), стадыя 4 — з позняй фазай познерымскага часу і перыядам вандровак народаў (C3 і Д). Ужо толькі гэта супадзенне можа сведчыць аб тым, што насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі прымала ўдзел у працэсе культурных змен.

Аналіз знаходак на помніках культуры штрыхаванай керамікі таксама дае магчымасць зрабіць высновы аб

удзеле яго насельніцтва ў гэтых працэсах. На першай стадыі (1а), відаць, мелі месца кантакты з заходнебалцкай культурай паўночна-ўсходняй Польшчы цераз паўднёвую Літву, аб чым сведчаць знаходкі (посахападобныя шпількі і шурпатая кераміка). Пазней (стадыя 1б) разам з захоўваннем гэтых зносін (тыя ж шпількі, прафіляваная фібула, абломкі правушных сякер) маюць месца кантакты з поўднем, з арэалам зарубінецкай культуры (жалезная ўтулкавая сякера, наканечнікі дзідаў і дроцікаў, жалезная падковападобная фібула, бронзавыя спіральныя бранзалеты), прычым гэты працэс працягваецца і ў час стадыі 2а (верагодна, у яе пачатку) (бронзавы спіральны бранзалет). Гэта магло быць звязана са складанымі працэсамі ў гісторыі насельніцтва, якія адбываліся пасля знікнення зарубінецкай культуры і ў час існавання постзарубінецкіх груп насельніцтва з фарміраваннем у далейшым кіеўскай культуры. Можна гаварыць пра ўплыў насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі на гэты працэс. Паколькі акрамя імпарту паўднёвых рэчаў, значную частку якіх складае зброя, іншага ўплыву ў культуры насельніцтва не адчуваецца, то меў месца ўплыў «штрыхавікоў» на паўднёвыя плямёны і, магчыма, нават некаторыя міграцыі насельніцтва. Апошняе магло прывесці да фарміравання лакальнай групы Рагачоў — Кісцені сярод старажытнасцяў зарубінецкай культуры, дзе адчувальны ўплыў паўночнай культуры (штрыхоўка паверхні посуду) [20]. Аб гэтым можа сведчыць і распаўсюджанне некаторых рэчаў у паўднёвых культурах (посахападобныя шпількі, бронзавыя акулярападобныя падвескі).

На працягу стадыі 2 сувязі з захадам пераважалі (правушная сякера, фібула з эмаллю, каса). Варта заначыць, што гэтыя стасункі мелі мірны характар. Таму і здзейсніўся пераход на селішча, які адбыўся на працягу стадыі 3.

На апошняй, чацвёртай, стадыі большасць знаходак паказваюць на кантакты з захадам (паўночна-ўсходняя Польшча) цераз усходнюю Літву. Аднак у гэты час яны мелі зусім іншы характар, што адлюстроўваецца ў матэрыяльнай культуры мясцовага насельніцтва (зноў засяленне гарадзішчаў, знаходкі ў значнай колькасці прадметаў узбраення і рыштунку вершніка). Несумненна, гэта было звязана з прыходам новага ў этнічных адносінах насельніцтва, што і прывяло да знікнення

культуры штрыхаванай керамікі ў заходняй частцы Панямоння, як і ва ўсходняй Літве, ужо на мяжы IV—V стст. н. э. і з'яўленне помнікаў культуры ўсходнелітоўскіх курганоў. Ва ўсходняй частцы даследаванага рэгіёна (вярхоўі р. Віліі) насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі жыло да сярэдзіны V ст. н. э., потым тут з'яўляюцца помнікі банцараўскай культуры. Несумненна, што гэты працэс трэба разглядаць як адну са змен, якія мелі месца ў перыяд вялікага перасялення народаў. Аднак трэба дадаць, што носьбіты культуры штрыхаванай керамікі не зніклі зусім з прыходам новага насельніцтва, а ў якасці субстрата прынялі ўдзел у фарміраванні новых культур (напрыклад, вобласці Нальшаны і іншых), на аснове якіх і склалася беларуская народнасць.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Алексеева Е. М. Античные бусы Северного Причерноморья // Свод археол. источников. Г1-12. 1978.
2. Амброз А. К. Фибулы юга европейской части СССР II в. до н. э. —IV в. н. э. // Свод археол. источников. Д1-30. 1966.
3. Бажан И. А., Каргопольцев С. Ю. В-образные рифленные пряжки как хронологический индикатор синхронизации // Кратк. сообщ. Ин-та археологии АН СССР. 1989. Вып. 198. С. 28—35.
4. Волкайте-Куликаускене Р. О серпах литовского типа // Новое в археологии Прибалтики и соседних территорий. Таллинн, 1985. С. 7—14.
5. Гороховський Е. Л. Підковоподібні фібули Середнього Подніпров'я з виїмчастою эмаллю // Археологія. Київ, 1982. Вып. 38. С. 16—36.
6. Гороховский Е. Л. Хронология черняховских могильников лесостепной Украины // Труды V Международного конгресса археологов-славистов. Киев, 1988. Т. 4. С. 34—46.
7. Данилайте Е. А. Штрихованная керамика в Литве (некоторые данные по вопросу об этногенезе литовцев): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Вильнюс, 1967. 32 с.
8. Егорейченко А. А. Торговые связи носителей белорусского ареала культуры штрихованной керамики на позднем этапе // Древнее производство, ремесло и торговля по археологическим данным: Тез. докл. IV конференции молодых ученых ИА АН СССР. М., 1988. С. 109—111.
9. Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989. 208 с.
10. Казакявичюс В. В. Оружие балтских племен II—VIII веков на территории Литвы. Вильнюс, 1988. 160 с.
11. Каспарова К. В. Хронология зарубинецкой культуры Припятского Полесья (по материалам могильников): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Л., 1981.
12. Кухаренко Ю. В. Чаплинский могильник // Памятники зарубинецкой культуры // Матер. и исслед. по археологии СССР. № 70. 1959. С. 154—180.


3. Зак. 1203

13. Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья. // Свод археол. источников. Д1-29. 1961.
14. Кухаренко Ю. В. Зарубинецкая культура // Свод археол. источников. Д1-19. 1964.
15. Мелюкова А. И. Вооружение скифов // Свод археол. источников. Д1-14. М., 1964.
16. Митрофанов А. Г. Банцеровское городище // Белорусские древности. Мн., 1967. С. 243—253.
17. Митрофанов А. Г. Памятники восточнобалтских племен // Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1970. Т. 1.
18. Митрофанов А. Г. Железный век Средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э. — VIII в. н. э.). Мн., 1978.
19. Митрофанов А. Г. Археологические памятники восточных балтов на территории Белоруссии в эпоху железа (VIII в. до н. э. — IX в. н. э.) // Из древнейшей истории балтских народов. Рига, 1980. С. 102—110.
20. Обломский А. М. Верхнеднепровский вариант зарубинецкой культуры: Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1983.
21. Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии (ранний этап зарубинецкой культуры). Мн., 1971.
22. Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Мн., 1973. 280 с.
23. Покровский Ф. В. К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении // Труды X Археологического съезда в Риге. 1896. М., 1899. Т. 1. С. 71—171.
24. Перхавко В. Б. Появление и распространение шпор на территории Восточной Европы // Сов. археология. 1978. № 3. С. 113—126.
25. Смирнов К. А. Дьяковская культура (материальная культура городищ междуречья Оки и Волги) // Дьяковская культура. М., 1974. С. 7—89.
26. Третьяков П. Н. Чаплинское городище // Памятники зарубинецкой культуры // Матер. и исслед. по археологии СССР. № 70. 1959. С. 119—153.
27. Шадыро В. И. Ранний железный век Северной Белоруссии. Мн., 1985.
28. Шмидехельм М. Х. Археологические памятники периода разложения родового строя на северо-востоке Эстонии (V в. до н. э. — V в. н. э.). Таллин, 1955.
29. Этнокультурная карта территории Украинской ССР в I тысячелетии н. э. Киев, 1985.
30. Almgren O. Studien über Nordeuropäische Fibelídrmen // Mannus-Bibliotek-Leipzig, 1923. N 23.
31. Buteniene E. Lazdininkų kapinynas // Lietuvos archeologijos paminklai. Vilnius, 1968. P. 143—161.
32. Grigalavičiene E. I tūkstanmečio pr. m. e. Lietuvos piliskalniu kaulo dirbiniai (3. Papuošalai) // Mokslų Akademijos darbai. A serija (MADA). Vilnius, 1976. T. 3(56). P. 69—80.
33. Grigalavičene E. Sokiškių piliakalnis Ignalinos raj. Sokiškių apyl. // Lietuvos archeologija. Vilnius, 1986. Kn. 5. P. 89—138.
34. Kulikauskas P. Nemenčines piliakalnis // Iš Lietuvių Kultūros istorija. Vilnius, 1958. T. 1. P. 20—43.
35. Kulikauskas P. Ušnemunes piliakalniai (I—XIII amžiuje). Vilnius, 1982.

36. Madyda R. Sprzączki i okusia pasa na ziemiach polskich w okresie rzymskim // Materiały starożytne i wczesnośredniowieczne. Wrocław, 1977. T. 4. S. 371—411.
37. Michelbertas M. Rūdaičių I kapinynas // Lietuvos archeologijos paminklai. Vilnius, 1968. P. 73—112.
38. Michelbertas M. Senkų kapinynas // Lietuvos archeologijos paminklai. Vilnius, 1968. P. 115—123.
39. Michelbertas M. Senasis geležies amžius Lietuvoje. Vilnius, 1986.
40. Latvijas PSR archeologija. Riga, 1974.
41. Lietuvos TSR Archeologijos atlasas. Vilnius, 1975. T. 2.
42. Lietuvos TSR Archeologijos atlasas. Vilnius, 1977. T. 3.
43. Lietuvos TSR Archeologijos atlasas. Vilnius, 1978. T. 4.
44. Okulicz J. Pradzieje ziem pruskich od późnego paleolitu do VII w. n. e. Wrocław, 1973.
45. Prahistoria ziem Polskich. Wrocław etc., 1981. T. 5.
46. Rimantienė R. Tūbausių kapinynas // Lietuvos archeologijos paminklai. Vilnius, 1968. P. 183—209.
47. Stawiarska T. Katalog paciorków szklanych z obszaru Polski północnej w okresie wpływów rzymskich. Wrocław, 1987. 147 s.
48. Tautavičiuš A. Palangos kapinynas // Lietuvos archeologijos paminklai. Vilnius, 1968. P. 123—137.
49. Tempelmann-Maczynska M. Die Perlen der Romischen Kaiserzeit und der frühen Phase der Volkerwanderungszeit im Mitteleuropäischen Barbaricum. Mainz am Phein, 1985. 335 s.
50. Volkaite-Kulikauskiene R. Derliaus nuemino irankiai Lietuvoje m. e. I tūkstantmentyje ir II tūkstantmečio pradzioje (1. Peiliai-pjuautuveliai M. e. I—V a.) // MADA. 1984. T. 4 (89). P. 79—91.

*Ірына Ганецкая*

## БЕЛАРУСКАЯ МАЁЛІКА XVI—XVIII стст.

Бадай, кожны жыхар Беларусі ведае што-небудзь аб італьянскіх маёліках або Гжэлі і наўрад ці мае якое ўяўленне аб беларускай маёліцы. І нядзіўна, бо само гэтае паняцце практычна адсутнічае ў навуковай і папулярнай літаратуры. Тым не менш беларуская маёліка — з'ява цалкам рэальная і ўяўляе сабой адну з самых яркіх старонак гісторыі матэрыяльнай культуры беларускага народа.

Перш за ўсё спынімся на высвятленні самога тэрміна «маёліка». У навуковы ўжытак ён увайшоў ужо ў нашым стагоддзі. Нягледзячы на тое што ў літаратуры сустракаюцца самыя розныя вызначэнні, карэнных супярэчнасцей паміж імі не існуе. Розніца толькі ў дэталях. У агульным сэнсе маёліка — вырабы з каляровых глін з порыстым чарапком, пакрытым непразрыстымі палівамі. Такая фармулёўка ўжываецца найчасцей і прысутнічае

практычна ва ўсіх слоўніках і энцыклапедыях. Некаторыя даследчыкі пашыраюць яе, уключаючы пералік асноўных характарыстык тэхналагічнага працэсу: маёлікавыя вырабы фармуюць з каляровых глін з дабаўкамі аташчаючых і флюсуючых матэрыялаў; у залежнасці ад сыравіны колер чарапка можа быць розным — ад белага да цёмна-чырвонага; маёлікавы чарапок порысты (водапаглынальнасць ад 10% і вышэй), адносна нізкая тэмпература абпалу [3, с. 78]. Найбольш прымальнае для нас вызначэнне Е. Бубнавай: маёліка мае грубы порысты чарапок з каляровай гліны, пакрыты эмаллю (чарапок не прасвечвае праз паліву, ён закрыты ёю) [5, с. 11].

Пра беларускую маёліку можна гаварыць пачынаючы з XI—XII стст., калі вытворчасць яе была наладжана амаль ва ўсіх буйных гарадах. У той час з'яўленне і існаванне маёлікі было непарыўна звязана з патрэбамі манументальнага будаўніцтва. Гістарычны фон аднаўлення вытворчасці маёлікі на Беларусі ў XVI ст. характарызуецца агульным узмацненнем Вялікага княства Літоўскага, інтэнсіўным ростам гарадоў і паглыбленнем падзелу працы паміж горадам і вёскай. Усё болей Вялікае княства Літоўскае ўцягваецца ў сферу еўрапейскага эканамічнага і культурнага жыцця. Праз гандаль ішло азнаямленне з прыроднымі багаццямі, вытворчымі, мастацка-эстэтычнымі, бытавымі традыцыямі іншых краін і народаў. XV—XVI стагоддзі адзначаны рэзкім уздымам культуры. На аснове распаўсюджання ідэй і эстэтыкі Адраджэння складваецца нацыянальная, адметная рэнесансавая культура, арыентаваная на гуманістычныя традыцыі хрысціянства. На працягу XVII ст. з узмацненнем каталіцкай экспансіі на беларускіх землях узрастае ўплыў барока.

Усе адзначаныя працэсы, што адбываліся ў эканоміцы і культурным жыцці Вялікага княства Літоўскага ў XV—XVI стст., не маглі не адбіцца на развіцці керамічнай вытворчасці. Па асартыменце, форме, дэкору, функцыянальным прызначэнні вырабы становяцца ўсё больш разнастайнымі. Шырокае распаўсюджанне паліванага посуду, засваенне роспісу ангобамі пад паліву, тэхналогіі маёлікі садзейнічалі назапашванню вытворчага вопыту ў галіне керамічнай тэхналогіі. Значным фактарам узнаўлення вытворчасці маёлікі на Беларусі пасля амаль трохсотгадовага перапынку стала знаёмства

з лепшымі ўзорамі заходнееўрапейскага керамічнага мастацтва, у прыватнасці з італьянскімі маёлікамі.

У Італіі тэхніка апрацоўкі керамічнай паверхні вырабаў свінцова-алавянымі палівамі з'яўляецца яшчэ ў XV ст. Паступова да канца гэтага стагоддзя майстры выпрацоўваюць новы падыход у тэхналогіі дэкаратыўнага афармлення маёлікі, які хутка распаўсюджваецца па краіне, выцясняючы прыёмы роспісу густымі эмалямі. Сутнасць новага прынцыпу зводзілася да таго, што малюнак наносілі пэндзлем вадкімі керамічнымі фарбамі па сырой фонавай паліве, пасля чаго вырабы канчаткова абпальвалі. XVI стагоддзе ў гісторыі еўрапейскага керамічнага мастацтва адзначана росквітам вытворчасці італьянскіх маёлік. Некаторыя ўзоры іх мы знаходзім і на тэрыторыі Беларусі. Так, у Лідскім замку вядомы невялікі фрагмент дэкаратыўнай талеркі з сюжэтам пра Лаакаона і надпісам з тлумачэннем сюжэта на адвароце [8, с. 60]. У Віцебску Л. Калядзінскім знойдзены вялікі фрагмент талеркі на кальцавым паддоне з рэалістычнай выявай каровы на цёмна-сінім фоне. Паходжанне першага фрагмента звязана з імем Ніколы Пеліпарыя (другая чвэрць XVI ст.), другога — з фаянсавай майстэрняй у Дэруце.

Вытворчы поспех італьянскіх майстроў меў велізарнае значэнне для развіцця керамічнай справы ва ўсёй Еўропе. Недзе на пачатку XVI ст. з тэхналогіяй маёлікі знаёмяцца рамеснікі краін Цэнтральнай Еўропы. Перш за ўсё яны выраблялі кафлю, у некаторых выпадках і посуд. Перасяленне італьянскіх майстроў у Францыю, Маравію, Славакію, Чэхію, асобныя цэнтры паўднёвай Германіі садзейнічала даволі шырокаму распаўсюджанню маёлікавага посуду з роспісам па-за межамі Альпаў.

У першай палове XVI ст. новую керамічную тэхналогію засвойваюць і беларускія майстры. Гэты працэс адбываўся праз непасрэдныя кантакты Беларусі з еўрапейскімі краінамі. Не апошнюю ролю адыгралі і дынастычныя сувязі. Вытворчасць паліхромнай кафлі пачынаецца ў нас прыкладна ў 20—30-я гады XVI ст. Падставай для прыведзенай даты з'яўляюцца наступныя факты. Паліхромную кафлю з Віленскага замка А. Таўтавічус датуе 20—30-мі гадамі XVI ст. [9, с. 38]. Самыя дакладныя аналогіі віленскай кафлі (як па формах, сюжэтах, так і па тэхналогіі) выяўлены ў Гарадоцкім замку (Маладзечанскі раён) [9]. Марфалагічны, стылістычны

аналіз, тэхналагічныя асаблівасці, надзвычайная блізкасць сюжэтаў некаторых экземпляраў да віленскіх даюць падставы датаваць гэтую калекцыю таксама 20—30-мі гадамі XVI ст.

У Старым замку ў Гродне (раскопкі А. А. Трусава) па-за сценамі палаца выяўлены паліхромныя кафлі часоў Стэфана Баторыя (каля 1580 г.). У выніку раскопак ў Мядзельскім замку М. А. Ткачовым знойдзена паліхромная кафля XVI ст., у Друі — масіўная кафля з высокім рэльефам Мадонны, у Слоніме, Віцебску, Брагіне таксама вядома маёлікавая кафля XVI ст. Вялікая калекцыя паліхромнай маёлікавай кафлі з раслінным і геральдычным арнаментам сабрана на тэрыторыі Мірскага замка, у тым ліку і кафля-каронка з датай 1583. Такім чынам, вытворчасць маёлікі на Беларусі існавала ўжо ў першай палове XVI ст., а ў наступным паўстагоддзі была значна пашырана.

Сцянная кафля мела квадратную, часам блізкую да квадратнай пласціну з простай або двухуступістай рамкай. Больш разнастайнай па форме была гзымсавая кафля: пукатая і ўвагнутая, складанапрафіляваная, S-падобная, а таксама складзеная з некалькіх частак — плоскай і валікападобнай. Самымі адмысловымі былі абрысы кафляў-каронак, сярод якіх вылучаецца тып вялікай каронкі-акрэстэрыя, што замацоўвалася пасярэдзіне дэкаратыўнага пояса на версе печы. Дадатковымі элементамі пячнога дэкору былі перамычкі і медальёны. Яны сустракаюцца ў параўнальна невялікай колькасці. На пласцінах кафляў быў размешчаны рэльефны малюнак. На больш ранніх экземплярах рэльеф высокі, амаль паўаб'ёмны, на пазнейшых — нізкі і адрозніваецца дастаткова выразнай пластыкай. Малюнак кожнай кафлі ўяўляе сабой самастойную кампазіцыю, падпарадкаваную форме вырабу. У жывапісным афармленні паліхромнай кафлі выкарыстоўваліся эмалі двух, трох, радзей чатырох колераў.

Для тэматыкі малюнкаў на беларускай маёлікавай кафлі характэрна спалучэнне некалькіх арнаментальных тыпаў, што абумоўлена ўплывам розных стылістычных напрамкаў у мастацтве таго часу. Надзвычай разнастайныя сюжэты характэрныя для Адраджэння. Вельмі папулярным быў арнамент «рыбіна луска». Праяўленнем гуманістычнай сутнасці ідэй Рэнесанса сталі выявы чалавека на беларускай кафлі. Тут і партрэты, і казач-

ныя, і жанравыя сцэны, і міфалагічныя героі (Амур, Пегас, Амазонка). Прысутнічаюць таксама разнастайныя жывёлы: сабакі, зайцы, рыбы, коні, ільвы, змеі, птушкі і інш. У XVI ст. з'яўляецца на кафлі геральдычная сімволіка. Выявы на рэнесансавых кафлях носяць рэалістычны характар: добра прамадэліраваныя формы, пластычна напоўненыя аб'ёмы, старанна прапрацаваныя дэталі; вялікая ўвага надавалася прычоскам і элементам касцюма. Жывапіснай палітры ўласцівы мажорны каларыт, дзе прадстаўлены жоўты, белы, фіялетавы, сіні і блакітны, зялёны колеры чыстых, інтэнсіўных тонаў. Жыццярадаснасць, прасветленасць агульнага настрою дасягаецца выкарыстаннем для фону светлых эмаляў (белай ці жоўтай). Толькі для XVI ст. характэрна прысутнасць фіялетавага колеру на кафлях.

У XVII ст. усё больш адчуваецца нарастанне барочных традыцый ў дэкаратыўным афармленні кафлі. З часам яны становяцца пануючымі. Шырока распаўсюджваюцца самыя разнастайныя раслінныя арнаменты: дробныя стылізаваныя кветкі шчыльна запаўняюць усю пласціну, асобныя кветкі рамонкаў, гваздзікоў, васількоў спалучаюцца з гірляндамі, вянкамі, парасткамі з лісцем і бутонамі. Шырока выкарыстоўваюцца матывы «вазон», «рыбіна луска», адлюстроўваюцца міфалагічныя істоты, а таксама геральдычная і рэлігійная сімволіка. У многіх выпадках прысутнічаюць надпісы і манаграмы. Пластыка барока вызначаецца большай выразнасцю самога рэльефу, высокай ступенню стылізацыі, абагульненасцю вобраза, дробнасцю арнаменту, што стварае бясконцую ігру святла і ценю і фарміруе эмацыянальны фон кампазіцыі. Кафлі XVII—XVIII стст. адрозніваюцца больш цёмным каларытам, пабудаваным на кантрастным гучанні белага, цёмна-сіняга, жоўтага і зялёнага колераў. У раскладцы іх назіраюцца некаторыя заканамернасці: сіні фон, цэнтр і звязаныя з ім элементы жоўтыя, рамка зялёная.

У тэхналагічным плане ў XVI—XVII стст. выкарыстоўвалі тэхніку роспісу густымі эмалямі па рэльефным малюнку, што наносілі пры дапамозе трубчастага інструмента або льячак, апісаных М. С. Кацарам [14, с. 72]. Для найбольш ранніх экземпляраў, у прыватнасці для ўсёй гарадоцкай калекцыі, характэрна змешаная тэхналогія, калі побач з эмалямі ўжываліся і празрыстыя палівы па ангобе. Другі варыянт — па ангобе нанесена

і эмаль, і паліва. Водгаласкі такой тэхнікі мы сустракаем на ўсёй тэрыторыі Беларусі на працягу XVII ст.

Акрамя кафлі ў асартыменце архітэктурна-дэкаратыўнай маёлікі заслугоўваюць увагі такія рэчы, як паліхромныя пано. Знаходкі іх вядомы ў Магілёве, Навагрудку [10, с. 88], Мірскім замку, Лоску, сярод матэрыялаў Віленскага і Трокскага замкаў [19, с. 44], у Заслаўі. Якім было прызначэнне гэтых вырабаў? Магчыма, яны ўяўлялі сабой цэнтральны дэкаратыўны элемент у люстэрку печы, магчыма, мацаваліся на сцяне ў інтэр'еры або на фасадах па аналогіі з традыцыяй аздабляць маёлікавымі пліткамі фасады манументальных пабудоў у Гродне ў XII ст.; такім прыёмам карысталіся і беларускія майстры XVII ст., што працавалі ў Маскоўскай дзяржаве. Да архітэктурна-дэкаратыўнай маёлікі належаць таксама нешматлікія знаходкі плітак падлогі і даховак, пакрытых эмалямі.

Фрагменты паліхромнага маёлікавага посуду XVI—XVII стст. — не такія частыя знаходкі, як кафля. Тым не менш рэшткі бытавой маёлікі выяўлены практычна ва ўсіх гарадах і мястэчках, дзе праводзіліся даследаванні. У асартыменце пераважаюць плоскія сасуды — у асноўным талеркі (56,2%), сярод аб'ёмных пасудзін самымі папулярнымі былі куфлі (34,4%), сустракаюцца збаны і кубачкі.

Вылучаецца некалькі тыпаў талерак.

Тып. I. Начынні маюць канічную форму, форма вызначаецца паступовым пераходам ад венца да прыдоннай часткі, борцік адсутнічае.

Тып II. Талеркі з амаль гарызантальна адагнутым борцікам. Сасуды XVI — першай паловы XVII ст. у асноўным маюць плоскае дно (71,4%), радзей — пліткавы (14,3%) або невыразны кальцавы паддон (14,3%). Цэласнае ўяўленне аб форме місак можа даць манахромны экземпляр з Мсціслава. Унутраны край венчыка крыху прыўзняты і паступова пераходзіць у прыдонную частку. Плоскае дно дыяметрам 13 см, вышыня місачкі 5,5 см.

Формы куфляў традыцыйныя: цыліндрычная ёмістасць вышынёй прыкладна 20 см і дыяметрам 10 см з ледзь патоўшчанымі да нізу сценкамі. Адзін экземпляр удалося поўнасцю рэстаўраваць (мал. 1). Асноўны аб'ём куфля, знойдзенага ў Крэўскім замку, мае правільную цыліндрычную форму. Вышыня яго 17,5 см, дыяметр па

венчыку і па донцы 10 см, ручка мае прамавугольную форму. Згаданы куфель мае дакладныя аналогіі ў паліваным посудзе з Сярэдняга Падняпроўя. Генетычна гэтая форма паходзіць з Турцыі. Такія ж куфлі былі распаўсюджаны ў Італіі ў XVI—XVIII стст. [16, с. 35].

Што тычыцца збаноў, то пра іх формы можна атрымаць толькі агульнае ўяўленне. Напрыклад, полацкі збан XVII ст. складаецца з двух асноўных аб'ёмаў: цыліндрычнай гарлавіны і шарападобнага тулава. Па матэрыялах Віцебска вядома масіўная ручка збана з двума радамі пальцавых зашчыпаў. Увогуле формы досыць традыцыйныя як для керамікі, так і для шкла. Больш дакладна апісаць дадзены від посуду, як, зрэшты, і кубачкі, немагчыма, паколькі сабраныя фрагменты дробныя, разрозненыя і, як правіла, невыразныя.

Разнастайнай была тэхналогія аздаблення посуду. Гэта прыёмы жывапісу густымі эмалямі па чарапку: бясконтурны роспіс (мал. 3, *а*), малюнак на прадрапаным і на марганцавым (мал. 1) контуры, а таксама манахромныя рэчы (часцей жоўтыя, бірузовыя). У колеравай гаме выкарыстоўваліся тыя ж фарбы, што і ў кафлярстве, але вельмі шырока ўжывалася фіялетавая эмаль, і не толькі ў якасці раздзяляльнага контуру. Часцей за ўсё на адной рэчы прысутнічаюць эмалі трох колераў (47,8%), прычым гэта амаль усе выпадкі марганцавага роспісу (колер контуру не ўлічаны), радзей сустракаюцца тры колеры (17,4%), два (17,4%) і адзін (17,4%). Некалькі шырэй, чым на кафлі, прадстаўлена жоўтая эмаль.

У арнаментальных кампазіцыях паліхромнага маёлікавага посуду XVI — першай паловы XVII ст. можна вылучыць некалькі асноўных тыпаў. Вельмі папулярнымі былі раслінныя матывы: розныя стылізаваныя кветкі, лісцікі, часам скампанаваныя ў букеты (мал. 1; 3, *а*). Элементы расліннага арнаменту адзначаны ў 41,9% выпадкаў у рамках апрацаванага матэрыялу. Найбольш характэрна выкарыстанне раслінных матываў на донных паверхнях талерак і місак, значна радзей па берагах і борціках. Напрыклад, на вялікім фрагменце віцебскай талеркі з марганцавым роспісам на люстэрку свабодна размешчаны буйныя стылізаваныя лісты ў форме сэрца і выцягнутыя трубчастыя званочкі. Ледзь прыкметныя выгіны сцяблоў аб'ядноўваюць усе гэтыя дэталі ў адзіную цэласную кампазіцыю. Менавіта ў такой манеры

выкананы лісце і званочкі, дапоўненыя вялікімі жоўтымі цюльпанамі, што аплятаюць сабой тулава куфля з Полацка. Увогуле для куфляў больш характэрна паласавае размяшчэнне кампазіцыі — як на крэўскім куфлі (мал. 1) ці на фрагменце слонімскага сасуда, дзе ў шырокую стужку бірузовага колеру ўпісаны медальёны з буйной, моцна стылізаванай раслінай. У якасці прык-



Мал. 1. Куфель з Крэва XVII ст.

ладу выкарыстання расліннага арнаменту па борціку талеркі можна прывесці экземпляр з Віцебска: па дыяметру борціка ідзе дэкаратыўны пояс з жоўтых кветак паміж двух сініх лісцяў. Найбольш тыповы для арнаментальнага афармлення берагоў талерак і місак геаметрычны малюнак: абводка, паўкругі, трохкутнікі, хвалі, зігзагі (мал. 3, *б, в*). Выключна геаметрычны арнамент аздабляе віцебскую талерку, усё поле якой пакрывае малюнак з каляровых трохкутнікаў розных формаў, абрысы якіх выпісаныя марганцам. Увогуле ж геаметрычны арнамент адзначаны на 32,3% фрагментаў. Непасрэдна з уплывам Рэнесанса звязана распаўсюджанне лускавага арнаменту на маёлікавых сасудах (12,6%). Так аздаблялі і плоскія, і аб'ёмныя рэчы.

Большасць паліхромных сасудаў фармаваны з чырвоных глін (70,4%), меншая частка — са светлых (як правіла, гэта куфлі, падобныя адзін да аднаго формамі, тэхнікай і стылістыкай арнаментацыі, што дае магчымасць меркаваць аб паходжанні іх з аднаго цэнтра).

Другая палова XVII ст. у вытворчасці маёлікі звязана з распаўсюджаннем моды на дэльфцкі фаянс. Уплыў Дэльфта на керамічнае мастацтва Еўропы быў настолькі моцны, што не абмінуў ніводнай краіны таго часу. Менавіта з прычыны незвычайнай папулярнасці прадукцыі дэльфцкіх майстроў гладкія распісныя кафлі называюць галандскімі. Імпарт дэльфцкага фаянсу на Беларусь, верагодна, быў абмежаваны і не мог задаволіць попыт на мастацкую прадукцыю.

Мясцовыя майстры пачынаюць вытворчасць маёлікі, знешне падобнай на дэльфцкі фаянс, выкарыстоўваючы для гэтага даступную сыравіну. Змены адбыліся найперш у тэхналогіі. Яны абумоўлены засваеннем тэхнікі роспісу вадкімі керамічнымі фарбамі па эмалі. Гэты прыём становіцца дамінуючым. Прыкметна змяняецца вонкавы выгляд вырабаў. Яркая паліхромія саступае месца рэдкаму арнаменту, спакойнаму па каларыце, што пакідае шмат белай прасторы. Павялічваецца колькасць манахромных вырабаў. Новыя тэхналагічныя і эстэтычныя прынцыпы перш за ўсё ўсталёўваюцца ў вытворчасці посуду. Цікава, што засваенне новага і адмова ад старога адбыліся не імгненна. Археалагічны матэрыял дае магчымасць прасачыць паралельнае выкарыстанне розных тэхналогій, а таксама своеасаблівае іх спалучэнне: роспіс густымі палівамі па белай эмалі, кобаль-

тавы роспіс па белай эмалі, часам малюнак наносіўся толькі меддзю.

Пэўныя змены ў другой палове XVII—XVIII стст. адбыліся і ў асартыменце. Па-ранейшаму пераважаюць талеркі і міскі, але колькасць апошніх рэзка павялічваецца. З'яўляецца новы від посуду — дэкаратыўныя талеркі. Яны адрозніваюцца невялікімі адтулінамі ў даволі высокім кальцавым паддоне (мал. 2). У гэтыя адтуліны працягвалі шнурок, каб можна было павесіць талерку на сцяну. Як сведчаць археалагічныя раскопкі, такія вырабы былі шырока распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі Беларусі ў XVII—XVIII стст. Фрагменты з дзіркамі ў кальцавой ножцы выяўлены ў Мірскім замку, мястэчку Мір, Гродне, Слоніме, Навагрудку, Полацку і інш. Аб папулярнасці такога віду посуду сведчыць і тое, што ў некаторых выпадках свідравалі борцікі ці донцы звычайных талерак. Амаль выходзяць з ужытку кубачкі. У сувязі са з'яўленнем вазачак рэзка падае значэнне куфляў. Па табліцы 1 наглядна можна прасачыць усе змены, што адбыліся ў асартыменце маёлікавых вырабаў у другой палове XVII—XVIII ст. у параўнанні з папярэднім перыядам.

Т а б л. 1. **Эвалюцыя асартыменту маёлікавых вырабаў у XVI—XVIII стст.**

| Перыяд | Талеркі | Міскі | Збаны | Кубачкі | Куфлі | Вазы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| XVI—1-я палова XVII ст. | 53,1% | 3,1% | 6,25% | 3,1% | 34,4% | — |
| 2-я палова XVII—XVIII ст. | 58,5% | 35,4% | 7,4% | — | 3,4% | 2,8% |

Талеркі маюць роўны бераг, круглыя па форме. Выключэннем з'яўляецца гродзенская талерка, афармленая ў выглядзе шматкутніка. Па форме венчыка вылучаецца некалькі тыпаў талерак. Тып I. Без борціка. Прыўзняты, патоўшчаны, прафіляваны венчык. Тып II. Венчык вертыкальна прыўзняты і крыху загнуты ўнутр. Тып III — самая шматлікая група. Сасуды з гарызантальна адагнутым борцікам шырынёй ад 2 да 5 см і прыпухлым венчыкам. Дыяметр талеркі па венчыку 30—32 см.

У формах місак вылучаюцца два асноўныя тыпы: тып I — вырабы з нешырокім адагнутым борцікам; тып II — вертыкальны борцік вышынёй 1,5—2 см і выразны злом на знешняй паверхні. Дыяметр па венчыку 18—23 см. Міскі тыпу II колькасна пераважаюць у XVIII ст.

У адрозненне ад вырабаў папярэдняга перыяду практычна ўсе талеркі і міскі маюць высокі паддон: у большасці кальцавы (вышынёй 0,3—0,8 см), радзей пліткавы.

Аб формах збаноў можна меркаваць толькі па фрагментах ніжніх частак асноўнага аб'ёму. Дыяметры іх



Мал. 2. Дэкаратыўная талерка XVII ст.

па дне 12—14 см, дно без паддона з моцна адагнутымі сценкамі, значыць, тулава мела шарападобную форму. Невялікія фрагменты куфляў сведчаць, што іх форма не змянілася.

Самая значная калекцыя вазачак сабрана пры расчыстцы сутарэнняў кляштара брыгітак у Гродне. Яна складаецца з 13 практычна цэлых сасудаў [7, с. 70]. Коратка спынімся на формах вырабаў. Па прынцыпах пабудовы канструкцыі іх можна падзяліць на тры асноўныя групы. Да першай групы належаць сасуды з выразнымі барокавымі формамі. Высокая складанапрафіляваная шыйка рэзка пераходзіць у пукатае эліпсацi шарападобнае тулава, што амаль ляжыць на плоскай стапе. Дынамізм формаў падкрэсліваюць S-падобныя ручкі з завіткамі ў месцах мацавання.

Вырабы другой групы па сваёй тэктоніцы вельмі нагадваюць традыцыйныя паліваныя збаны, толькі меншых памераў. Іх формы больш стрыманыя і складаюцца з двух аб'ёмаў: усечаны конус гарлавіны і шарападобнае тулава на невысокім паддоне, што абапіраецца на плоскую стапу.

Формы трэцяй групы адрозніваюцца мяккасцю ліній, выцягнутасцю прапорцый. Крыху пашыраны венчык перацякае ў шыйку, тая непрыкметна пераходзіць у яйкападобнае тулава.

У арнаментальных кампазіцыях вырабаў з паліхромным роспісам прыкметных зменаў не адбылося. Па-ранейшаму па венчыку ідзе паласа геаметрычнага арнаменту, а букет размешчаны на люстэрку талерак. Прыкладам канцэнтрычнай пабудовы малюнка можа паслужыць дэкаратыўная талерка з Мірскага замка. Арнаментальныя ўчасткі падзелены сіняй і жоўтай абводкай. Шырокая стужка геаметрычнага арнаменту складаецца са злучаных дугаў, поле ў якіх запоўнена кропкамі, рысачкамі і моцна стылізаванымі лісткамі. На доннай частцы выпісана шасціпялёсткавая разетка. Усё часцей па борціку з'яўляецца раслінны арнамент, размешчаны па крузе. Звычайна гэта галінкі, што мякка сцелюцца ўздоўж борціка або прамянямі разыходзяцца з цэнтра. Па краі найчасцей ідзе радок рысачак.

Паступова ўсё большае значэнне набываюць двухколеравыя кампазіцыі, асабліва напісаныя кобальтам. Характар аздаблення адрозніваецца свабодным размяшчэннем арнаменту адпаведна тэктанічнаму чляненню

сасудаў. Напрыклад, борцік, калі ён ёсць, абавязкова меў свой малюнак. Гэтая падпарадкаванасць форме яскрава выявілася ў роспісе на гродзенскіх вазах. Так, напрыклад, для вазаў з мякка аплываючымі, выцягнутымі формамі характэрны вертыкальны падзел сасуда падоўжанымі лініямі на некалькі ўчасткаў, запоўненых маленькімі галінкамі з трох лісточкаў. Трэба адзначыць, што і ў выпадку запаўнення арнаментам усёй паверхні вырабу яго ўсё-такі можна назваць рэдкім у адрозненне ад шчыльных роспісаў XVI — першай паловы XVII ст. З-за вялікіх прасветаў белага фону агульны тон атрымоўваўся светлым, нібы празрыстым. На некаторай частцы вырабаў малюнак канцэнтруецца ў пэўных месцах, робячы акцэнт на найбольш важкіх элементах архітэктонікі. На талерках падкрэсліваецца бераг (мал. 3, *г*), часам кант злому борціка, донная частка. На адной з гродзенскіх вазаў у найбольш пукатым месцы шарападобнага тулава выпісана кветка з вялікім круглым стрыжнем і паўкруглымі пялёсткамі, а падоўжныя і папярэчныя рысачкі ўзмацняюць гучанне ручак, акцэнтуюць увагу на стыках асноўных аб'ёмаў. Такім чынам, жывапіс актыўна прымае ўдзел у стварэнні агульнага вобраза таго ці іншага вырабу, удала падкрэслівае прыгажосць і выразнасць формаў і прапорцый. Значна павялічваецца доля манахромных рэчаў, звычайна белых ці бірузовых.

Па якасці фармовачнай масы ўся прадукцыя другой паловы XVII—XVIII ст. падзяляецца на дзве вялікія групы: 1) вырабы з добра адмучанай гліны са значнымі дамешкамі дробна- і сярэднезярністага пяску, маюць чарапок чырвонага колеру са старанна адгладжанай паверхняй, хаця сустракаюцца экземпляры і з неахайна апрацаванай паверхняй, што адбілася на якасці эмалевага пакрыцця; 2) вырабы, фармаваныя з малажалезістых, добра ачышчаных глін, што далі пасля абпалу порысты чарапок жоўтага, жаўтавата-ружовага, ружовага колеру, блізкі па сваёй якасці да фаянсавага. Чырвонагліняныя рэчы больш характэрныя для паўночнага рэгіёна.

З некаторым адставаннем новыя прынцыпы тэхналогіі ўсталёўваюцца і ў кафлярстве. Пераходны перыяд ад паліхромнай рэльефнай кафлі да гладкай распісной пачынаецца ў канцы XVII ст. і працягваецца ў першай чвэрці XVIII ст. Асноўным тэхналагічным прыёмам па-

ранейшаму застаецца роспіс вязкімі эмалямі па рэльефе. Паліву наносілі, як правіла, непасрэдна па керамічнай паверхні, радзей па белай эмалі. З'яўляюцца прыклады роспісу вадкімі палівамі.

Змены закранулі і знешні выгляд кафлі. Звужаецца колеравая палітра: найбольш характэрным становіцца сіні арнамент на белым фоне. Некаторая частка вырабаў расфарбавана трыма (сінім ці блакітным, біру-




Мал. 3. Фрагменты посуду XVII ст.

зовым і жоўтым) ці двума колерамі. Павялічваецца колькасць аднатонных кафляў з глухімі палівамі. Пластычны дэкор губляе сваю шчыльнасць. Ён канцэнтруецца ў пэўных месцах, галоўным чынам у цэнтры пласцін. З'яўляецца шмат белай прасторы, агульны тон прыкметна святлее. Рэльеф пазбаўляецца ранейшай дэталізацыі і выразнасці, становіцца акруглым. Часам ён высокі, часам ледзьве бачны. Узрастае ступень стылізацыі выяваў.

Тэматычна малюнак усё больш уніфікуецца, захоўваючы пэўную разнастайнасць варыянтаў ў рамках аднаго арнаментальнага тыпу. Самымі распаўсюджанымі з'яўляюцца раслінныя кампазіцыі з доўгіх парасткаў са стылізаванымі лістамі па перыметры пласціны. Для гзымсавых кафляў і каронак характэрным застаецца паяснае размяшчэнне арнаменту, абумоўленае іх формай. Дастаткова тыповыя гзымсавыя кафлі з Гродна з сіметрычнымі выявамі двух тоўстых S-падобных парасткаў. Часам майстры выкарыстоўвалі больш раннія арнаментальныя тыпы, надаючы ім новую трактоўку. Вельмі папулярным аздабленнем кафлі канца XVII—XVIII ст. быў картуш з выпуклым авалам у цэнтры. Такія вырабы добра вядомы па Віцебску, Магілёву, Мсціславу, іншых гарадах. Даволі часта сустракаюцца масіўныя кафлі з рэльефным арнаментам, пакрытыя цёмна-карычневай або бірузовай эмаллю. Яны бытавалі прыкладна з другой трэці XVIII ст. Напрыклад, на пласціне адной з віцебскіх кафляў чытаецца дата 1743.

Павялічваюцца памеры і таўшчыня сцяннoй кафлі (1—1,5 см). Яна губляе рамку. Ужо няма былой разнастайнасці прафілёўкі гзымсавых кафляў. Як правіла, яны маюць пукатую або слабапрафіляваную S-падобную форму. Спрашчаюцца абрысы каронак. Некаторая іх частка мае нескладаныя геаметрычныя формы. Па матэрыялах Віцебска добра вядомы такія элементы печы канца XVII ст., як масіўныя балясіны ў выглядзе вертыкальна пастаўленых пляцёнак, а таксама навершы ў форме шышак.

Прыкладна з другой чвэрці XVIII ст. атрымалі распаўсюджанне гладкія распісныя кафлі галандскага тыпу. Вялікая і унікальная для Беларусі калекцыя такой кафлі сабрана ў Віцебску, у прыватнасці на ратушы. Знаходкі ёсць таксама ў Мсціславе, Мазыры, Гродне.

Па форме сцяннная кафля становіцца больш разнастайнай дзякуючы складанай прафілёўцы і размяшчэнню арнаменту ў некалькіх плоскасцях. Вылучаецца некалькі тыпаў прафілёўкі: 1) простыя ўвагнутыя; 2) простыя пукатыя; 3) квадратныя двухплоскасныя з васьмівугольным уступам; 4) простыя аднаплоскасныя з квадратнай пласцінай. Яшчэ больш складаныя формы гзымсавай кафлі. Яны часта набываюць шматплоскаснае сячэнне з вузкімі валікападобнымі ці ўвагнутымі пераходамі ад адной плоскасці да другой. Знойдзена таксама вялікая колькасць перамычак звычайнай паўкруглай, слабапрафіляванай і прафіляванай формы.

У арнаментальным аздабленні шырока распаўсюджаны раслінныя матывы: кветкі, лісце, часта ў спалучэнні з геаметрычнымі элементамі. Гродзенскія майстры любілі кампазіцыі з цюльпанаў, ландышаў, ягадаў, вельмі падобныя да малюнкаў на талерках, напісаныя кобальтам па белай эмалі. У Віцебску часта сустракаецца матыў складанай кветкі паміж шырокіх лістоў ў абрамленні гірляндаў і ланцужкоў геаметрычнага арнаменту. Найчасцей роспіс зроблены меддзю і марганцам. Ёсць на віцебскай кафлі і чыста геаметрычныя малюнкі. Арнамент ахоплівае выраб дэкаратыўным поясам па перыметры або канцэнтруецца ў цэнтры пласціны. Адмысловую кампазіцыю складаюць геаметрычныя фігуры на серыі кафляў з роспісам кобальтам.

Зусім новай з'явай у кафлярстве сталі рэалістычныя жанравыя кампазіцыі, тэматычна закончаныя і абмежаваныя рамкамі адной кафлі. Складаная васьмівугольная рамка, часам размешчаная ў некалькіх плоскасных узроўнях, звычайна ўяўляе сабой багатую барокавую кампазіцыю геаметрычнага тыпу: з сетак, кропак, завіткоў. Малюнак у цэнтры, як правіла,— пейзаж. Вельмі рэдка сустракаюцца бытавыя сцэнкі [6, іл. 97]. У колеравым аздабленні пераважаюць кампазіцыі з поўным наборам вогнетрывалых фарбаў: сіняя, фіялетавая, рэдка жоўтая на белым фоне. Вялікая колькасць вырабаў мае выключна кобальтавы роспіс.

У шырокім побыце на Беларусі ў XVIII ст. былі «рабыя» кафлі: з хаатычна нанесенымі плямамі па ўсёй паверхні (белымі па карычневым ці бірузовым, сінімі ці зялёнымі па белым).

Пасля таго як зроблены аналіз археалагічнага матэрыялу, хацелася б закрануць некаторыя аспекты праб-

лем працэсу развіцця вытворчасці маёлікі на Беларусі ў XVI—XVIII стст., яе месца ў агульнай масе матэрыялу, у культуры наогул.

Перш за ўсё звернемся да знаходак, датаваных XVI ст., і вызначым, якім катэгорыям археалагічных помнікаў яны ўласцівыя (табл. 2).

Табл. 2. **Помнікі, з якіх паходзіць маёлікавая кафля XVI ст.**

| Месца паходжання | Палац, замак | Цэнтр горада |
|---|---|---|
| Вільня | + | |
| Трокі | + | |
| Гродна | + | |
| Мядзел | + | |
| Гарадок | + | |
| Мір | + | |
| Орша | | + |
| Друя | | + |
| Слонім | | + |
| Віцебск | | + |

Як бачна з табліцы 2, знаходкі паліхромнай маёлікавай кафлі XVI ст. адзначаны на двух катэгорыях помнікаў: у замках, што з'яўляліся рэзідэнцыямі буйнейшых феадалаў, у тым ліку каралеўскіх і велікакняжацкіх (Вільня, Трокі, Гродна, Мядзел), дзяржаўных замках, а таксама ў гістарычных цэнтрах гарадоў, дзе пражывалі прадстаўнікі сацыяльнай вярхоўкі. Маючы на ўвазе адзначаныя асаблівасці, а таксама па аналогіі з іншымі краінамі, пачатак вытворчасці маёлікі можна ўявіць наступным чынам. Вялікі князь запрасіў іншаземных майстроў для вырабу кафлі. У працы ім дапамагаюць мясцовыя рамеснікі, засвойваючы новыя для іх вытворчыя навыкі. Магчыма, навучанне мясцовых рамеснікаў было загадзя абумоўлена. Напачатку новай тэхналогіяй валодала вузкае кола майстроў. Рэцэптура эмаляў трымалася ў строгім сакрэце. Па меры росту попыту на мастацкую прадукцыю тэхналогія маёлікі распаўсюджваецца ўсё шырэй.

Напачатку (у XVI— першай палове XVII ст.) маёліку выраблялі на заказ. Прадукцыя гэтага часу мае ўсе прыкметы заказной. Выразна прасочваецца сувязь матэрыялу з сацыяльна-эканамічным статусам уладаль-

ніка (табл. 2). Знаходкі паліхромнай кафлі XVII ст. таксама прывязваюцца да замкаў, палацаў, цэнтраў гарадоў, манастыроў. Пацвярджэнне таму, што паліхромныя печы належалі прадстаўнікам заможных слаёў грамадства, даюць і пісьмовыя крыніцы. Маёлікавыя вырабы ў XVI—XVII стст. з'яўляліся адным з відаў дарагой высокамастацкай прадукцыі. А гэта таксама адзнака вытворчасці на заказ. Маёліцы таго часу ўласцівыя і іншыя рысы заказной прадукцыі: складаная тэхналогія, значны працэнт рэчаў з гербамі, манаграмамі, надпісамі, адносна невялікая колькасць знаходак у параўнанні з іншымі катэгорыямі археалагічнага матэрыялу. Працуючы на заказ, майстар сам вырабляў і рэалізоўваў сваю прадукцыю, разлічваючыся непасрэдна з заказчыкам.

Археалогія дае магчымасць прасачыць агульную тэндэнцыю развіцця вытворчасці маёлікі ў разглядаемы перыяд. Так, колькасць помнікаў, дзе выяўлена паліхромная кафля XVI ст., вельмі абмежаваная: Вільня, Гарадок, Друя, Слонім, Віцебск, Брагін, Мірскі замак, Орша, Мядзел, Трокі. У XVII ст. маёліку знаходзім практычна паўсюдна. Тыя ж самыя працэсы фіксуюць і пісьмовыя крыніцы. У дакументах XVI ст. гэта адзінкавыя згадкі аб паліхромных печах і посудзе. У XVII ст. многія інвентары называюць печы з «разноцветных изразцов» [12, с. 26], печы «кафлей пестрых турецкой работы», «пестрых малеваных турецкой работы» [2, с. 331—333], печы «малеваны» і «малеваны разнымі фарбамі» [4, с. 179]. Пад усімі гэтымі вызначэннямі трэба разумець печы з паліхромнай маёлікавай кафлі.

Інвентары магнацкіх уладанняў XVII ст. паведамляюць, што заможныя людзі маглі сабе дазволіць мець паліхромныя печы ў некалькіх пакоях аднаго дома: у парадных і сталовых. Так, у маёнтку берасцейскага ваяводы Хрыстафора Зяновіча, паводле інвентара 1621 г., меліся тры печы «из разноцветных изразцов с гербами его милости», тры ў доме менскага мешчаніна Ягора Гегера, не менш трох у маёнтку Даляцічы.

Ва ўмовах пашырэння вытворчасці маёлікі ў XVII ст. частка прадукцыі паступала на рынак, прычым не толькі на ўнутраны. Згодна з пісьмовымі крыніцамі Маскоўскай дзяржавы, на рынках многіх рускіх гарадоў XVII ст. прадавалася «литовская красненькая ценинная посуда» [17, с. 12, 14, 16].

Цяпер паглядзім, якія катэгорыі рамеснікаў займаліся вытворчасцю маёлікі. Улічваючы спецыфіку прадукцыі, перш за ўсё гэта былі, асабліва ў XVI ст., прыватнаўласніцкія, замкавыя або палацавыя майстры, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй феадалаў. Для выканання найбольш адказных або новых для мясцовых людзей работ запрашалі майстроў адпаведнай кваліфікацыі, у тым ліку і з-за мяжы. Гэтаксама было і ў манастырах.

Цэхавыя рамеснікі працавалі не толькі на рынак, частку прадукцыі выраблялі на заказ. Гэты від вытворчасці з'яўляўся важнай умовай дзейнасці карпарацыі і знайшоў сваё адлюстраванне ў рэгламентацыі вытворчасці. Напрыклад, мінскі цэх ганчароў, муляраў, цесляроў дазваляў браць заказ толькі на дзве работы адначасова [15, с. 109]. Магчыма, вытворчасцю маёлікі ў XVII ст. маглі займацца і рамеснікі-яўрэі, што не ўваходзілі ў цэхавыя аб'яднанні.

Такім чынам, у XVI ст. маёліку выраблялі толькі прыватнаўласніцкія ці іншаземныя майстры; у XVII ст.— практычна ўсе катэгорыі рамеснікаў: прыватнаўласніцкія, цэхавыя, нецэхавыя.

Працэс падзелу працы ў XVI—XVIII стст. ішоў па лініі аддзялення вытворчасці архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі ад побытавай. Гэта абумоўлена некаторымі асаблівасцямі тэхналогіі. Згодна з пісьмовымі крыніцамі, падзел працы адбыўся недзе ў XVI ст. У XVII—XVIII стст. сярод рамесных спецыяльнасцяў згадваюцца ганчары, гаршэчнікі, кафельнікі (кафельшчыкі), побач з імі пячнікі, якія займаліся і вырабам кафлі [15, с. 80—81; 11, с. 10, 31, 32, 33, 37].

У XVIII ст. аб'ём вытворчасці посуду ў некаторых гарадах рэзка павялічваецца. Адной з самых масавых знаходак XVIII ст. у Гродне і Слоніме з'яўляюцца фрагменты місак і талерак з паўфаянсавай масы, пакрытых палівай з ружовым або шэрым адценнем не вельмі добрай якасці. У Слоніме ёсць фрагменты такіх самых вырабаў, не пакрытых эмаллю. Наогул посуд такога тыпу шырока сустракаецца па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Месца параднага посуду ў XVIII ст. займае фаянс. Маёліка ўвайшла ў даволі шырокі побытавы ўжытак. Варта адзначыць, што мастацкі ўзровень масавай маёлікі XVIII ст., як правіла, вельмі нізкі. Хоць эмалі для пакрыцця сасудаў выкарыстоўваліся і ў XIX—XX стст., тым не менш мы ўжо не сустракаем нават слабых

намаганняў неяк аздобіць вырабы, надаць ім прыгожы выгляд. Паліва зусім дрэннай якасці, слой яе занадта тонкі, не мае бляску, лёгка адлушчваецца.

У XVI — пачатку XVIII ст. маёлікавыя вырабы выкарыстоўваліся выключна ў дэкаратыўных мэтах. Паліхромныя печы служылі адным з галоўных кампанентаў афармлення інтэр'ера таго часу. Пад кафлю часта падбіралі шпалеры. Тыя ж функцыі выконваў і маёлікавы посуд. У інвентары маёнтка Даляцічы апісваюцца маёлікавыя сасуды, расстаўленыя на паліцах буфета [2, с. 332]. Дэкаратыўныя талеркі падвешвалі на сценах. Усё гэта ажыўляла інтэр'ер, узбагачала яго новымі фарбамі, ствараючы святочны настрой. Аб чыста дэкаратыўным прызначэнні маёлікавага посуду сведчыць і згаданы ў тым жа інвентары куфель без дна [2, с. 332]. Выкарыстоўваць яго па функцыянальным прызначэнні было проста немагчыма. Да таго ж у большасці выпадкаў эмаллю пакрывалася толькі парадная паверхня вырабаў. У такім выпадку пры насычэнні чарапка вільгаццю ў працэсе ўжывання іх у якасці сталовага посуду непазбежна з'яўляўся б цэк, што, дарэчы, і адбылося пасля таго, як чарапкі паляжалі ў зямлі. Маёлікавыя сасуды маглі выкарыстоўваць як падарункі.

Падвядзём некаторыя вынікі. Аднаўленне вытворчасці маёлікі на тэрыторыі Беларусі ў XVI ст. адбывалася ва ўмовах пад'ёму вытворчых сіл, развіцця гандлю, умацавання разнастайных кантактаў з іншымі краінамі, прыкметнага ўздыму культуры. Першыя маёлікавыя вырабы ў нас з'яўляюцца прыкладна ў той самы час, што і ў большасці краін Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Асноўным відам прадукцыі ў XVI—XVII стст. была кафля. У гэты перыяд яна характарызуецца выразным пластычным арнаментам і шматколеравай палітрай эмаляў. Тэматыка дэкаратыўных кампазіцый адрозніваецца вялікай разнастайнасцю. Аздабленне кафлі XVI—XVII стст. вызначаецца ўплывам мастацкіх стыляў Адраджэння і барока, што накладваліся на старажытныя мясцовыя традыцыі.

Засвоіўшы новую керамічную тэхналогію ў працэсе вырабу кафлі, майстры пераносяць яе і на побытавыя рэчы. Вытворчасць посуду мела таксама дастаткова шырокі характар. У асартыменце пераважаюць талеркі і міскі, значнае месца займаюць куфлі, збаны, кубкі, сустракаюцца і такія традыцыйныя віды посуду, як

рынкі. Дэкаратыўнае аздабленне вызначаецца шчыльным размяшчэннем малюнка па ўсёй параднай паверхні сасудаў, кантрастнай шматколеравай гамай. Формы вырабаў адпавядаюць формам беларускай паліванай керамікі.

Прыкладна ў сярэдзіне XVII ст. пачынаецца наступны этап у развіцці вытворчасці маёлікі на Беларусі, звязаны з усталяваннем новага прынцыпу ў тэхналогіі: роспісу вадкімі вогнетрывалымі фарбамі па эмалі. Гэты перыяд можна назваць перыядам імітацыі фаянсу. Мяняецца вонкавы выгляд рэчаў. Актыўная паліхромія саступае месца двух- ці трохколераваму рэдкаму арнаменту. У асартыменце па-ранейшаму дамінуюць талеркі і міскі. Змяншаецца колькасць аб'ёмных сасудаў. З'яўляюцца новыя віды посуду — дэкаратыўныя талеркі для падвешвання і вазы. Пэўныя змены закранулі і кафлярства. Вырабы становяцца больш масіўнымі, губляюць рамку. Арнаментыка уніфікуецца. Колеравая гама звужаецца да двух-трох фарбаў. Распаўсюджанне атрымалі гладкія распісныя кафлі галандскага тыпу.

У канцы XVIII ст. прыкметна павялічваецца колькасць знаходак маёлікі пры рэзкім зніжэнні яе якасці. Паступова вытворчасць маёлікі дэградуе. Яе месца займае фаянс.

Развіццё вытворчасці маёлікі на Беларусі ў XVI—XVIII стст. адбывалася не адасоблена, а ў цеснай сувязі з развіццём керамічнай справы ў іншых краінах. Сувязі гэтыя можна разглядаць у некалькіх аспектах. Найперш сама ідэя, мода на маёліку прыйшла да нас з Захаду. Цераз культурныя і гандлёвыя кантакты ішло распаўсюджанне агульных для шэрагу краін арнаментальных матываў. Вельмі блізкія, а часам амаль дакладныя аналогіі знаходзім у кафлі з Польшчы, Чэхіі, Венгрыі. Усё гэта гаворыць аб пэўным адзінстве культурнай традыцыі Еўропы таго часу, якое падтрымлівалася і перасяленнем майстроў з адной краіны ў другую. У Вялікае княства Літоўскае практычны вопыт маёлікавай тэхналогіі прынеслі іншаземцы. Беларускія майстры творча ўспрымалі замежны вопыт. Гэта надавала іх прадукцыі непаўторны воблік. XVII стагоддзе з упэўненасцю можна назваць перыядам найвышэйшага росквіту маёлікі ў Вялікім княстве Літоўскім.

У сваю чаргу нашы майстры былі той звязкай, цераз якую новая тэхналогія распаўсюджвалася далей

на ўсход. У XVII ст. яны знаходзілі там рынак збыту сваёй прадукцыі, а ў часы Лівонскай вайны частка высокакваліфікаваных рамеснікаў была вывезена ў Масковію. Гэтыя майстры і наладзілі там вытворчасць маёлікі. Іх імёны данеслі да нас старонкі пісьмовых дакументаў: Фёдар Чука, Ігнат Максімаў, Самошка Грыгор'еў, Осіп Іванаў, Сцяпан Іванаў (Палубес).

Комплексны аналіз матэрыялу, атрыманага ў выніку археалагічных даследаванняў на розных катэгорыях помнікаў, пісьмовых крыніц, вывучэнне аналагічных працэсаў у іншых краінах даюць магчымасць сцвярджаць, што беларуская маёліка з'яўляецца неад'емным кампанентам культуры XVI—XVIII стст. У ёй знайшлі адлюстраванне ўсе працэсы, што адбываліся ў духоўным і матэрыяльным жыцці грамадства таго часу.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. АВАК. Т. XIV // Инвентари имений XVI столетия. Вильна, 1887.
2. АВАК. Т. XXV // Инвентари и разграничительные акты. Вильна, 1898.
3. Акунова Л. Ф., Крапивин В. А. Технология и декорирование художественных керамических изделий. М., 1984.
4. Беларускі архіў. Т. III. Менск, 1931.
5. Бубнова Е. Старый русский фаянс. М., 1973.
6. Высоцкая Н. Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984.
7. Ганецкая І. Тонкае пачуццё матэрыялу і формы // Мастацтва Беларусі. 1989. № 7. С. 70—71.
8. Ганецкая І., Здановіч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу // Мастацтва Беларусі. 1988. № 6. С. 58—61.
9. Ганецкая І., Сагановіч Г., Церах Л. Незвычайная сустрэча // Мастацтва. 1992. № 6. С. 34—38.
10. Гісторыя беларускага мастацтва: У 6 т. Мн., 1987. Т. 2.
11. Игнатенко А. П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв. Мн., 1963.
12. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв.: Владение Сморгонь. Мн., 1977.
13. Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв.: Владение Тимковичи. Мн., 1982.
14. Кацер М. С. Народно-прикладное искусство Белоруссии. Мн., 1972.
15. Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—1-й половине XVII в. Мн., 1966.
16. Кубе А. Н. История фаянса. Берлин, 1923.
17. Салтыков А. Б. Майолика Гжели. М., 1956.
18. Dąbrowska M. Kafle i piece kaflowe w Polsce do końca XVIII wieku. Wrocław, 1978.
19. Tautavičius A. Vilniaus pilies kokliai. Vilniaus, 1969.
20. Tautavičius A. Vilniaus pilies kokliai (XVI—XVII a.) // Acta historia Lituanica, IV. Vilniaus, 1969.

*Ала Сташкевіч*

# РАЗВІЦЦЁ ШКЛАРОБСТВА НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ Ў 17—18 стст.
## СПРОБА РЭТРАСПЕКТЫЎНАГА АНАЛІЗУ

Звесткі аб першых шкляных гутах, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі ў познім сярэднявеччы, надзвычай скупыя і фрагментарныя. Пісьмовыя крыніцы, па сутнасці, толькі называюць, што такія былі, не раскрываючы падрабязнасцей пра характар вытворчасці, яе маштабы, якасць прадукцыі і г. д. Дакладна невядома і колькасць такіх прадпрыемстваў, а таксама месца іх размяшчэння.

Паводле даных, якія прыводзяцца ў працы М. М. Яніцкай, у канцы 16 ст. шкло выраблялі прыкладна ў 15 пунктах, размешчаных галоўным чынам у найбольш развітых у прамысловых адносінах цэнтральным і заходнім рэгіёнах Вялікага княства Літоўскага [32, с. 15]. Самымі значнымі з вядомых нам прадпрыемстваў былі гута Марціна Палецкага ў ваколіцах Вільні, гута Яраша Валовіча ў Гародні і Радзівілаўская гута ў мястэчку Шыдлаўцы (зараз в. Вялікія Шылавічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці) [32, с. 11].

У першай палове 17 ст. шкларобства распаўсюджваецца на тэрыторыі Падзвіння, Падняпроўя і Пасожжа (у асноўным на тэрыторыях, якія нас цікавяць), а ў сярэдзіне 17 ст. усход Беларусі становіцца галоўным вытворцам шкляных вырабаў. Цэлы шэраг прычын, звязаных у першую чаргу з сацыяльна-эканамічным развіццём адзначаных абласцей, садзейнічаў такому раяніраванню. Гэта вызначалася спалучэннем наступных фактараў. Па-першае, значны рост гарадоў і пераўтварэнне іх у гандлёва-рамесніцкія цэнтры. Вядома, што ўжо на пачатку 17 ст. многія гарады ўсходняй Беларусі значна вылучаліся па колькасці двароў і насельніцтва [17]. Такімі былі Магілёў, Мсціслаў, Крычаў, Орша, Шклоў і інш. Пры гэтым Магілёў па колькасці насельніцтва (11 тыс. чалавек) і эканамічнаму становішчу сярод гарадоў Вялікага княства Літоўскага саступаў толькі Вільні [16, с. 48]. Па-другое, развіццё гандлёвай палітыкі, якая садзейнічала ўсталяванню эканамічных сувязяў як унутры дзяржавы, так і па-за яе межамі. Цесныя гандлёвыя сувязі ў гарадоў усход-

няй Беларусі былі з Маскоўскай дзяржавай, Польшчай, прыбалтыйскімі і ўкраінскімі гарадамі. Адзін толькі Магілёў вёў гандаль больш чым з 60 гарадамі княства і суседніх дзяржаў [11, с. 152]. Па-трэцяе, асаблівасці аграрных зносін. Усход Беларусі адрозніваўся слабым у параўнанні з захадам развіццём фальварачна-паншчыннай гаспадаркі, што стварала спрыяльныя ўмовы для існавання розных промыслаў, у тым ліку і шкларобства [16, с. 51].

Вытворчасць шкла, яе ўзнікненне і развіццё заўсёды залежалі ад наяўнасці добрай матэрыяльна-тэхнічнай базы: сыравіны, фінансавых укладанняў, тэхнічнага вопыту. На Магілёўшчыне такая база мелася. Скажам, рачны пясок Дняпра, Сожа і некаторых іх прытокаў утрымліваў 60—80% кварцавага пяску, так патрэбнага ў шкларобстве. Кварцавы пясок у дастатковых колькасцях быў і ў суседніх палескіх землях [31, с. 568].

Усходняя Беларусь вядома сваімі шматлікімі лясамі, залежамі вапны, вогнетрывалымі глінамі, неабходнымі для будаўніцтва печаў і вытворчасці тыгляў [5, с. 1; 27, с. 535—567]. Не трэба ігнараваць і той факт, што на дадзенай тэрыторыі быў надзвычай развіты паташны промысел. Яго з'яўленне на беларускіх землях звязваюць яшчэ з 15 ст., а з сярэдзіны 16 ст. экспарт паташа ў Заходнюю Еўропу, асабліва з раёнаў Падняпроўя і Пасожжа, дасягнуў вельмі значных памераў [3, с. 89]. У 17 ст. «белорусцев-будников как замечательных мастеров» запрашалі на свае паташныя прадпрыемствы-майданы рускія землеўласнікі [13, с. 25].

Трэба думаць, што гутнікі, якія паклалі пачатак вытворчасці шкла на ўсходнебеларускіх землях, былі ўжо майстрамі ў сваёй справе. На жаль, нам невядомы ні іх імёны, ні паходжанне, аднак няцяжка ўявіць, што былі яны выхадцамі або з цэнтральных і заходніх рэгіёнаў Беларусі, дзе, як ужо адзначалася, шкларобства існавала яшчэ ў 16 ст., або з этнічнай Польшчы, што таксама верагодна, паколькі польскія і беларускія землі на той час знаходзіліся ў адной дзяржаве.

Для таго каб зразумець характар познесярэдня-вечнага шкларобства ўсходнебеларускіх зямель, разгледзім вядомы тэзіс Б. Рыбакова пра тое, што рамесніцкая дзейнасць пры феадалізме, як правіла, выступала ў дзвюх формах: у выглядзе гарадскога рамяства і сельскіх промыслаў [25]. Адзначанае ў поўнай ступені пады-

ходзіць і да шкларобства. Як гарадское рамяство яно мела месца выключна ў гарадах і было арганізавана ў цэхі. Гутны промысел развіваўся ў феадальнай вотчыне і меў у сабе пачаткі будучай вытворчасці мануфактурнага тыпу. Для шкларобства ўвогуле больш характэрна другая форма арганізацыі працы. К. Маркс, напрыклад, адносіў шкларобства да промыслаў, якія «з самага пачатку патрабуюць канцэнтрацыі працоўных сіл і... умоў працы, да промыслаў, якія не могуць працаваць цэхавым спосабам» [14, с. 183]. Цэхі, як вядома, аб'ядноўвалі рамеснікаў адной ці некалькіх роднасных спецыяльнасцей. Падзел працы ўнутры адной з іх не існаваў. Большасць цэхаў шкляроў, якія ўзніклі ў 15—16 стст. на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы, не мелі нічога агульнага з сапраўдным працэсам вытворчасці шкла і займаліся або мастацкім аздабленнем ужо гатовых вырабаў, або вытворчасцю вітражоў і шкленнем вокнаў. Так, Статуты Варшаўскага, Гданьскага, Кракаўскага і Пазнаньскага цэхаў у якасці галоўнага крытэрыя для паступлення ў цэх патрабавалі толькі ўменне маляваць па шкле [37, с. 56]. Таруньскі цэх шкляроў патрабаваў ад кандыдатаў у майстры па-мастацку распісваць шкло «франконскім спосабам», валоданне майстэрствам шклення вокнаў і роспісу аконнага шкла [37, с. 57]. Мастацка-аздабленчым быў па сваму характару і віленскі цэх шкляроў [35, с. 67]. У 1760 г. у Віцебску быў утвораны сумесны цэх рэзчыкаў, шкляроў, карэтнікаў, плотнікаў, бондараў, сталяроў і сітнікаў [9, с. 33]. Зыходзячы з назвы, можна меркаваць, што цэх займаўся вырабам карэт. Шкляры ў ім, відаць, выконвалі ролю спецыялістаў па шкленню вокнаў.

У адрозненне ад цэха, дзе некаторая кааперацыя працы існавала як выключэнне, гута па сваёй прыродзе патрабавала наяўнасці кааперацыі і стаяла напярэдадні будучых мануфактур. Назва «гута» паходзіць ад нямецкага Hutte і вызначаецца як «будынак са шклоплавільнай печчу і камяніцамі, якія служаць для прыгатавання і апрацоўкі шкла» [30, с. 937]. Паняцце «гута» між тым некалькі больш складанае, чым дадзенае вызначэнне. У сярэднявеччы, а на беларускіх, украінскіх і польскіх землях амаль да пачатку 20 ст. яна часта была цэлым сацыяльным арганізмам, які ўключаў у сябе не толькі шкларобчае прадпрыемства, але і шмат іншых, ускосна

ці прама звязаных з першым: млын, кузню, карчму, а калі-нікалі вінакурню і бровар [21, с. 37]. Пры гуце да таго ж размяшчаліся рамесныя слабодкі, дзе жылі майстры, якія працавалі на шклаpобчых і іншых прадпрыемствах. З цягам часу з такіх слабодак вырасталі паселішчы, вёскі і нават мястэчкі, якія захавалі назву «гута» па сённяшні дзень. Кіравалі гутамі пэўныя людзі, якія ў дакументах называюцца гутнікамі ці шулярамі [34, с. 18]. Яны займаліся арганізацыяй промыслу, збытам прадукцыі, акрамя таго, былі яшчэ і галоўнымі работнікамі на сваіх прадпрыемствах, валодалі тэхналагічнымі працэсамі і варылі шкло. Вельмі часта гута была сямейнай арганізацыяй. У шклаpобстве, дзе добрае і дакладнае супрацоўніцтва якасна адбівалася на выніках працы, гэта мела асаблівае значэнне, паколькі лепш за ўсё з такой працай спраўляўся калектыў родзічаў. Нашы веды пра сем'і беларускіх гутнікаў 17—18 стст. вельмі недастатковыя. Звестак пра іх амаль не захавалася, за выключэннем, бадай, тых, аб якіх піша ў сваёй кнізе В. Мадзалеўскі. Ён, у прыватнасці, адзначае, што вядомыя ў сярэдзіне 18 ст. на Чарнігаўшчыне сем'і гутнікаў Скабічэўскія, Багінскія, Белаазерскія, Ласі і Іваніцкія былі выхадцамі з «Польской области» [20, с. 17, 18, 73], г. зн. хутчэй за ўсё з Беларусі, тэрыторыя якой тады ўваходзіла ў Рэч



Мал. 1. Фрагменты шкляніц на хвалістападобных паддонах. 1-ая палова 17 ст. Мсціслаў

Паспалітую. Гэта даказваюць і частыя агаворкі, якія звычайна ідуць пасля слоў «Польская область». Скажам, «Лукин Ляляк... уроженец Польской области местечка Пропойска» ці «Степан Купорос... уроженец Польской области села Хотемска» [20, с. 73] і г. д.

Размах шкляной вытворчасці на Магілёўшчыне ў 17—18 стст. быў даволі значным. Пра гэта сведчыць хоць бы той факт, што шкляныя вокны ў дамах гараджан ужо ў 17 ст. сталі звычайнай з'явай. Інвентары Магілёва, Мсціслава, Оршы, Крычава, Шклова, Чачэрска, Гомеля і іншых усходнебеларускіх гарадоў наконт гэтага змяшчаюць мноства звестак [32, с. 6]. У інвентарных актах сельскіх фальваркаў на Мсціслаўшчыне адзначаюцца не толькі «окна со шкла аркушового», але і шкляны посуд: «квартовки гутны», «скляницы маловане», «шклянки бялы» [28, с. 4.]. 17-м стагоддзем датуюцца запісы ў мытных кнігах Маскоўскай дзяржавы пра магілёўскіх купцоў, якія ў вялікай колькасці везлі на Русь вырабы са шкла. Так, у 1626 г. праз Вяземскую мытню «могилёвец Иван Филипов сын Мокус» правёз «6 сундуков стекол зеркальных»; у 1649 г. тут праязджаў «могилёвец Олтух Онисимов» з «3 возами скла». У 1651 г. мытныя кнігі Вязьмы сведчаць пра збор пошлін з «могилёвцев» Логвіна Амельянава за правоз «3 возов скла», Валадзімера Жданава за «2 воза скла» і Алфіма Хамутоўскага за «5 воз скла» [23, с. 91—92, 219—222, 260—262, 264—267].

У мытных кнігах Смаленска ёсць наступныя даныя за 1675 г.: «могилёвский мещанин Осип Ратков явил на возу... коробка шкла оконичного», «могилёвский мещанин Симон Федоров явил на возу две скрыни скла», «могилёвский мещанин Симон Андреев явил на возу... полскрыни скла», «могилёвский мещанин Григорий Петров явил три скрыни скляницами» [24, с. 165—186, 197, 198, 208].

Шматлікія ўспаміны пра гандаль шклом «могилёвцев»-купцоў маюцца ў запісах за 1676 і 1678 гг. [24, с. 184, 264, 259; 23, с. 137, 190]. Шкло ў Маскоўскую Русь везлі таксама з Мсціслава, Оршы, Віцебска, Шклова [23].

Аб развіцці шклааробства на Магілёўшчыне сведчаць і даныя тапанімікі. З 43 улічаных беларускіх паселішчаў з назвай «гута» або вытворным ад яго на раёны Падняпроўя і Пасожжа прыходзіцца 34 [6, с. 90; 26].

Разглядаючы працэс развіцця шкларобства на Магілёўшчыне ў 17—18 стст., нельга абысці праблему шкларобчага цэнтра як асобнай фарміруючай катэгорыі гэтага працэсу. Крытэрыямі вызначэння можна лічыць сукупнасць прыёмаў і метадаў дзейнасці, якая адрознівала дадзены цэнтр ад іншых, іх традыцыйнасць і пераемнасць, асаблівасці марфалогіі і мастацкага стылю і г. д. Спалучаючы паняцце шкларобчага цэнтра з тым ці іншым беларускім горадам, мы перш за ўсё маем на ўвазе наступнае: існаванне ў горадзе і ваколіцах вытворчасці шкла, наяўнасць устойлівага шкларобчага рынка. На Магілёўшчыне, мяркуецца, такімі гарадамі маглі быць Магілёў, Мсціслаў, Крычаў, Копысь, Чачэрск, Орша, Клімавічы, Гомель. Аднак трэба заўважыць, што ступень вывучанасці кожнага з іх неаднолькавая. На сённяшні дзень найбольш даследаваным у гэтым плане з'яўляецца Мсціслаў.

Мсціслаўскі цэнтр шкларобства сфарміраваўся ў першай палове 17 ст. Да гэтага часу ніякіх даных пра мясцовую вытворчасць шкла не захавалася. Ніжняя мяжа датавання археалагічнага матэрыялу таксама супадае з адзначаным перыядам. Па ўсёй верагоднасці, да пачатку 17 ст. не было перадумоў для з'яўлення такой вытворчасці. Шкларобства, як вядома, галіна развітога рамяства і яго існаванне прадугледжвае параўнальна высокі ўзровень сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця грамадства. У канцы 16 ст. Мсціслаў становіцца цэнтрам вялікага ваяводства, у склад якога ўвайшлі Магілёў, Шклоў, Копысь, Крычаў, Клімавічы, Быхаў і інш. «Назва ваяводства, — піша В. Р. Краснянскі,— прысвойвалася толькі буйным тэрытарыяльным адзінкам альбо такім, якія мелі значнае ваеннае і палітычнае становішча. Такім чынам, факт пераўтварэння Мсціслаўскага староства ў ваяводства паказаў, што валоданню Мсціславам каралі Рэчы Паспалітай надавалі вялікае значэнне» [12, с. 62]. У 1634 г. гораду было нададзена магдэбургскае права, герб і пячатка [12]. Падзеі, якія адбыліся ў гэты час, садзейнічалі не толькі палітычнаму становішчу Мсціслава, але, безумоўна, узмацнілі і яго эканамічнае становішча, прывялі да незвычайнага росту рамяства, гандлю, горадабудаўніцтва. Пісьмовыя крыніцы, даныя археалагічнага даследавання паказваюць, што ў першай палове 17 ст. адбываўся росквіт яго эканамічнага жыцця. У дадзены перыяд там на-

лічвалася больш 5000 насельніцтва, існавала каля 40 відаў разнастайных рамёстваў [11, с. 152]. Асаблівую славу Мсціславу прынеслі яго ганчары і кафляры. З іх асяроддзя выйшаў знакаміты маскоўскі майстар Сцяпан Іванаў (Палубес) [8, с. 308].

Як і дзе ўзнікла шкляная вытворчасць у Мсціславе — можна толькі меркаваць. Звестак аб гэтым, на жаль, няма. Хутчэй за ўсё яе з'яўленне было звязана з ростам горадабудаўніцтва на пачатку 17 ст., і ў асаблівасці з храмавым будаўніцтвам. Трэба думаць, што аднымі з першых, хто заснаваў у ваколіцах Мсціслава гуты або гуту, былі манахі ордэна кармелітаў. Наконт гэтага існуюць наступныя меркаванні. З 1981 па 1987 г. тэрыторыя Мсціслаўскага кляштара кармелітаў даследавалася археалагічнай экспедыцыяй Беларускіх спецыяльных навукова-вытворчых рэстаўрацыйных майстэрняў. У выніку раскопак толькі 1982 г. было выяўлена больш тысячы фрагментаў разнастайнага шклянога посуду. У наступныя гады калекцыя папоўнілася яшчэ 6000 фрагментаў. Уражвае такая вялікая іх колькасць, знойдзеная на параўнальна невялікай плошчы — 40 м$^2$. Амаль увесь матэрыял датуецца 17 ст. Спачатку лічылася, што гэта



Мал. 2. Шкляная міска 17 ст. Мсціслаў

рэшткі былой трапезнай кляштара. Але беларускія кляштары, як вядома, былі нешматлікімі. У кожным з іх аднача́сова пражывала не больш 15—20 манахаў. У сувязі з гэтым паўстае пытанне: ці магла такая абмежаваная колькасць людзей карыстацца вышэйадзначаным запасам посуду, які да таго ж быў прызначаны для захоўвання і піцця ў першую чаргу моцных напояў? Верагодна ўсё ж, што гэта не трапезная. Можна дапусціць, што археолагі натрапілі на след былога складскога памяшкання для захоўвання шкляных вырабаў, зробленых на гуце манахаў-кармелітаў. Тым больш што ў 1983 г. на гэтай жа тэрыторыі былі знойдзены рэшткі каменнага будынка 17 ст., а таксама бясформенныя кавалкі шкла, шкляны брак і паўфабрыкаты.

Выпадкі ўтрымання гут святарамі не адзінкавыя ў гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Захаваліся звесткі, што аналагічныя прадпрыемствы ў 16 ст. мелі кракаўскія біскупы [37, с. 48], а ў больш позні час, з 1760 па 1870 г.,— каталіцкія канонікі з в. Лубянка Быхаўскага павета Магілёўскай губерні [2, с. 160].

Дзе размяшчалася гута, якая нас цікавіць, устанавіць цяжка. Магчыма, на тэрыторыі самога кляштара, тым больш што частка культурнага пласта ля кляштара ў выніку будаўнічых прац была ссунута ў замкавы роў. А магчыма, што яе месцазнаходжанне было па-за межамі горада. Дарэчы, па даных тапанімікі, вакол Мсціслава маюцца чатыры пасяленні з назвамі: Гута, Гутка, Гута, Гутараўшчына [26, с. XXXII].

Ускосныя даныя пра шкляную вытворчасць у Мсціславе ёсць у дакуменце, які называецца: «Ссудный список Брянской приказной избы об устройстве Мстиславцами поташных буд в пограничном лесу в Воронецкой волости Брянского уезда и о найме ими русских крестьян для перевозки золы в Литву (1626 г.)» [23, с. 75—77]. Там, у прыватнасці, гаворыцца: «Лета 1728 году июля в 5 день извещал государю царю и великому князю Михаилу Федоровичу всеа Руси брянченин сын боярской Иван Артемьев сын Мясоедов ... что литовские люди стоят на государевой земле в Офоньевом лесу Толочанова ото Брянска 120 верст, буды поставили и золу жгут». Далей даведваемся, што «золу» рускія сяляне па найму вывозілі ў Мсціслаў і «имевали за бочку золы провозу по 5 пудов соли». У лісце паведамляецца і імя чалавека, які загадаў ставіць буды: «... буды де им велел ставить и золу жечь

иза Мстиславля пан Зенович». Зусім верагодна, што ўпамянуты пан Зяновіч займаўся і гутным промыслам. Трэба адзначыць, што Зяновічы былі даволі вядомым і заможным родам у Вялікім княстве Літоўскім. Да Мсціслава мелі адносіны наступныя з іх: Міхаіл Зяновіч, аб якім К. Нясецкі піша, што ён быў ваяводам мсціслаў-



Мал. 3. Бутля 17 ст. Рэканструкцыя. Мсціслаў

скім, аднак не ўдакладняе, у які час, і Самуіл Зяновіч, харунжы мсціслаўскі ў 20—30-я гады 17 ст. [36, с. 743—746]. Паколькі падзеі, апісаныя ў дакуменце, адбываюцца ў 1626 г., то, відаць, Самуіл Зяновіч і быў тым Зяновічам, які ставіў буды на Браншчыне.

Мсціслаўскі шкларобчы цэнтр праіснаваў да канца 17 ст. Дзейнасць яго мела неаднародны характар у розныя перыяды яго існавання. Пасля разбуральнай вайны 1654—1667 гг. гарады ўсходняй Беларусі перажывалі моцны эканамічны заняпад. Рэзка скараціўся знешні і ўнутраны гандаль і, як следства гэтага, развіццё гарадского рамяства было падарвана. Шкларобства па сваёй сутнасці гарадскім рамяством з'яўляецца толькі часткова, тым не менш скарачэнне ўнутранага рынку адбілася на ім даволі балюча. Мсціслаў у гады вайны пацярпеў больш, чым іншыя гарады. У 1654 г. ён быў узяты войскамі рускага ваяводы Трубяцкога і амаль поўнасцю спалены. Горад пасля гэтага ўжо болей ніколі не дасягаў сваёй былой велічы. Пад час вайны многія рамеснікі пакінулі Мсціслаў, перасяліліся на ўкраінскія і маскоўскія землі [4, с. 49]. Сярод іх, відаць, былі і гутнікі. Археалагічнае даследаванне горада, ва ўсякім разе, паказвае, што ў пластах канца 17 — пачатку 18 ст. шкляныя знаходкі перастаюць быць масавым матэрыялам.

Сёння нам цяжка да канца ўсвядоміць феномен мсціслаўскага шкла 17 ст. Зразумела адно, што мясцовы шкларобчы цэнтр быў не толькі самым значным ва ўсходняй Беларусі, але і фарміраваў пэўную сістэму мастацкіх поглядаў у шкларобстве дадзенага рэгіёна, вызначаў у рэшце рэшт яго рэгіянальныя рысы. Першае, што ўражвае, калі знаёмішся з мсціслаўскай археалагічнай калекцыяй, — гэта багацце асартыменту мясцовага шкла: шклянкі, чаркі, шкляніцы і куфлі разнастайных формаў і тыпаў, збаны, міскі, келіхі, чары і кварты, бутлікі і бутэлькі розных памераў і канструкцый [33]. Другое — гэта незвычайная самабытнасць формаў, дэкораў, а таксама высокі творчы патэнцыял мясцовых гутнікаў. Дакладна вызначаныя храналагічныя рамкі мсціслаўскіх вырабаў са шкла дазваляюць прасачыць іх эвалюцыю ад больш простых да больш складаных формаў. Першая палова 17 ст. для мсціслаўскага гутнага шкла — гэта бесперапынны працэс марфалагічнага пошуку, стварэння ўласнага вобраза сасуда. Аднымі з першых у Мсціславе сталі вырабляць шкляніцы — посуд, які ўжо бытаваў на

тэрыторыі Беларусі і, трэба думаць, быў даволі папулярным, калі меркаваць па масавасці яго выяўлення археолагамі. На гэтым раннім этапе пачынае пазначацца тэндэнцыя збліжэння мясцовага шкларобства з народнай традыцыяй, якая выяўляецца ў вытворчасці перш за ўсё такога посуду, у марфалогіі якога былі выкарыстаны тыя ці іншыя элементы традыцыйных керамічных формаў. Такім посудам былі шкляніцы на хвалістападобных паддонах, а таксама ўсе разнавіднасці шклянак. Спатрэбілася вялікае майстэрства і вынаходлівасць гутнікаў, каб увасобіць народны вопыт формаўтварэння ў шкле з яго спецыфічнымі асаблівасцямі як матэрыялу.

Стварэнне іншых формаў посуду ў мсціслаўскім шкларобчым цэнтры было падпарадкавана двум асноўным пачаткам. З аднаго боку, гэта быў вопыт, веды, майстэрства саміх гутнікаў, цесна звязаныя з агульначалавечай практыкай шкларобства, з другога — народная творчасць, таксама вопыт, але ўвасоблены ў мясцовых традыцыях. Мы здзіўляемся складанасці і прыгажосці канструктыўна-пластычнага вобраза мсціслаўскіх збаноў, разам з тым нас уражвае іх традыцыйнасць, блізкасць да народнага ганчарства, самабытнасць. Тое ж можна сказаць і пра мсціслаўскія звонападобныя кубкі, гаршкападобны посуд, бутлікі-«пузыры», кварты, біклагі на дэкаратыўных паддонах і г. д.

Асноўнымі элементамі формаўтварэння мсціслаўскага гутнага шкла былі звычайныя шар, конус, цыліндр, аднак не ў строга геаметрызаваным выглядзе, а ў пэўных вобразных мадыфікацыях. Асабліва папулярнай формай была шарападобная. Яна паўтаралася ў самых розных тыпах мясцовага посуду.

Дэкаратыўная сістэма мсціслаўскіх шкляных сасудаў таксама была прасякнута ідэяй пераўтварэння, перапрацоўкі мясцовага вопыту. Дарэчы, выкарыстоўваючы магчымасці гутнага шкла і розныя варыянты пластычнага дэкору, мсціслаўскі майстар у сваёй творчасці абапіраўся на вытокі духоўнасці ў жыццядзейнасці беларускага народа, зыходзіў з яго эстэтычных патрабаванняў. Спакойны, размераны рытм побыту беларусаў увасобіўся ў лаканічным і строгім дэкоры мсціслаўскіх шкляных сасудаў.

Спецыфіка мсціслаўскага шкла першай паловы 17 ст. знайшла сваё адлюстраванне ў яго колеравай гаме. Акрамя звычайнай для «ляснога» шкла светла-зялёнай, жаўтавата-зялёнай афарбоўкі тут мы сустракаем зусім

нечаканыя варыяцыі колераў, напрыклад глушаны блакітны, ізумрудна-зялёны, сіні, вохрыста-жоўты. Верагодна, мясцовыя гутнікі добра валодалі сакрэтамі шкларобчай тэхнікі.

Знаходкі шкляных вырабаў у межах гістарычнага пасада Мсціслава 17 ст. самыя разнастайныя. Так, у найбольш шырокім ужытку ў горадзе былі збаны. Акрамя тэрыторыі кармеліцкага кляштара яны сустракаюцца ў ваколіцах кляштара езуітаў, у шурфах па вуліцах Леніна, Кірава, у Першамайскім скверы. Самай распаўсюджанай формай такіх сасудаў была форма збана з грушападобным тулавам на кальцавым паддоне і цыліндрычным горлам, дэкарыраваным тонкімі наляпнымі ніцямі шкла. Падобная канструкцыя нагадвала традыцыйныя керамічныя збаны і таму, верагодна, карысталася найбольшым попытам у мясцовага насельніцтва.

Штодзённым посудам у побыце мсціслаўцаў былі звонападобныя кубкі розных мадыфікацый, аднак найбольш складаная іх канструкцыя выяўлена выключна на тэрыторыі кляштара кармелітаў.

Міскі, гáршкападобны шкляны посуд — з'ява таксама рэдкая. Арэал іх бытавання зноў жа абмежаваны ваколіцамі кармеліцкага кляштара. Надзвычай шырока былі распаўсюджаны шкляніцы на кальцавых паддонах, шклянкі з вузкімі масіўнымі донцамі, шарападобныя бутэлькі, кварты, біклагі на паддонах.

У канцы 17— пачатку 18 ст. асартымент мсціслаўскага шклянога посуду відавочна скарачаецца. З побыту знікаюць міскі, звонападобныя кубкі, біклагі на паддонах, гаршкападобны посуд, шкляніцы, шклянкі з масіўным дном, збаны. Мяняецца колер шкла ў бок звычайных жоўта-зялёных адценняў, больш прымітыўнай становіцца дэкаратыўная сістэма сасудаў. Мсціслаўскае шкло паступова страчвае набытную раней арыгінальнасць. У немалой ступені гэтаму садзейнічаў працэс стандартызацыі, выкліканы новымі рыначнымі адносінамі, развіццём мануфактурнай вытворчасці. Існаваў і чыста суб'ектыўны фактар, звязаны са стратай мясцовымі гутнікамі вытворчага і мастацкага вопыту, які, відавочна, канцэнтраваўся ў дзейнасці гутнікаў кармеліцкага кляштара. Пад час руска-польскай вайны яны спынілі сваю дзейнасць і пакінулі Мсціслаў, перасяліліся хутчэй за ўсё на Чарнігаўшчыну, бо чым, як не вынікам скарыстання мсціслаўскай практыкі, яшчэ можна растлумачыць тое, што многія

са спецыфічных рысаў мсціслаўскага шклянога посуду выразна праявіліся ў больш позніх (18 ст.) чарнігаўскіх сасудах [21].

Крычаўскі цэнтр шкляробства, па ўсёй верагоднасці, утварыўся адначасова з мсціслаўскім і існаваў ужо ў першай палове 17 ст., але архіўных даных пра гэта не захавалася. Найбольш раннія звесткі пра шкляныя прадпрыемствы Крычаўскага староства адносяцца да 1694 г. [17, с. 171]. У дадзены перыяд тут было пабудавана адначасова дзве гуты: адна — на рацэ Абароўка, другая— у сяле Лобжа. Абедзве гуты ўзвялі на свае сродкі гутнікі. За гэта ўладальнік староства даў ім магчымасць на працягу пэўнага часу (на рацэ Абароўка — на працягу двух гадоў, у сяле Лобжа — аднаго года) карыстацца ўсімі даходамі з прадпрыемстваў. Пасля гэтага гуты пераходзілі ва ўласнасць феадала, а іх былыя гаспадары станавіліся арандатарамі.

Развіццё гутніцтва ў Крычаўскім старостве адзначаюць і крыніцы 18 ст. Пад 1747 г. упамінаецца гута ў сяле Узлогі і Хоцімскім войтаўстве [19, с. 113—114]. Вось як падаецца першая ў дакуменце: драўляная пабудова, пакрытая гонтам, унутры якой знаходзяцца адна вялікая і чатыры малыя печы, а таксама «гутніцкі» інструмент, які належыць гутніку і арандатару. Трэба заўважыць, што абсталяванне гуты ў сяле Узлогі было тыповым і для шкляробчых прадпрыемстваў больш ранняга перыяду, прычым не толькі на тэрыторыі Беларусі. У 16—17 стст. аналагічныя прадпрыемствы існавалі ў Польшчы, Чэхіі, Германіі і нават у Венецыі [37, с. 50]. Плаўка шыхты на такіх гутах адбывалася ў той самай печы, што і варка шкломасы. Для загартоўкі гатовых вырабаў выкарыстоўвалі асобныя (малыя) печы. Шкло тут, верагодна, выраблялася аднаго саставу.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай крычаўскія землі пераходзяць ва ўласнасць Р. Пацёмкіна. Ён выкарыстаў беларускую шкляробчую практыку і заснаваў сваю прамысловасць. У 1779 г. Р. Пацёмкін адчыняе шкляробчы завод у Крычаве, а праз год, у 1780 г.,— у вёсцы Ушакі (15 км на поўдзень ад Чэрыкава) [22, с. 290]. На першым заводзе мелася толькі адна печ для варкі шкла, на другім — дзве, і выраблялася шкло чатырох сартоў: «хрустальное разной доброты и образцов, цесарское, оконичное и зольное». Усе працы на крычаўскіх заводах «обученными из кричевских мещан людьми про-

изводятся». У 1787 г. Р. Пацёмкін аб'яднаў два вышэйадзначаныя прадпрыемствы (крычаўскі завод быў перанесены ў Ушакі) і аддаў у арэнду на 10 год англійскаму гандлёваму таварыству [19, с. 114].

Археалагічнае даследаванне Крычава праводзілася ў 1975—1976 гг. экспедыцыяй АН БССР пад кіраўніцтвам М. Ткачова. Раскопкі вяліся ў асноўным на тэрыторыі Замкавай гары і матэрыял, выяўлены там, безумоўна, не адлюстроўвае ўсёй карціны распаўсюджвання шкляных вырабаў у горадзе.

Марфалогія посуду, знойдзенага ў Крычаве, у масе сваёй нагадвае мсціслаўскі варыянт. Больш разнастайнымі па форме выглядаюць шкляніцы, куфлі. Сярод апошніх асабліва прывабнымі з'яўляюцца збанкападобныя пасудзіны. Пластычнасць ліній іх тулава падкрэсліваецца паднятай уверх ручкай у выглядзе тонкай пятлі. Фрагменты ручак з крычаўскіх раскопак даюць уяўленне пра сасуды даволі спецыфічных формаў. Адна з іх мае плоскую авальную канструкцыю і па знешняму выгляду нагадвае лісток дрэва, пакрыты неглыбокімі рэльефнымі пражылкамі. Другая нагадвае звычайны расплюшчаны жгут даўжынёй 8 см і шырынёй 2 см. Вугал спалучэння ручак са сценкамі, а таксама лінія напрамку апошніх утвараюць шырокую адкрытую чашу накшталт глыбокай міскі.

Пэўную цікавасць для даследчыка ўяўляе крычаўскі шкляны «гляк». Гэта сасуд з невысокай вузкай шыйкай на шырокім грушападобным тулаве, выдзьмуты адвольна з жаўтавата-зялёнага шкла. Месца пераходу аднаго аб'ёму ў другі пазначана трыма наляпнымі жгутамі, упрыгожанымі рэльефнымі зашчыпамі. Завяршае кампазіцыю масіўная трохрэльефная ручка. Аналогія з мясцовымі керамічнымі формамі відавочная, аднак як вытанчана гэтая канструкцыя вырашаецца ў шкле. Па-іншаму загучалі ўсе яго мастацкія якасці: празрыстасць, якую прыгожа адцяняюць рады наляпных жгутоў; пластычнасць, што ўвасобілася ў лініях формы, у выдатнай лепцы ручкі; каляровыя рэфлексы, бляск.

Астатнія матэрыялы з крычаўскай калекцыі не вылучаюцца асаблівай арыгінальнасцю і выкананы ў традыцыях беларускай шкларобчай школы 16—18 стст.

Вельмі няшмат звестак пра вытворчасць шкла на шклоўскіх землях. Сама назва «Шклоў» суадносіцца з беларускім «шкло», аднак больш дакладная яго этымалогія невядома. У «Кратком топонимическом словаре

Белоруссии» В. Жучкевіча чытаем: «Формант принадлежности -ов дает основание видеть в названии личное имя Шкло, хотя такое имя и не отмечалось; зафиксированы близкие имена от той же основы — Шкляневич, Шкляр и др.» [6, с. 411]. Магчыма, гэта горад шкляроў, г. зн. горад, дзе жывуць шкляры. Шклоў як горад існаваў ужо ў 16 ст. [38, с. 3], але даныя аб мясцовых рамесніках — шклярах адносяцца толькі да 17 ст. [23, с. 216].

З'яўленне такой назвы між тым магло быць звязана не толькі непасрэдна з працэсам вытворчасці шкла, але і з яго гандлем. Не выключана, што першы шкларобчы рынак на ўсходзе Беларусі ўзнік менавіта ў Шклове. Вядома, што пачынаючы з 16 ст. роля яго ў знешнім і ўнутраным гандлі Вялікага княства Літоўскага была даволі вялікай. Інвентар 1650 г., напрыклад, адзначае ў горадзе 474 гандлёвыя месцы. У Магілёве ў 1604 г. такіх месцаў было 390 [38, с. 26].

Упершыню пра шклоўскіх шкляроў-«аканішнікаў» упамінае перапісная кніга Маскоўскай Нікіцкай слабады за 1658 г. [24, с. 184, 264]. Паколькі рамеснікі, якія перасяляліся ў Маскву з беларускіх тэрыторый, як правіла, не мянялі спецыяльнасцяў, то такі факт, безумоўна, сведчыць аб тым, што майстры, якія маглі шкліць вокны («аканішнікі), меліся ў Шклове яшчэ ў першай палове 17 ст. Пасля пажару 1668 г. і ў сувязі з будаўніцтвам новага Шклова неабходнасць у такіх спецыялістах узрасла і таму ў дапамогу мясцовым майстрам былі запрошаны рамеснікі з Магілёва, Оршы, Віцебска [17, с. 173]. Размах будаўнічых прац патрабаваў не толькі шкляроў, але і вялікай колькасці аконнага шкла, якое, верагодна, выраблялася на месцы. Не выпадкова запісы мытных кніг Смаленска і Вязьмы гэтага перыяду адзначаюць, што шклоўскія гандляры ў вялікіх колькасцях вязуць на Русь шкло «аканічнае» [32, с. 6].

У 18 ст. на тэрыторыі Шклоўскага графства працавала Беладуброўская гута. Ёсць звесткі, што ў 1771 г. там было набыта дзве скрыні шкла для шклення вокнаў у толькі што пабудаваных дамах у горадзе [23, с. 40].

Пра вытворчасць шкла ў Копысі ёсць толькі ўскосныя звесткі. Роспісь, складзеная ў Земскім прыказе ў 1668 г., інфармуе пра беларускіх рамеснікаў, якія жывуць у Маскве «в Воскресенском монастыре и подмосковном селе Тайнинском», сярод якіх «Офонька Юрьев Копоси города мещанин ... кормится — продает всякие склянич-

ные сосуды», а таксама «Копоси города мещанин Куземка Григорьев сын Корнюшкин, кормится — торгует скляницы» [23, с. 137, 190].

У публікацыях архіўных крыніц, што адносяцца да Оршы, знаходзім матэрыял, які датуецца яшчэ 1560 г., пра Якубелю Сташковіча, што «скларскою службою служить» у Аршанскім замку [32, с. 39].

У першай палове 17 ст. вываз шкла з Оршы ў Маскву быў таксама даволі значным, але ў адрозненне ад шклоўскіх гандляроў мясцовыя купцы везлі ў асноўным посуд — шкляніцы і шклянкі [32, с. 26].

Даныя тапанімікі пацвярджаюць факт шкляной вытворчасці ў мінулым. У ваколіцах Оршы адзначаюцца тры паселішчы з назвамі Гута, Гуткаўшчына [26, с. XXXII].

Аршанскі шкларобчы цэнтр праіснаваў, верагодна, нядоўга. Ужо ў другой палове 17 ст. пра яго няма ніякіх звестак. Прычыны заняпаду, а ў рэшце рэшт і знікнення, на наш погляд, былі ідэнтычнымі тым, якія прывялі да заняпаду вытворчасці шкла ў Мсціславе.



Мал. 4. Фрагменты біклагі. 1-ая палова 17 ст. Орша

Археалагічныя матэрыялы па Оршы нешматлікія. Яны атрыманы ў выніку раскопак тэрыторыі Куцеінскага манастыра экспедыцыяй І. Чарняўскага і В. Ляўко. Матэрыял вельмі традыцыйны, ён не раскрывае спецыфікі менавіта аршанскага шкларобства, аднак па свайму характару належыць да беларускай познесярэднявечнай шкларобчай школы. Асаблівую ўвагу прыцягвае толькі адна біклага, амаль цэлая, авальнай формы, на паддоне, з канічным кароценькім горлам. Па контуры яе бакавых сценак майстар праклаў тонкую, дэкаратыўна зашчыпленую стужку, якая плаўна спускаецца ад самага горла да донца. У вобласці плечыкаў біклагі стужка нібыта ўздымаецца над тулавам сасуда, утвараючы дзве петлепадобныя ручкі. У такой жа манеры выкананы кальцавы паддон біклагі. Датуецца знаходка першай паловай 17 ст.

У крыніцах 17—18 стст. адзначаюцца шкляры сярод рамеснікаў Магілёва [18, с. 20]. Верагодна, гэта агульная назва для ўсіх спецыялістаў, чыя дзейнасць так ці інакш была звязана са шклом. Шклярамі называлі «аканішнікаў», жывапісцаў па шкле, вітражыстаў, нарэшце, гутнікаў. Напрыклад, у рэестры расходаў Магілёўскай ратушы за 1680 г. пазначана: «Шкляру на оболони золотых тридцать» [10, с. 184]. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра «аканішніка». Ці існавалі ў горадзе іншыя з пераліку прафесій, невядома.

Зыходзячы з даных мытных кніг, у Маскоўскую Русь з Магілёва везлі шмат шкла, прычым не проста шкла, а «скляницы, навожены золотом», распісаны эмалямі посуд і нават «стекла зеркальные» [24, с. 130, 165—186, 197, 198, 208]. Магілёў у 17 ст., як вядома, быў другім пасля Вільні горадам Вялікага княства Літоўскага, так што верагоднасць таго, што ў ім знаходзіўся цэнтр мастацкай апрацоўкі шкла, даволі вялікая. Можна меркаваць таксама, што ў ваколіцах горада меліся і гутныя прадпрыемствы. Тут зафіксаваны сем населеных пунктаў з назвамі Гута, Гутка, Гута Раманяцкая, Гута Булгацкая (Быхаўскі раён) [26]. З другога боку, нельга не ўлічваць тую акалічнасць, што Магілёў у 17—18 стст. быў буйным цэнтрам транзітнага гандлю, дзе больш чым 30% насельніцтва складаў клас гандляроў, якія гандлявалі не толькі на ўнутраным, але і на знешнім рынку.

З-за мяжы, праўда, прывозілі няшмат шкляных вырабаў, так што прадметам вывазу ў Маскоўскую Русь яны наўрад ці маглі быць [2, с. 160]. Скупалі шкло

для продажу на месцы. Для гэтых мэт у Магілёве існаваў цэлы інстытут скупшчыкаў, так званае «брацтва прасолаў» [16, с. 53]. Члены гэтага купецкага брацтва займаліся гандлем, галоўным чынам сярод мясцовага насельніцтва. Яны збывалі набытыя ў Магілёве тавары і скупалі мясцовыя. «Можна адзначыць вельмі шырокую акругу, дзе абсталяваўся магілёўскі скупшчык: Копысь, Мсціслаў, Крычаў, Прапойск, Рэчыца і нават Гомель» [11]. Амаль усе з пералічаных гарадоў так ці інакш былі звязаны з вытворчасцю шкла. Магчыма, што частка шкляных вырабаў, якія магілёўскія гандляры везлі на Русь, паходзіла менавіта адтуль.

Гісторыя любой з'явы немагчымая без яе аб'ектыўнага і ўсебаковага аналізу як у лакальных, так і ў больш шырокіх межах. Беларускае шкларобства перыяду позняга сярэднявечча ніколі не вызначалася як нейкая самакаштоўнасць у адносінах да заходнееўрапейскіх цэнтраў шкларобства і да рускага ў прыватнасці. А між тым гэта дазволіла б больш аб'ектыўна ацаніць яго станоўчыя рысы, зразумець нацыянальную спецыфіку. Безумоўна, узровень развіцця шкларобства на беларускіх землях у 17—18 стст. быў намнога ніжэйшы за заходнееўрапейскі. Нягледзячы на добрую сыравінную базу, мясцовая вытворчасць шкла з самага пачатку была асуджана на правінцыялізм, які быў падрыхтаваны спецыфікай эканамічнага і палітычнага жыцця Рэчы Паспалітай. Шкларобства ў 17—18 стст., асабліва на беларускіх землях, вельмі моцна залежала ад буйной гаспадаркі (шляхецкай, каралеўскай, манастырскай) і развівалася ў асноўным стыхійна, без якой-небудзь мэтанакіраванай палітыкі з боку дзяржавы. Тэхнічны ўзровень шкларобчых прадпрыемстваў цалкам залежаў ад адносін да іх феадала, ад грашовых сродкаў, якія выдзяляліся ім на абсталяванне гуты і навучанне майстроў. Мастацкі ўзровень вырабаў вызначаўся ступенню развіцця гарадскога рамяства, наяўнасцю цэнтраў мастацкай апрацоўкі шкла. У 16 — першай палове 17 ст. у беларускага шкларобства яшчэ існавалі пэўныя перадумовы для паспяховага развіцця. З пранікненнем ідэй Рэнесанса патрабаванні ў шкле значна ўзраслі. Попыт перавышаў прывоз яго з-за мяжы. Акрамя таго, імпарт каштаваў не танна і набыць шкляны посуд мог далёка не кожны нават сярод шляхецкага саслоўя. Менавіта ў гэты перыяд узнікаюць гутныя прадпрыемствы ў Вільні, Гродне, Мсціславе, утвараюцца

цэхі мастацкай апрацоўкі шкла. Феадальны спосаб вытворчасці, аднак, стрымліваў развіццё шкларобства і не мог задаволіць усіх яго патрэб. Нягледзячы на спробы пэўных асобаў, стыхійнасць і нераўнамернасць развіцця беларускага шкларобства ўвогуле не забяспечвалі канкурэнтаздольнасці яго прадукцыі на знешнім рынку, акрамя рускага. Разрыў асабліва ўзмацніўся ў другой палове 17 ст. з адкрыццём багемскага таннага шкла і ўдасканаленнем шкларобчай тэхнікі. Многія беларускія феадалы тым не менш спрабавалі выкарыстаць усе заходнія дасягненні ва ўласнай практыцы і нават дасягнулі пэўных поспехаў. Маюцца на ўвазе вырабы Радзівілаўскіх мануфактур ва Урэччы і Налібоках. Аналагічныя мануфактуры меліся таксама ў графа Масальскага ў мястэчку Мыш (1736 г.), графа Салагуба ў мястэчку Ілья (1769 г.) і Тызенгаўза — у Гродне (1770 г.) [1, с. 336—350].

У асноўным жа беларускае шкларобства ў адзначаны перыяд абмяжоўвалася сеткай невялікіх гут, якія выраблялі, як правіла, простае, г. зн. «лясное», шкло. Большасць землеўласнікаў шкларобству адводзілі другасную ролю і займаліся больш выгаднымі промысламі, напрыклад паташным, вінакурэннем, сплавам лесу і г. д. Скарыстоўваючы свае прывілегіі, права бяспошліннага гандлю, магнаты і шляхта адпраўлялі за мяжу сельскагаспадарчыя прадукты, сыравіну, лясныя матэрыялы і набывалі заходнееўрапейскія тавары, пераважна прадметы раскошы. Падобныя тэндэнцыі былі асабліва моцнымі на́ Магілёўшчыне, дзе для развіцця прамысловай гаспадаркі меліся спрыяльныя ўмовы.

Падарванае шматлікімі войнамі шкларобства, такім чынам, не атрымала патрэбнага развіцця і ў 18 ст. Прадпрыемстваў, падобных Урэчскаму, тут у дадзены перыяд не ўзнікла. Невялікія гуты з'явіліся ў мястэчку Рудня Магілёўскага павета (1774 г.), мястэчку Беліца Рагачоўскага павета (1734 г.), Свяцілавічах, Шэрсціне Гомельскага павета (1760 г.), Будзе Пясочнай (1760 г.), Анапалі (1760 г.), Гомелі (1760 г.), а таксама ў мястэчку Загорын Чавускага павета [2, с. 240, 246, 247, 248].

Пасля перадзелу ў 1772 г. землі Магілёўшчыны ў большасці сваёй былі перададзены ва ўладанне рускім памешчыкам. Апошнія з улікам наяўных магчымасцяў, запасаў сыравіны і чалавечых рэсурсаў сталі пашыраць шкляную вытворчасць, ствараючы вотчынныя мануфак-

туры і фабрыкі, называючы іх часта «заводамі» па аналогіі з расійскімі прадпрыемствамі такога тыпу. Адным толькі Р. Пацёмкіным былі заснаваны заводы ў Крычаве, Рагачове (1778 г.), Усвятах (1780 г.). У мястэчку Батаева Чэрыкаўскага павета на месцы былой гуты быў закладзены завод І. Галынскім. На гэтым прадпрыемстве выраблялася шкло «оконичное и зольное, бутылки, рюмки, штофы, стаканы из зеленого и полухрустального стекла» [22, с. 286—291]. Такія ж прадпрыемствы былі пабудаваны П. Румянцавым у Будзе Пясочнай і ў Гомелі [15, с. 56]. Захаваліся звесткі за 1785 г. аб вывазе вырабаў гомельскага завода на продаж ва ўкраінскія землі [29, с. 493—494]. У 1796 г. гомельскі завод перайшоў ва ўласнасць да сына П. Румянцава Мікалая Пятровіча. Пры ім шкляны завод пашырыўся, асартымент яго стаў больш разнастайным [7, с. 58].

У 80-я гады 18 ст. каля Чачэрска быў пабудаваны завод па вытворчасці ліставога шкла, штофаў, бутэлек і крышталёвага посуду. Большая частка сталовага посуду і іншых вырабаў выкарыстоўвалася ў фальварку [22, с. 291].

Даволі разнастайным быў асартымент на шкляных прадпрыемствах у Хізаве, Анапалі, Шэсціне (Рагачоўскі павет). Там выраблялісл келіхі, графіны, слоікі, аконнае шкло, а таксама аптэчны посуд [2, с. 160].

Такія асноўныя штрыхі гісторыі шклаpобства на Магілёўшчыне ў 17—18 стст. Многія яе старонкі так і засталіся закрытымі для нас з-за беднасці крыніцовай базы, многае яшчэ мяркуецца адкрыць за кошт новых археалагічных матэрыялаў.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. док. Мн. 1959. Т. I.
2. Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861). Мн., 1966.
3. Буракоўская Н. І. Вытворчасць вугалю, дзёгцю, смалы і паташу // Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984.
4. Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев, 1884. Кн. 2.
5. Доўнар-Запольскі М. Сацыяльна-эканамічная структура Літоўска-Беларускай дзяржавы ў XVI—XVII сталеццях // Гісторыка-археалагічны зборнік. Мн., 1927. № 1.
6. Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии. Мн., 1972.
7. Закалинская Е. П. Вотчинные хозяйства Могилевской губернии во второй половине XVIII в. Могилев, 1958.

8. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобласць. Мн., 1986.
9. Игнатенко А. П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII стст. Мн., 1963.
10. Историко-юридические материалы. Витебск, 1871. Вып. 1.
11. Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI— первой половине XVII века. Мн., 1961.
12. Краснянский В. Г. Город Мстиславль Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1910.
13. Леонтович Ф. Сельские ремесленники в Литовско-Русском государстве. Варшава, 1898.
14. Маркс К. Формы, предшествующие капиталистическому производству. М., 1940.
15. Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму. Мн., 1972. Т. 1.
16. Мелешко В. И. О торговле и торговых связях Могилева в XVII веке // Труды Института истории АН БССР. Мн., 1958. Вып. 3.
17. Мелешко В. И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии. Мн., 1975.
18. Мелешко В. И. Социально-экономическое развитие и политическая жизнь Могилева во второй половине XVI—первой половине XVII в. Мн., 1960.
19. Мейер А. Описание Кричевского графства или бывшего староства // Могилевская старина. Могилев, 1898. Вып. 2.
20. Модзалевский В. Гуты на Черниговщине. Киев, 1926.
21. Рожанковский В. Ф. Украинское художественное стекло. Киев, 1959.
22. Романовский Н. Г. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII— первая половина XIX в.). Мн., 1966.
23. Русско-белорусские связи. Мн., 1963.
24. Русско-белорусские связи. Мн., 1972.
25. Рыбаков Б. А. Ремесло Древней Руси. М., 1948.
26. Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1910.
27. Таранович В. П. Экспедиция академика И. И. Лепехина в Белоруссию и Лифляндию в 1773 г. // Архив истории науки и техники. Л., 1935.
28. ЦДГА БССР, ф. 1772, в. 2, с. 2.
29. Шульга И. Г. Из истории украинско-белорусских экономических связей во второй половине XVIII в. // Советское славяноведение. Мн., 1969.
30. Энциклопедический словарь // Под ред. Ф. А. Брокгауза и И. Е. Ефрона. СПб., 1891. Т. IXа.
31. Энциклопедический словарь // Под. ред. Ф. А. Брокгауза и И. Е. Ефрона. СПб., 1896. Т. XIXа.
32. Яніцкая М. М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). Мн., 1977.
33. Яніцкая М. М., Сташкевіч А. Б. Мсціслаўскае шкло XVI—XIX стст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі: Новыя адкрыцці. Мн., 1986.
34. Baranowski T. Przemysl polski w XIV wieku. Warszawa, 1919.
35. Wołczacka H. Rzemiesło szklarskie w Wilnie do końca XVIII w. // Księga pomiątkowa koła historyków słuchaczy Uniwersitetu St. Batorego. Wilno, 1933.

36. Niesiecki K. Korona Polska Przy Złotej Wolności starożytnego Rycerstwa Polskiego y Wielkego Księstwa Litewskiego klejnotami. Honorámi Heroicznym Męstwem y odnógo wytworną nauka a naypierwszey Chotą, Położnościa, y Swiatobliwością ozdobiona. Lwów, 1943. T. IV.
37. Polskie szkło do połowy 19 wieku. Wrocław, Warszawa, Kraków, Gdańsk, 1974.
38. Topolska M. Szkłow i jego roła w gospodarce Białorusi w XVII—XVIII ww. // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1969. T. XXX.

*Таццяна Бубенька*

## ЮВЕЛІРНЫЯ ЎПРЫГОЖАННІ ВІЦЕБСКА X—XIV стст. (па матэрыялах даследаванняў Ніжняга замка)

Вытокі ювелірнай вытворчасці ў Віцебску караняцца ў глыбокай старажытнасці. Найстаражытнейшыя знаходкі, якія сведчаць аб занятку насельніцтва бронзаліцейнай справай, датуюцца VI—VII стст. [38, с. 39—41]. Аднак невялікая колькасць матэрыялаў гэтага часу не дае нам падставы гаварыць пра асартымент упрыгожанняў, тэхналогію ювелірнай вытворчасці. Кавалачкі сыравіны, фрагменты ллячак з нацёкамі каляровага металу і адзіная знаходка ліцейнай формачкі дазваляюць на сённяшні час весці размову толькі аб існаванні апрацоўкі каляровых металаў на крывіцкіх паселішчах, на аснове якіх сфарміраваўся горад.

Вывучэнне ювелірнага рамяства сярэднявечнага Віцебска стала магчымым дзякуючы шырокамаштабным даследаванням, праведзеным на пасадзе (Ніжні замак) у 1966—1989 гг. Здабытая калекцыя ювелірных вырабаў дазваляе не толькі дасканала прааналізаваць асартымент рэчаў, але і ўпершыню звярнуцца да пытанняў, звязаных з тэхналогіяй вытворчасці ўпрыгожанняў.

Віцебскія ўпрыгожанні ў большасці належаць да агульнаславянскіх тыпаў. Невялікая колькасць рэчаў неславянскага паходжання магла быць як прадметам імпарту, так і вырабляцца ў горадзе майстрамі, выхадцамі з сумежных са славянскім светам тэрыторый.

Галаўныя ўпрыгожанні прадстаўлены характэрнымі для полацкай і смаленскай галіны крывічоў бранзалетападобнымі скроневымі кольцамі, вырабленымі з адзінарнага валачонага дроту таўшчынёй да 1,5 мм (3 экз.).

Дыяметр кольцаў 24—90 мм (мал. 1:*11, 36*). У курганных старажытнасцях Беларусі такія аздабленні сустракаюцца ў XI ст., у сярэднявечных гарадах вядомыя яны да XII ст. [5, мал 54:*3*; 30, с. 10].

Пра другі тып скронеўых кольцаў дае нам уяўленне бранзалетападобнае кальцо са спіральна загнутым канцом, якое знойдзена ў пласце X ст. Дыяметр упрыгожання 23 мм. Завіток на адным з канцоў кальца мае выгляд шчыльна скручанай у 2,5 абарота спіралі (мал. 1:*5*). Падобныя рэчы нярэдка сустракаюцца ва Усходняй Еўропе, больш вядомыя яны ў цэнтральнаеўрапейскіх і прыбалтыйскіх помніках VI—VIII стст. На тэрыторыі Беларусі кольцы са спіральна загнутым канцом знойдзены ў пластах X—XI стст. у Навагрудку, на Менцы, у курганным могільніку каля вёскі Эсмоны (Мінская вобл.), у Пабужжы [23, с. 120—121; 38, мал. 28:*12*]. На думку М. В. Сядовай, гэты тып скроневых кольцаў не можа служыць этнавызначальным [30, с. 10].

Неабходным атрыбутам жаночага адзення ў X—XIII стст. былі прывескі, якія выконвалі не толькі ролю аздабленняў, але і амулетаў-абярэгаў. Віцебскія прывескі падзяляюцца на пяць груп: месяцападобныя прывескі, зааморфныя плоскія і шумячыя падвескі, трапецападобныя і круглыя.

Знаходкі месяцападобных прывесак на пасадзе адзінкавыя. З пласта VI—VIII стст. паходзіць каменная ліцейная форма для адліцця трохканцовых лунніц [38, с. 103, мал. 58:*1*]. X стагоддзем датуецца і бронзавая шыракарогая лунніца (адлегласць паміж ражкамі 15 мм) (мал. 1:*1*). Вонкавы бок яе арнаментаваны косымі радамі рэльефных ліній, якія сыходзяцца ў напрамку сярэдзіны вырабу і ўтвараюць своеасаблівы трохкутнік. Падобныя ўпрыгожанні сустракаюцца ў старажытнай Русі ў X — першай палове XII ст. [30, с. 24—34, с. 103].

Да амулетаў-абярэгаў належаць падвескі з выявамі жывёл, часцей за ўсё каня, які лічыўся сімвалам жыцця і ўрадлівасці. Сярод апошніх найбольшае распаўсюджанне атрымалі плоскія стылізаваныя канькі з загнутым угару хвастом-кальцом. Мяркуюць, што ў XI — першай палове XII ст. цэнтр вытворчасці гэтых упрыгожанняў размяшчаўся ў Смаленску, адтуль вырабы разыходзіліся па сумежных рэгіёнах [12, с. 130]. В. В. Сядоў звязвае з'яўленне канькоў-амулетаў на азначанай крывіцкай тэрыторыі з балцкім субстратам [28, с. 28]. Прывескі адлі-




Мал. 1. Ювелірныя ўпрыгожанні X—XIV ст.: *1* — месяцападобная прывеска (X ст.); *2* — трапецападобная прывеска (XI ст.); *3* — грушападобная бразготка (XI ст.); *4* — лапчастая прывеска (XII—XIII ст.); *5* — бранзалетападобнае скроневае кальцо са спіральна загнутым канцом (X ст.); *6, 7* — шпількі «пус йеппі» (XIV ст.); *8* — праразная манетападобная прывеска (XI ст.); *9* — полая грушападобная прывеска (XIII ст.); *10* — пярсцёнак з плеценай сярэдзіннай часткай (XII ст.); *11, 36* — бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі (X—XI ст.); *12* — лімонападобны гузік (XII ст.); *13* — манетападобная прывеска з «працвіўшым» крыжам (XII ст.); *14* — спіралька (XII ст.); *15* — пярсцёнак з рамбічным шчытком (XII ст.); *16* — кругладротавы пярсцёнак (XI ст.); *17* — манетападобная прывеска з выявай птушкі (XII ст.); *18* — нашыўная бляшка (?) (XIII ст.); *19* — фрагмент металічнага вырабу з кручком на канцы (XIII ст.); *20* — вузкапласцілісты пярсцёнак (XII ст.); *21, 22* — малыя спіралеканцовыя фібулы (X—XI ст.); *23* — зааморфная шумячая прывеска-канёк (XIII ст.); *24* — дротавы пярсцёнак (XII ст.); *25, 27* — нашыўныя бляшкі (XII—XIII ст.); *26* — падкованападобная фібула з драконавымі мордамі на канцах (XIII ст.); *28, 32, 34—35* — спіралеканцовыя фібулы трохвугольнага сячэння; *29* — навершша падсвечніка (?) (XIII ст.); *31* — фібула спіралеканцовая прамавугольнага сячэння (X ст.); *33* — прывеска-ножны (XI ст.); *37* — плоская прывеска-канёк (XI ст.); *38* — фрагмент крыжыка-цельніка з круглым заканчэннем лопасцяў; *39* — фрагмент крыжыка з трохпялёсткавымі лопасцямі; *40* — фрагмент вузкапласцілістага звярынагаловага бранзалета; *41* — шарападобны гузік (XI ст.)

валіся ў каменных двухстворкавых формах. Вырабы XIII ст. зроблены больш груба, чым X—XI стст.: яны не маюць арнаменту (мал. 1:*37*). М. В. Сядова лічыць, што гэта звязана з выраджэннем традыцыі нашэння амулетаў (30, с. 28).

Эвалюцыя формаў зааморфных прывесак-амулетаў прывяла да ўзнікнення полых шумячых прывесак-канькоў, якія атрымалі распаўсюджанне ў XIII—XIV стст. З пласта канца XIII ст. паходзіць аднагаловы канёк з вертыкальна ўплашчонай мордай, якая ўтваралася ў выніку загінання верхняй часткі шыі. Да морды і шыі канька прымацоўвалася грыва ў выглядзе сканага жгута і кольцападобныя вушкі. Хвост, верагодней за ўсё, быў загнуты ў выглядзе спіралі. Віцебскі конік невялікіх памераў: даўжыня тулава 29 мм, вышыня жывёлы 25 мм (мал. 1:*23*). Да ніжняй часткі аздаблення з кожнага боку прыварана па дзве пятлі, да якіх прымацоўваліся бразготкі. Тулава жывёлы дэкарыравана хвалепадобнай лініяй, якая атаясамлівалася з вадой. Наогул у вобліку прывескі-канька прасочваецца зліццё двух асноўных персанажаў фіна-ўгорскай міфалогіі — каня і качкі [26, с. 55]. У такім выглядзе падвеска павінна была ўзмацняць значэнне амулета як сімвала ўрадлівасці. Такія знаходкі характэрны для тэрыторыі рассялення фіна-ўгорскіх плямёнаў, таму ў межах сучаснай Беларусі сустракаюцца вельмі рэдка. Падобная прывеска знойдзена ў Старым Барысаве ў пласце XII—XIII стст. [38, с. 101, мал 43:*2*]. Яшчэ адна знаходка полага канька, але з шырока расчыненай пашчай, вядома на гарадзішчы Маскавічы (Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.) [11, с. 32]. У XIII—XIV стст. канькі вырабляліся ў Ноўгарадзе і яго акрузе і, верагодней за ўсё, адтуль траплялі на тэрыторыю сучаснай Беларусі [17, с. 136; 26, с. 42—43].

Для стварэння гукавога эфекту да зааморфных полых прывесак прычэплівалі бразготкі, лапчастыя і язычковыя прывескі. Існуе мноства спосабаў выкарыстання ў жаночым убранні прывесак-бразготак: іх насілі ў якасці пацерак у кара́лях, іншы раз яны падвешваліся да шыйных грыўнаў, мацаваліся да галаўнога ўбору або на поясе, выкарыстоўваліся ў якасці гузікаў.

Ранняй разнавіднасцю бразготак у віцяблян, як і ў славян наогул, з'яўляліся даволі буйныя бронзавыя ўпрыгожанні грушападобнай формы з крыжападобнай прораззю. Верхняя частка вырабаў — чатырохгранная са слаба вы-

яўленымі гранямі, ніжняя — акруглая з прораззю, дэкарыраваная косымі насечкамі (мал 1:*3*). Гукавы эфект ствараўся пры дапамозе невялікага металічнага шарыка ўнутры бразготкі. Максімум распаўсюджання апісаных упрыгожанняў прыпадае на XI ст., хоць з'яўляюцца яны ў канцы X ст. У больш позні час грушападобныя бразготкі сустракаюцца вельмі рэдка [12, с. 129].

Разнавіднасць плоскіх прывесак — лапчастыя ўпрыгожанні ў выглядзе трохпальцавай гусінай лапкі, адлітыя з бронзы ў двухбаковай каменнай форме (мал. 1:*4*). Знаходка створкі ліцейнай формы сведчыць аб іх мясцовай вытворчасці, хоць падобныя прывескі не характэрныя для славянскага насельніцтва [1, мал. 39:*7*]. У фіна-ўгорскіх плямёнаў лапчастыя ўпрыгожанні мелі шырокае распаўсюджанне ў XII—XIII стст. [26, с. 18].

Трапецападобныя прывескі звычайна прычэплівалі да ланцужкоў ці скроневых кольцаў. Гэта найстаражытнейшыя ўпрыгожанні, якія з'явіліся яшчэ ў сярэдзіне I тыс. нашага часу (знойдзены ў доўгіх курганах крывічоў) [29, табл. 23:*27—29, 32—34*]. Прывескі памерамі ад 11,3—4,5×23,5 да 38—12,8×48 мм часам прымітыўна аздабляліся па краі ніжняй асновы трапецыі (мал. 1:*2*). Характэрная асаблівасць трапецападобных прывесак — адсутнасць вушка, што выключала выкарыстанне іх ў якасці самастойнага ўпрыгожання. Адзначаны тып падвесак існаваў да XIII ст., але асабліва шмат іх было ў X—XI стст. [12, с. 134, мал. 1:*14*]. Яны сустракаюцца ў курганных старажытнасцях на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Беларусі ў X—XIII стст. [5, мал. 56:*6*].

Асабняком у віцебскай калекцыі стаіць знаходка так званай нажападобнай плоскай прывескі, адлітай з бронзы (мал. 1:*33*). Паверхня яе дэкарыравана стромкай хвалепадобнай лініяй, абмежаванай рамкай, якая ішла па краі вырабу. Падобныя прывескі мелі сімвалічнае значэнне і звязаны ў большай ступені з балта-фіна-ўгорскім светам. Аднак сустракаюцца яны і ва ўласна славянскіх помніках XI — пачатку XIII ст. Я. А. Рабінін на тэрыторыі Русі вылучае два раёны знаходак амулетаў-ножнаў: верхняе Падняпроўе і паўночны захад Наўгародскай зямлі [27, с. 61].

Полая кроплепадобная прывеска па аналогіі з кіеўскай, відаць, упрыгожвала дыядэму [24, мал. 97, *в*]. Яна выраблена з дзвюх спаяных залатых створак і нанізана на тонкі стрыжанёк (мал. 1:*9*). Падобныя залатыя

ўпрыгожанні вядомы па матэрыялах Навагрудка (другая палова XII — мяжа XII—XIII стст.), Старой Разані (XII—XIII стст.) [6, мал. 59:*16*; 9, мал. 14:*1*]. Віцебская прывеска паходзіць з пласта другой паловы XIII ст.

Круглыя прывескі аб'ядноўваюць манетападобныя і праразныя ўпрыгожанні. Манетападобная аднабаковая падвеска з выявай птушкі, адлітая з алавяніста-свінцовага сплаву, знойдвена ў пласце першай паловы — сярэдзіны XII ст. Галава птушкі, адлітай ва ўвесь рост у цэнтры пласціны, павернута направа і нахілена да раздвоенага хваста. Крылы складзены; грудзі і веерападобная частка хваста аздоблены сеткавым узорам (мал. 1:*17*). Па краі пласціну аблямоўвае арнамент, змешчаны ў двайны абадок. Дыяметр упрыгожання 33 мм. Падобны сюжэт сустракаецца ў старажытнасцях Гнёздаўскага скарбу, Ноўгарадзе. Асабліва блізкія да віцебскай знаходкі выявы птушак на залатой пласціне і колтах скарбу на сядзібе Міхайлаўскага Залатаверхага манастыра (адрозненне адзначана толькі ў павароце галавы) і сярэбраных наручах кіеўскіх скарбаў [15, табл. 1:*XI*]. А. В. Успенская круглыя прывескі з выявай птушкі адносіць да X — першай паловы XII ст. [34, с. 111].

На другой манетападобнай падвесцы з аб'ёмным вушкам (дыяметр 32 мм) змешчаны ўзор у выглядзе «працвіўшага крыжа», вельмі падобнага ў верхняй частцы на трызубец, які заканчваецца салярным знакам. Аснова крыжа пераходзіць у раслінны ўзор са сцяблоў і лісця. Выява акружана двайным абадком, прастора ўнутры якога запоўнена сеткавым узорам (рыс. 1:*13*). Па матэрыялах Полацка, Ноўгарада, Белавозера, курганных старажытнасцяў паўночна-ўсходняй Русі падобныя прывескі датуюцца XII—XIII стст. [39, мал. 34:*15*; 30, с. 41, мал. 14:*6*; 4, мал. 51:*17*; 34, с. 111]. Віцебская знаходка (XII ст.) адліта з волава, ужыванне якога было шырока распаўсюджана на Русі і імітавала дарагое срэбра.

Праразная манетападобная прывеска, адлітая са свінца, знойдзена ў старажытнейшым пласце (XI ст.) разам з пацеркамі з сердаліку і горнага крышталю. Дыяметр упрыгожання 20,5 мм. У цэнтры яго меліся дзве сіметрычныя паўсферычныя прарэзкі, якія былі ссунуты ў верхнюю частку вырабу (мал. 1:*8*). Далёкую аналогію можна прасачыць сярод радзімічскіх старажытнасцяў і ва ўладзімірскіх курганах (XI—XII стст.), аднак там прарэзкі зліваюцца верхнімі канцамі, ствараючы серп

месяца [32, мал. 154; 20, табл. V:*5*]. Падобныя праразныя прывескі вядомы з курганных старажытнасцяў X — пачатку XIII ст. Маскоўскай і Смаленскай абласцей [34, с. 104—105].

Асобную групу ўпрыгожанняў складаюць рэчы хрысціянскага культу. Бронзавы крыжык-цельнік з круглым завяршэннем лопасцяў (18×19,5 мм з вушкам 25 мм) па пласце датуецца XI—XIII стст. [40, с. 25]. У цэнтры яго змешчана круглае сяродкрыжжа, канцы лопасцяў заканчваюцца шарыкамі (мал. 1:*38*). Падобныя крыжы былі шырока распаўсюджаны ў старажытнасцях Люцынскага могільніка, невялікая іх колькасць адзначана ў гарадах Полацкай зямлі: Герсіцы (XI ст.), Полацку (XIII ст.) [10, табл. VIII: *1*; 39, мал. 34:*8*; 38, мал. 24:*2*]. У адзінкавых экземплярах яны сустракаюцца на тэрыторыі ўсёй Старажытнай Русі.

Другая разнавіднасць крыжыкаў-цельнікаў — з трохпялёсткавымі крыжападобнымі канцамі [40, с. 25]. Памеры яго 20×21 мм (з вушкам 27 мм). Бакавыя лопасці вырабу дэкарыраваны невялікімі шарыкамі (мал. 1:*39*). Аналогіі вядомы сярод сярэднявечных старажытнасцяў Ноўгарада (XIII ст.), курганаў паўночнага захаду Віцебскай вобласці, Люцынскага могільніка [31, с. 75, мал. 1:*1*; 10, табл. VIII:*2*]. Падобныя крыжы сустракаюцца таксама на паўночным захадзе і паўночным усходзе Русі і ў Балтыйскім рэгіёне. У XI—XII стст. канцэнтрацыя іх адзначана ў радзімічскіх старажытнасцях і ва ўладзімірскіх курганах [31, с. 78].

Неад'емнай дэталлю касцюма балцкага і фіна-ўгорскага насельніцтва з'яўляліся фібулы. Вырашыць пытанне аб месцы вытворчасці віцебскіх фібул складана, бо яны маглі трапіць у горад як у выніку гандлёвых альбо культурных сувязяў, так і быць вырабленымі на месцы майстрамі-перасяленцамі.

Знойдзеныя зашпількі-фібулы належаць да падковападобных са спіральна загнутымі канцамі, якія па сячэнні дугі падзяляюцца на прамавугольныя, круглыя і трохвугольныя.

Плоская фібула прамавугольнага сячэння (мал. 1:*31*) — самая ранняя разнавіднасць зашпілек, датуецца X ст. [21, с. 155; 330, с. 84]. Яны сустракаюцца вельмі рэдка ў Ноўгарадзе, Прыбалтыцы ў IX—X стст.; сярод курганных старажытнасцяў вядомы ў X—XI стст. [21, мал. 22:*5*]. Па-за межамі Русі распаўсюджаны ў Фінлян-

дыі і Швецыі, якая з'яўляецца іх радзімай [21, с. 155; 41, табл. 16:*13*].

Спіралеканцовыя фібулы круглага сячэння (2 экз.) дыяметрам 15,5—19 мм знойдзены ў пласце пачатку XII ст. (мал. 1:*21, 22*]. Аднолькавая таўшчыня дугі паказвае на раннюю дату зашпількі [21, с. 152]. Аналогіі найбольш часта сустракаюцца ў курганных старажытнасцях Беларусі (X—XI стст.), Прыбалтыцы (X—XII стст.), вядомы яны на паўночным усходзе Русі, Фінляндыі (IX—XII стст.), Бірцы (IX—X стст.) [31, с. 78; 37, с. 121; 41, табл. 50:*16*; 21, с. 174]. У Ноўгарадзе маленькія фібулы круглага сячэння прыпадаюць на пласты X—XII стст. [30, с. 86, мал. 31:*2*].

Бронзавыя фібулы трохвугольнага сячэння дыяметрам 40—45 мм (5 экз.) датуюцца па аналогіі з курганнымі старажытнасцямі Беларусі, Латвіі, паўночна-заходняй Русі X—XII стст. [21, с. 176].

Асобна ў калекцыі віцебскіх зашпілек стаіць падковападобная фібула з мордамі драконаў на канцах (мал. 1:*26*). Упрыгожанне адліта ў двухбаковай форме, дуга яго тардзіравана. Падобныя засцежкі характэрныя для балцкіх плямён з VIII—IX стст. [36, с. 406, табл. III:*13*]. У Ноўгарадзе аналагічныя фібулы сустракаюцца ў пластах X і XIV стст. Апісанае ўпрыгожанне з'яўлялася бракам вытворчасці, знойдзеным у жыллі ювеліра (XIII ст.).

Віцебскія бранзалеты па форме падзяляюцца на дротавыя, вітыя, кручаныя, пласцінiстыя і лодкападобныя (рус. «ладьевидные»).

Дротавы бранзалет з разамкнёнымі канцамі знойдзены ў перадмацерыковым пласце X—XI стст. Ён адліты з меднага стрыжня дыяметрам 3,5 мм, чатырохграннага ў сячэнні (грані амаль цалкам згладжаны). Канцы яго звужаны і аздоблены кароткімі насечкамі, якія нагадваюць пастку гадзюкі (мал. 2:*3*). Падобныя бранзалеты даволі часта сустракаюцца ў сярэднявечных старажытнасцях Полацкай зямлі, асабліва ў канцы X — пачатку XII ст. [5, мал. 54:*6*; 31, мал. 1:*9;* 40, с. 243; 13, табл. XIX). На паўночным захадзе старажытнарускай тэрыторыі гэты тып упрыгожанняў быў распаўсюджаны з X па XIV ст. [16, с. 207].

Да вітых «з перавіццю» адносіцца ўплашчонаканцовы бранзалет, выраблены з перагнутага ўдвая алавяніста-свінцовага дроту (дыяметр сячэння 3 мм), паралельна

якому праходзіў тонкі кручаны дроцік 1,5 мм таўшчынёй. Бранзалет паходзіць з жылля-майстэрні XIII ст. (мал. 2:*12*). Аналагічныя ўпрыгожанні сустракаюцца ў Ноўгарадзе і ў старажытнарускай вёсцы, аднак ні ў адным выпадку яны дакладна не датаваны [30, с. 97, мал. 34:*13*; 16, с. 219, мал. 29:*1*].

Псеўдавітыя бранзалеты (2 экз.) прадстаўлены фрагментамі сярэдзінных частак упрыгожанняў (мал. 2:*2,4*). Па прычыне адсутнасці канцоў іх немагчыма аднесці да якога-небудзь пэўнага тыпу.

Тып кручаных бранзалетаў з лапаткападобнымі прамымі канцамі прадстаўлены фрагментам упрыгожання, знойдзенага ў пласце XIII ст. Рэч выраблена з прамавугольнай меднай пласціны 5×1,3 мм шляхам перакручвання (мал. 2:*6*). Падобныя бранзалеты знойдзены ў Друцку, Мінску (сярэдзіна XII ст.) [1, с. 156, мал. 34:*1*; 13, с. 226, табл. XX:*4*]. Яны былі таксама распаўсюджаны сярод курганных старажытнасцяў Русі XI—XII стст. [16, с. 214].

Рэдкімі для вывучаемага рэгіёна з'яўляюцца лодкападобныя бранзалеты са звужанымі разамкнёнымі канцамі, якія былі шырока распаўсюджаны ў Фінляндыі і Скандынавіі ў IX—XI стст. [41, табл. 109:*9, a, в, c*; 16, с. 243—244]. У паўночна-заходняй Русі яны вядомы ў невялікай колькасці сярод курганных старажытнасцяў паўднёвага Прыладажжа (X — пачатак XI ст.), Карэліі, Эстоніі, сустракаюцца ва ўладзімірскіх курганах, на паўднёвым усходзе Наўгародскай зямлі [2, табл. IV:*17—18*; 43, с. 243; 32, мал. 296:*30*, с. 103, мал. 37:*19*]. Паверхня бранзалета, адлітага з медзі, аздаблялася арнаментам у выглядзе груп вертыкальных змеек, якія падзяляліся трыма радамі перавітага шнура (мал. 2:*10*). Віцебскае ўпрыгожанне знойдзена ў пласце X ст. разам з сечаным бісерам.

Пласцiністы тупаканцовы арнаментаваны бранзалет знойдзены ў перамешаным слоі і дакладна не датуецца (мал. 2:*11*). Форма пласціны — рэзка звужаныя канцы (суадносіны 1:3) — па аналогіі з Ноўгарадам і курганнымі матэрыяламі Наўгародскай зямлі дае падставу датаваць яго канцом XII—XIII ст. [30, с. 110:*33*, табл. XIII:*29, 32*]. Патрэбна ўлічваць, што геаметрычны арнамент у выглядзе ромбаў, скошанай рашоткі меў найбольш шырокае распаўсюджанне ў XII ст. [30, с. 115].

Вузкапласціністы бранзалет з разамкнёнымі прамымі

канцамі, выраблены з каванай бронзавай пласціны шырынёю 4 мм, меў адзіную шырыню на ўсім працягу вырабу (мал. 2:*5*). Гэты тып упрыгожанняў быў шырока вядомы на Русі з пачатку XI ст. да 30-х гадоў XIII ст. [30, с. 112].

Вузкапласціністыя звярынагаловыя бранзалеты — упрыгожанне, характэрнае для балцкіх народнасцяў [31, табл. I:*7*, III:*1*). У X ст. яны распаўсюджваюцца на сумежныя славянскія тэрыторыі, у першую чаргу на тэрыторыю сучаснай Беларусі, дзе шырока вядомы ў XI—XII стст. [1, мал. 37:*31*; 13, с. 226, мал. 138; 38, с. 60; 5, мал. 54:*7*]. Г. В. Штыхаў віцебскую знаходку датуе XII—XIII стст. [40, с. 25, мал. 16:*1*].

Нягледзячы на тое што пярсцёнкі з'яўляліся даволі распаўсюджанай катэгорыяй упрыгожанняў у Старажытнай Русі, іх сустрэта ўсяго 5 экземпляраў. Найбольш простая і ранняя форма іх прадстаўлена кругладротавым замкнёным пярсцёнкам, адлітым з алавяністай бронзы (мал. 1:*16*). Сярэдняя частка яго трохі патоўшчана, у той час як з унутранага боку дрот звужваецца. Час бытавання гэтага тыпу вырабаў у Ноўгарадзе — пачатак XI — 70-я гады XII ст. [30, с. 122, мал. 45:*1*].

Залаты дротавы пярсцёнак (проба 900) з разамкнёнымі заходзячымі канцамі паходзіць з пласта XII ст. (мал. 1:*24*). Выраблены ён з рубчастага дроту, сярэдзінная частка яго патоўшчана, канцы, наадварот, звужаны. Падобныя пярсцёнкі, праўда, кругладротавыя, добра вядомы сярод славянскіх старажытнасцяў [30, с. 122].

Пярсцёнкі з плеценай сярэдзіннай часткай і ўплашчонымі разамкнёнымі канцамі — даволі частая знаходка ў сярэднявечных старажытнасцях Беларусі (Полацк, Друцк, Тураў) XII—XIII стст. [39, мал. 33:*4*; 1, мал. 37:*4*; 18, мал. 175; 19, мал. 9:*2*]. У Ноўгарадзе гэты тып пярсцёнкаў вядомы з сярэдзіны X і да сярэдзіны XIV ст. ←

Мал. 2. Ювелірныя ўпрыгожанні X—XIV ст.: *1* — плеценыя ланцужкі малога дыяметра з ланцугатрымальнікам (X ст.); *2, 4* — фрагмент сярэдзіннай часткі псеўдавітых бранзалетаў (XII—XIII ст.); *3* — кругладротавы разамкнёны бранзалет (X—XI ст.); *5* — вузкапласціністы бранзалет (XII ст.); *6* — фрагмент кручанага бранзалета з лапаткападобнымі канцамі (XII ст.); *7, 8* — плеценыя ланцужкі малога дыяметра з язычковай прывескай (X ст.); *9* — ланцужок з тонкіх вузкіх палосак волава (XII ст.); *10* — фрагмент лодкападобнага бранзалета са звужанымі разамкнёнымі канцамі (IX — пачатак X ст.); *11* — тупаканцовы пласціністы бранзалет са звужанымі канцамі (XII—XIII ст.); *12* — уплашчонаканцовы віты бранзалет з «перавіццю» (XIII ст.)

[30, с. 127, мал. 45:*16—17, 48*]. Віцебскае ўпрыгожанне выраблена з чатырох алавяніста-свінцовых дроцікаў таўшчынёй 2 мм, канцы якіх раскаваны ў гладкі дрот (мал. 1:*10*).

Пярсцёнак з рамбічным шчытком і разамкнёнымі канцамі па слоі можа быць аднесены да XII ст. Цэнтральная частка шчытка аздоблена трыма рэльефна выступаючымі бугаркамі, бакі ромба заканчваюцца двума акруглымі завіткамі (мал. 1:*15*). Упрыгожанне адліта з алавяністай бронзы. Аналогіі пакуль невядомыя.

Вузкапласціністы (5 мм) неарнаментаваны пярсцёнак з разамкнёнымі канцамі знойдзены ў пласце першай паловы XII ст. Выраб зроблены з пласціны, адлітай з алавяністай бронзы (мал. 1:*20*). Падобныя пярсцёнкі сустракаюцца на тэрыторыі Русі з канца X да канца XIII ст. [30, с. 131; 17, с. 135].

Знаходкі ў культурным пласце шкляных і каменных аграненых уставак авальнай і круглай формы дазваляюць весці гутарку аб распаўсюджанні сярод жыхароў пасада з другой паловы XII ст. шчытковых пярсцёнкаў з устаўкамі.

Састаўной часткай многіх караляў, якія ўключаюць разгледжаныя вышэй упрыгожанні, з'яўляюцца ланцужкі. Бронзавыя плеценыя ланцужкі (4 экз.) з малым дыяметрам сячэння (3—3,5 мм) часцей за ўсё ўжываліся ў якасці нагруднага ўпрыгожання, прычым да аднаго яе канца мацавалася прывеска, а другі прымацоўваўся бронзавай сашчэпкай да спражкі (мал. 2:*7, 8*). Звычайна такі ўбор складаўся з 3—4 кароткіх ланцужкоў [3, табл. V:*13*; 10, с. 29]. Адзін з віцебскіх ланцужкоў (мал. 2:*1*), прымацаваны да полай бронзавай трубкі, па знешняму выгляду нагадваў туалетныя наборы, якія сустракаюцца ў Чэхіі (IX ст.), Польшчы, Германіі (г. Хельм, сярэдзіна XI ст.), Скандынавіі (X ст.), Бірцы, на востраве Готланд (другая палова XI ст.) [42, с. 184—185; 41, табл. 112:*18*, 113:*1, 3—5*; 22, с. 81]. Аб паўсюдным іх распаўсюджанні ў X ст. у заходніх славян піша Ібрагім-ібн-Якуб. Да ланцужка мацаваліся пінцэты, капавушкі, манікюрны прыбор [42, мал. 65]. Аналагічныя вырабы неаднаразова сустракаюцца ва ўсходняй Латвіі (30 экз. з 13 месцаў), Эстоніі, цэнтральнай (Яраслаўскае Паволжа, верхнія прытокі Дняпра), паўночна-заходняй і заходняй Русі (Белавозера, Брэст, Люцынскі могільнік) [22, с. 81, табл. XVII; 35, мал. 47:*3*, 3, табл. V:*13*; 4, мал. 49:*7*; 19, мал. 176].

Другая разнавіднасць кароткіх ланцужкоў (даўжыня 14,1 см) з'яўляецца ў XII ст. Звёны іх вырабляліся з тонкіх вузкіх палосак волава (4 мм). З абодвух бакоў упрыгожанне заканчвалася кольцамі, да аднаго з якіх мацавалася прывеска, другое мацавалася да ланцуга-трымальніка (мал. 2:*9*). Аналагічныя ланцужкі сустракаюцца ў ліваў у XII — першай палове XIII ст., гэтым жа часам датуюцца іх знаходкі ў Ноўгарадзе (36, табл. IX:*7*; 30, с. 52, мал. 17:*4*]. Адзінкавыя знаходкі ланцужкоў дадзенага віду вядомы ў Брэсце, Слоніме [18, с. 266, мал. 180:*1*; 14, мал. 37:*9*].

Своеасаблівай знаходкай сярод упрыгожанняў віцебскай калекцыі з'яўляецца фрагмент металічнага вырабу з кручком на канцы. Падобныя рэчы маглі мець галоўку зорчатай ці квадрыфольнай формы. Мяркуючы па частцы булаўкі, якая захавалася, галоўка і стрыжань з кручком на канцы адліваліся асобна, а потым прыпайваліся. Выраблена ўпрыгожанне з алавяніста-свінцовага сплаву (мал. 1:*19*). У Ноўгарадзе падобныя рэчы ўжываліся з сярэдзіны XII да другой паловы XIII ст. [30, с. 81, мал. 27—29]. Прызначэнне гэтых вырабаў не зусім зразумелае. Мяркуюць, што яны маглі выкарыстоўвацца ў якасці заколак да валасоў альбо засцежак да адзення і кніг, а таксама воціўных выяў [30, с. 82].

Гузікаў сустрэта 2 экземпляры. Гэта невялікія (6—10,5 мм) літыя вырабы з бронзы з круглым вушкам (мал. 1:*41*). Адзін, лімонападобнай формы, меў чатыры сегментападобныя прарэзкі, прастора паміж якімі была аздоблена падоўжна-папярочнымі палосамі (мал. 1:*12*). Знойдзены ў слаі XII ст.

Бронзавыя шарападобныя гузікі сустракаюцца паўсюдна ў пластах XI—XV стст. Іншы раз яны ўваходзяць у склад караляў у якасці падвесак, часам, наадварот, грушападобныя прывескі выкарыстоўваюцца ў якасці гузікаў [2, табл. IV:*8, 11*; 30, с. 155—156].

Своеасаблівым упрыгожаннем касцюма з'яўляліся і круглыя невялікія бляшкі дыяметрам 28—29 мм. Вонкавы бок адной з іх, адлітай з свінца, упрыгожаны шасціпялёсткавай разеткай, у цэнтры якой змешчана выява жывёлы з пароды кашачых (мал. 1:*25*). Паміж пялёсткамі размяшчаліся невялікія рэльефныя шарыкі. Наяўнасць на адваротным баку вырабу невялікай утулкі з адагнутымі краямі растлумачвае спосаб мацавання яе да адзення.

Другая бляшка — нашыўная — адціскалася з бронзы. У цэнтры яе мелася выява, якая нагадвала нейкі раслінны ўзор (мал. 1:*27*).

Завяршаючы агляд асартыменту ювелірных упрыгожанняў віцебскага пасада, нельга не адзначыць знаходку ў пласце XIII ст. літой фігуркі жывёлы, якая ўяўляла сабой фрагмент падсвечніка альбо аснову хораса. Драпежнік з сямейства кашачых, адліты з бронзы з пазалотай, меў вышчараную пашчу і падкурчаныя ногі (мал. 1:*23*). Акваманілы ў выглядзе львоў, якія стаяць у агрэсіўнай позе, характэрны для вырабаў ніжнесаксонскіх ювеліраў XII—XIII стст. [8, с. 7]. На думку У. П. Даркевіча, віцебская фігурка таксама належыць да мастацкага начыння, прывезенага з Ніжняй Саксоніі *.

Аналіз гатовай прадукцыі, бракаваных вырабаў дазваляе разглядаць большую іх частку як прадукцыю мясцовых майстроў. А знаходкі кавалачкаў сыравіны, шлакаў, прылад вытворчасці красамоўна сведчаць, што, нягледзячы на вялікую працаёмкасць і звязаную з ёй адносна нізкую прадукцыйнасць працы, складанасць вытворчасці і высокі кошт ювелірных вырабаў, на пасадзе сярэднявечнага Віцебска існавала бронзаліцейная вытворчасць.

Падчас раскопак выяўлены рэшткі дзвюх майстэрняў, гаспадары якіх займаліся ліцейнай справай. Адно жыллё — на ўсходнім пасадзе, другое — на заходнім.

На ўсходнім пасадзе ў жыллі першай паловы XIII ст. сустрэта некалькі дзесяткаў кавалкаў шлаку, фрагменты дэфармаванай керамікі з нацёкамі каляровага металу, мабыць, рэшткі тыгляў, набор ювелірных упрыгожанняў з алавяніста-свінцовага сплаву. Адно з упрыгожанняў — фібула з мордамі драконаў — з-за змяшчэння створак ліцейнай формы з'яўлялася вытворчым бракам (мал. 1:*26*). У збудаванні таксама знойдзена некалькі жалезных шлакаў і крыц. Не выключана, што ювелір, які тут працаваў, займаўся вырабам упрыгожанняў не толькі з каляровага металу, але і з жалеза.

Другое жыллё ювеліра (заходні пасад) адносіцца да другой паловы — канца XIII ст. У зрубе і побач з ім знойдзены рэшткі керамічных тыгляў, у якіх, як вызначана хімічным аналізам, плавілася алавяністая бронза (табліца).

---

* Аўтар выказвае падзяку доктару гістарычных навук У. П. Даркевічу за кансультацыю.




Мал. 3. Прылады працы ювеліраў IX—XIII ст.: *1—3* — ліцейныя формачкі з каменя; *4* — пласкагубы ювелірны пінцэт; *6* — вастрадонны тыгель; *5, 7, 8* — лыжкападобныя ллячкі

У розных мясцінах пасада знойдзены фрагменты не менш чым пяці ліцейных формачак з мяккіх парод камянёў. Адна з іх, што паходзіць з пласта VI—VIII стст. (датаванне Г. В. Штыхава), прызначалася для адліўкі трохканцовых месяцападобных прывесак [38, с. 103] (мал. 3:*3*). Другая — створка двухбаковай формачкі, выкарыстоўвалася для адліўкі лапчастых прывесак (мал. 4:*2*). На формачцы з вапняку выразана выява будучай адліўкі, якая служыла, верагодней за ўсё, нарыхтоўкай нейкага ўпрыгожання (мал. 3:*1*). Астатнія формачкі захаваліся фрагментарна і нясуць мізэрную інфармацыю (мал. 3:*2*; 4:*1*, *3*).

З прылад вытворчасці, звязаных з ліццём, найбольш поўна прадстаўлены тыглі і ллячкі (19 экз.). Усе тыглі віцебскай калекцыі кругладонныя, па форме набліжаюцца да конуса, што звязана з абмежаваным доступам паветра да расплаўленага металу (мал. 3:*6*, 4:*4—5*). Ллячкі мелі выцягнутую лыжкападобную форму, якая плаўна пераходзіла ў невялікую ручку (мал. 3:*5*, *8*). Іх аб'ём дасягае 18—21 см³. Па матэрыялах Ноўгарада ллячкі падобнай формы былі распаўсюджаны ў XIII—XIV стст. [25, с. 214].

Пры буйным ліцці для плаўкі металу маглі карыстацца і звычайнымі пячнымі гаршкамі. У жыллі ювеліра (пачатак XIII ст.) сустрэты фрагменты дэфармаваных гаршкоў, якія падвергліся моцнай тэрмічнай апрацоўцы. На думку



Мал. 4. Усходні пасад. Прылады працы ювеліраў: 1—3 — створкі каменных ліцейных формачак для адліўкі ўпрыгожанняў (XI—XII стст.); 4—5 — кругладонныя тыглі

М. Ф. Гурына, звязаны з гэтым матэрыял — значная колькасць шлакаў каляровага металу і жалеза — дазваляе разглядаць іх у якасці своеасаблівых тыгляў *.

Знаходкі інструментарыя ювеліра абмежаваны пінцэтам, знойдзеным у мацерыковай яме X ст., і невялікай кувалдай, якая паходзіла з пласта XIII—XIV стст. (мал. 3:*4*). Апошняя магла выкарыстоўвацца як ювелірамі, так і кавалямі для пракоўкі рэчаў малых памераў (7, с. 24).

Веданне віцебскімі ювелірамі шматлікіх тэхналагічных аперацый дапускае выкарыстанне імі разнастайных прылад працы: малаточкаў, абцугоў, чэканаў, заціскаў, свердлаў, разцоў, зубілаў, штампаў, паяльнікаў, валачыльных дошак і г. д.

Аналіз гатовай прадукцыі паказвае, што ў X—XI стст. віцебскія майстры валодалі тэхнікай ліцця як па васковай мадэлі, так і ў каменных раздымных формах. У наступныя стагоддзі ў сувязі з тэндэнцыяй павелічэння аб'ёму вытворчасці ўпрыгожанняў на рынак ліццё ў каменных ліцейных формах становіцца пануючым, што тлумачыцца пошукам ювелірамі прыёмаў, якія патрабуюць найменшых затрат працы.

Гэтым, відаць, трэба тлумачыць і выцясненне ў XII ст. тугаплаўкіх сплаваў на меднай аснове легкаплаўкімі — свінцова-алавяністымі (табліца). Перавага легкаплаўкіх сплаваў, тэмпература абпалу якіх не перавышала 235—260°, заключалася ў тым, што рамеснік мог абыходзіцца звычайным ачагом без выкарыстання горана з штучным выдзіманнем. У той жа час трэба адзначыць высокае майстэрства віцебскіх ювеліраў, якім была знаёма апрацоўка каштоўных металаў (золата, серабро).

У ювелірнай вытворчасці шырока карысталіся разнастайнымі ковачнымі работамі, валачэннем дроту, цісненнем, гравіраваннем, штампоўкай. Віцебскія рамеснікі дасягнулі высокага ўдасканалення ў спайванні створак полых упрыгожанняў, ім была знаёма тэхніка пазалоты вырабаў.

З вышэйпададзенага відавочна, што ўся сукупнасць знаходак, звязаных з апрацоўкай каляровых металаў,— прылады працы, сыравіна і, нарэшце, гатовыя вырабы паказваюць на занятак насельніцтва пасадаў бронзаліцейнай і ювелірнай справай. На заходнім пасадзе вытокі

---

* Аўтар выказвае падзяку доктару гістарычных навук М. Ф. Гурыну за кансультацыю.

Т а б л і ц а. **Вынікі рэнтгенарадыёметрычнага аналізу ювелірных вырабаў з раскопак Ніжняга замка Віцебска (IX—XIV стст.)**

| № п/п | Назва ўпрыгожання | Cu | Pb | Sn | Ag | Au | Sb | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Нашыўная бляшка | 20 | | | 50 | 30 | | сплаў срэбра і золата, XIII ст., мал. 1:*18* |
| 2 | Бронзавы шчытковы пярсцёнак | 98,5 | 1,28 | | 0,24 | | | XII ст., мал. 1:*15* |
| 3 | Фрагмент спіралеканцовай бронзавай фібулы | 93,7 | 4 | 2,1 | 0,2 | | | XII ст., мал. 1:*35* |
| 4 | Пярсцёнак бронзавы кругладротавы | 94,3 | 2 | 3,4 | 0,3 | | | XI ст., мал. 1:*16* |
| 5 | Падвеска бронзавая трапецападобная | 97,4 | 1,56 | 0,84 | 2 | | | XI ст., мал. 1:*2* |
| 6 | Пярсцёнак медны з разамкнёнымі канцамі | 99 | 0,7 | | 0,1 | | 0,14 | XI ст., м. 1:*20* |
| 7 | Медная накладка | 99,9 | | | | | | мал. 1:*27* |
| 8 | Месяцападобная прывеска бронзавая шыракарогая | 97,3 | 1 | 2,6 | 0,1 | | | X ст., мал. 1:*1* |
| 9 | Бронзавы плецены ланцужок | 99,2 | | 0,79 | | | | X ст., мал. 2:*8* |
| 10 | Прывеска язычковая з бронзы | 83 | 14 | 2,8 | 0,2 | | | X ст., мал. 2:*7* |
| 11 | Кручок ад зорчатай шпількі (?) | | 47,2 | 52,8 | | | | XIII ст., мал. 1:*19* |
| 12 | Бронзавая накладка-ножны | 90 | 5 | 5 | 0,2 | | | пач. XI ст., мал. 1:*33* |
| 13 | Бронзавая спіралеканцовая фібула | 81,8 | 16,1 | 1,8 | 0,25 | | | XI ст., мал. 1:*32* |
| 14 | Бранзалет вузкапласціністы з бронзы | 95 | 3 | 2,1 | 0,2 | | | XII ст., мал. 2:*5* |
| 15 | Бранзалет пласціністы арнаментаваны з бронзы | 89,4 | 2,7 | 7,7 | 0,2 | | | XIII ст., мал. 2:*11* |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 16 | Фрагмент псеўдавітога бранзалета з бронзы | 84 | 6,2 | 9,8 | 0,2 | | | XII ст., мал. 2:*4* |
| 17 | Фібула падкавападобная з драконавымі мордамі | | 85,4 | 14,6 | | | | XIII ст., мал. 1:*26* |
| 18 | Ланцужок з вузкіх палосак волава | | | 99 | | | | з дамешкамі, XII ст., мал. 2:*9* |
| 19 | Спіралепадобная фібула круглага сячэння з медзі | 99,7 | | | 0,27 | | | X—XI ст., мал. 1:*21* |
| 20 | Спіралька з бронзы (?) | 50 | | 50 | 0,1 | | | XII ст., мал. 1:*14* |
| 21 | Бранзалет віты са сканай перавіццю алавяніста-свінцовы | | 19 | 81 | | | | XIII ст., мал. 2:*12* |
| 22 | Медны кругладротавы бранзалет | 99 | 1 | 0,22 | 0,1 | | | X ст., мал. 2:*3* |
| 23 | Полая грушападобная прывеска з золата | | | | 50 | 50 | | XIII ст., мал. 1:*9* |
| 24 | Бронзавая грушападобная бразготка | 90 | 2,5 | 7,5 | 0,2 | | | X ст. (?), мал. 1:*3* |
| 25 | Бронзавая лапчастая прывеска | 95 | 0,9 | 4,1 | 0,03 | | | XII—XIII ст., мал. 1:*4* |
| 26 | Медны лодкападобны бранзалет | 99,4 | 0,3 | 0,29 | 0,06 | | | IX—X ст., мал. 2:*10* |
| 27 | Язычок меднай фібулы | 99 | 0,7 | 0,12 | 0,05 | | | XI ст. |
| 28 | Фрагмент меднага кручанага бранзалета | 100 | | | | | 0,3 | XII ст., мал. 2:*6* |
| 29 | Фрагмент бронзавага псеўдавітага бранзалета | 90,6 | 0,4 | 8,9 | 0,1 | | | XIII ст., мал. 2:*2* |
| 30 | Манетападобная прывеска з выявай птушкі са свінцова-алавяністага сплаву | | 32 | 68 | | | | XII ст., мал. 1:*17* |

яго паглыбляюцца ў перадгарадскі перыяд, на ўсходнім ён узнік ў XI ст. Нягледзячы на вялікую працаёмкасць і складанасць вытворчасці і высокі кошт прадукцыі, да XII—XIII стст. ювелірная вытворчасць у Віцебску дасягнула даволі высокага росквіту, сведчаннем чаго з'яўляецца ўдасканаленне майстрамі тэхналагічных аперацый і пошук новых эканамічна эфектыўных прыёмаў.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Алексеев Л. В. Полоцкая земля: Очерки истории северной Белоруссии в IX—XIII вв. М., 1966. 295 с.
2. Бранденбург Н. Е. Курганы южного Приладожья // Материалы по археологии России. 1895. № 18.
3. Булычев Н. И. Раскопки по части водораздела верхних притоков Днепра и Волги в 1903 г. М., 1903. 92 с.
4. Голубева Л. А. Весь и славяне на Белом озере. М., 1973. 212 с.
5. Голубович Е., Голубович В. Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейской округе БССР // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та материальной культуры. 1945. Вып. 11. С. 126—137.
6. Гуревич Ф. Д. Древний Новогрудок: Посад — окольный город. Л., 1981. 160 с.
7. Гурин М. Ф. Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. Мн., 1987. 150 с.
8. Даркевич В. П. Культурные связи Древней Руси с Западной Европой в X—XIV вв. (По матер. худож. ремесла): Автореф. дис. ... канд. ист. наук. М., 1964. 24 с.
9. Даркевич В. П. Раскопки на Южном городище Старой Рязани (1966—1969 гг.) // Археология Рязанской земли. М., 1974. С. 19—71.
10. Древности Северо-Западного края. СПб., 1893. 103 с. (Материалы по археологии России. № 14. Т. 1. Вып. 2: Люцинский могильник).
11. Дучыц Л. У., Бубенька Т. С. Старажытныя амулеты Падзвіння // Беларусь. 1987. № 1. С. 32.
12. Журжалина Н. П. Датировка древнерусских привесок-амулетов // Сов. археология. 1961. № 2. С. 122—140.
13. Загорульский Э. М. Возникновение Минска. Мн., 1982. 358 с.
14. Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989. 207 с.
15. Каргер М. К. Древний Киев: Очерки по истории материальной культуры древнерусского города: В 2 т. М.; Л., 1958. Т. 1. 579 с.
16. Левашова В. П. Браслеты // Труды Гос. ист. музея. М., 1967. Вып. 43. С. 207—252.
17. Лесман Ю. М. Погребальные памятники Новгородской земли (проблема синхронизации) // Археологическое исследование Новгородской земли: Межвузовский сб. Л., 1984. С. 118—153.
18. Лысенко П. Ф. Берестье. Мн., 1985. 399 с.
19. Лысенко П. Ф. Города Туровской земли. Мн., 1974. 199 с.
20. Ляўданскі А. М. Археалагічныя доследы ў водазборах Сажа, Дняпра і Касплі ў Смаленскай губерні // Зап. аддз. гуманіт. навук. 1930. Кн. 2: Працы археал. камісіі. Т. 2.
21. Мальм В. А. Подковообразные и кольцевидные застежки-фибулы // Труды Гос. ист. музея. М., 1967. Вып. 43. С. 149—190.

22. Мугуревич Э. С. Восточная Латвия и соседние земли в X—XIII вв. Рига, 1965. 144 с.
23. Павлова К. В. Об одном типе височных колец древнего Новогрудка // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та археологии АН СССР. 1969. Вып. 120. С. 120—121.
24. Рыбаков Б. А. Язычество Древней Руси. М., 1988. 783 с.
25. Рындина Н. В. Технология производства новгородских ювелиров X—XV вв. // Матер. и исслед. по археологии СССР. М., 1963. № 117. С. 200—268.
26. Рябинин Е. А. Зооморфные украшения Древней Руси X—XIV вв. Л., 1981. 123 с.
27. Рябинин Е. А. Языческие привески-амулеты Древней Руси // Древности славян и Руси. М., 1988. С. 55—62.
28. Седов В. В. Амулеты — коньки из древнерусских курганов // Славяне и Русь. М., 1966. С. 151—157.
29. Седов В. В. Длинные курганы кривичей. М., 1974. 68 с.
30. Седова М. В. Ювелирные изделия древнего Новгорода (X—XV вв.) М., 1981. 194 с.
31. Сергеева З. М. Денисенские курганы на Витебщине (В.-Двинский район) // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та археологии АН СССР. 1986. Вып. 187. С. 75—80.
32. Спицин А. А. Владимирские курганы // Известия Гос. Рос. археол. комиссии. СПб., 1905. Вып. 15. С. 84—172.
33. Спицин А. А. Курганы С.-Петербургской губ. в раскопках Л. К. Ивановского. СПб., 1896. 124 с.
34. Успенская А. В. Нагрудные и поясные привески // Труды Гос. ист. музея. М., 1967. Вып. 43. С. 88—132.
35. Фехнер М. В. Внешнеэкономические связи по материалам ярославских Тимеровского, Михайловского и Петровского могильников // Ярославское Поволжье X—XI вв. М., 1963. С. 73—85.
36. Финно-угры и балты в эпоху средневековья // Археология СССР: В 20 т. М., 1987. 510 с.
37. Шноре Э. Д., Зейда Т. Я. Нукшинский могильник // Матер. и исслед. по археологии ЛатССР. Рига, 1957. Т. 1.
38. Штыхов Г. В. Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.) Мн., 1978. 160 с.
39. Штыхов Г. В. Древний Полоцк IX—XIII вв. Мн., 1975. 136 с.
40. Штыхов Г. В. Сравнительное изучение древнейших городов Полоцкой земли и памятников их окрестностей // Древности Белоруссии. Мн., 1966. С. 238—252.
41. Arbman H. Birka, I. Die Gräber. Stockholm — Uppsala, 1940: abb.
42. Herrmann J. Zwieschen Hradschin und Vineta: Frühe Kulturen der Westslawen. Urania — Verlag — Leipzig — Jena — Berlin, 1971. 288 s.: abb.
43. Selirand J. Eestlaste matmiskobed varafeodaalsete suhete tärkamise perioodil (11—13 sajand). Tallinn, 1974. 243 s.

# ПУБЛІКАЦЫІ

*Міхась Чарняўскі*

## ТАРФЯНІКОВАЯ СТАЯНКА ЗАЦЭННЕ

У 1966 г. жыхар в. Зацэнне Лагойскага раёна Сяргей Шубара перадаў аўтару гэтай публікацыі некалькі касцяных і каменных неалітычных вырабаў, сабраных на выкідах з меліярацыйнага канала, які выпраміў р. Цну. Месцазнаходжанне было адразу ж агледжана, а ў 1967 і 1988 гг. тут праводзіліся археалагічныя раскопкі, у выніку якіх было ўскрыта 72 кв. м [15]. Акрамя таго, у розны час на помніку рабілася шурфоўка і зачыстка адхонаў канала, а таксама збор пад'ёмнага матэрыялу. З прычыны таго што культурны пласт ускрыты каналам і часткова размываецца паводкамі, а таксама быў пашкоджаны пры пашырэнні маста, частка знаходак трапіла да калекцыянераў і выпадковых асоб.

Атрыманы матэрыял заслугоўвае асаблівай увагі. Ён паходзіць з адзінай пакуль што тарфяніковай стаянкі на Падняпроўі, мае вырабы не толькі з каменю і абпаленай гліны, але і з арганічных рэчываў, акрамя таго, дазваляе характарызаваць паўднёвую перыферыю прыбалтыйскіх культурных з'яў неалітычнага часу. Улічваючы гэта, а таксама палеагеаграфічныя назіранні і радыёкарбоннае датаванне, помнік можа быць эталонным для ранняга неаліту Беларусі.

Стаянка размешчана на левым беразе Цны каля маста, што на дарозе Барысаў — Плешчаніцы (мал. 1). Праз 1,5 км на ўсход ад помніка знаходзіцца в. Зацэнне, 0,7 км на паўночны захад — в. Ліпкі. Рака тут працякае шырокім тарфянікам, які ў старажытнасці быў возерам. Каля маста даліна звужаецца, заціснутая ўзгоркамі. Пры вытоку старажытнай Цны з возера і знаходзілася паселішча.

Выяўленая даўжыня стаянкі з поўначы на поўдзень уздоўж канала каля 120 м, шырыня яе да 60 м. Даступная для раскопак левабярэжная (усходняя) частка, куль-

турны пласт на правабярэжжы апускаецца ніжняй часткай пад узровень вады ў канале. У сярэднявеччы паўднёва-ўсходні край помніка займала селішча.

Для ўдакладнення стратыграфіі і выяўлення межаў стаянкі па лініі ўсход — захад былі закладзены шурфы і зачысткі (мал. 1).

Шурф 1 (1×1 м) знаходзіўся на краі тэрасы. У ім у глебе знойдзены адзін крамянёвы адшчэп.

Зачыстка 2, зробленая на левым беразе канала, выявіла наступнае: 0—0,5 м—торф; 0,5—1,13 м—шэры пясок з тарфянымі праплásткамі; 1,13—1,2 м—моцна перагнілая цёмна-шэрая, амаль чорная тарфяністая маса; 1,2—1,3 м—шэры дробназярністы пясок; 1,3—1,33 м—праластак рознaзярністага пяску; 1,33 м і глыбей — дробназярністы светла-шэры пясок. У другім пласце, што пад торфам, асабліва ў яго верхняй частцы, знойдзены вугалі, косткі, расшчапаныя крамяні. Косткі і фрагменты неалітычнай керамікі меліся і ў чацвёртым, перадмацерыковым, пласце. У цёмна-шэрым пласце знаходак не было.

На супрацьлеглым краі канала закладзена зачыстка 3. Яе заходняя сценка мела наступную стратыграфію: 0—0,8 м — шчыльны цёмна-шэры, злёгку рудаваты торф; 0,8—1,85 м — дробназярністы светла-шэры пясок з праласткамі апясчаненага цёмна-шэрага, рудаватага торфу. З глыбінёй колькасць пяску ў пласце павялічваецца, тарфяныя праплásткі радзеюць і танеюць, унізе зрэдку сустракаецца галька. У пласце залягалі і знаходкі — нешматлікія рэшткі дрэва, трэскі, кара, вугалі, расшчапаная костка. 1,85—1,95 м — пласт моцна перагнілага,




Мал. 1. План тарфяніковай стаянкі Зацэнне. 1967, 1988 — раскопы; 1, 2, 3, 4 — шурфы і зачысткі

глiнiстага навобмацак, цёмна-шэрага, з рудаватым адценнем торфу (сапрапель?) без знаходак; 1,95—2,25 м — дробназярнiсты светла-шэры пясок са слядамi гумусу, з нешматлiкiмi знаходкамi вугалёў, рэшткамi драўнiны, фрагментаў ранненеалiтычнай керамiкi. Тут жа коса ляжаў завостраны кол. Пласт падсцiлаўся мацерыком з розназярнiстага светла-шэрага пяску.

Праз 7,5 м на захад ад папярэдняй зачысткi быў закладзены шурф 4, у якiм культурны пласт не выявiўся.

Раскоп 1967 г. (40 кв. м) распрацоўваўся ў паўночнай частцы помнiка каля левага краю канала. Яго стратыграфiя ў асноўным адпавядала зачыстцы 2. Культурны пласт у раскопе перакрываўся торфам, адкладаннi якога ў бок ракi патаўшчалiся. Торфаўтварэнне тут, вiдавочна, адбывалася позна, мяркуючы па знаходках ганчарнай керамiкi, у тым лiку i палiванай. Пад торфам знаходзiўся пласт шэрага пяску таўшчынёй 5—10 см з дробнымi расшчапанымi крамянямi i цяжкавызначальнымi фрагментамi керамiкi, сярод якiх вылучалася венца пасудзiны сярэднебронзавага часу. Нiжэй месцамi залягаў моцна гумусаваны пясок з дробнымi раслiннымi рэшткамi, крамянёвымi вырабамi, абломкамi неалiтычнай керамiкi. На заходнiм краi раскопу пад такiм пяском прасочваецца тарфяны прапластак таўшчынёй 3—5 см з выразным панiжэннем да ракi. Пад прапласткам у дробназярнiстым пяску сустракаюцца абломкi костак i ранненеалiтычных пасудзiн. 10 см нiжэй знаходзiцца мацярык.

У 1988 г. на поўнач ад маста, на месцы будуемай абводнай дарогi, закладзены раскоп у 32 кв. м. У раскопе, а таксама на зачышчанай бульдозерам прылеглай тэрыторыi сабрана адносна шмат крамянёвых вырабаў. Фрагменты ж керамiкi былi малалiкiя, дробныя i невыразныя.

Археалагiчны матэрыял на помнiку складаецца з крамянёвых, рагавых, касцяных i керамiчных вырабаў. Адзiнкава трапляюцца знаходкi каменныя i драўляныя.

Найбольш вызначальнай уяўляецца керамiка. Яна прадстаўлена некалькiмi розначасовымi i рознакультурнымi комплексамi.

Большасць знойдзеных абломкаў з'яўляюцца фрагментамi вялiкiх шырокаадкрытых гаршкоў з плаўна выпуклым корпусам i вострапрытупленым дном, сфармаваных з глiняных стужак спосабам косага прылепу. Пасудзiны, мяркуючы па большых фрагментах, былi крыху звужаны ўверсе i мелi ў асноўным злёгку адагнуты вен-

чык з прыкругленым зрэзам. Часам венцы былі простыя, а зрэзы плаўна скошаны з сярэдзіны. Дыяметры горла 28—34 см. Большасць знойдзеных бакавінак шэрага, крыху рудаватага колеру і маюць сярэднюю таўшчыню 6—8 мм, часам трапляюцца фрагменты і танейшыя. У цесце сценак прыкметны валакністыя раслінныя дамешкі, а таксама тоўчаныя ракавіны. Унутраныя паверхні, а шмат дзе і знешнія, носяць сляды загладжвання зубчастым штампам.

Крыху больш паловы венчыкаў маюць пад краем гарызантальны пояс з пераважна круглых і глыбокіх ямак (мал. 2). У некаторых пасудзінах гэтым арнаментацыя і заканчваецца. Каля паловы ўсіх арнаментаваных фрагментаў маюць у большасці гарызантальныя паскі адбіткаў тонкага і ў асноўным выгнутага грэбеня (дробназубага арнаменціра) (мал. 3:*4—6*). Вядомы таксама доўгія насечкі (мал. 3:*7*), насечкі двухзубыя, семечкападобныя, кантам пласцінкі (мал. 2; 3), наколы кантам палачкі (мал. 3:*8*), прамакутныя (мал. 3:*9*), аморфныя (мал. 2:*11*), ямчатыя паглыбленні (мал. 2:*6*). Пры дамінацыі гарызантальнага размяшчэння паскаў арнаментацыі ў рэдкіх выпадках назіраецца косая або вертыкальная іх накіраванасць (мал. 2:*24*). Некаторыя зрэзы венчыкаў таксама маюць адбіткі арнаменціраў, якімі аздабляліся сценкі гэтых жа пасудзін. У некалькіх выпадках адзначаны паскі арнаменту на ўнутранай паверхні венчыка (мал. 2:*1, 24*).

Прыкметна, што арнаменты канцэнтраваліся пераважна ў верхніх частках пасудзіны. Больш паловы фрагментаў керамікі апісанага вышэй тыпу не мела ўзораў. На некаторых адзначаны прасвідраваныя «пасухому» адтуліны, з дапамогай якіх «сшываліся» трэснутыя гаршкі.

Гэты керамічны матэрыял пераважна канцэнтраваўся ў ніжняй, прымацерыковай, частцы культурных напластаванняў стаянкі. Зрэдку падобныя чарапкі сустракаліся і ў іх сярэдняй частцы, дзе ім спадарожнічаў больш позні неалітычны матэрыял.

Кераміка з расчэсамі на паверхні і з ракушачнымі дамешкамі стаянкі Зацэнне мае бліжэйшыя аналогіі сярод ранненеалітычных матэрыялаў нарвенскай культуры паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі [16, с. 122—127; 2, с. 31—39; 6, с. 12, 13]. З нарвенскай керамікай, асабліва на стаянках Нарва, Акалі, Кяапа ў Эстоніі, тыпу Оса ў Латвіі,




Мал. 2. Стаянка Зацэнне. Фрагменты керамікі: 1—27 — ранняга этапа нарвенскай культуры; 28 — сосніцкай культуры сярэдняга этапа бронзавага веку

нашы матэрыялы збліжае порыстасць гліняных сценак, дамешкі тоўчаных ракавін, грабеньчатыя расчэсы паверхні, пераважная большасць элементаў арнаменту, прасвідраваныя адтуліны і, урэшце, формы посуду і яго асобных частак. Маюцца і пэўныя адрозненні, абумоўленыя размяшчэннем Зацэння на крайняй паўднёвай перыферыі прыбалтыйскага неалітычнага свету, дзе адчуваліся моцныя ўплывы суседніх нёманска-дняпроўскіх культур. У матэрыялах Зацэння амаль не адзначана заштрыхоўка паверхні, часцей сустракаюцца валакністыя раслінныя дамешкі, значна больш венцаў з шэрагам ямак пад краем і арнаментам на зрэзе, адносна шырэй прадстаўлены грабеньчатыя ўзоры.

Шмат у чым кераміка з Зацэння блізкая знаходкам дубічайскага (ранненеалітычнага) тыпу нёманскай культуры, да амаль поўнай ідэнтычнасці некаторых фрагментаў [12, с. 50—52, мал. 10; 28:*1—5, 7, 9;* 35:*1, 2*]. Аднак на Панямонні ў посудзе не выяўлены ракавінныя дамешкі, адзінкавыя прасвідраваныя адтуліны, у той жа час ямкі пад краем і арнамент на зрэзах выяўляюцца амаль на ўсіх венчыках гаршкоў. Шмат тут і ўзораў у выглядзе пракрэсленай сеткі, не характэрных, мяркуючы па наяўным матэрыяле, для Зацэння.

Па шэрагу адзнак посуд самай ніжняй часткі культурнага пласта Зацэння падобны да керамікі струмельскагасцяцінскага [10, с. 63—67], або струмельскага, тыпу [3, с. 31—35] Сярэдняга Падняпроўя.

Такім чынам, апісаная вышэй кераміка Зацэння ўяўляецца нам як ранняя нарвенская, са спецыфічнымі для паўднёвай ускраіны арэала асаблівасцямі. Яе найбольш блізкія аналогіі на тэрыторыі Беларусі нам вядомы на ранненарвенскіх стаянках Асавец 4 [14, с. 419] на Падзвінні і Сосенка 3 у басейне Віліі.

Каля двух дзесяткаў фрагментаў керамікі паходзяць ад гаршкоў з такой жа, як і ў ранненарвенскай, порыстай структурай сценак, у якіх меліся дамешкі дробнай арганікі і, магчыма, тоўчаных ракавін. Абедзве паверхні фрагментаў добра загладжаны. З-за малалікасці матэрыялу цяжка вызначыць форму посуду. Вядома, што гэта былі гаршкі з крыху зведзенымі простымі венчыкамі, патоўшчанымі да краю, плоскія зрэзы якіх скошваліся ўсярэдзіну. Элементамі арнаменту з'яўляюцца шыраказубыя з закругленымі канцамі адбіткі, адбіткі тарцом прамакутнай лапаткі, доўгай і кароткай. Рэдкія формы — наколы




Мал. 3. Фрагменты керамікі: 1, 2, 4—13 — ранняга этапа нарвенскай культуры; 3, 14—21, 23 — позненеалітычная порыстая; 24 — бронзавага веку; 22 — венцы ганчарнага посуду

кутам шыраказубага штампа, лінзападобныя насечкі, авальныя плыткія ўмяціны, вусеневыя адбіткі. Зубчастыя і штампаваныя элементы размяшчаліся пераважна нахільна гарызантальнымі паясамі і зрэдку дапаўняліся наколамі кантам шыраказубага арнаменціра. Адбіткі лапаткі (лінейнага штампа) часам вертыкальныя або ўтвараюць ромбы. Мабыць, гарызантальна арыентаваны і паясы ўмяцін (мал. 3:*19*). На адным фрагменце спалучаныя гарызантальныя вусеневыя адбіткі таксама ўтвараюць даволі частыя паясы (мал. 3:*23*), на другім лініі лінзападобных насечак размешчаны сеткай (мал. 3:*18*). Маецца аздабленне і на зрэзах нешматлікіх венчыкаў (мал. 3:*3*).

Гладкасценная порыстая кераміка з Зацэння не сустрэта ў нізе культурнага пласта, дзе канцэнтраваўся ранненарвенскі матэрыял. Яна залягала ў сярэдніх частках пласта. Такія знаходкі маюць пэўныя аналогіі сярод позненарвенскай керамікі паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі [6, с. 17, 18; 8, с. 59—67; 1, с. 45—51; 17] і асабліва — тыпу ніжняга пласта Крывіны са стаянак Крывінскага тарфяніка на Віцебшчыне [13, с. 71—73, 75]. У параўнанні з крывінскімі знаходкамі на гладкасценным порыстым посудзе Зацэння больш прыкметныя ўплывы тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі Прыбалтыкі, і ён мае выразныя гібрыдныя рысы, дзе спалучаецца нарвенская тэхналогія вырабу і арнаментацыя, шмат у чым характэрная для грабеньчата-ямачных матэрыялаў. Такое асабліва прасочваецца на стаянцы Скема 1 на воз. Нарач [11, с. 72, 73].

У верхняй частцы культурных напластаванняў Зацэння, асабліва бліжэй да ўсходняга краю помніка, выяўлены нешматлікія фрагменты посуду бронзавага веку. Сярод іх венца гаршка сосніцкай культуры (мал. 2:*28*) з ружанцавым арнаментам, абломак сценкі з падштрыхаванымі паверхнямі, арнаментаваны невялікімі падчатырохкутнымі наколамі-насечкамі (мал. 3:*24*).

Крэмень у Зацэнні пераважна шэры. Аднак сустракаецца і цёмна-шэры да чорнага, які, верагодна, паходзіць з вярхоўяў Нёмана. Маюцца знаходкі светла-шэрыя, а часам і крапчастыя. Матэрыял для апошніх трапляў з Пасожжа. Шмат крамянёў перапаленых.

Усе стрэлы ў калекцыі лістападобныя на пласцінках, аднак яны пры гэтым рознатыповыя і рознachасовыя. Найбольш раннія прадстаўлены абломкамі пёраў з вугла-

ватымі вастрыямі, рэтушаванымі з абедзвюх плашчынь (3 экз., мал. 4:*1—3*). Бакавіны іх не апрацаваны. Захаваўся цэлы наканечнік правільнай лазаліставай формы, даволі ахайна апрацаваны падчэскай і рэтушшу з дзвюх плашчынь (мал. 4:*8*). Яшчэ лепш рэтушаваны, і таксама з дзвюх плашчынь, наканечнік рамбічны (мал. 4:*9*). Наканечнік дзіды пакуль знойдзены адзін. Гэта быў даволі масіўны лістападобны выраб з адламаным вастрыём, рэтушаваны па краях толькі са спінкі нарыхтоўкі (мал. 4:*38*).

У калекцыі маюцца 4 трапецыі, як вузкія, так і шырокія, у асноўным сіметрычныя (мал. 4:*4—7*). Аднак у цэлым яны не вельмі дасканалыя па форме і апрацоўцы. Вядомы таксама невялікія спічастыя пласцінкі з рэтушаваным краем (мал. 4:*10—16*). Адна такая знаходка мела і апрацаваную з брушка аснову і ўяўляла даволі высокі трохкутнік (мал. 4:*10*). Два абломкі паходзяць ад ланцэтападобных вастрый са спрэс рэтушаваным скосам (мал. 4:*15, 16*). Падобны цэлы экземпляр кароткі, мае рэтуш на простай аснове і з брушка (мал. 4:*14*). Ён мог быць і нетыповай асіметрычнай трапецыяй.

Разцоў сярод крамянёвых вырабаў мала, яны невыразныя — вуглавыя і бакавыя экземпляры (мал. 4:*18—22*). Адзін разец клінавата-бакавы (мал. 4:*22*).

Найбольш шматліка прадстаўлены скрабкі. Яны амаль усе фармаваліся на адшчэпах і маюць пераважна авальную або падобную да яе форму, хоць сустракаюцца падчатырохкутныя, дэльтаватыя і аморфныя (мал. 4:*23—34*). Сярод скрабкоў маюцца высокія канцавыя, у якіх рэтушавана толькі скрабніца (мал. 4:*23—27*). У іншых рэтуш апускаецца на адну або дзве бакавіны. Адзін мысаваты скрабок мае скоблевую выемку (мал. 4:*33*). Некаторыя адшчэпы і пласцінкі са стромкай скрабковай рэтушшу таксама маглі выкарыстоўвацца як скрабкі (мал. 4:*37, 37а*). Нажамі з'яўляліся плоска рэтушаваныя пласцінкі (мал. 4:*39*) і адшчэпы (мал. 4:*40*). Праколкі былі пераважна на пласцінках (мал. 4:*17*). Рубячыя прылады нешматлікія і невыразныя (мал. 4:*36*).

Маецца група крамянёў з рэтушшу і іх абломкаў нявызначанага прызначэння.

Нуклеусы аднапляцовачныя і пераважна невялікія. Найбольш тыповыя сярод іх стажкаватыя злёгку сплошчаныя, з шырокай адшчэпняй (мал. 4:*41*), а таксама сплошчаныя з адшчэпняй на вузкім бакавым тарцы (мал.




Мал. 4. Крамянёвы інвентар

4:*42*). Вядомы адзінкава алоўкападобныя формы. Даволі шмат розных зачаткавых і аморфных экземпляраў.

Крамянёвыя вырабы ў большасці маюць ранненеалітычны выгляд, а часткова нават і познемезалітычны. Гэта асабліва датычыцца абломкаў стрэл з вуглаватым вастрыём, трапецый, ланцэтападобных вастрый, дробных пласцінак з рэтушаваным адным краем. Гэты матэрыял у цэлым блізкі знаходкам познемезалітычных (Кусеўшчына) і ранненарвенскіх (Асавец 4, Сосенка 3) стаянак Беларускага Паазер'я. Рэшта крамянёвага інвентару звязваецца з позненарвенскай гібрыднай керамікай і з керамікай бронзавага веку (некаторыя адшчэпы атрыманы пры паўторным выкарыстанні шліфаваных вырабаў).

З некрамянёвых каменных вырабаў маецца дрэннай захаванасці плоская сякера-клін і шліфаванае чаранковае цясла. Гэтыя знаходкі адносяцца да бронзавага веку.

Заляганне рэшткаў паселішча пад торфам садзейнічала захаванасці вырабаў з рогу і костак. Аднак большасць іх знойдзена на выкідах з канала. У раскопах трапляліся толькі іх нешматлікія абломкі, пры гэтым пераважна каля асновы культурных напластаванняў. Гэта, а таксама тыпалагічны аналіз дазваляюць нам большасць вырабаў з арганікі адносіць да ранненеалітычнага часу.

Наканечнікаў стрэл знойдзена 5. Большасць з іх біканічныя. Два такія экземпляры крыху сплошчаныя, сіметрычныя, насад практычна не адрозніваецца ад вастрыя (мал. 5:*2, 3*). Найбольшае патаўшчэнне плаўна закруглена і размешчана па цэнтру корпуса. У трэцім наканечніку круглага сячэння патаўшчэнне ў верхняй частцы, яно падкрэслена нарэзкай і паяском з пракрэсленых рысак (мал. 5:*4*). Чацвёрты біканічны наканечнік мае складаную будову (мал. 5:*5*). Корпус з падтрохкутным патаўшчэннем рэзка пераходзіць у насад круглага сячэння, які заканчваецца плоскім чаранком. Калі тры папярэднія наканечнікі кароткія або сярэднія, то гэты экземпляр доўгі. Акрамя гэтага, у калекцыі знаходзіцца доўгі іголкападобны наканечнік сплошчанага сячэння (мал. 5:*1*). Да рэдкага тыпу адносіцца наканечнік з трубчастай, зрэзанай наўскос костачкі. У яе галоўцы зроблена адтуліна для дрэўка (мал. 5:*6*). Усе наканечнікі змайстраваны са сценак тоўстых трубчастых костак, добра апрацаваны на паверхні і нават запаліраваны.

Біканічныя гладкія наканечнікі са сплошчаным сячэннем найбольш характэрныя для позняга мезаліту ўсходняй Прыбалтыкі [5, мал. 4]. Сустракаюцца яны там і на помніках ранняга неаліту [8, табл. IX:*3, 5*]. Ранненеалітычнымі, мяркуючы па прыбалтыйскіх аналогіях [5, мал. 4; 8, табл. IX:*6*], могуць быць іголкападобны і біканічны з нарэзкай пад найбольшым пашырэннем корпуса наканечнікі. Тым больш што на апошнім экземпляры маецца арнамент. Усе апісаныя вышэй знаходкі адначасовыя ранненарвенскай керамікі. Біканічны з насадам і чаранком наканечнік падобны на чаранковыя экземпляры са стаянак сярэдняга і позняга неаліту Крывінскага тарфяніка, дзе яны складаюць арыгінальны крывінскі тып наканечнікаў [13, мал. 12:*7, 9, 10*]. Блізкія ім чаранковыя формы і са стаянак сярэдняга і позняга неаліту Літвы і Латвіі [7, табл. XXVI:*20, 21;* 1, мал. 31:*4*], паўднёвай Пскоўшчыны [9, с. 21]. Такім чынам, наканечнік з чаранком з Зацэння хутчэй за ўсё звязваецца з позненарвенскай порыстай керамікай з гібрыднымі рысамі. Наканечнік з трубчастай костачкі не мае прамых аналогій на бліжэйшых суседніх тэрыторыях. Ён хутчэй за ўсё можа датавацца часам пазнейшым, чым ранненеалітычны.

Са сценак масіўных трубчастых костак змайстраваны і дзве праколкі (мал. 5:*7, 8*).




Мал. 5. Касцяныя наканечнікі стрэлаў (1—6) і праколкі (7, 8)

Выразную групу з пяці знаходак складаюць рагавыя матыкі з прасвідраванымі адтулінамі (мал. 6:*8, 11—14*). Адна з іх авальная, іншыя — падчатырохкутныя выцягнутыя. Адтуліны вялікага дыяметру, лёзы моцна спрацаваныя. Адна з матыкаў разламаная па адтуліне. Захавалася ніжняя частка з коса счэсаным лязом. На выпуклай частцы знаходкі каля адтуліны маецца арнамент у выглядзе гарызантальных падпаралельных нарэзак (мал. 6:*13*).

З масіўнага рабра буйной жывёліны быў зроблены кінжал (мал. 6:*1*). На яго паверхні добра прыкметны сляды зрэзвання крамянёвым нажом і запаліроўка. У таўсцейшай частцы выразана рукаятка, якая завяршаецца выступам. Вастрыё апрацоўвалася шляхам загладжвання адной плашчыні на паліравальнай пліце. Канец вастрыя адламаны.

Знойдзены адзін гарпун (мал. 6:*2*). Ён быў зроблены з трубчастай косткі з галоўкай. Захаваліся тры аднабаковыя прытупленыя зубцы. Тонкі канец вырабу адламаны.

Сярод пад'ёмнага матэрыялу таксама трапіліся: прылада з расшчапанай трубчастай косткі са скошаным лязом (мал. 6:*3*), цяслападобнае долата (мал. 6:*4*), даволі доўгія выгнутыя сякеры з аленевых рагоў (мал. 6:*9, 10*), некалькі вузкалёзавых матык і іх абломкаў, якія выкарыстоўваліся з дапамогай муфтаў (мал. 6:*5, 6*), дзве нарыхтоўкі муфтаў (мал. 6:*7*), а таксама каля дзесятка слаба вызначальных абломкаў рагавых і касцяных вырабаў, фрагменты рагоў з рознымі насечкамі і надрэзамі.

Амаль усе касцяныя і рагавыя вырабы са стаянкі Зацэнне не маюць блізкіх аналогій сярод сярэдне- і позненеалітычных матэрыялаў Крывінскага тарфяніка. У той жа час яны, асабліва свідраваныя матыкі і сякеры з нерасчлянёных фрагментаў рога, прылады са скошаным канцом з трубчастых костак, а таксама большасць наканечнікаў стрэл, пра што ўжо адзначалася, блізкія да ранненарвенскіх знаходак паўночнай Беларусі і паўднёва-ўсходняй Прыбалтыкі, а таксама да познемезалітычных з гэтага ж рэгіёна [2, мал. 24, 83; 16, мал. 31; 8, табл. II, IV, XII, XIII]. На нашым помніку яны ў большасці павінны быць адначасовымі кераміцы з асновы культурнага пласта — ранненарвенскай.

Для вызначэння дакладнага часу існавання стаянкі




Мал. 6. Рагавыя і касцяныя вырабы

Зацэнне і палеагеаграфічных умоў тут былі праведзены адпаведныя даследаванні [4].

Паводле даных спорава-пылковага аналізу, выяўлена наяўнасць двух перыядаў развіцця расліннасці. Першы прыпадае на час існавання ранненеалітычнага паселішча. Тады былі максімальна распаўсюджаны шыракалістыя пароды, у тым ліку дуб, вяз, ліпа, арэшнік пры агульнай перавазе хвойніку. Пазней шыракалістыя лясы змяншаюцца, павялічваецца колькасць яліны. Узор драўніны з асновы культурнага пласта на заходнім краі канала паказаў абсалютны ўзрост — 5450±75 гадоў таму назад або 3580±60 гадоў да н. э. (ЛЕ-960). Адклады сапрапеля, што перакрывалі пласт пяску са знаходкамі сярэднебронзавага часу, сфарміраваліся ў другой палове I тысячагоддзя да н. э.

Такім чынам, асноўны комплекс знаходак з адзінай на Беларускім Падняпроўі тарфяніковай стаянкі Зацэнне па большасці характэрных рысаў адносіцца да ранняга этапа нарвенскай культуры і характарызуе яе крайні паўднёвы арэал. У другой палове III тысячагоддзя да н. э. ва ўжытку жыхароў паселішча была позненарвенская «гібрыдная» гладкасценная кераміка. Выразных раннебронзавых матэрыялаў на помніку не выяўлена. У сярэднебронзавы час тут жылі носьбіты сосніцкай культуры. Зноў мясціна была заселена ў сярэдневякоўе.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Гиринникас А. Крятуонас. Средний и поздний неолит // Lietuvos archeologija. 7. Vilnius, 1990.
2. Гурина Н. Н. Из истории древних племен западных областей СССР // Матер. и исслед. по археологии СССР. № 144. Л., 1967.
3. Даниленко В. Н. Неолит Украины. Киев, 1969.
4. Долуханов П. М., Левковская Г. М., Романова Е. Н., Семенцов А. А., Чернявский М. М. Палеогеография и абсолютная хронология стоянки Заценье // Доклады Академии наук БССР. 1976. Том XX, № 9.
5. Загорская И. А. Костяные и роговые орудия и гарпуны каменного века из восточной Прибалтики // Орудия каменного века. Киев, 1978.
6. Загорскис Ф. А. Ранний и развитый неолит в восточной части Латвии // Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Рига, 1967.
7. Лозе И. А. Поздний неолит и ранняя бронза Лубанской равнины. Рига, 1979.
8. Лозе И. А. Поселения каменного века Лубанской низины: Мезолит, ранний и средний неолит. Рига, 1988.
9. Микляев А. М. Неолитическое свайное поселение на Усвятском озере // Археологический сборник. 1971. Вып. 13.

10. Телегин Д. Я. Неолитические стоянки типа струмеля-гастятина северной Киевщины // Древности Белоруссии. Мн., 1966.
11. Чарняўскі М. М. Неалітычнае насяленне Скема 1 на поўначы Беларусі // Весці Акадэміі навук БССР: Сер. грамад. навук. 1966. № 1.
12. Чарняўскі М. М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мн., 1979.
13. Чернявский М. М. Исследование неолитических поселений Кривинского торфяника // Древности Белоруссии: Докл. к конф. по археологии Белоруссии. Мн., 1969.
14. Чернявский М. М., Зайковский Э. М. Исследования в Понеманье и Подвинье // Археологические открытия 1976 года. М., 1977.
15. Чернявский М. М. Хронологические рамки неолита северо-западной Белоруссии // Крат. сообщ. Ин-та археологии АН СССР. 1978. Вып. 153.
16. Янитс Л. Ю. Поселения эпохи неолита и раннего металла в приустье р. Эмайыги (Эстонская ССР). Таллин, 1959.
17. Rimantienė R. Akmens amžius Lietuvoje. Vilnius, 1984.

*Мікола Крывальцэвіч*

## КАСЦЯНЫЯ І РАГАВЫЯ ВЫРАБЫ КАМЕННАГА ВЕКУ З ВОЗЕРА ВЯЧЭРА

Паселішчы каменнага і бронзавага вякоў на воз. Вячэра даследаваліся аўтарам у 1985—1992 гг. Катлавіна возера размешчана на забалочанай раўніннай мясцовасці ў басейне р. Арэсы. Берагі Вячэры нізкія, пераважна забалочаныя. Толькі ўздоўж усходняга берага дно пясчаністае, узвышаюцца (да 6—7 м) дзюны, на якіх знойдзены сляды жыццядзейнасці чалавека эпох каменя, бронзы, жалеза (мал. 1, *а, б*).

Паселішча Азярное 2 (А, Б) размешчана за 0,9 км на захад ад в. Азярное (Любанскі р-н Мінскай вобл.), на паўднёва-ўсходнім мысе (А) і прымысавай падводнай зоне возера (Б) (мал. 1, *б, в*). Надводная частка помніка ў 70-я гады амаль цалкам знішчана пры закладцы катлаванаў-адстойнікаў і пасадках хвойніка. Намі на месцы паселішча адшуканы нешматлікі матэрыял, які ідэнтыфікуецца найперш са старажытнасцямі днепра-данецкай неалітычнай і сярэднедняпроўскай культур эпохі ранняй бронзы.

Найбольшую цікавасць уяўляюць комплексы касцяных, рагавых, керамічных і крамянёвых вырабаў каменнага веку, якія падняты з дна Вячэры і разглядаюцца намі як рэшткі культурных напластаванняў, што ўтварыліся на месцы паселішча Азярное 2Б. Знаходкі сабраны

галоўным чынам у катлаванах-адстойніках. Апошнія напаўняюцца доннымі адкладаннямі возера падчас здабычы азёрнага сапрапеля з дапамогай землясосных машын. Тэрыторыя распаўсюджвання падводных культурных рэштак (Азярное 2Б) лакалізавана намі шляхам фіксацыі той азёрнай зоны, у якой вяліся асноўныя землясосныя работы. Глыбіня вады ў межах вызначанай экваторыі возера ў сярэднім каля 1,5 м, максімальная магутнасць донных адкладанняў 3,9 м. Усяго знойдзена больш чым 125 касцяных, рагавых прыладаў і іх вызначальных рэштак. Гэта адна з самых значных калекцый вырабаў такога кшталту на Беларусі.

Прылады з косці і рогу падраздзяляюцца на 13 асноўных груп: I — наканечнікі стрэл; II — наканечнікі дроцікаў, коп'яў; III — гарпуны; IV — кінжалы; V — долаты; VI — матыкі рагавыя; VII — цяслападобныя рагавыя прылады; VIII — рагавыя адціскальнікі, рэтушоры; IX — рыбалоўны кручок; X — праколкі; XI — востраканечнікі (пешні, рагаціны і інш.); XII — падвескі з іклаў; XIII — іншыя вырабы.

**Група I.** Наканечнікі стрэл. Згодна з класіфікацыяй І. А. Загорскай, вылучаюцца іголкападобныя, конусападобныя, гладкія сплошчаныя, наканечнікі стрэл своеасаблівай формы.

Падгрупа 1. Іголкападобныя, ці, дакладней, іголкападобныя з гладкім стрыжнем, канічным завостраным чатырохгранным (3 экз.) (мал. 2:*1, 2*) ці плаўна патоўшчаным, амаль круглым у сячэнні чаранком (1 экз.) (мал. 2:*3*). Паверхня стрыжняў паліраваная. Даўжыня цэлага наканечніка 18,5 см. Наканечнікі з чатырохгранным чаранком шырока ўжываліся мезалітычным насельніцтвам [7, мал. 2:*3*; 9, с. 12—15; 21, табл. 36:*5*]. Гладкія, круглыя з патоўшчаным чаранком вядомы сярод матэрыялаў стаянкі Звейніекі 2 (культура Кунда) [18, табл. 23:*9*], у пахавальных комплексах Аленевостраўскага могільніка [5, мал. 34:*17, 18*]. Найбольш верагодны час выкарыстання іголкападобных наканечнікаў Азярнога 2Б — другая палова мезаліту — пачатак неаліту.

Падгрупа 2. Конусападобныя (4 экз.) (мал. 2:*4—7*) з плаўна пашыранаю сярэдняю часткаю стрыжня (разнавіднасць 1), біканічныя (разнавіднасць 2), з кароткім чаранком (разнавіднасць 4). Аналагічныя наканечнікі стрэл (разнавіднасць 1) знойдзены ў ранненеалітычных пахаваннях (IV — першая палова III тыс. да н. э.) могільніка

Звейніекі [49, мал. 3:*17*; 48, табл. 16:*4*], ранненеалітычных пластах паселішча Звідзе (Лубанская нізіна) [16, табл. 9:*8—10*], на стаянцы Берандзеева IV (мал. 1:*3*). Магчымы час іх выкарыстання — неаліт. Біканічныя наканечнікі (разнавіднасць 2) вядомы з раскопак пахаванняў Аленевостраўскага могільніка [5, мал. 46:*2*], мезалітычнага паселішча Ніжняе Вярэцце 1 [21, табл. 34:*10*],




Мал. 1. План размяшчэння паселішчаў Азярное 1, 2: *а* — у межах Беларусі; *б* — на воз. Вячэра; *в* — Азярное 2А, Б

ранненеалітычных пластоў Звідзе [16, табл. 9:*6, 7*; 14, мал. 3:*3*], паселішчаў пачатку II тыс. да н. э. Абора 1 [15, табл. 26:*9*], Жэмайцішке 2 [4, мал. 31:*15, 16*]. Улічваючы гэта, азярнянская знаходка можа датавацца часам ад позняга мезаліту да позняга неаліту. Біканічны наканечнік з кароткім тупым вастрыём і патоўшчаным чаранком мае пэўныя аналогіі сярод знаходак Ніжняга Вярэцця 1 [21, табл. 34], ранненеалітычных матэрыялаў Звідзе [16, табл. 9:*3*], на стаянцы Іванаўскага балота (чацвёрты пласт датаваны IV тыс. да н. э.) [12, мал. 5:*9*], паселішчы Жэмайцішке 2 [4, мал. 31:*6, 11*]. Ён таксама мае шырокі храналагічны дыяпазон выкарыстання — ад позняга мезаліту да канца неаліту. Наканечнік з параўнальна доўгім біканічным вастрыём і кароткім чаранком, рэльефна вылучаным тонкім абадком на патоўшчанай частцы стрыжня, набліжаецца па форме да аналагічных вырабаў шыгірскага тыпу, знаходак з могільніка на Аленевым Востраве [5, мал. 46:*3*], Звейніекі [48, табл. 16:*2*], паселішча Жэмайцішке 1 (канец III тыс. да н. э.) [4, мал. 117:*3*]. Улічваючы гэта, яго можна датаваць часам ад фінальнага мезаліту да III тыс. да н. э.

Падгрупа 3. Гладкія пляскатыя наканечнікі (6 экз.). Сярод іх вылучаюцца лістападобныя з завужанымі пляскатымі чаранкамі (2 экз.) (мал. 2:*8, 12*) і без вылучанага чаранка (3 экз.) (мал. 2:*9*), авальнага сячэння запаліраваны (1 экз.) (мал. 2:*10*). Адзін з лістападобных завужаначаранковых наканечнікаў захаваўся з рэшткамі дрэўка, якое мацавалася з выкарыстаннем смалістага рэчыва на двух пляскатых баках чаранка і падганялася пад таўшчыню вастрыя вырабу. На смале адбілася тонкая частая перавязка. У дрэўка наканечнік ўваходзіць амаль на 2/3 сваёй даўжыні. Гладкія пляскатыя наканечнікі характэрны галоўным чынам для неаліту, часта выкарыстоўваліся і ў больш позні час [9, с. 12—15]. Вялікая іх колькасць знойдзена ў прыбалтыйскіх неалітычных комплексах Звідзе, Звейніекі, Оса, Абора 1, Кратуонас 1Б, на стаянцы Асавец 2 [31, мал. 12:*11*], сярод матэрыялаў другога этапа разанскай неалітычнай культуры [30, табл. 31:*20*]. Падгрупа 4. Да падгрупы своеасаблівых наканечнікаў аднесены выраб даўжынёю 9,3 см з пашыраным вастрыём, бакавымі пазамі для ўставак, чатырохгранным чаранком (мал. 2:*11*). Дакладныя аналогіі нам невядомы. У пэўнай ступені ён нагадвае кароткі мезалітычны наканечнік з пашыраным вастрыём і завужаным чаранком мезалітычнага




Мал. 2. Касцяныя наканечнікі стрэл *(1—12)* і дроцікаў *(13—18)*

паселішча Ніжняе Вярэцце [21, табл. 35:*9*]. Магчыма, што азярнянская знаходка датуецца другою паловаю мезаліту.

**Група II.** Наканечнікі дроцікаў, коп'яў. Згодна з класіфікацыяй І. А. Загорскай, вылучаюцца падгрупы: 1) гладкія, 2) з патаўшчэннем на пяры, 3) з пашырэннем на вяршыні, 4) з адным шыпом на вяршыні.

Падгрупа 1. Гладкія наканечнікі падраздзяляюцца на разнавіднасці А, Б, В (17 экз.). А) Гладкія кароткія выцягнутай лістападобнай формы, з авальным, пляскатаавальным, падпрамакутным, сегментападобным папярочным сячэннем (10 экз.) (мал. 2:*13—18*). На трох з іх прасочваюцца рыскі, пракрэсленыя тонкім вастрыём: косыя папярочныя лініі, крыж-накрыж, папярочныя згрупаваныя (11 рысак) (мал. 2:*14—15*). Даўжыня цэлых экземпляраў — ад 16 да 22,5 см. Гладкія наканечнікі разнавіднасці А мелі распаўсюджанне ў еўрапейскім мезаліце [46, табл. 27; 5, мал. 34:*7—9*] і неаліце, у прыватнасці вядомы сярод матэрыялаў могільніка Звейніекі [48, табл. 13:*22*] на другім этапе днепра-данецкай культуры [26, мал. 2:*2*], у познім неаліце ўсходняй Літвы [4, мал. 32], культурах шнуравой керамікі (Злота) [42, табл. 38:*6*]. Патоўшчаныя верацёнападобныя наканечнікі (3 экз.) (мал. 2:*13, 16*) распаўсюджваліся галоўным чынам у неаліце — энеаліце [20, мал. 22:*15*; 34, табл. 58:*4*; 33, мал. 1:*17*; 4, мал. 32; 43, мал. 166:*16*; мал. 135:*4*].

Варта звярнуць увагу на гладкія сплошчаныя, выцягнутай лістападобнай формы, з няправільна авальным, сегментападобным сячэннем пяра, з двума бакавымі пазамі (1 экз.) (мал. 3:*1*), з адным бакавым пазам наканечнікі (мал. 3:*2*), у якіх фіксуюцца рэшткі смалістага рэчыва. С. Казлоўскі адносіць такія наканечнікі з тэрыторыі Польшчы, Прыбалтыкі, Паўночнай Еўропы да найбольш характэрных вырабаў янілавіцкай культуры [40, с. 143, мал. 1; 37, с. 170, табл. 58:*13*].

Б) Гладкія доўгія вузкія наканечнікі падпрамакутнага, авальнага, круглага сячэння з доўгім тонкім вастрыём і двума бакавымі пазамі ў верхняй частцы (2 экз.) (мал. 3:*3, 4*). Даўжыня да 27 см. Насад вылучаецца ледзь прыкметным патаўшчэннем.

В) Гладкія доўгія вузкія з паралельнымі бакамі, круглага, авальнага сячэння з прытупленым вастрыём і двума бакавымі пазамі, якія прасочваюцца ў верхняй частцы вырабаў і сходзяцца на вастры (3 экз. і абломкі) (мал. 3:*6*). Ніжняя палова аднаго з такіх наканечнікаў аздоб-




Мал. 3. Касцяныя наканечнікі дроцікаў *(1—9, 11, 15)*, гарпуны *(10, 12, 14)*, рыбалоўны кручок *(13)*

лена кругавымі нарэзкамі па перыметры, паміж верхнімі групамі якіх нанесена ламаная лукатка з трыма рыскамі на адной з вяршынь (мал. 3:*8*). На насадзе аднаго з наканечнікаў гэтай разнавіднасці заўважаюцца кароткія папярочныя нарэзкі, якія павінны былі, як, дарэчы, і смалістае рэчыва, сляды якога тут бачны, спрыяць больш надзейнаму злучэнню наканечніка з дрэўкам (мал. 3:*11*). Аналогіі IB-наканечнікам вядомы з раскопак помнікаў мезалітычнага часу на Украіне [2, мал. 31:*1*; 25, мал. 1:*1, 16*] сярод рэчаў Аленевостраўскага могільніка, мезалітычных знаходак з Літвы, Браншчыны [23, мал. 2:*25*], Ніжняга Вярэцця 1.

Падгрупа 2. Наканечнікі з патаўшчэннем на пяры (2 экз.) (мал. 3:*9*) маюць круглае сячэнне і колцападобны папярочны выступ вакол верхняй перадвастрыйнай часткі вырабу. Даўжыня іх 18,4 і 13,8 см. Яны нагадваюць недатаваныя наканечнікі Шыгірскага тарфяніка [5, мал. 47:*3*], мезалітычныя знаходкі Ніжняга Вярэцця 1 [21, табл. 34:*1—3*], касцяныя наканечнікі з мезалітычных і ранненеалітычных слаёў стаянкі Іванаўскае 3 [12, мал. 2:*5*; 5, 7]. Заўважаюцца пэўныя аналогіі з наканечнікамі культуры Кунда [35, мал. 3:*11*; 39, табл. 27:*11*].

Падгрупа 3. Наканечнік доўгі з пашырэннем на вяршыні (мал. 3:7). Мае аднабаковае пляскатае пашырэнне ў верхняй частцы; сячэнне пяра — кругла-авальнае, насада — невыразна трохграннае. Аналогіі невядомы. Набліжаецца па форме да асіметрычных лопасных паўночнаеўрапейскіх наканечнікаў, характэрных для мезалітычных комплексаў: Ніжняе Вярэцце 1 [21, табл. 37], Аленевостраўскі могільнік [5, мал. 38:*7, 11*].

Падгрупа 4. Наканечнік з адным шыпом на вяршыні (мал. 3:*15*). Захавалася верхняя частка. Зроблены з сценкі полай косткі. Сплошчаны. Найбольш блізкія аналогіі вядомы ў Цэнтральнай Еўропе [39, табл. 27:*8*, с. 219]. Датуюцца мезалітычным часам. Да мезаліту, магчыма, ранняга неаліту, аднесены аналагічныя наканечнікі ва ўсходняй Прыбалтыцы [46, мал. 6, с. 25—38; 8, с. 126].

**Група III.** Гарпуны, ці, інакш, касцяныя здымныя зубчастыя наканечнікі, у якіх вылучаюць вастрыё, ствол, зубцы і насад [43; 36, табл. I].

Падгрупа 1. Аднабаковы невялікі гарпун (даўжыня каля 15 см), з косымі, паралельна густа размешчанымі зубцамі, з пляскатым падвостраным шырокім насадам, з выцягнута кроплепадобным сячэннем ствала (паводле

Кларка — тып 10, паводле Загорскай — II3A) (мал. 3:*10*) [8, с. 131]. На насадзе, пад ніжнім зубцом, маецца глыбокі прарэз для мацавання гарпуна. Тыпова мезалітычная прылада.

Падгрупа 2. Аднабаковы гарпун з рэдка размешчанымі косымі зубцамі (мал. 3:*14*). Можа датавацца мезалітам — раннім неалітам [21, табл. 32; 33, мал. 1:*20*].

Падгрупа 3. Аднабаковы гарпун з буйным дзюбападобным зубам на вастрыі, няправільна авальным сячэннем ствала і крута патоўшчаным насадам (мал. 3:*12*). Даўжыня — крыху болей за 17 см. У нейкай ступені ён ідэнтыфікуецца з гарпунамі II4 (паводле Загорскай). Па форме насада, ствала, зубца зблiжаецца з позненеалітычным гарпуном Асаўца 2 [2, мал. 9], гарпунамі сярэдненеалітычнага часу з стаянак на Лубанскім возеры [45, табл. 4:*2, 3*], знаходкамі на помніках з ямачна-грабеньчатай керамікай [3, мал. 133:*3*].

**Група IV.** Кінжалы. Буйныя калючыя вастрыі прыстасаваны для трымання ў руцэ.

Падгрупа 1. Шырокія пляскатыя з двухбаковымі пазамі (2 экз.). Адзін з іх захаваўся цалкам, даўжыня — 29 см (мал. 4:*4*). Зроблены з сценкі трубчастай косткі. Вастрыё бяспазавае, пашыранае. Лязо другога кінжала завужанае, з бакавымі пазамі, што заходзяць і на вастрыё. Заўважаецца некалькі косых папярочных пракрэсленых рысак (мал. 4:*11*). Аналагічны некаторым кінжалам Ніжняга Вярэцця 1 [21, табл. 4:*42*; мал. 28], Аленевостраўскага могільніка (пахаванне 100) [5, мал. 62:*1*].

Падгрупа 2. Вузкі, параўнальна кароткі кінжал з двухбаковымі пазамі і пашыраным бяспазавым вастрыём (мал. 6:*1*). Лязо пляската-рабрыстае. Яго пляскатая паверхня аздоблена наразным арнаментальным малюнкам, кампазіцыя якога складаецца з ламанай лукаткі і дзвюх ліній з кароткімі амаль рэгулярнымі косымі прырэзкамі. Кінжал зроблены з сценкі полай косткі, рэшткі абрэзанага эпіфіза якой захаваліся. Прамыя аналогіі нам невядомы. Беручы пад увагу наяўнасць бакавых пазоў і спецыфіку арнаментацыі кінжала, маюцца падставы атаясамліваць яго з мезалітычнымі прыладамі. Спалучэнне арнаментаў тыпу лукаткі і прамой лініі з кароткімі косымі прырэзкамі характэрна галоўным чынам для мезалітычных касцяных прыладаў (напрыклад, Прыбалтыкі) [17, с. 33—34, табл. 5:*6*].

Падгрупа 3. Захаваліся вастрыі, абломкі лёзаў 5—6 кінжалаў, у якіх адна з граняў прыплошчана (мал. 4:*14*).




Мал. 4. Касцяныя вастраканечнікі *(1—2, 8)*, кінжалы *(3—4, 7, 11, 13, 14)*, долаты *(5, 9, 10, 12)*, долатападобная прылада (матыка?) *(6)*

Аддалена нагадваюць прыбалтыйскія, так званыя прылады пад вуглом 45°.

Падгрупа 4. Кінжал з косткі мядзведзя * (мал. 4:*7*). Вастрыё кінжала ўтворана косымі прадольнымі зрэзамі. Лязо моцна запаліравана.

Сярод знаходак сустракаюцца і іншыя, магчыма, кінжалападобныя касцяныя прылады (мал. 4:*3, 13*).

**Група V.** Долаты. Налічваюцца рэшткі 7 долатаў, долатападобных. Вылучаюцца абломкі трох з іх, зробленых з сценак шырокіх трубчастых костак (мал. 4:*9*). Лёзы шырокія, пляскатыя, закругленыя. Паверхня незапаліраваная. Вядомы сярод матэрыялаў мезалітычнага часу [5, мал. 72:*1*; 24, мал. 29:*6*], але ў найбольшай ступені характэрны для неаліту [10; мал. 1:*22*; 13, табл. 57:*37*; 48, табл. 19:*19*; 15, табл. 30:*4*; 20, мал. 22:*9*; 4, мал. 99; 11, мал. 4:*13, 14*; 32, мал. 36:*9*].

Знойдзена ніжняя частка долата, якое зроблена з сценкі трубчастай косткі лася і мае ў папярочным разрэзе паўкруглае лязо (мал. 4:*12*). Такія долаты, мусіць, з'яўляюцца ў канцы мезаліту [16, табл. 3:*2, 9*], але найчасцей ужываюцца ўжо неалітычным насельніцтвам [34, табл. 58:*11*; 26, мал. 61:*34*].

Сярод вырабаў групы V варта вылучыць вастрыё долатападобнай прылады з сплошчанымі бакамі (мал. 4:*10*) і невялікае долата з завужаным лязом і слядамі надрэзу па верхнім краі ствала (мал. 4:*5*). Першае мае аналогіі на помніках канца неаліту — пачатку эпохі бронзы [43, мал. 166:*13, 14*; 19, мал. 8:*10*; 15, табл. 30:*3, 5*; 2, мал. 1:*2*], другое зближаецца па форме з долатцам сярэдненеалітычнага пласта паселішча Звідзе [16, табл. 17:*2, 7, 15*].

Выходзячы з агульных марфалагічных адзнак, да долатападобных можна было б аднесці параўнальна буйную прыладу з метаподзія лася (мал. 4:*6*). Лязо падрыхтавана косым зрэзам косткі, верхняя частка якой мае шырокую вертыкальную адтуліну для мацавання рукаяткі. Ствол і асабліва лязо моцна запаліраваны. Згодна з трасалагічным аналізам, яны маглі выкарыстоўвацца як матыкі [28]. Крыху больш карацейшыя і шырэйшыя матыкі такога тыпу (буга-дністроўскага) вядомы ўжо на трэцяй

* Тут і ніжэй вызначэнне астэалагічнага матэрыялу праведзена Н. П. Александровіч, за што аўтар выказвае шаноўнай спадарыні падзяку.

фазе буга-дністроўскай культуры [6, мал. 126:*2*]. Матыка такога тыпу знойдзена на Камені 2 [11, мал. 4:*4*], паселішчах нарвенскай культуры [44, мал. 67]. Такія ж масіўныя прылады з метаподзій лася вядомы на Цэдмары [28, мал. 1:*3*], у Гарадку на Валыні (гарадоцкі этап гарадоцка-здолбіцкай культуры) [22, мал. 26:*5*].

**Група VI.** Матыкі рагавыя. Захаваліся: свідраваная матыка са зламанаю абушковаю часткаю (мал. 5:*5*),




Мал. 5. Рагавыя цёслы *(1, 3, 4, 8)*, кувадлачка (?) *(2)*, матыка *(5)*, адціскальнік *(9)*, рэтушоры *(6, 7)*

рэшткі другой свідраванай матыкі, абломкі асобных частак іншых матык. Матыкі зроблены з шырокіх асноўных адросткаў і прылеглай часткі лапаты ласінага рога. Матыка моцна запаліравана. Рагавыя свідраваныя матыкі ўжываліся як мезалітычным, так і неалітычным насельніцтвам [24, мал. 29:*7*; 7, мал. 2:*18*; 33, мал. 1:*15*; 44, мал. 59:*6*; 43, мал. 135:*19*]. У неалітычны час лёзы рагавых матык хутчэй за ўсё набываюць падпрамакутныя, трапецападобныя ў плане абрысы, адтуліны дасканала свідруюцца.

**Група VII.** Цяслападобныя рагавыя вырабы. Налічваюцца абломкі ад 7 такіх прылад. Большасць з іх — цёслы авальнага сячэння з завужанымі абушкамі і шырокімі (мал. 5:*1, 8*) або вузкімі лёзамі (мал. 5:*4*). Зрэдку сустракаюцца ўжо на мезалітычных стаянках (Звідзе, Сулягалс, Ніжняе Вярэцце 1), але варта адзначыць, што яны найбольш характэрны для неалітычных комплексаў (Камень 2, Кратуонас 1Б, Абора 1, Оса, Звідзе, Крывіна 3, Асавец 2, Пагарэлаўка-Каса, Каэпа і інш.). Нязвыкла выглядае вузкае цяслападобнае рагавое прыстасаванне, у якога лязо і абушок аформлены амаль паралельнымі супрацьлеглымі вертыкальнымі зрэзамі (мал. 5:*3*). Нагадвае рагавы выраб з Валыні (трыпольская культура) [1, мал. 7:*22*].

**Група VIII.** Рагавыя адціскальнікі, рэтушоры. Да гэтай групы вырабаў можна аднесці 4 прылады. Тры з іх зроблены з пальцападобных адросткаў і прылеглага краю лапаты ласінага рога (мал. 5:*9*). Адростак мае падпраўленае адшліфаванае вастрыё, кончык якога спрацаваны і прытуплены. Верхняя пашыраная сплошчаная частка падпраўлена бакавымі зрэзамі. Аналагічныя вырабы знойдзены на паселішчах Крывінскага тарфяніку (М. М. Чарняўскі), адзначаюцца сярод неалітычных знаходак Літвы (Крэчы), Падзясення (Пагарэлаўка).

У якасці пасрэдніка ці рэтушора маглі выкарыстоўвацца і некаторыя іншыя рагавыя вырабы (мал. 5:*6, 7*).

**Група IX.** Касцяны рыбалоўны кручок (1 экз.) (мал. 3:*13*). Паводле класіфікацыі І. А. Загорскай [47, с. 85—102, табл. 4], адносіцца да групы цэльных кручкоў з гладкім джалам і U-падобным абушком. Галоўка кручка моцна завужаная, мае зубчасты востраканечны выступ. Серыя блізкіх па форме кручкоў выяўлена на паселішчы Пагарэлаўка (ур. Каса) [20, мал. 22:*1—5*]. Аднесены да сярэдняга этапу развіцця ямачна-грабеньчатай керамікі

(канец IV — першая палова III тыс. да н. э.). Пэўныя аналогіі назіраюцца ў Прыбалтыцы.

**Група X.** Праколкі. Знойдзена некалькі праколак з рабрын даўжынёю ад 4,7 да 16,5 см (мал. 6:*3*). Магчыма, у якасці праколак выкарыстоўваліся коса зрэзаныя іклы дзіка (мал. 6:*5*), падвостраныя трубчастыя тонкія птушыныя косткі.




Мал. 6. Касцяны кінжал *(1)*, крук (?) *(2)*, праколкі з рабрыны *(3)* і ікла *(5)*, падвескі з ікла мядзведзя *(4)* і ласінага разца *(6)*, птушыная костка з малюнкам (уверсе — разгортка) *(7)*, апрацаваная ласіная костка з двухбаковымі выявамі *(8)*

**Група XI.** Касцяныя вастраканечнікі. Гэта масіўныя вастраканечныя прылады, якія маглі выкарыстоўвацца ў якасці пешняў, рагацін і г. д. Налічваюцца рэшткі ад 33—37 вырабаў.

Падгрупа 1. Вастраканечнікі, якія зроблены з плюсневай (дыстальная частка) косткі лася. Эпіфізы неапрацаваныя. Знойдзены адзін цэлы (даўжыня 28,3 см) (мал. 4:*1*) і рэшткі яшчэ 11 экземпляраў.

Падгрупа 2. Вастраканечнікі (10—12 экз.), што рабіліся з плюсневай ці пясцевай косткі метаподзія каня. Эпіфіз абрэзваўся (мал. 4:*8*).

Падгрупа 3. Вастраканечнікі (8—9 экз.), якія рабіліся з плюсневых і пясцевых костак лася (праксімальныя канцы). Вастрыё патоўшчанае, амаль трохкутнае ў разрэзе (мал. 4:*2*).

Падгрупа 4. Вастраканечнікі (3—4 экз.) з пясцевых костак лася (дыстальныя канцы, сценкі дыяфіза). Вастрыё шырокае.

Апісаныя вастраканечнікі сустракаюцца ў мезалітычных комплексах, на помніках неалітычнага і энеалітычнага часу.

**Група XII.** Падвескі (2 экз.). Рабіліся з іклаў мядзведзя (мал. 6:*4*), ласінага разца (мал. 6:*6*). Карысталіся папулярнасцю не толькі ў эпоху каменя, але і ў больш пазнейшыя часы.

**Група XIII.** Іншыя касцяныя і рагавыя вырабы. Да гэтай групы аднесены адзінкавыя рэдкія знаходкі. Сярод іх найперш варта вылучыць абломак птушынай косткі, эпіфіз якой абрэзаны. На костцы тонкімі, ледзь прыкметнымі кароткімі рыскамі-драпінамі нанесены малюнак, кампазіцыйным цэнтрам якога з'яўляецца зааморфная выява, што адлюстроўвае нейкую істоту (ласяʔ) падчас імклівага бегу (мал. 6:7). Цела жывёлы заштрыхавана здвоенымі папярочнымі радамі. Ногі абапіраюцца на лукаткападобны дол. Ад задняй нагі цягнецца лукатка, ад якой адыходзяць вертыкальныя пункцірныя лініі.

Унікальным з'яўляецца малюнак, што нанесены на зламаную локцевую костку лася, бакавая частка якой вертыкальна абрэзана. На гладкай паверхні косткі з двух бакоў выгравіраваны тры выявы, дзве з якіх антрапаморфныя. Выявы вырэзваліся тонкім разцом. У трохпалую левую пясць рукі «чалавека-скакуна» з авальнай галавою ўпіраецца рукаятка сякеры (?). Каля правай нагі — ромбік з чатырма рыскамі, якія адыходзяць ад прамой,

што з'яўляецца працягам адной з бакавін ромба (заморфная выява?). На другім баку косткі — бязрукі «чалавек-скакун» з галавою-ромбам (мал. 6:*8*). Адзначаючы пэўныя рысы стылістыкі і зместу малюнкаў, першы твор папярэдне можа датавацца мезалітычным, а другі — позненеалітычным часам.

Сярод іншых вырабаў адзначым рагавое прыстасаванне, якое магло выкарыстоўвацца ў якасці пасрэдніка ці кувадлачка (мал. 5:*2*) [32, мал. 2:*2*], а таксама крукападобную прыладу з сценкі трубчастай косткі (мал. 6:*2*) (прыстасаванне для пляцення?).

Ідэнтыфікацыя касцяных і рагавых вырабаў Азярнога 2Б з матэрыяламі іншых помнікаў каменнага веку Беларусі і суседніх тэрыторый дазваляе папярэдне вылучыць больш-менш акрэслена мезалітычны і неалітычны комплексы. Да першага можна аднесці іголкападобныя наканечнікі стрэл, гладкія сплошчаныя наканечнікі дроцікаў лістападобнай формы з бакавымі пазамі, гладкія доўгія вузкія наканечнікі дроцікаў падпрамакутнага, авальна-круглага сячэння з доўгім тонкім вастрыём і двума бакавымі пазамі ў верхняй частцы, наканечнікі дроцікаў з пашырэннем на вяршыні, з адным шыпом на вяршыні, гарпун аднабаковы з косымі зубцамі, кінжалы шырокія пляскатыя з двухбаковымі пазамі і, магчыма, некаторыя іншыя прылады.

Неалітычны комплекс вырабаў складаецца з некалькіх наканечнікаў стрэл (конусападобных з плаўна пашыранаю сярэдняю часткаю стрыжня, некаторых гладкіх і пляскатых), гладкіх патоўшчаных верацёнападобных наканечнікаў дроцікаў, аднабаковых гарпуноў з буйным дзюбападобным зубцом на вастрыі, долата з паўкруглым у папярочным разрэзе лязом, долата з сплошчанымі бакамі, завужаным лязом, долатападобнага (матыкі?) прыстасавання з метаподзія лася і з шырокай вертыкальнай адтулінай для мацавання рукаяткі, большасці цяслападобных рагавых вырабаў, касцянога кручка, косткі з антрапаморфнымі выявамі.

Пераважная большасць вызначаных тыпаў касцяных і рагавых вырабаў адпаведна мае паралелі найперш у яніславіцкай, кундайскай мезалітычных, у днепра-данецкай, нёманскай, нарвенскай неалітычных культурах. Разам з тым некаторыя касцяныя прыстасаванні не маюць адпаведных аналогій сярод вядомых дагэтуль комплексаў вырабаў з косці і рогу. У дачыненні да мезалітычных па

свайму характару знаходак з Азярнога 2Б варта заўважыць, што на раздуве мысападобнага выступа (Азярное 1) намі абследаваўся мезалітычны комплекс крамянёвых вырабаў. Па меркаванню В. Я. Кудрашова, ён ідэнтыфікуецца як комплекс кудлаеўскай мезалітычнай культуры; таму не выключана, што касцяныя і рагавыя вырабы Азярнога 2Б маюць дачыненне і да кудлаеўскай культуры, касцяная індустрыя якой дагэтуль застаецца невядомай.

Сярод знойдзенага ў Азярным 2Б керамічнага посуду, які спадарожнічае касцяному і рагавому інвентару, можна вылучыць комплексы сярэднедняпроўскай і днепра-данецкай культур. Першы налічвае 49, другі — 1094 абломкі (рэшткі каля 100 пасудзін) (адпаведна 4,28 і 95,72%). Бясспрэчная перавага неалітычнага посуду ў агульнай масе керамічнага матэрыялу дазваляе нам звязваць неалітычныя касцяныя і рагавыя вырабы з часам адкладання ў слаях Азярнога 2Б керамікі днепра-данецкай культуры. Па сваіх асноўных паказчыках неалітычны посуд Азярнога 2Б (мал. 7) зближаецца з позненеалітычнымі ўсходнепалескімі помнікамі днепра-данецкай культуры, у прыватнасці з паселішчамі Юравічы 4. Адсутнасць лапчастых, шнуравых арнаментаў, невялікі працэнт лінейных штампаў, параўнальна вялікая колькасць пасудзін з слабапрафіляванымі венчыкамі, прысутнасць раслінных дамешак у гліняным цесце дазваляюць адносіць неалітычны керамічны матэрыял Азярнога 2Б да больш ранняга часу, чым IV этап днепра-данецкай культуры, і датаваць адпаведна не пазней канца III тыс. да н. э.

У крамянёвай вытворчасці выкарыстоўваўся галоўным чынам мясцовы валунны (галечны) крэмень. Трапляюцца рэшткі шэрага, цёмна-шэрага крэменю з слядамі белай вапнавай коркі. Значная частка крэменю мае моцныя пашкоджанні і дайшла ў выглядзе бясформенных кавалкаў. Сярод іх можна вылучыць 25 нуклеусаў, большасць з якіх — шматпляцовачныя, аморфныя, прыстасаваныя да атрымання адшчэпаў. Налічваецца 18 пласцін без рэтушы і 11 — з слядамі рэтушы па краі, 14 краявых сколаў нуклеуса, сярод якіх 5 краявых сколаў з слядамі рэтушавання. Акрамя таго, знойдзены нож па пласціне з скошанаю рэтушшу спінкаю (мал. 8:*2*), дзве сякеры (мал. 8:*10, 11*), рэтушор на масіўным падпрамакутнага сячэння стрыжні (мал. 8:*1*), рэшткі пласціны са скошанаю спінкаю, пласцінкі з разцовымі сколамі (?) на адным з вуг-




Мал. 7. Неалітычная кераміка з воз. Вячэра

лоў (мал. 8:*6*), скрабкі (мал. 8:*7, 9, 12, 13*). Асобна варта вылучыць чаранковы наканечнік стралы на пласціне, чаранок якога ўтвораны крутым рэтушаваннем са спінкі і падпраўлены з брушка (мал. 8:*4, 5*). У якасці наканечніка стралы выкарыстоўваліся, відаць, пласціна з крутым рэтушаваннем са спінкі на месцы чаранка (мал. 8:*3*), а таксама пласціна з крута падрэтушаваным на спінцы вастрыём і чаранком, які падпраўлены з брушка (мал. 8:*8*). Параўнальная малалікасць і недастатковае прадстаўніцтва крамянёвай калекцыі Азярнога 2Б не дазваляюць зрабіць пэўнае іх культурна-храналагічнае вызначэнне.

Калі ў дачыненні да мезалітычных вырабаў можна дапусціць, што яны трапілі ў возера выпадкова падчас рыбнай лоўлі, палявання, то ў адносінах да неалітычнага




Мал. 8. Крамянёвыя вырабы з воз. Вячэра

комплексу найбольш прымальна растлумачыць іх знаходжанне ў азёрных донных напластаваннях функцыяніраваннем на месцы Азярнога 2Б паселішча, культурныя пласты якога апынуліся пад вадою. Ускосна пра гэта можа сведчыць наступнае: у вялікай колькасці прысутнічае керамічны посуд, які да таго ж мае наяўныя сляды выкарыстання ў якасці кухоннага (параўнальна тоўсты слой нагару); сярод касцяных і рагавых рэчаў вылучаецца цэлы шэраг прыстасаванняў, якія маглі ўжывацца для капання, апрацоўкі дрэва і г. д. Нельга выключыць і тое, што неалітычныя адкладанні Азярнога 2Б сфарміраваліся ў выніку ўзвядзення на возеры палевага паселішча. Адзначым у сувязі з гэтым, што ў III тыс. да н. э. актыўна будуюцца палевыя пасёлкі на вадзе Усвяцкага, Жыжыцкага азёр Пскоўшчыны, а таксама, магчыма, і на азёрах Беларусі (К. М. Палікарповіч, У. Ф. Ісаенка).

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Археология Прикарпатья, Волыни и Закарпатья (энеолит, бронза и раннее железо). Киев, 1990. 188 с.
2. Белорусская археология. Мн., 1987. 127 с.
3. Гаврилова И. В. Неолитические племена Костромского Поволжья // Этнокультурные общества лесной и лесостепной зоны европейской части СССР в эпоху неолита. Л., 1973. С. 130—137.
4. Гирининкас А. Крятуонас. Средний и поздний неолит // Археология Литвы. 1990. № 7. 112 с.
5. Гурина Н. Н. Оленеостровский могильник. М., 1956. 432 с.
6. Даниленко В. Н. Неолит Украины. Киев, 1969. 260 с.
7. Загорская И., Загорскис Ф. Мезолит Литвы // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та археологии АН СССР. 1977. Вып. 149. С. 69—75.
8. Загорская И. А. Костяные и роговые орудия и гарпуны каменного века из Восточной Прибалтики // Орудия каменного века. Киев, 1978. С. 132—136.
9. Загорская И. А. Костяные орудия охоты и рыболовства каменного века на территории Латвии. Автореф. дис. ... канд. ист. наук. Вильнюс, 1983. 24 с.
10. Загорскис Ф. А., Эберхардс Г. Я., Стелле В. Я., Якубовская И. Я. Оса —многослойное поселение эпохи мезолита и неолита на Лубанской низине (Латвийская ССР) // Археология и палеогеография мезолита и неолита Русской равнины. М., 1984. С. 55—67.
11. Исаенко В. Ф. О полесском неолите // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Л., 1983. С. 64—73.
12. Крайнов Д. Я., Хотинский И. А. Ивановские стоянки — комплекс мезо- и неолитических озерно-болотных поселений на Волго-Окском междуречье // Археология и палеогеография мезолита и неолита Русской равнины. М., 1984. С. 92—109.
13. Левенок В. П. Неолитические племена лесостепной зоны европейской части СССР // Этнокультурные общности лесной и лесостепной

зоны европейской части СССР в эпоху неолита. Л., 1973. С. 187—201.
14. Лозе И. А., Лийве А. А., Стелле В. Я., Эберхардс Г. Я., Якубовская И. Я. Звидзе — многослойное поселение эпох мезолита и неолита на Лубанской низине (Латвийская ССР) // Археология и палеогеография мезолита и неолита Русской равнины. М., 1984. С. 40—55.
15. Лозе И. А. Поздний неолит и ранняя бронза Лубанской равнины. Рига, 1979. 204 с.
16. Лозе И. А. Поселения каменного века Лубанской низины (мезолит, ранний и средний неолит). Рига, 1988. 211 с.
17. Лозе И. А. Рисунки и орнаментация на костяных и роговых предметах эпохи камня Латвии // Известия АН Латвийской ССР. 1968. № 11. С. 28—36.
18. Мезолит СССР. М., 1989.
19. Микляев А. М., Семенов В. А. Свайное поселение на Жижицком озере // Труды Государственного Эрмитажа. Л., 1979. Т. 20. С. 6—22.
20. Неприна В. И. Неолит ямочно-гребенчатой керамики на Украине. Киев, 1976. 152 с.
21. Ошибкина С. В. Мезолит бассейна Сухоны и Восточного Прионежья. М., 1983. 296 с.
22. Свешніков І. К. Історія населення Передкарпаття, Поділля і Волині в кінці III — на пачатку II тыс. до н. э. Київ, 1974. 206 с.
23. Смирнов А. С. Неолитические памятники Запада Брянской обл. // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та археологии АН СССР. 1981. № 169. С. 61—67.
24. Телегин Д. Я. Мезолітічні пам'ятки України (IX—VI тисячоліття до н. е.). Київ, 1982. 256 с.
25. Телегин Д. Я. Мезолит Левобережной Украины и его место в сложении днепро-донецкой неолитической культуры // У истоков древних культур (эпохи мезолита). М., 1966. С. 99—107.
26. Телегин Д. Я. Неолитические памятники Северной Украины и Южной Белоруссии // Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны европейской части СССР в эпоху неолита. Л., 1973. С. 173—183.
27. Телегин Д. Я. Памятники эпохи мезолита на территории Украинской ССР. Киев, 1985. 184 с.
28. Тимофеев В. И. Изделия из кости и рога неолитической стоянки Цедмар (Серово) Д // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та археологии АН СССР. 1981. Вып. 165. С. 115—119.
29. Уткин А. В. Костяные изделия со стоянок Берендеево IV и VIII // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та археологии АН СССР. 1984. Вып. 177. С. 52—56.
30. Цветкова И. К. Неолитические племена Рязанского течения р. Оки // Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны европейской части СССР в эпоху неолита. Л., 1973. С. 138—145.
31. Чернявский М. М. Исследование неолитических поселений Кривинского торфяника // Древности Белоруссии. Мн., 1969. С. 71—88.
32. Чернявский М. М. Новое неолитическое поселение на Кривинском торфянике // Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР (ноябрь 1967). Мн., 1967. С. 372—385.
33. Чернявский М. М. Хронологические рамки неолита северо-западной Белоруссии // Кратк. сообщ. о докл. и полевых исслед. Ин-та археологии АН СССР. 1978. № 153. С. 42—46.
34. Янитс Л. Ю. Неолитические памятники Эстонии и их хронология // Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны европейской части СССР в эпоху неолита. Л., 1973. С. 202—209.
35. Янитс Л. Ю. Новые данные по мезолиту Эстонии // У истоков древних культур (эпоха мезолита). М., 1966. С. 114—123.

36. Julien M. Harpons unilaté raux et Bilatéraux Evolution morfologique on adaption différenciée? // Coloques Internationaux du C. N. R. S. 1976. N 568. P. 179—189.
37. Kozłowski J. K., Kozłowski S. K. Upper Palaeolithic and Mezolitinic in Europe. Warszawa, 1979. 179 s.
38. Kozłowski J. K., Kozłowski S. K. Pradzieje Europy od XL do IV tysiącelecia p. n. e. Warszawa, 1975. 504 s.
39. Kozłowski S. K. Cultural Differention of Europe from 10-th to 5-th Milleniun B. C. Warszawa, 1975. 259 s.
40. Kozłowski S. K. Z problemawatyki polskiego Mezolitu (Kosciane harpuny i ostrza mezolityczne) // Swiatowit. 1969. T. 30. S. 135—152.
41. Lietuvos TSR Archeologijos Atlasas. T. 1. Vilnius, 1974. 248 s.
42. Machnik J. Studia had kulturą ceramiki sznurkowej w Małopolsce. Warszawa, 1966.
43. Prahistoria ziem Polskich. T. 2: Neolit. Warszawa, 1979.
44. Rimantienė R. Akmens amžius Lietuvoje. Vilnius, 1984. 343 s.
45. Zagorska J. Akmens Laikmeta Harpūnas Latvijā // Известия АН Латвийской ССР. 1972, № 8. С. 80—98.
46. Zagorska J. Vidēja akmens laikmeta zivjuškēpi Latvijā // Arheologia un etnografija. 1974. N 11. S. 25—38.
47. Zagorska J. Viengabala kaula makškeresāki Latvijā // Известия АН Латвийской ССР. 1977. № 8. С. 85—102.
48. Zagorskis F. Zvejnieku akmens Laikmeta kapulanks. Riga, 1987. 136 s.
49. Zagorskis F. Zveinīeku akmens laikmeta kapulanks apbedījumu tipologija un hronologija // Arheologija un etnografija. 1974. N 9. S. 7—24.

*Алег Макушнікаў*

## МОГІЛЬНІК НІСІМКАВІЧЫ І КАЛЯ ЧАЧЭРСКА

### (Археалагічны каментарый да летапісных звестак пра пахавальныя абрады радзімічаў)

На паўднёвы ўсход ад вёскі Нісімкавічы Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці на абодвух берагах р. Покаці (левы прыток Сожа) размешчаны комплекс археалагічных помнікаў жалезнага веку і сярэднявечча, які займае плошчу ў некалькі гектараў і ў склад якога ўваходзяць: гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур (ур. Курган), курганны могільнік (дзве групы — на правым і на левым беразе ракі, у канцы XIX ст. налічваў каля 200 насыпаў) з трупапакладаннем і радзіміцкім інвентаром канца X — пачатку XII ст., селішча калочынскай культуры і два могільнікі X—XIII стст. Нісімкавічы І (ур. Белая Гара), два селішчы ад другой паловы І тыс. н. э. Нісімкавічы II, III (ур. Курганне, Белая Кручa), селішча

XI—XIII стст. Нісімкавічы IV (на ўскраіне сучаснай вёскі) і пасяленне першай паловы I тыс. н. э. Нісімкавічы V[1].

Незвычайны археалагічны матэрыял, цікавы для вывучэння культуры летапісных радзімічаў і менавіта працэсу развіцця пахавальнага абраду славянскага насельніцтва Пасожжа ў канцы I тыс. н. э., атрыманы пры даследаванні шматпластовага помніка Нісімкавічы I.

Помнік адкрыты аўтарам у 1982 г. у 0,35 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе Покаці ва ўрочышчы Белая (ці Лысая) Гара. Раскопкі, здзейсненыя ў 1982—1983 гг., сведчаць, што тут размешчаны неалітычная стаянка, грунтавы могільнік эпохі бронзы, калочынскае селішча трэцяй чвэрці I тыс. н. э., а таксама два грунтавыя могільнікі — канца I тыс. і пачатку II тыс. н. э. Кароткая інфармацыя пра помнік, якая патрабуе істотнай карэкціроўкі, ужо змешчана ў навукова-папулярнай публікацыі [4, с. 8—11].

Белая Гара займае край пясчанай надпоплаўнай тэрасы, які ўздымаецца на 5—7 м над узроўнем вады. Паўночная частка пляцоўкі занята сасоннікам, паўднёвая — пашкоджана кар'ерам і працэсам яраўтварэння. Над схілам да Покаці прасочваюцца некалькі курганападобных пагоркаў, верагодна, дзюннага паходжання. Мяркуючы па знаходках, у канцы I тыс. н. э. помнік займаў плошчу каля 140 (пн—пдз) $\times$ 50 (з—усх) м (мал. 1:*1*).

У 1982 г. у цэнтры помніка закладзены шурф (6 кв. м), а ў 1983 г. даследаванні вяліся трыма раскопкамі (I—III) агульнай плошчай 292 кв. м. Зафіксаваны культурны пласт магутнасцю ад 0,15 да 0,80 м, у якім вылучаюцца наступныя стратыграфічныя гарызонты: 1 — ворны пласт, пахаваны пад сучасным мурагом,— аморфны карычнявата-шэры пясок магутнасцю 0,15—0,30 м; 2 — цёмна-шэры з карычняватым адценнем пясок, дзе-нідзе з попелам, вуголлем, магутнасцю 0,10—0,20 м; 3 — светла-шэры з карычняватым адценнем слабагумусаваны пясок, месцамі

---

[1] Гарадзішча апісана Е. Р. Раманавым у канцы XIX ст. [1, с. 117, 122], раскопкі С. Я. Расадзіна 1982 г. [2, с. 367—368]; курганны могільнік — раскопкі Е. Р. Раманава [1, с. 122—123], У. У. Багамольнікава [3, с. 139—140; 4, с. 4, 14—17]; Нісімкавічы I — раскопкі А. А. Макушнікава 1982—1983 гг. [4, с. 8—11]; Нісімкавічы II — знойдзена У. А. Ліцвінавым у 1981 г., раскопкі А. А. Макушнікава 1982, 1984—1985 гг.— 1208 кв. м [4, с. 11—12; 5, с. 365—366]; Нісімкавічы III — раскопкі А. А. Макушнікава 1985 г.— 94 кв. м [4, с. 13]; Нісімкавічы IV — знойдзена В. Г. Пернікавым у 1961 г. [6, с. 249, № 907], раскопкі А. А. Макушнікава, А. І. Драбушэўскага 1985 г.




Мал. 1. Тапаграфія могільніка Нісімкавічы I *(1)*, археалагічныя матэрыялы могільніка *(2—9, 14)* і селішча *(10—13)*: *2* — жалезная фібула; *3* — шыфернае праселка; *4, 14* — нажы; *5* — цвік; *6* — бронзавая накладка; *7, 10* — бронзавыя бразготкі; *9* — жалезны выраб; *8* — глінянае праселка; *11—13* — шкляныя пацеркі

з попелам, магутнасцю да 0,30 м. Мацерыковая паверхня ў раскопах — жоўты бесструктурны пясок. Ворны пласт змяшчае некаторую колькасць старажытных рэчаў, але па знаходках сучасных вырабаў датуецца XIX—XX стст. Гарызонт 2 адклаўся ў другой палове I тыс. н. э., ён слаба насычаны ляпной керамікай калочынскай культуры і рэшткамі канца I тыс. Адзінкавыя крамянёвыя вырабы сустракаюцца тут у другасным заляганні. У раскопе II гэты гарызонт амаль знікае са стратыграфічнай калонкі, таму з'яўляецца магчымасць недзе тут правесці мяжу помніка. Гарызонт 3 рэпрэзентуе пласт неалітычнай стаянкі, але мае і адзінкавыя рэчы эпохі бронзы.

Стратыграфічныя назіранні і характар знаходак дазваляюць звязаць з часам адкладання гарызонтаў 2, 3 большасць археалагічных аб'ектаў. З гарызонтам 3 суадно-




Мал. 2. Нісімкавічы I, раскоп I: *а* — аб'екты X ст., *б* — аб'екты эпохі неаліту, бронзы, трэцяй чвэрці I тыс. н. э., XI—XIII стст.

сіцца група слупавых і іншых ям, а таксама кастрышча ў раскопах I—III (неаліт), два пахаванні-спаленні сярэднедняпроўскай культуры эпохі бронзы ў раскопе III. З гарызонтам 2 звязаны аб'екты калочынскай культуры (2 пабудовы, 9 ям) і канца I тыс. н. э. (яма 14а, пахаванні 2, 4—6, 9, кастрышчы 1, 2). Тры ямы былі без знаходак, таму іх культурная прыналежнасць дакладна не высветлена. Найбольш познімі аб'ектамі, якія парушаюць гарызонты 2, 3, з'яўляюцца 3 пахаванні з трупапакладаннямі ў ямах, што датуюцца XI—XIII стст. (мал. 2; 3).




Мал. 3. Нісімкавічы I, раскоп III: *а* — аб'екты X ст.; *б* — аб'екты эпохі неаліту, бронзы, трэцяй чвэрці I тыс. н. э., XI—XIII стст.

Наяўнасць на Белай Гары пабудоў і гаспадарчых ям сведчыць, што ў калочынскі час тут знаходзілася селішча плошчай каля 0,5 га. У канцы I тыс. н. э. характар выкарыстання пляцоўкі змяняецца: тут з'яўляецца бескурганны могільнік са спаленнямі, а яшчэ пазней — могільнік з трупапакладаннямі. Пераходзім да апісання зацікавіўшых нас матэрыялаў канца I тыс. н. э.

Пахаванне 2 (мал. 5:*2*). Рэшткі спалення змешчаны ў круглую мацерыковую ямку з пляскатым дном, што парушае больш ранні аб'ект. Дыяметр яе па верхняй зачыстцы — 0,75 м, па дне — 0,64 м, глыбіня — 0,50 м. Запаўненне — цёмна-шэры з карычняватым адценнем пясок з вугольчыкамі, попелам, перапаленымі косткамі (16 экз.), невялічкім каменьчыкам, кавалачкамі раннекругавога посуду (14 фрагм.): 9 сценак гаршкоў са шматрадковым лінейным узорам, венчык, 4 сценкі без узору, у тым ліку адна абпаленая.

Пахаванне 4 (мал. 4:*3*). Рэшткі спалення (вугольчыкі, попел, 6 перапаленых костак, невыразны чарапок) знойдзены ў круглай мацерыковай ямцы з пляскатым дном. Яе дыяметр 0,45 м, глыбіня — 0,13 м.

Пахаванне 6 (мал. 4:*2*). Рэшткі спалення (вугольчыкі, попел, 10 перапаленых костак) — у круглай мацерыковай ямцы з пляскатым дном. Яе дыяметр па верхняй зачыстцы складае 0,44 м, глыбіня — 0,35 м.

Пахаванне 9 (мал. 5:*3*). Рэшткі спалення (вугольчыкі, попел, 14 перапаленых костак) ляжаць кампактным, круглым у плане скупчэннем дыяметрам каля 0,5 м у верхнім запаўненні больш ранняй ямы, што датуецца трэцяй чвэрцю I тыс. н. э.

Такім чынам, пахаванні 2, 4, 6, 9 дэманструюць рысы аднаго пахавальнага абраду. Усе яны — спаленні па-за межамі магіл, рэшткі змешчаны ў малыя грунтавыя ямкі з пляскатым дном. Для іх характэрны рэшткі пахавальнага кастра, малая колькасць перапаленых костак і адсутнасць рэчаў (акрамя асобных фрагментаў керамікі). Мяркуючы па форме ям, нельга выключаць выкарыстання ў пахаваннях берасцяных урнаў, якія, аднак, не захаваліся.

Да другой групы аб'ектаў могільніка аднесены пахаванні 3, 5, якія размешчаны паміж пахаваннямі 4, 6, 9.

Пахаванне 3 (мал. 6) — авальная лінза памерам 1,7×1,1 м, выцягнутая з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Яна фіксавалася ў гарызонце 2 па наяўнасці ву-




Мал. 4. Нісімкавічы I: *1* — пахаванне 5, кастрышча 1; *2* — пахаванне 6; *3* — пахаванне 4. Умоўныя пазначэнні: *а* — ворны пласт; *б* — цёмна-шэры з карычняватым адценнем пясок; *в* — светла-шэры з карычняватым адценнем пясок; *г* — перапаленыя косткі; *д* — фрагменты керамікі; *е* — попел; *ж* — вугаль; *з* — буйныя кавалкі абпаленай драўніны; *е* — камяні; *к* — мацярык




Мал. 5. Нісімкавічы I: *1* — кастрышча 2; *2* — пахаванне 2; *3* — пахаванне 9. Умоўныя пазначэнні гл. на мал. 4

голля, попелу і перапаленых костак. Таўшчыня лінзы складае 5—15 см. У пляме сабрана 231 костка, 5 фрагментаў раннекругавога посуду і 2 ляпныя (?) чарапкі, а таксама абпалены крамянёвы адшчэп.

Пахаванне 5 (мал. 4:*1*) — авальная лінза памерам 1,57×0,94 м, выцягнутая з захаду на ўсход. Яна таксама прасочвалася ў гарызонце 2 па наяўнасці вугалля, попелу і перапаленых костак. Месцамі яе таўшчыня дасягае 0,4 м. Паўднёвая частка пахавання «зліваецца» з лінзай кастрышча. У межах плямы сабрана 159 костак, 37 чарапкоў раннекругавых гаршкоў (мал. 7:*4*), а таксама некалькі знаходак неалітычнага часу ў другасным заляганні.

Пахаванні 3, 5 — трупаспаленні па-за межамі магіл, косткі ў якіх змешчаны з рэшткамі пахавальнага кастра. У адрозненне ад пахаванняў першай групы тут прысутнічае вялікая колькасць перапаленых костак. Самай адметнай рысай аб'ектаў другой групы з'яўляецца знаходжанне іх рэштак не ў ямках, а на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні. Пры гэтым косткі больш-менш раўнамерна раскіданы па ўсёй плошчы скупчэнняў. Для тлумачэння такіх незвычайных рысаў рытуалу трэба звярнуцца да іншых аб'ектаў могільніка.

Ёсць падставы меркаваць, што з пахавальным абрадам звязаны і два кастрышчы, даследаваныя на той жа глыбіні, што і пахаванні 3, 5. Кастрышча (мал. 4:*1*) раскапана каля пахаванняў 4, 6, 9. Культурныя рэшткі маюць выгляд авальнай плямы таўшчынёй да 0,25 м, памерам 3,3×1,8 м. Пляма выцягнута з усходу на захад. Запаўненне скла-




Мал. 6. Нісімкавічы I, пахаванне 3. Умоўныя пазначэнні гл. на мал. 4




Мал. 7. Нісімкавічы I, кругавая *(1—16, 18)* і ляпная *(17)* кераміка: *1, 17* — яма 14а; *2, 3, 6, 7, 11, 13, 18* — кастрышча 1; *4* — пахаванне 5; *5, 8—10, 12, 14—16* — кастрышча 2.

даецца з кавалкаў абпаленай драўніны, часткова абпаленых каменьчыкаў, попелу. Тут жа канцэнтруюцца кавалкі посуду, драбнейшыя фракцыі перапаленых костак (у выглядзе «рассеянага» косткавага «пылу»). Як адзначалася, кастрышча «зліваецца» з плямай пахавання 5. У межах кастрышча выяўлена 70 знаходак: адзінкавыя чарапкі, крамянёвыя прылады неалітычнага часу ў другасным заляганні, вялікая колькасць чарапкоў ад некалькіх раннекругавых гаршкоў, глінянае праселка (мал. 1:*8*; 7:*2—3, 6—7, 11, 13, 18*).

Кастрышча 2 (мал. 5:*1*) — авальная пляма таўшчынёй 0,2 м і памерам 3,3×1,7 м (пн—пдз), якая насычана вуголлем, попелам, абпаленымі каменьчыкамі, фрагментамі керамікі і «рассеяным» косткавым «пылам». Акрамя трох выпадковых адшчэпаў, тут зроблена 101 знаходка. У асноўным гэта часткі некалькіх раннекругавых гаршкоў, падобных да керамікі з кастрышча (мал. 7:*5, 8—10, 12, 14—16*). Знойдзены таксама бронзавая паясная накладка (мал. 1:*6*), частка жалезнага нажа (мал. 1:*14*), жалезны выраб у выглядзе кольца з «язычком» (мал. 1:*9*).

Яма 14а даследавана ў паўднёва-ўсходняй частцы раскопу I. Яе форма нагадвае авал памерам 2,2×2,6 м. Вузкае, пляскатае дно значна паглыблена ў мацярык. Агульная магутнасць запаўнення (цёмна-шэры пясок з попелам, вуголлем, вялікай колькасцю абпаленых каменьчыкаў) дасягае 1,15 м. Тут знойдзена шмат чарапкоў ад раннекругавых гаршкоў (мал. 7:*1*), а таксама кавалкі ляпной патэльні (мал. 7:*17*).

Як адзначалася вышэй, у культурным пласце (гарызонт 2) кераміка канца I тыс. н. э. сустракаецца зрэдку (кавалкі раннекругавых гаршкоў, асобныя фрагменты ляпных патэльняў). Так, на 1 кв. м. плошчы раскопу III прыпадае ў сярэднім 2 чарапкі, I — 1, II — 0,5. Іншых знаходак таксама мала: жалезныя нож, цвік, падковападобная фібула, бронзавая і грушападобная бразготка, ружовае шыфернае праселка (мал 1:*2—5, 7*). Верагодна, да канца I тыс. н. э. належыць і знойдзеная ў ворным пласце зялёная шкляная пацерка тыпу бісеру. Трэба адзначыць, што гарызонт 2 наогул пазбаўлены якіх-небудзь рэштkаў рамесніцтва (наадварот, у пласце канца I тыс. н. э. паселішча Нісімкавічы II іх вельмі шмат). Адсутнасць у Нісімкавічах I жыллёва-гаспадарчай забудовы разглядаемага перыяду дазваляе звязаць знаходкі, зробленыя па-за пахаваннямі, кастрышчамі, ямай 14а, са спецы-

фічным пластом, які адлюстроўвае выкарыстанне пляцоўкі ў якасці могільніка. Нязначны керамічны матэрыял, асобныя рэчы, верагодна, з'яўляюцца сведчаннем наведвання могільніка сваякамі памёршых, якія прыносілі сюды культавую ежу ці гатавалі яе на месцы. У гэтай сувязі яму 14а трэба інтэрпрэтаваць як сметнік, куды скідалі рэшткі стравы. Адсутнасць у яме і культурным пласце костак жывёл (абавязковых рэштак стравы) тлумачыцца іх гніеннем у пяску, які добра прамываецца вадой.

Матэрыялы могільніка рэпрэзентуюць дзве разнавіднасці пахаванняў-спаленняў. Характар пахаванняў у грунтавых ямках дастаткова выразны і знаходзіць аналагі ў пахавальным абрадзе культур і груп помнікаў лясной і лесастэпавай зон другой паловы I тыс. н. э., якія адназначна ці дапушчальна звязваюцца са славянскім этнасам [2]. Наадварот, «рассеяныя» спаленні мала ўпісваюцца ў традыцыйныя ўяўленні пра славянскі пахавальны рытуал: незвычайна выглядае высыпанне рэшткаў крэмацыі на дзённую паверхню без уладжвання магільнай ямы, перакрыцця костак грунтам ці ўзвядзення кургана. Большасць вядомых навуцы славянскіх пахавальных помнікаў другой паловы I тыс. н. э., а таксама самага пачатку II тыс.— грунтавых ці курганных, крэмацый ці інгумацый — заўсёды дэманструюць вялікую значнасць, якая надавалася ахове рэшткаў продкаў ад руйнавання пад уздзеяннем прыродна-кліматычных, антрапагенных ці іншых фактараў. Таму трэба меркаваць, што «рассеяныя» пахаванні Нісімкавічаў I першапачаткова, у перыяд функцыянавання могільніка, мелі аблічча, рэзка адметнае ад іх археалагічна зафіксаваных слядоў.

Могільнік Нісімкавічы I размешчаны ў цэнтры арэала рассялення радзімічаў і аднясенне ягоных пахаванняў да помнікаў гэтай славянскай групоўкі сумненняў не выклікае. Таму для тлумачэння характару Нісімкавіцкіх пахаванняў трэба звярнуцца да хрэстаматыйнага летапіснага

---

[2] Пахаванне рэшткаў крэмацыі ў бескурганных ямках ва ўмовах поўнай ці амаль поўнай адсутнасці суправаджальнага інвентару зафіксавана ў культурах трэцяй чвэрці I тыс. н. э.— пражскай (Германія, Польшча, Чэха-Славакія) [7, с. 133, 150, 186—187; 8, с. 173], пяньноўскай [8, с. 176—177; 9, с. 58—61], калочынскай [10, с. 32], тыпу Банцараўшчыны [10, с. 37], у арэале доўгіх курганоў [11], у старажытнасцях канца I тыс. н. э.—тыпу Лукі Райкавецкай [9, с. 58—61; 12, с. 218; 13, с. 217—218], заходнеславянскіх [12, с. 186]. Пахаванне такога характару знойдзена і ў арэале роменскай культуры [14, с. 314].

паведамлення пра звычаі радзімічаў, сутнасць якога пакуль што не знаходзіла адэкватных паралеляў у матэрыялах радзіміцкіх курганоў канца X — пачатку XII ст.[3] Доўгі час менавіта курганы выступаюць у якасці адзінага вядомага навуцы тыпу пахавальных помнікаў гэтай супольнасці. Супастаўленне новых археалагічных матэрыялаў з паведамленнямі летапісу правамерна ўжо па той прычыне, што «рассеяныя» пахаванні з Нісімкавічаў (храналогія аргументуецца ніжэй) сінхронныя сведчанням летапісных артыкулаў, якія ўпамінаюць радзімічаў у якасці этнапалітычнага аб'яднання. Як вядома, упершыню яны названы ў сувязі з падзеямі 885 г., а апошні раз — пад 984 г., інакш кажучы, «эпоха радзімічаў», згодна з летапіснай традыцыяй, ахоплівае ў асноўным перыяд да канца X ст. Калі строга прытрымлівацца менавіта летапіснай храналогіі, то і звесткі пра асаблівасці іхніх паганскіх абрадаў трэба праецыраваць пераважна на гэты час[4].

Звернемся да тэксту летапісу. Ён падае наступную інфармацыю. «И аше кто умряше, творяху тризну надъ нимъ, и по семъ творяху кладу велику, и възложахуть и на кладу, мертвеца сожъжаху, и по семъ собравше кости, вложаху в судину малу, и поставляху на столпе на путех...» [19, с. 15]. Значэнне тэрмінаў «тризна» (абрадавая ваенная гульня), «клада (крада)» (вялікі касцёр, вогнішча, «вогненнае кола»), «столп» (драўляная пабудова ў выглядзе дамка, дамавіна) грунтоўна разгледжана ў спецыяльнай працы Б. А. Рыбакова [20, с. 40—44]. Даследчык прасачыў археалагічна толькі некаторыя перажыткі элементаў гэтага абраду, у прыватнасці ў радзіміцкіх курганах канца X — пачатку XII ст. і боршаўскіх канца I тыс. н. э., дзе ў тых ці іншых спалучэннях (і толькі перыядычна) выступаюць «клада—крада», «столп»—да-

---

[3] Гэтае датаванне курганоў «зямлі радзімічаў», з якім трэба пагадзіцца, прапанавана У. У. Багамольнікавым і заснавана на грунтоўным аналізе рэчавых матэрыялаў пахаванняў [15, с. 71—72]. Пры вызначэнні храналогіі старажытнейшых курганоў радзімічаў, на наш погляд, нельга абапірацца на матэрыялы Кветуні (дзе, бясспрэчна, ёсць пахаванні сярэдзіны X ст., а можа, і больш ранейшыя), таму што атрыбутацыя могільніка ў якасці радзіміцкага вельмі спрэчная [17]. Што ж тычыцца адзінкавых курганоў са спаленнем, якія зрэдку сустракаюцца ў радзіміцкім арэале, то іх звычайна датуюць IX—X стст. [16, с. 110; 10, с. 154]. Разам з тым апошнія не маюць знаходак, якія б грунтоўна пацвярджалі іх раннюю дату.

мавіна, «судина мала» — пахавальная урна. Пры гэтым ніводны прааналізаваны даследчыкам помнік не з'яўляецца ды і не можа з'яўляцца поўным адлюстраваннем абраду, апісанага «Аповесцю мінулых часоў», бо ў летапісе размова ідзе пра бескурганнае пахаванне. Таму Б. А. Рыбакоў лічыў, што ў «дакурганны» перыяд «столпы» — дамавіны будаваліся па-над грунтавымі пахаваннямі [20, с. 40—42]. Прыкладаў жа апошніх ў археалагічных матэрыялах «зямлі радзімічаў» не было і Б. А. Рыбакову прыйшлося адзначыць, што «паміж курганамі, якія дайшлі да нас, і старадаўнім абрадам пахавання, зафіксаваным для радзімічаў летапісцам, адчуваецца некаторая прагаліна [16, с. 84]».

Наяўнасць драўляных дамавін (пазнейшых «бдыноў») па-над грунтавымі магіламі ўяўляецца рэальнасцю пры ўліку шырокіх этнаграфічных паралеляў і асабліва сведчання Казьмы Пражзскага аб хацінах па-над пахаваннямі славян, прызначаных для таго, каб там мелі магчымасць адпачываць душы нябожчыкаў [21, с. 119—120]. Аднак стваральнік «Аповесці мінулых часоў» меў на ўвазе не панадмагільныя збудаванні: з тэксту вынікае, што «столпы» самі з'яўляліся месцам захавання (урна была на «столпе»). Такім чынам, функцыі магілы выконвала панадземнае збудаванне, а рэшткі не былі засыпаны зямлёй. Такі пахавальны помнік ў адрозненне ад грунтавой магілы ці кургана не быў доўгатрывалым, хутчэй разбураўся. Атрымліваецца, археалагічна фіксуемыя рэшткі пахавання дадзенага тыпу (і толькі ў выпадку збегу спрыяльных абставін для іх захавання і выкарыстання археолагам дастаткова пільнай методыкі пошуку) павінны выступаць у выглядзе аморфных скупчэнняў спаленых костак, верагодна, чарапкоў і якіх-небудзь іншых рэштак на ўзроўні старажытнай дзённай паверхні.

Гэтым рэшткам адпавядаюць матэрыялы Нісімкавіцкіх пахаванняў 3, 5 і, верагодна, кастрышчаў 1, 2. Згодна з прапанаванай рэканструкцыяй, вынікі спалення, якія ўключалі рэшткі пахавальнага вогнішча, першапачаткова былі змешчаны ў панадземных «столпах» — дамавінах, а пасля знішчэння апошніх (у выніку гніення і г. д.) попел,

---

[4] Спроба аднесці час існавання звычаяў радзімічаў, зафіксаваных у летапісе, да часоў зарубінецкай культуры [20, с. 40—44] гіпатэтычная.

косткі, вуголле рассыпаліся, развейваліся на тых месцах, дзе раней знаходзіліся іх ёмістасці.

Нягледзячы на наяўнасць у плямах кастрышчаў драбнейшых фракцый спаленых костак, у іх нельга ўбачыць месца, дзе спальваліся трупы. Такія месцы знойдзены на шэрагу помнікаў Усходняй Еўропы другой паловы I тыс. н. э. і маюць іншы выгляд. Так, крэмацыйная пляцоўка на раннеславянскім могільніку Шумск каля Жытоміра, даследаваная І. П. Русанавай, уяўляла сабой магутнае вогнішча дыяметрам каля 8 м і была абкружана раўком шырынёй 1,2 м і глыбінёй да 0,3 м [12, с. 37]. Некалькі пляцовак для спалення выяўлена на могільніках прусаў [22, с. 183] — вялізныя ямы памерам да 10—15 м і глыбінёй да 0,5 м. У рэштках пахавальнага кастра прысутнічаюць перапаленыя косткі, фрагменты керамікі, металічныя вырабы. Нісімкавіцкія кастрышчы не маюць нічога агульнага з гэтымі аб'ектамі. Адрозненні асабліва выразна прасочваюцца ў памерах збудаванняў. Вельмі паказальна, што грунт, які падсцілае кастрышчы, не мае ніякіх прыкмет напаленасці. Апошняя абставіна, здаецца, сведчыць і супраць вызначэння іх у якасці своеасаблівых ахвярнікаў — вогнішчаў, выкладзеных на дзённай паверхні.

Больш дапушчальная інтэрпрэтацыя «кастрышчаў» як рэшткаў імітацый атапляльных збудаванняў і іншых дэталяў інтэр'ера са зруйнаваных дамавін [5]. «Злітнае» размяшчэнне рэшткаў пахавання 5 і кастрышча 1 тлумачыцца прыналежнасцю іх да аднаго «столпа». Верагодна, наяўнасць дробных фракцый костак у кастрышчы 2 таксама паказвае на прысутнасць у межах ягонай плямы слаба дыягнаставанага трупаспалення. Значная колькасць пабітага посуду ў двух «кастрышчах» сведчыць пра выкарыстанне ў інтэр'ерах дамавін набораў глінянага начыння ці (што не менш верагодна) на захаванне ў «столпах» рэшткаў не аднаго, а некалькіх пахаванняў у керамічных урнах.

[5] «Столп» з «Аповесці мінулых часоў» — гэта рэалізацыя ідэі культавага аналага драўлянага жылля. Ва ўсходнеславянскім фальклоры шмат прыкладаў, калі труна, магіла разглядаецца ў якасці пасмяротнага жылля і супастаўляецца з сапраўдным домам. У фальклорнай традыцыі прыстанішча нябожчыка завецца не толькі «дамавінай», «дамаў'ём», «дамком», але і «домам», «хатай», «хоромным строеньицем», «хороминкой», «светелкой», «горницей» и г. д. Гл., напр. [23, с. 57; 24, с. 139—145].

Нягледзячы на адсутнасць у пахаваннях датуючых рэчаў, ёсць сур'ёзныя падставы для вызначэння храналагічных межаў, у якіх на Белай Гары выконваліся пахаванні ў грунтавых ямках і на «столпах». Агульны выгляд керамікі з пахаванняў, кастрышчаў, ямы 14а і культурнага пласта, якая ўключае звыш 99% раннекругавога посуду (кавалкі гаршкоў) і менш за 0,5% ляпнога (фрагменты патэльняў), дазваляе аднесці яе да канца I тыс. н. э. Параўнальна вузкія даты даюць фібула і бразготка. Жалезныя падкавападобныя фібулы (з рамбічным сячэннем дугі), згодна з храналогіяй старажытнасцей Ноўгарада Вялікага, бытавалі ў X — сярэдзіне XI ст. [25, мал. 4], а ігрушападобныя бразготкі з насечкай — у X — пачатку XII ст. [26, табл. 1, № 44]. Наўрад ці раней X ст. магло трапіць у пласт могільніка і шыфернае праселка.

Ёсць надзейныя падставы меркаваць, што пахаванні на Белай Гары пакінуты жыхарамі бліжэйшага селішча Нісімкавічы II, якое размешчана за 0,2—0,3 км ад могільніка. Кераміка паселішча і могільніка ідэнтычная амаль па ўсіх параметрах; цікава, што тут і там знойдзены кавалкі гаршкоў, знятых з аднаго ганчарнага кола (вырабленых у адной майстэрні). Параўнальна багаты рэчавы матэрыял селішча дазваляе канкрэтызаваць час, калі праводзіліся трупаспаленні на Белай Гары.

Вызначэнне храналогіі паселішча абапіраецца на шэраг знаходак, з ліку якіх разглядаюцца толькі тыя, што знойдзены ў запаўненнях ям канца I тыс. н. э. разам з апісанай вышэй керамікай. Гэта 7 падвоеных і адзіночная лімонападобныя пацеркі жоўтага «глухога» шкла (мал. 1:*11*), бясколерная залачоная «лімонка» (мал. 1:*13*), 2 падвоеныя лімонападобныя сінія пацеркі (мал. 1:*12*), бронзавая ігрушападобная бразготка (мал. 1:*10*). У Ноўгарадзе лімонападобныя пацеркі характэрны для X ст., у нязначнай колькасці (разам з іншымі тыпамі больш позніх пацерак) сустракаюцца і пазней [25, мал. 6]; пры гэтым Ю. Л. Шчапава адзначае, што ў пачатку XI ст. яны ўжо вельмі рэдкія [27]. Верхняй храналагічнай мяжой «дажывання» жоўтых, пасярэбраных, залачоных лімонападобных пацерак з'яўляецца 1134 г., а каляровых — 1076 г. [26, табл. 1, № 95—97]. Карэляцыя дат распаўсюджвання пацерак, бразготак і падкавападобных фібул звужае храналогію селішча і могільніка да X — сярэдзіны XI ст. Аднак перыяд функцыяніравання помніка можна датаваць дакладней, бо селішча перакрыта курга-

намі канца X — пачатку XII ст. [6]. Такім чынам, могільнік існаваў у X ст.

Пахаванні на Белай Гары — першы вядомы могільнік радзімічаў «дакурганнага» перыяду. Адсутнасць іншых падобных помнікаў у «зямлі радзімічаў» тлумачыцца тым, што даследчыкі звярталіся толькі да курганоў. Пры гэтым спробы выдзеліць сярод курганных насыпаў бясспрэчныя радзіміцкія помнікі IX—X стст. аказаліся не вельмі ўдалымі. Вывучэнне могільніка Нісімкавічы I дазваляе выказаць некалькі папярэдніх меркаванняў, якія патрабуюць праверкі пасля прыцягнення новых археалагічных матэрыялаў з іншых помнікаў.

1. Пахавальныя помнікі радзімічаў да канца X ст. прадстаўлены бескурганнымі могільнікамі са спаленнем (што не выключае мажлівасці існавання ў гэты час і адзінкавых курганоў са спаленнем).

2. Пахаванні X ст. у грунтавых ямках маюць агульнаславянскі выгляд і знаходзяць паралелі ў розных групах старажытнасцей Усходняй і Цэнтральнай Еўропы другой паловы I тыс. н. э.

3. Спецыфічна «радзіміцкімі» пахаваннямі X ст. з'яўляюцца пахаванні-спаленні на спецыяльным панадземным драўляным збудаванні — «столпе». Рысы пахавальнага рытуалу адпавядаюць апісанню паганскіх звычаяў радзімічаў, змешчанаму ў «Аповесці мінулых часоў». Паходжанне гэтага абраду не высветлена, бо ён не мае аналагаў ні ў калочынскай культуры (помнікі якой «падсцілаюць» старажытнасці радзімічаў у Верхнім Падняпроў'і), ні ў іншых культурах другой паловы I тыс. н. э. Усходняй Еўропы.

Пытанне аб паходжанні пахаванняў на «столпах» цесна звязана з праблемай гістарычнага лёсу радзімічаў і пытаннямі з'яўлення гэтай групоўкі насельніцтва на землях Пасожжа. Паходжанню радзімічаў прысвечана значная колькасць спецыяльнай літаратуры, напрыклад [10, с. 156—157]. Частка гісторыкаў і лінгвістаў услед за летапіснай версіяй схіляюцца да думкі, што радзімічы не з'яўляюцца аўтахтонамі Пасожжа, а іх продкі прыйшлі сюды з «ляхаў», з Польшчы ці наогул з заходнеславянскіх земляў [28, с. 22—29; 29, с. 59—110; 30, с. 160—162; 31, с. 352—356; 32, с. 142—143]. У гэтай сувязі цікава адзна-

[6] Дата Нісімкавіцкіх курганоў абгрунтавана іх даследчыкам У. У. Багамольнікавым [4, с. 4, 14—17].

чыць, што бліжэйшыя паралелі пахаванням Белай Гары ёсць на заходнеславянскіх помніках VIII—IX стст. міжрэчча Эльбы і Віслы. Менавіта тут вядома некалькі пахаванняў у выглядзе плям з перапаленых костак і чарапкоў на старадаўняй паверхні [8, с. 175]. Слабы ўзровень даследаванасці матэрыяльнай культуры радзімічаў канца I тыс. н. э. пакуль што не дазваляе даць разгорнуты каментарый гэтаму назіранню.

4. Адкрыццё бескурганных пахаванняў радзімічаў на «столпах», якія храналагічна папярэднічаюць курганам, патрабуе тлумачэння прычын змены пахавальнага рытуалу. З'яўленне курганоў ва ўсходніх славян прыцягвала ўвагу даследчыкаў. В. В. Маўродзін лічыў, што прычынай распаўсюджання курганоў маглі быць міжпляменныя сутыкненні [33, с. 82]. На думку Б. А. Рыбакова, курган — гэта спроба абараніць рэшткі продкаў ад іншаземцаў [18, с. 106—107, 110]. Для высвятлення пытання прынцыпова важнай з'яўляецца храналагічная мяжа, калі ў радзімічаў замацоўваецца традыцыя ўзвядзення курганоў,— канец X ст. Менавіта ў гэты ж час (984 г.) адбываецца канчатковая ліквідацыя радзіміцкай аўтаноміі і далучэнне «зямлі радзімічаў» да Кіеўскай Русі [19, с. 59]. Уваходжанне радзімічаў у Старажытнарускую дзяржаву непазбежна вяло да стварэння на месцы новых органаў феадальнай улады і з'яўленню (пасля 988 г.) у Пасожжы хрысціянскіх місіянераў, якія пачалі барацьбу з радзіміцкім паганствам. У гэтай сувязі слушным уяўляецца меркаванне У. У. Багамольнікава, што асноўнай прычынай пераходу радзімічаў да курганных пахаванняў была пагроза іх паганскім помнікам з боку хрысціянскай царквы [34, с. 98—103]. З гэтай думкай трэба пагадзіцца.

5. Пераход радзімічаў ад пахавання на «столпе» да курганоў з трупапакладаннем на гарызонце ці ў насыпе (магчыма, праз фазу падкурганных скляпенняў) адбывалася паступова. Пэўны час «столп» — дамавіна працягваў існаваць і пад курганным насыпам. Так, у кургане № 5 Паповай Гары П. М. Яроменкам раскапаны рэшткі пахавальнага зруба памерамі 2,43×0,99 м з дахам; выразныя рэшткі дамавін знойдзены Г. Ф. Салаў'ёвай у кургане № 3 групы Ветачка V на Рагачоўшчыне і кургане № 4 групы Дзям'янкі каля Добруша [35, л. 86; 36, л. 14—15]. Дастаткова хуткае знікненне драўляных дамавін з курганоў тлумачыцца тым, што курган паспяхова дубліраваў функцыі «столпа», які ў новых умовах стаў немэтазгодным.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Романов Е. Р. Археологический очерк Гомельского уезда // Записки Северо-западного отделения Императорского Русского географического общества. Вильна, 1910. Кн. 1.
2. Рассадин С. Е. Работы в Гомельской области // Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
3. Романов Е. Р. Раскопки в Могилевской губернии в 1988 году // Труды Императорского Московского археологического общества. М., 1889. Т. XIII. Вып. 1.
4. Богомольников В. В., Макушников О. А. Археологические памятники Гомельщины (по материалам раскопок близ д. Нисимковичи). Мн., 1988.
5. Макушников О. А. Работы в Гомельском Посожье // Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
6. Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век. Мн., 1983.
7. Русанова И. П. Славянские древности VI—VII вв. (культура пражского типа). М., 1976.
8. Седов В. В. Погребальный обряд славян в начале средневековья // Исследования в области балто-славянской духовной культуры: Погребальный обряд. М., 1990.
9. Березовець Д. Т. Могильники уличів в долині р. Тясмину // Слов'яноруські старожитності. Київ, 1969.
10. Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. // Археология СССР. М., 1982.
11. Носов Е. Н. К вопросу о сложении погребального обряда длинных курганов // Кратк. сообщ. о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии АН СССР. 1984. Вып. 179.
12. Русанова И. П. Славянские древности VI—IX вв. между Днепром и Западным Бугом. М., 1973.
13. Михайлина Л. П., Тимошук Б. А. Славянские памятники бассейна Верхнего Прута VIII—X вв. // Славяне на Днестре и Дунае. Киев, 1983.
14. Шрамко Б. А. Древности Северского Донца. Харьков, 1962.
15. Багамольнікаў У. У. Асноўныя вынікі вывучэння радзіміцкіх курганоў // Весці АН БССР: Сер. грамад. навук. 1989. № 3.
16. Рыбакоў Б. А. Радзімічы // Запіскі аддзелу гуманітарных навук: Працы сэкцыі архэолёгіі. Менск, 1932.
17. Шинаков Е. А. Северные границы «Русской земли» X века // Тез. ист.-археол. семинара «Чернигов и его округа в IX—XIII вв.» (15—18 мая 1990 г.). Чернигов, 1990.
18. Рыбаков Б. Я. Язычество Древней Руси. М., 1987.
19. Повесть временных лет. М.; Л., 1950.
20. Рыбаков Б. А. Нестор о славянских обычаях // Древние славяне и их соседи. М., 1970.
21. Котляревский А. К. О погребальных обычаях языческих славян. М., 1868.
22. Кулаков В. И. Погребальный обряд пруссов в эпоху раннего средневековья // Исследования в области балто-славянской духовной культуры: Погребальный обряд.
23. Седакова О. А. Тема «доли» в погребальном обряде (восточно- и южнославянский материал) // Исследования в области балтославянской духовной культуры: Погребальный обряд.

24. Невская Л. Г. Балто-славянское причитание: Реконструкция семантической структуры // Исследования в области балто-славянской духовной культуры: Погребальный обряд.
25. Колчин Б. А. Хронология новгородских древностей // Новгородский сборник: 50 лет раскопок Новгорода. М., 1982.
26. Лесман Ю. М. Погребальные памятники Новгородской земли и Новгород (проблема синхронизации) // Археологическое исследование Новгородской земли. Л., 1984.
27. Щапова Ю. Л. Стеклянные изделия Новгорода // Матер. и исслед. по археологии СССР. М., 1963. Вып. 117.
28. Шахматов А. А. Древние ляшские поселения в России // Славянство. СПб., 1911.
29. Bujak F. Skąd przyszly radymicze i wiatycze na Ruś? // Światowit. Warszawa, 1949. XX.
30. Нидерле Л. Славянские древности. М., 1956.
31. Соловьева Г. Ф. К вопросу о приходе радимичей на Русь // Славяне и Русь. М., 1968.
32. Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970.
33. Мавродин В. В. Образование Древнерусского государства. Л., 1945.
34. Богомольников В. В. Причины изменений погребального обряда радимичей // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982.
35. Еременко П. М. О раскопках в Суражском и Глуховском уездах Черниговской губернии // Архив Санкт-Петербургского отделения Ин-та археологии АН России, ф. 1, д. 103.
36. Соловьева Г. Ф. Отчет о работах Радимичского отряда Поднепровской археологической экспедиции Института археологии АН СССР за 1964 г. // Архив Ин-та истории АН Беларуси.

*Андрэй Мяцельскі,* *Міхась Ткачоў*

## ГАРАДЗІШЧА КАЛЯ В. ГОРЫ ГОРАЦКАГА РАЁНА

Гарадзішча каля в. Горы Горацкага раёна Магілёўскай вобласці размешчана паміж вёскамі Горы, Горская Слабада, Запруддзе і займае высокі выступ берагавога плато, каля сутокі рэк Быстрай і Карчавахі. Першапачаткова авальная пляцоўка гарадзішча мела памеры 180×70 м і была выцягнута па восі паўднёвы захад — паўночны ўсход, але ў 1967 г. яно было моцна пашкоджана, у выніку чаго ад яго засталася пляцоўка памерам 70×70 м. З паўночна-ўсходняга боку захаваўся адрэзак абарончага вала даўжынёй 30 м, вышынёй да 3 м, за якім прасочваецца роў. Раней, у 1975 г., рэшткі вала былі відаць у паўднёвай частцы пляцоўкі, але зараз яны знішчаны. З астатніх бакоў валы знівеліраваны альбо абваліліся ў рэкі і не прасочваюцца. Пад'езд да гарадзішча быў з паўночна-ўсходняга боку, дзе да яго вяла дамба шыры-

нёй 30 м. Гарадзішча, якое мясцовае насельніцтва называе «Курганне», узвышаецца над узроўнем вады ў рэчках на 8—10 м.

У археалагічнай літаратуры, пад назвай «уніяцкія могілкі», яно згадваецца ў пачатку стагоддзя [16, с. 60], хоць як помнік археалогіі было выяўлена толькі ў 1936 г. А. Д. Каваленем. Гарадзішча ў 1963 г. абследавалася Л. Д. Побалем, у 1978 г.— У. І. Шадырам. У 1975—1976 гг. археалагічныя даследаванні на гарадзішчы праводзіў М. А. Ткачоў, ускрыта 200 кв. м плошчы [17, с. 428]. У 1982—1983 гг. Ш. І. Бекцінеевым вывучана 260 кв. м [3, с. 348; 4, с. 391]. У 1990—1991 гг. даследаваннем гарадзішча, яго абарончых збудаванняў і наваколіц займаўся А. А. Мяцельскі. За ўсе гады прац на гарадзішчы вывучана 600 кв. м плошчы культурнага слоя *.

Культурны слой на гарадзішчы магутнасцю 0,4—1,2 м, моцна пашкоджаны могілкамі XVI—XVII стст. Тым не менш на непашкоджаных участках была зафіксавана наступная стратыграфія. Верхні слой з шэрай гумусаванай глебы магутнасцю 0,2—0,35 м змяшчае ў сабе матэрыялы XIV—XVI стст.: пад ім ідзе слой інтэнсіўна чорнага колеру магутнасцю 0,8 м. У ім знойдзены шкляныя бранзалеты, шыферныя праселкі, кераміка XII—XIII стст. Падсцілаў гэты слой мацерыковы шэры пясок. Слаёў больш ранняга часу не выяўлена, хаця ў перамешаных пластах траплялася кераміка зарубінецкага часу і тыпу Тушамлі. Знаходкі керамікі жалезнага перыяду адзначае і Ш. І. Бекцінееў [4, с. 391].

Прарэзка абарончага вала паказала, што пад ім адсутнічае культурны слой. Вал быў насыпаны ў адзін прыём, без якіх-небудзь дасыпак. Вышыня вала дасягала 2 м пры шырыні ў падножжы 9 м. Навальныя абарончыя збудаванні былі хутчэй за ўсё ў выглядзе вастракола. Перад валам быў выкапаны роў глыбінёй 1,2 м і шырынёй 5 м. На жаль, дакладную дату ўзвядзення вала вызначыць немагчыма, таму што ён стратыграфічна не звязаны з пляцоўкай гарадзішча — адрэзаны ад яе кар'ерам. У насыпе вала былі знойдзены фрагменты ляпной керамікі бронзавога веку і сценкі ганчарнага посуду. Наяўнасць ганчарнай керамікі як найбольш позняй дазваляе мерка-

* Артыкул абмежаваны вынікамі прац А. А. Мяцельскага і М. А. Ткачова. Матэрыялы Ш. І. Бекцінеева нам невядомы.

ваць, што час будаўніцтва адносіцца да XII—XIII стст.— мяркуючы па стратыграфіі, росквіт паселішча.

У цэнтральнай частцы гарадзішча ёсць невялікае акруглае ўзвышша дыяметрам 8 м і вышынёй 1,5 м. Маючы аналогію планавай кампазіцыі ў Камянцы, Алешкаве, Ратне, Горзвіне, Чартарыйску, можна зрабіць выснову, што гэта ўзвышша з'яўляецца рэшткамі назіральнай вежы, час існавання якой, улічваючы адсутнасць сувязі з астатнімі абарончымі збудаваннямі, не выходзіць за канец XIII — пачатак XIV ст. [11, с. 149, мал. 13, 29, 48, 76].

У траншэі, з дапамогай якой вывучалася ўзвышша, выяўлена наступная стратыграфія. На мацерыку залягаў культурны слой магутнасцю да 0,2 м светла-карычневага колеру, у якім сустрэта ляпная кераміка. Гэты слой перакрывае чырвоная гліна магутнасцю да 0,2 м. Зверху яе залягаў аднародны цёмна-карычневы слой магутнасцю да 0,6 м, які змяшчае ў сабе кераміку XII—XIII стст. У гэтым слоі быў знойдзены ключ тыпу Б XII — першай паловы XIV ст. [9, с. 162]. Тут жа знаходзіўся каменны абразок з надпісам, які па палеаграфічных асаблівасцях датуецца мяжой XII—XIII стст. Слой XII—XIII стст. перакрываў глініста-пясчаны супесак жоўтага колеру сегментападобнай формы магутнасцю да 0,6 м. У глініста-пясчаным супеску і глінянай праслойцы магутнасцю 0,4 м, якая яго перакрывала, зафіксавана кераміка XII—XIII стст.

Глініста-пясчаная падушка ў падножжы ўзвышша, верагодна, з'яўлялася падмуркам, на якім стаяла назіральная вежа — данжон. Мяркуючы па падмурку, яна мела памеры 6×6 м. Час яе ўзвядзення адносіцца да мяжы XII—XIII стст.

Падмурак вежы перакрываўся тонкім, да 0,2—0,3 м таўшчыні, культурным слоем, у якім знойдзена кераміка XIV—XVI стст.

Як ўжо адзначалася, дрэнная стратыграфічная захаванасць помніка не дае магчымасці высветліць пытанні, звязаныя з дэталёвай храналогіяй развіцця помніка, яго забудовай.

На мацерыку знойдзены плямы чырвонай абпаленай гліны з камянямі, якія з'яўляюцца рэшткамі глінабітных печаў. Тэрыторыя вакол іх моцна пашкоджана магіламі, таму што-небудзь гаварыць аб тыпалогіі пабудоў вельмі цяжка. Цікава адзначыць, што пабудовы размяшчаліся бліжэй да краю пляцоўкі. У цэнтральнай частцы пляцоўкі

гарадзішча рэшткаў пабудоў не знойдзена. Такое іх размяшчэнне — уздоўж краю пляцоўкі — найбольш характэрна для феадальных сядзібаў — замкаў.

Комплексаў, якія б бясспрэчна сведчылі аб занятках жыхароў гарадзішча рамяством, не выяўлена. Тым не менш матэрыялы, знойдзеныя ў час раскопак, даюць магчымасць сцвярджаць, што тут былі развіты некаторыя рамёствы. Перш за ўсё гэта ганчарнае рамяство, аб наяўнасці якога сведчаць шматлікія знаходкі абломкаў соплаў ад горнаў і кавалкі керамікі, у якой цеста асела ў час абпальвання. Комплекс керамічнага матэрыялу ўключае ў сябе галоўным чынам кераміку XII—XIII стст., матэрыялы XIV—XVI стст. ёсць у меншай колькасці.




Мал. I. Знаходкі на гарадзішчы каля в. Горы: *1—5* — навярхоўнікі стрэлаў, *6* — крэсіва, *7* — шпора, *8* — струг, *9* — фібула, *10* — цуглі

Іншым відам рамяства, якім займаліся на гарадзішчы, было касцярэзнае. Знойдзены шматлікія касцяныя вырабы — грабяні, арнаментаваныя касцяныя пласціны, праколкі, жужалкі, апрацаваныя косці.

Даследаванні на гарадзішчы не дазваляюць сцвярджаць, што мясцовыя жыхары займаліся металургіяй. Але даныя металаграфічнага аналізу жалезных рэчаў з гарадзішча сведчаць, што пры іх вытворчасці рамеснікі выкарыстоўвалі метал, атрыманы з розных месцаў [5, с. 68]. Магчыма, на гарадзішчы існавала металаапрацоўчае рамяство, якое карысталася металам з навакольнай акругі.

Сярод знаходак ёсць ключы ад унутраных замкоў першага віду, якія былі распаўсюджаны з канца XI да пачатку XIII ст. Акрамя ключоў ад унутраных замкоў ёсць ключы ад вісячых замкоў тыпу Б XII — першай паловы XIV ст., тыпу В — сярэдзіны XII — першай паловы XIV ст., тыпу В-1 — канца XII — пачатку XV ст. (мал. 2: *9—12*) [9, с. 162]. З іншых рэчаў знойдзены спружыны ад замкоў, жалезная патэльня, шарнірныя нажніцы, калачападобнае крэсіва з язычком, якое датуецца X — першай паловай XII ст., аднапрамянёвы свяцец, які па наўгародскіх старажытнасцях датуецца не раней сярэдзіны XIII ст., фібула з патаўшчэннем у сярэдняй частцы, характэрная для XI—XIII стст. (мал. 1:*6, 9*) [8, с. 97, 100; 10, с. 166]. Знаходкі інструментаў рамеснікаў нешматлікія. З універсальнага інструментарыя знойдзена сякера з асіметрычным лязом і выступаючымі шчакавіцамі. Такія сякеры мелі кароткі перыяд ужывання — з другой паловы XII да пачатку XIII ст. [5, с. 66, мал. 1:*17*]. З дрэваапрацоўчых інструментаў знойдзены струг, які па сваіх памерах адносіцца да тыпу сярэдніх, характэрных для XII—XIII стст. (мал. 1:*8*) [8, с. 39—40].

Найбольш шматлікімі знаходкамі з'яўляюцца ўзбраенне і рыштунак конніка і верхавога каня. Знойдзены ўтулкавы наканечнік дзіды лаўрападобнай формы, якія пачынаюць з'яўляцца з XII ст. [9, мал. 1:*18*; 16, с. 15]. Асноўнай зброяй дальняга бою ў раннім сярэднявеччы быў лук. На гарадзішчы знойдзены касцяныя абкладкі складанага лука, што гаворыць аб наяўнасці тут прафесійных воінаў, магчыма, звязаных з княскай дружынай (мал. 2:*1—3*).

З наканечнікаў стрэл, якія з'яўляюцца ў I ст. н. э. і шырока выкарыстоўваюцца да XIV ст., знойдзены шылападобны наканечнік квадратнага сячэння (мал. 1:*4—5*)




Мал. 2. *1—3* — касцяныя абкладкі лука, *4—5, 7, 8* — касцяныя абкладкі калчана, *6* — грэбень, *9—12* — ключы

[12, с. 83]. Ромбападобны наканечнік з прамымі бакамі і плечукамі, з найбольшым пашырэннем у верхняй частцы пяра, характэрны для старажытнасцяў VIII—XIII стст. (мал. 1:*2*) [12, с. 69]. Ромбападобны наканечнік з упорам мае аналогіі ў матэрыялах XII—XIII стст. Ноўгарада і Старой Разані (мал. 1:*1*) [11, мал. 13:*22*; 14, мал. 143:*12*]. Зрэзні ў выглядзе вузкай выцягнутай лапатачкі з'явіліся на ўсходнеславянскіх землях пасля нашэсця Батыя ў сярэдзіне XIII ст. (мал. 1:*3*) [12, с. 75].

Сярод касцяных вырабаў, знойдзеных на гарадзішчы, ёсць арнаментаваныя абкладкі краёў калчана. Акрамя іх знойдзены фрагмент пятлі для падвешвання калчана, а таксама іншыя невялікія арнаментаваныя і апрацаваныя пласціны з адтулінамі, якія, верагодна, выкарыстоўваліся для ўпрыгожвання калчана (мал. 2:*4, 5, 7, 8*).

З рыштунка конніка і верхавога каня знойдзены шпоры і цуглі. Шпора, нягледзячы на абламаны шып, па сваіх іншых прыкметах адносіцца да шпораў тыпу V — шпоры з шматпраменнай зоркай, якія з'яўляюцца не раней сярэдзіны XIII ст. (мал. 1:7) [17, с. 66]. Цуглі адносяцца да шырока распаўсюджанага тыпу — складаных, з двух рухомых звенняў. Таксама знойдзены цуглі, у якіх сярэдзіна выканана ў выглядзе васьмёркі з перахватам. Цуглі такога тыпу ў асноўным сустракаюцца сярод старажытнасцяў усходняй Прыбалтыкі X—XIV стст. (мал. 1:*10*) [7, с. 17].

Заслугоўвае ўвагі каменны абразок з кірылічным надпісам, знойдзены пры прарэзцы насыпу вежы ў слоі XII—XIII стст. Ён выразаны з жоўтага даламіту і мае памеры 5,5×7×2 см. Верхняя і левая часткі абразка нязначна пашкоджаны. Па краях ёсць невялікі борцік шырынёй 0,5 см. На пярэдняй паверхні высокім рэльефам выразаны шасціканцовы крыж, унутры якога выразаны яшчэ адзін. Вакол крыжа добра відаць пракрэсленыя літары. З левага боку — «ІС» (Ісус), з правага — «Х» (Хрыстос). Унізе, з левага боку крыжа, выразаны «NI», з правага «КА» — «NIКА» (Пераможца) (мал. 3).

На тарцовым баку захаваўся яшчэ адзін моцна пашкоджаны надпіс, які складаецца з трох радкоў. Радкі надпісу выкананы роўна, але з невялікім памяншэннем памераў літар у канцы радкоў.

Першы радок пачынаецца з літар «Г» і «И», напісаных пад цітлам. Гэта звычайнае скарачэнне слова «Госпадзі». Далей тэкст надпісу пашкоджаны. Ад пачатку другога

слова захавалася толькі частка літары — правая вертыкальная мачта і адыходзячая ад яе ў верхняй частцы гарызантальная лінія. Пасля гэтай лініі тэкст зусім не чытаецца, радок моцна пашкоджаны сколам, на месцы якога магло быць тры літары. Наступная за сколам літара мае моцна пашкоджаную верхнюю частку. Ад яе захавалася толькі ніжняя палова ў выглядзе трохкутніка. За ёю ў радку добра чытаюцца літары «И» і «О», за якімі ёсць пашкоджанае сколам месца для адной літары.

Як бачым, тэкст вельмі пашкоджаны, і мы не маем магчымасці сцвярджаць аб дакладным змесце надпісу, таму ўсе нашы далейшыя пабудовы будуць даволі ўмоўныя.

У надпісах XI—XIII стст., якія пачынаюцца са слова «госпадзі», наступным звычайна ішло звяртанне да яго за дапамогай, таму мы маем права меркаваць, што і ў нашым выпадку гэта было слова «помози». Гэтаму не супярэчаць і літары ў радку.

Першая літара, нягледзячы на пашкоджанасць, вельмі нагадвае «П». За ёй, на пашкоджаным месцы, маглі размяшчацца «О», «М» і яшчэ раз «О». Далей, за сколам, ідзе літара з пашкоджанай верхняй часткай. Гэта магла быць «З», хаця яе напісанне з трохкутнай ніжняй часткай у цэлым не характэрна. Такое напісанне сустракаецца толькі адзін раз, сярод графіці Наўгародскага Сафійскага сабора [13, с. 288, № 44]. Завяршае гэта слова літара «И», якая цалкам захавалася. З улікам прапанаваных літар мы сапраўды атрымоўваем слова «п(омо)зи». Астатнія літары на гэтым радку адносяцца да другога слова.

Другі радок пачынаецца з літары «Б», за якой ідуць «К» і «Е». Далей тэкст пашкоджаны, відаць толькі пачатак нейкай літары, за якой ідзе скол, на якім маглі змясціцца 2—3 літары. Пасля пашкоджанага месца выразна відаць літару








Мал. 3. Абразок XII—XIII стст. з гарадзішча каля в. Горы

«М», за якой прасочваецца частка дрэнна пракрэсленай літары. Ад яе захавалася толькі левая мачта, у правы бок ад якой, знізу, адыходзіць папярэчына. Магчыма, гэта былі літара «И». За ёю на радку выразна чытаюцца літары «С» і «Е».

Наступным словам у тэксце пасля «госпадзі помозі» павінна быць слова «рабу», як гэта звычайна бывае ў надпісах такога тыпу. Між тым тут мы бачым літару «О». Але ў нашым выпадку яна напісана незвычайна. Левая частка літары выканана ў выглядзе вертыкальнага слупка, да якога справа далучаецца авал. Верагодна, перад намі дрэнна напісаная літара «Р», падобнае яе напісанне сустракаецца на берасцяных граматах і сярод графіці Наўгародскага Сафійскага сабора [13, с. 268, № 174; 20, с. 16]. Наступнай павінна быць літара «А», але яе месца пашкоджана сколам.

На другім радку ідуць «Б» і «К». Магчыма, «К» напісана памылкова замест «У» альбо гэта «У», якая дрэнна атрымалася. Улічваючы нашы прапановы для чытання літар, мы атрымоўваем слова «рабу».

Апошняе слова ў радку — «СЕ» — сучаснае «гэта». Паміж словамі «рабу» і «се» было размешчана яшчэ адно слова, якое складалася з 5—6 літар, пачыналася з літары «Е» і завяршалася «МИ». Верагодна, тут было напісана імя ўладальніка абразка ў давальным склоне — Ефімі, Еремі, Ефремі.

Трэці радок чытаецца амаль поўнасцю. Спачатку пракрэслены «Н», «А», «П», «И», потым ідзе пашкоджанае сколам месца для дзвюх літар, за якім выразна відаць «В», «Ш», «Е», «М». Месца яшчэ для адной літары пашкоджана сколам.

Размяркоўваючы ў пашкоджаныя месцы літары «С», «А» і «У», мы атрымоўваем слова «напи(са)вшем(у)». Поўнасцю тэкст на гэтым баку, на наш погляд, чытаецца так: «Господи помози рабу Ефими (Ереми? Ефреми?) се написавшему».

Абразок, як ужо адзначалася, быў знойдзены ў слоі XII—XIII стст. Палеаграфічныя асаблівасці напісання некаторых літар дазваляюць зрабіць больш дакладнае датаванне. У літары «Б» пятля злёгку набухшая, што характэрна для XIII ст. [2, с. 27]. У літары «Н» папярэчына дакранаецца правай мачты вышэй сярэдзіны, што пачынае распаўсюджвацца з XIII ст. Літара «И» ў трэцім радку мае касую папярэчыну ў верхняй палове, што так-

сама з'яўляецца з XIII ст., хаця ў першых двух выпадках яе напісанне характэрна для XII ст. [19, с. 115]. Літара «В» мае верхнюю частку, меншую за ніжнюю, што ўласціва канцу XII — пачатку XIII ст. [19, с. 116; 18, с. 241].

У цэлым, мяркуючы па палеаграфічных асаблівасцях, надпіс на абразку і сам абразок датуецца мяжой XII—XIII стст.

Сярод іншых рэчаў рэлігійнага культу знойдзены медны крыж XV ст. [4, с. 386].

Паводле археалагічных матэрыялаў, гарадзішча каля в. Горы ўяўляецца ваенна-феадальным паселішчам — замкам. Аб гэтым сведчаць ваенная накіраванасць паселішча, адсутнасць каля яго сцен пасада, слабое развіццё рамяства, нешматлікасць такіх безумоўна гарадскіх рэчаў, як шкляныя бранзалеты, шыферныя праселкі, амфарная тара. Разам з тым яго значная плошча, каля 1,2 га, сведчыць, што гэта быў не звычайны замак. У паўднёвай частцы Смаленскай зямлі, у склад якой уваходзілі Горы ў XII—XIII стст., яно ўступае па плошчы толькі дзядзінцам Смаленска, Мсціслава і Расціслава. Цікава адзначыць, што Горы знаходзіліся ў паўднёва-заходняй частцы дамена смаленскіх князёў, размешчанага каля Смаленска [1, с. 55, карта]. Гарадзішча каля в. Горы, верагодна, было буйным дзяржаўным замкам ў дамене смаленскіх князёў.

Датаванне паселішча не выклікае цяжкасцяў: увесь матэрыял, атрыманы ў час раскопак, сведчыць, што першае паселішча ўзнікла на мысе каля сутокі рэк Быстрай і Карчавахі ў зарубінецкі час. Потым гарадзішча выкарыстоўвалі тушамлянскія плямёны.

Увесь сярэднявечны матэрыял у комплексе ўкладваецца ў межы XII—XVI стст. Больш дэталёвы аналіз дазваляе некалькі ўдакладніць час ўзнікнення паселішча гэтага перыяду. Так, адсутнасць сярод керамічнага матэрыялу формаў, характэрных для XI і нават для мяжы XI—XII стст., дае падставу сцвярджаць, што паселішча ўзнікла не ў самым пачатку, а, відаць, бліжэй да сярэдзіны XII ст. Аб ўзнікненні паселішча ў сярэдзіне — другой палове XII ст. сведчыць і малая колькасць знойдзеных тут шкляных бранзалетаў. Росквіт жыцця на гарадзішчы адносіцца да другой паловы XII—XIII ст., аднак недзе на мяжы XIII—XIV стст. жыццё на ім замаруджваецца, хаця і працягваецца да XVI ст.

Прычынай замаруджвання жыцця на гарадзішчы, маг-

чыма, з'яўляецца ваенны пагром гарадзішча, пасля якога паселішча не змагло адбудавацца ў былых памерах. У некаторых непашкоджаных месцах прасочваюцца сляды буйнога пажара, які стратыграфічна датуецца мяжой XIII—XIV стст. Другой прычынай, якая спыніла яго развіццё, было знаходжанне яго ў баку ад буйных гандлёвых шляхоў.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Алексеев Л. В. Домен Ростислава Смоленского // Средневековая Русь. М., 1976.
2. Арциховский А. В., Янин В. Л. Новгородские берестяные грамоты: Из раскопок 1962—1976 гг. М., 1978.
3. Бектинеев Ш. И. Городище у д. Горы // Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
4. Бектинеев Ш. И. Раскопки городища «Курганы» // Археологические открытия 1983 года. М., 1985.
5. Гурын М. Ф. Металаграфічныя даследаванні жалезных прадметаў з гарадзішча каля в. Горы Горацкага раёна // Весці АН БССР: Сер. грамад. навук. 1985. № 4.
6. Кирпичников А. Н. Древнерусское оружие. Вып. 2: Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX—XIII вв. Л., 1966.
7. Кирпичников А. Н. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX—XIII вв. Л., 1973.
8. Колчин Б. А. Железоделательное ремесло Новгорода Великого // Матер. и исслед. по археологии СССР. 1959. Вып. 65.
9. Колчин Б. А. Хронология новгородских древностей // Новгородский сборник: 50 лет раскопок в Новгороде. М., 1982.
10. Мальм В. А. Подковообразные и кольцевидные застежки-фибулы // Труды Государственного Исторического музея. М., 1967. Вып. 43.
11. Медведев А. Ф. Оружие Новгорода Великого // Матер. и исслед. по археологии СССР. М., 1959. Вып. 65.
12. Медведев А. Ф. Ручное метательное оружие (лук, стрелы и самострел) VIII—XIV вв. М., 1966.
13. Медынцева А. А. Древнерусские надписи Новгородского Софийского собора. М., 1978.
14. Монгайт А. А. Старая Рязань // Матер. и исслед. по археологии СССР. М., 1955. Вып. 49.
15. Раппопорт П. А. Военное зодчество западнорусских земель X—XIV вв. // Матер. и исслед. по археологии СССР. М., 1967. Вып. 140.
16. Сведения о городищах и курганах за 1873 год // Известия Императорской археологической комиссии. Спб., 1903. Вып. 5.
17. Ткачев М. А. Работы Посожского отряда // Археологические открытия 1976 года. М., 1977.
18. Черепнин А. В. Русская палеография. М., 1956.
19. Щепкин В. Н. Русская палеография. М., 1967.
20. Янин В. Л., Зализняк А. А. Новгородские грамоты на бересте: Из раскопок 1977—1983 гг. М., 1985.

*Ніна Здановіч*

# БЫТАВАЯ КЕРАМІКА Г. ГРОДНА XI—XVIII СТАГОДДЗЯЎ

З пачатку 80-х гадоў у розных частках Гродна былі распачаты ці працягнуты (у Старым замку) археалагічныя раскопкі. Большасць матэрыялаў калекцый складаў бытавы посуд, што стаў аб'ектам нашага вывучэння. Асноўная маса апрацаваных фрагментаў атрымана падчас даследаванняў 1985—1988 гг. на тэрыторыі Старога замка (кіраўнікі М. А. Ткачоў і А. А. Трусаў). Мы выкарыстоўвалі таксама матэрыялы з раскопак падворка манастыра базыльянак (кіраўнікі А. А. Трусаў, І. М. Чарняўскі, А. К. Краўцэвіч) і з пляцоўкі каля Каложскай царквы (кіраўнік А. А. Трусаў) *.

Усяго было апрацавана каля 20 тыс. фрагментаў бытавога посуду (17,5 тыс. паходзяць са Старога замка): непаліванай, паліванай, дымленай і глянцаванай керамікі і адноўлены воблік 23 начынняў. Датаванне вылучаных груп керамікі і відаў посуду базіруецца пераважна на матэрыялах раскопу II са Старога замка, які меў вялікую глыбіню (9—9,4 м ад дзённай паверхні) і добрую стратыграфію. Храналогія знаходак пацвярджаецца данымі дэндрахраналагічнага аналізу, праведзенага Н. Б. Чарных.

У калекцыі пераважае непаліваны посуд (больш 12 тыс. фрагментаў). Амаль што ўвесь ён зроблены на ручным ці нажным ганчарным крузе, аднак ёсць некалькі ляпных венцаў і сценак, як, між іншым, і ў калекцыі М. М. Вароніна. Гэта дазволіла Ф. Д. Гурэвіч аднесці час узнікнення паселішча на месцы Старога замка да мяжы X—XI стст. [1].

Невялікай колькасцю фрагментаў прадстаўлены гаршкі «курганнага тыпу» з патаўшчэннем у форме карнізіка, што характэрны пераважна для XI ст. (мал. 1, гр. I). Аналагічнае начынне знойдзена ў другой частцы горада, каля Каложскай царквы [2].

У слаях XI—XII стст. пераважаюць гаршкі з выразнаю шыйкаю. Адагнутыя вонкі пад вуглом да 45° венцы маюць загнуты ўнутр край, уздоўж якога праходзіць равок (мал. 1, гр. II). На знешняй паверхні венца часам

* Выказваем шчырую падзяку аўтарам за магчымасць выкарыстаць атрыманыя матэрыялы.




Мал. 1. Класіфікацыя венцаў непаліваных гаршкоў канца XI—XVII ст.

маецца равочак і тады яно набывае складаную прафілёўку. У гэты час блізкія па форме гаршкі бытуюць фактычна паўсюдна ў гарадах і замках Панямоння. Лучыць іх не толькі форма венца, але і характар арнаментыкі: ад шыйкі і амаль да прыдоннай часткі (як на цэлым гаршку гэтага часу з манастыра базыльянак) [5] гаршкі ўпрыгожаны частымі рыфленымі стужкамі, нанесенымі драўляным кіёчкам (мал. 2:*1*). Адлегласць паміж стужкамі — самая разнастайная (ад 2—3 да 10—12 мм) на адным і тым жа начынні.

Вылучаюцца гаршкі групы II і сваімі памерамі: дыяметры венцаў гаршкоў у асноўным большыя за 20 см і дасягаюць 25—26 см. Венцы з дыяметрам 15—17 см сустракаюцца як выключэнне. Мяркуючы па прафілёўцы верхняй часткі гаршкоў, дыяметр венцаў у некаторых з іх перавышае найбольшы дыяметр тулава.

Сярод начыння XII ст. своеасаблівасцю аздобы (наляпны валік амаль пасярэдзіне тулава ўпрыгожаны наколамі ці насечкамі) вылучаецца невялікая група гаршкоў. Па характары арнаментыкі яны блізкія да іншага віду посуду — начыння з вертыкальным горлам, якое называюць сасудамі мазавецкага тыпу. На тэрыторыі заходняй Беларусі яны сустракаюцца ў слаях XI—XII стст. (Навагрудак, Ваўкавыск).

У фармовачнай масе ўсіх вышэйапісаных гаршкоў — значныя дадаткі жарствы, колер начыння шэры ці карычневы, шмат моцна закурадымленых.

Адначасныя гаршкам групы II гаршкі з валікападобным патаўшчэннем па краі венца і равочкам знутры (мал. 1, гр. III), характэрныя пераважна для ўсходняй і цэнтральнай Беларусі, а ў Гродне прадстаўленыя нязначнаю колькасцю фрагментаў. Не выключана, што ў Старым замку такія гаршкі ўжываліся яшчэ і ў XIII ст.

Гаршкі груп IV і V з'яўляюцца лагічным працягам развіцця формаў гаршкоў груп II і III: памяншаецца вышыня шыйкі, знікае равок знутры і патаўшчэнне звонку на венцы (мал. 1). Дыяметр венцаў гаршкоў групы III пераважна 12—16 см, групы IV — 18—20 см. Начынне групы V па памерах больш адпавядала гаршкам групы II (дыяметр венцаў 20—22 см). На гаршках груп III—V яшчэ сустракаецца традыцыйнае рыфленне, частка іх не мае ніякага арнаменту, а некаторыя гаршкі па плечуку і тулаве ўпрыгожаны адной-дзвюма хвалямі, нанесенымі кіёчкам (мал. 2). Да групы V адносяцца два мініяцюрныя




Мал. 2. Віды арнаменту на непаліваных гаршках XII—XIII стст.

гаршчочкі, адзін з якіх мае вышыню 5 см, дыяметр венца 9 см і донца 6,5 см. Плечукі ўпрыгожаны нанесеным кіёчкам зігзагападобным арнаментам.

Адначасныя гаршкам груп IV і V адзінкавыя фрагменты місак, што ўяўляюць сабою гаршкі адкрытай формы.

З XV ст. на тэрыторыі горада карысталіся гаршкамі з плаўна выгнутаю шыйкаю, палогімі плечукамі і касым абрэзам венца, часам з равочкам на яго знешняй паверхні.

На працягу XV—XVI стст. эвалюцыя формы гаршка прывяла да поўнага знікнення шыйкі (мал. 1, гр. VI),




Мал. 3. Фрагменты непаліванага посуду: *1—4* — з раскопак каля Каложы; 5—11 — Стары замак (раскопкі М. М. Вароніна)

венца з касым абрэзам краю завяршае тулава шарападобнай формы.

Найбольшая колькасць гаршкоў групы VI была знойдзена на плато каля Каложскай царквы (раскопкі А. А. Трусава). Форма аднаго гаршка адноўлена цалкам (мал. 3:*2*). Яго памеры: дыяметр венца 12 см, донца 7 пры вышыні начыння 7,5 см. Прысутнічаюць яны і сярод матэрыялаў з раскопак Я. Г. Звяругі [3, мал. 34:*10, 12, 13*], і на тэрыторыі манастыра базыльянак. Аб'ядноўвае начынне гэтай групы, нягледзячы на тыпалагічную разнастайнасць, як характар фармовачнай масы (яна з дадаткам жарствы, але добра прамешаная, шчыльная, чарапок добра спечаны), так і арнаментыка. Гаршкі аздоблены паралельнымі ці хвалістымі стужкамі, нанесенымі трохці пяцірадковым грабеньчыкам (мал. 4:*1—5*). Акрамя простага арнаменту, што складаецца з аднаго элемента, найчасцей сустракаюцца камбінацыі асобных элементаў (мал. 4:*4, 5*). Часам грабеньчыкам карысталіся для нанясення наколаў. Касцяны грабеньчык для нанясення такога арнаменту быў знойдзены на Старым замку пад час раскопак М. М. Вароніна. Дыяметры венцаў вышэйапісанага начыння пераважна 12—16 см.

Гаршкі, аналагічныя самым ранні паасобнікам тыпу VI, з S-падобным профілем знойдзены ў Мірскім замку ў слоі дазамкавага паселішча другой паловы XV — пачатку XVI ст. [10]. Ужываліся падобныя начынні ў XV ст. і на тэрыторыі Польшчы [11, мал. 192е]. Фрагменты прысадзістых гаршкоў амаль без шыйкі, з коса абрэзаным венцам у вялікай колькасці знойдзены пад час даследаванняў у Пскове [6, мал. 4].

Характар фармовачнай масы (кампактная, з нязначнымі дадаткамі жарствы) і арнаментыка сведчаць пра адначаснае існаванне гаршкоў групы VI і конусападобных макотраў з коса зрэзаным унутр венцам. Другі тып макотраў — з піялападобным тулавам і адагнутым вонкі краем венца (мал. 3:*3*). Мяркуючы па цэлым начынні, макотры мелі вышыню 12—16 см і больш пры дыяметры венца ад 25 да 40 см. Некаторыя з іх, як і гаршкі, аздоблены камбінаваным арнаментам (спалучэнне шматрадковай хвалі і стужак, нанесеных грабеньчыкам) (мал. 3:*10*).

З такой жа фармовачнай масы і аналагічна аздоблена начынне яшчэ аднаго віду. Па памерах і таўшчыні сценак яно нагадвае макотры, але мае піялападобнае тулава і загнутае ўнутр сіметрычна патоўшчанае рабрыс-




Мал. 4. Віды арнаменту на непаліваным посудзе XV—XVI стст.

тае венца (мал. 4:*6*). На наш погляд, гэта начынне для пражання прадуктаў — латка. Глыбокія латкі для захаду Беларусі, ў адрозненне ад усходу (Мсціслаў, Магілёў), не характэрныя. Для гэтых мэтаў тут карысталіся круглымі ці авальнымі плыткімі латкамі. Глыбіня іх не перавышала 5,5 см, дыяметр венца ад 20 да 35—40 см. Шматлікія кавалкі такіх латак знойдзены разам з матэрыяламі XIV—XVII стст. у Крэўскім замку, ёсць яны ў Лідскім і Гальшанскім замках. Першапачаткова латкі рабіліся з двух-трох жгутоў на ручным ганчарным крузе. Яны мелі ўтулкавую ручку — дзяржальна, як у начыння з Гродна. Традыцыя вырабу латак, толькі без ручак, захавалася на Беларусі да XIX ст. [7; 9, с. 87].

З XVII ст. на захадзе Беларусі шырока распаўсюджваюцца гаршкі ў форме чыгункоў (мал. 1, гр. VII) і з высокаю, часам цыліндрычнаю шыйкаю (мал. 1, гр. VIII). Для арнаментацыі першых часам па-ранейшаму выкарыстоўвалі грабеньчык; другія мелі стужкападобную ручку. У фармовачнай масе па-ранейшаму прысутнічае нязначная колькасць жарствы, але сляды на сценках знутры і пісагі ад зразання з круга сведчаць пра тое, што зроблены яны на нажным крузе.

Донцы начыння на падсыпцы маюць дваякую форму: з закраінаю ці без яе. Традыцыя кляйміць посуд захавалася ў Гродне да XV ст. На Старым замку знойдзены рэшткі 5 клеймаў. Звычайна археолагі знаходзяць клеймы менавіта на гаршках. Аднак каля Каложы была знойдзена макотра з кляймом у выглядзе сняжынкі (мал. 3:*4*). Аналагічнае кляймо, толькі больш выразнае, ёсць сярод матэрыялаў М. М. Вароніна (мал. 3:*5*). Яшчэ больш дзіўнаю была знаходка рэштак аналагічнага кляйма ў месцы прымацавання ручкі да накрыўкі, знойдзенай таксама на Каложы. Прычым выяўлена яно было дзякуючы таму, што ручка адслаілася ад накрыўкі. Такім чынам, мы маем прамое пацвярджэнне таго, што накрыўкі з гузікападобнаю ручкаю фармаваліся на крузе ў перавернутым выглядзе, як талеркі. Нездарма зверху на ручках ёсць сляды падсыпкі жарствы. Фрагменты накрывак сведчаць пра тое, што яны мелі конуса- ці звонападобную форму, прычым апошнія характэрныя пераважна для слаёў XVI—XVII стст. у Гродне. Форма ручкі гузікападобная са слядамі падсыпкі жарствы або петлепадобная. Калі першыя характэрныя для ранніх слаёў (да пачатку XVI ст.), то апошнія бытуюць больш шырока.

Неабходна сказаць яшчэ пра адзін від непаліванага посуду. Маецца на ўвазе цэлая маленькая талерка (мал. 3:*1*). Вышыня яе 4 см, дыяметр венца 16 см, донца 10 см, зроблена яна на ручным ганчарным крузе, пра што сведчыць падсыпка на донцы і выразныя сляды апрацоўкі драўляным нажом вонкавых слядоў злучэння стужак. Фармовачная маса, а таксама афармленне краю венца нешырокага адкінутага вонкі борціка талерачкі аналагічныя гаршкам групы VI.

Такім чынам, мы бачым, што ў калекцыі непаліванага посуду XI—XVI стст. пераважаюць гаршкі. Сярод іх шмат арнаментаваных. Прычым калі для ўпрыгожвання начыння XI—XIV стст. ужываўся кіёчак, з XV ст. для гэтага шырока выкарыстоўваўся шматрадковы грабеньчык. З яго дапамогаю арнаментаваліся не толькі гаршкі, але і макотры і латкі. Посуду з клеймамі знойдзена вельмі мала. Найбольш блізкія аналогіі вызначаным відам посуду трапляюцца сярод матэрыялаў з гарадоў і замкаў паўночна-заходняй Беларусі, тэрыторыі Польшчы.

У слаях XVII—XVIII стст. выяўлена перавага паліванага посуду над непаліваным (напрыклад, у траншэях на Старым замку, дзе знойдзены матэрыялы толькі гэтага часу, суадносіны непаліваных і паліваных фрагментаў 1:3). Па асартыменце гэта перш за ўсё разнастайныя па форме паліваныя гаршкі, рынкі, збаны, кубкі, а таксама шматлікія фрагменты талерак і місак.

Паводле формы гаршкі падзяляюцца на 6 тыпаў: са складанапрафіляваным венцам; з патаўшчэннем ля аснавання шыйкі; з амаль цыліндрычным гладкім горлам; з каленападобным выступам ля аснавання шыйкі знутры; з S-падобным профілем верхняй часткі (мал. 5). Начынне ўсіх вышэйапісаных тыпаў знаходзіць аналогіі сярод паліваных гаршкоў з Мірскага, Лідскага, Гальшанскага замкаў [4], звычайная з'ява аналагічныя гаршкі і ў суседняй Літве [15]. Форму гаршкоў паўтараюць адначасныя кубачкі. Адрозніваюцца яны толькі памерамі: калі дыяметры венцаў гаршкоў звычайна 10—16 і зрэдку 20 см, дыяметры венцаў кубкаў — 6—9 см. Памеры донцаў таксама адрозніваюцца: у гаршкоў найбольш распаўсюджаныя донцы велічынёю 8—12 см, а ў кубкаў — ад 4 да 6 см.

Рынкі мелі піялападобнае тулава ці выразны вертыкальны борцік. Згодна з формай венца, яны падзяляюцца на 4 тыпы: з равочкам знутры па краі венца; з закругленым краем; з гарызантальна адагнутым вузкім борцікам; з ка-

ленападобным выступам звонку на тулаве (мал. 5). Гарызантальна абрэзаныя ці конусападобныя ножкі мелі вышыню 5—6,5 см, ручкі даўжынёю 6—6,5 см мацаваліся да злёгку падсушанага вырабу. На некаторых ручках у месцы іх прымацавання з двух бакоў засталіся адбіткі пальцаў. Дыяметры венцаў рынак пераважна ад 16 да 22 см, але ёсць велічынёю 26 см. Фрагмент рынкі быў знойдзены на Старым замку падчас даследаванняў М. М. Вароніна (мал. 3:*11*), але з прапанаванай ім хрcraналогіяй мы не згодны. Самы ранні з вядомых нам фрагментаў рынкі быў знойдзены ў Мірскім замку ў слоі дазамкавага паселішча і датуецца другою паловаю XV — пачаткам XVI ст.

Паліваны посуд XVI — першай паловы XVII ст. аздоблены разнастайнымі відамі арнаменту, нанесенага валікам у тэхніцы накату, які ў беларускіх ганчароў атрымаў назву «карбоўка». Гэта сетка ромбаў; сетка квадратаў; арнамент з елачак; рамбічная сетка, што падзяляецца вертыкальнымі стужкамі; елачкі, падзеленыя слупкамі квадратаў і г. д. Магчыма, такі спосаб арнаментацыі запазычаны ў польскіх ганчароў, якія карысталіся аналагічнай тэхнікай у XVI — першай палове XVII ст. для аздаблення белаглінянага паліванага начыння — гаршкоў, кубкаў, рынак. Значная колькасць такога посуду выяўлена ў Мірскім, Лідскім, Гальшанскім замках. Такія ж начынні былі знойдзены пад час раскопак замкаў у Вільні [13], Троках [12; 15], а таксама на гарадзішчы Пуня на тэрыторыі сучаснай Літвы [14]. Літоўскія даследчыкі аднадушна вызначаюць паходжанне такога роду посуду: ён вывезены з польскага горада Ілжы, дзе ў XVI ст. быў вядомы цэнтр па вытворчасці белагліняных гаршкоў і іншага посуду [14, с. 40—41]. У Мытнай кнізе Берасцейскай мытні ад 1583 г. узгадваецца, што «Иван Пилиповичъ, мещанин Берестейский, мелъ товаръ свой зъ Ілжи: горшков белыхъ и полеваных возовъ 4, шацовано их за коп 16, от того пришло грошей 40» [8]. Форма некаторых чырвонагліняных гаршкоў з Гродна паўтарае форму белагліняных, тэхніка арнаментацыі аналагічная, аднак малюнкі розныя. Карбоўкаю ўпрыгожваліся не толькі гаршкі і кубкі, але і рынкі тыпу II з вертыкальным борцікам (мал. 6; 7). Яшчэ адзін від начыння, якое зрэдку аздаблялася карбоўкаю,— міскі канца XVI—XVII ст. Арнамент размяшчаўся на нешырокім, адагнутым гарызантальна борціку місак.




Мал. 6. Віды арнаменту на паліваным чырвонагліняным посудзе канца XVI — першай паловы XVII ст.

Частка чырвона- і белагліняных гаршкоў і кубкаў арнаментавалася паралельнымі стужкамі з дапамогаю шматрадковага грабеньчыка (мал. 6:*4*; 7:*1, 2*). Гэтым жа інструментам карысталіся для ўпрыгожвання борцікаў талерак са складанапрафіляваным венцам (мал. 5, тып I). Частка талерак гэтага тыпу распісвалася белым ці падфарбаваным ангобам пад бясколерную паліву. Матывы роспісу — раслінны ці геаметрычны арнамент. Талеркі тыпаў II—IV звычайна не арнаментаваліся, але на частцы іх па борціку наносілася шматрадковая хваля ўсё тым жа грабеньчыкам.

Збаны XVI—XVIII стст. паводле формы горла падзяляюцца на 4 тыпы: са складанапрафіляваным горлам (мал. 5, тып I); з цыліндрычным горлам са шматрадковым рыфленнем па ім (тып II); з цыліндрычным горлам і рабром па ім (тып III); з горлам-раструбам (тып IV). Ручка з равочкам пасярэдзіне да збаноў XVI—XVII стст. прымацоўвалася верхнім канцом ці да рабра на горле, ці да месца нанясення арнаменту. Адзінкавыя фрагменты іх распісаныя па горлу і плечуках белым ці падфарбаваным ангобам пад бясколерную паліву. Матывы роспісу — тыя ж, што і на талерках, толькі асобныя элементы размяшчаюцца не гарызантальна, як на талерках, а вертыкальна.

Дымленага посуду знойдзена нязначная колькасць. Гаршкі і збаны XVI — першай паловы XVII ст. аздабляліся карбоўкаю. Два венцы гаршкоў па плечуках аздоблены карбоўкаю, а па шыйцы нанесена хваля ў тэхніцы глянцавання. Форма гаршкоў, кубкаў і збаноў XVI—XVII стст. адпавядае адначасным паліваным (дымленыя збаны тыпаў I—IV). Сярод матэрыялаў XVIII — першай паловы XIX ст. пераважаюць збаны, гаршкі, міскі і талеркі з глянцаванымі вертыкальнымі стужкамі, петлямі, сеткаю. Арнамент на талерках і місках наносіцца толькі знутры, а на макотрах, гаршках і збанах — толькі зверху. Дымлены посуд з глянцаваным арнаментам асабліва шырока быў распаўсюджаны ў гарадах, замках і мястэчках Беларусі менавіта ў XVIII—XIX стст.

На тэрыторыі Старога замка выяўлены фрагмент глянцаванага збана з утулкавым злівам і кручанаю ручкаю. Хутчэй за ўсё гэта прывазны выраб.

Такім чынам, у XVI—XVII стст. сярод замкавага керамічнага посуду пераважае паліваны. У астатніх частках горада ён складае значны працэнт ад агульнай колькасці




Мал. 7. Віды арнаменту на паліваным белагліняным посудзе канца XVI — першай паловы XVII ст.

начыння. Менавіта паліваная кераміка выконвае ролю сталовага посуду, а таму шчодра аздабляецца. Непаліваны посуд, што адыгрывае ролю пераважна кухоннага начыння, амаль не арнаментуецца.

### СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Гуревич Ф. Д. Из истории раннего Гродно // Советская археология. 1951. XV. С. 93.
2. Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989. С. 64. Рис. 34:1—7.
3. Зверуго Я. Г. Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Рис. 34:10, 12, 13.
4. Здановіч Н. І. Мірская бытавая кераміка // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі (далей — ПГКБ). 1983. № 3. С. 43—44.
5. Здановіч Н., Краўцэвіч А. Старажытны цэнтр Гродна // ПГКБ. 1985. № 1.
6. Кильдюшевский В. И. Раскопки на улице Гоголя // Археологическое изучение Пскова. М., 1983. Рис. 4.
7. Милюченков С. А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984.
8. Мытная книга, или реестръ мыта новаго, съ оценкою разныхъ товаровъ, провозившихся через Брестъ в теченіи первой половины 1583 года, и обозначениемъ количества пошлинъ взимавшихся за эти товары на Берестейской таможне (коморе) // Археографический сборник документовъ относящихся къ истории северо-западной Руси. Вильна, 1867. Т. III. С. 321.
9. Помнікі этнаграфіі. Мн., 1981. С. 87.
10. Трусов О. А. Археологический отчет о проведении раскопок в Мирском замке в июне 1980 г. // Архіў арэнднага прадпрыемства «Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут». Аб'ект 5/68. Кн. II.
11. Historia kultury materialnej Polski. W zarysie. Warszawa—Wrocław—Kraków— Gdańsk, 1978. T. 11. Z. 192e.
12. Navickaite O. Archeologimai tyrineimai Traku salos Pilyje. C. 74.
13. Tautavicius A. Vilnius pilies teritorijos kasinejimai // Valstubines LTSR architektūros paminklu apsaugos inspekcijos. Metrastis, 1960. Pav. 69—70.
14. Tautavicius A. Vilnius pilies teritorijos kasinejimai. S. 40—41.
15. Volkaite-Kulikauskiene. Punios Piliakalnis. Vilnius, 1974. Pav. V.

*Алег Трусаў*

## МАТЭРЫЯЛЬНАЯ КУЛЬТУРА КРЭЎСКАГА ЗАМКА

Доўгі час муры Крэўскага замка былі месцам, дзе няраз з'яўляліся мастакі, гісторыкі, краязнаўцы, фатографы, архітэктары і рэстаўратары. І вось у 1970 г. да дзірвана на замкавым падворку ўпершыню дакранулася рыдлёўка археолага. Гэта была архітэктурна-археалагічная разведка пад кіраўніцтвам Міхася Ткачова. Даследчык зрабіў некалькі шурфоў з мэтай высвятлення глы-

біні падмуркаў замкавых вежаў і сцен [5]. Аднак археалагічных знаходак было няшмат.

Летам 1985 г. ў Крэва прыехала вялікая археалагічная экспедыцыя, якую ўзначалілі Міхась Ткачоў і аўтар публікацыі. Упершыню на замкавым двары пачаліся шырокамаштабныя раскопкі, у якіх бралі ўдзел студэнты гістарычнага факультэта Гродзенскага універсітэта і Мінскага педінстытута [7, 6, 8]. Вялікі раскоп быў закладзены на замкавым падворку непадалёку ад Княскай вежы. Адразу пад дзірваном знойдзены абгарэлыя дошкі падлогі і под кафлянай печы. Падлога драўлянага будынка, які некалі тут стаяў, была зроблена з тоўстых сасновых дошак шырынёй 20—25 см. Таксама захаваліся камяні, што падкладаліся пад драўляны зруб. Будынак меў невялікія памеры (шырыня каля 5 м). Ацяпляла яго кафляная печ, под якой быў складзены з камянёў на гліне. Археолагі сабралі тут вялікую колькасць кафляў з роўнай паверхняй, без рэльефу і малюнкаў, пакрытых светлазялёнай палівай. Такая кафля ўжывалася ў другой палове XVIII — пачатку XIX ст.

Пасля таго як разабралі завал з паліванай кафлі, пад ім была знойдзена непаліваная рэльефная кафля першай паловы XVIII ст., аздобленая раслінным дывановым арнаментам. Відаць, печка стаяла на гэтым месцы доўга і на працягу XVIII ст. некалькі разоў перакладалася. У запаўненні жытла акрамя кафлі, ваконнага шкла і глінянага посуду знойдзены кавалкі фаянсавых начынняў, уласцівых для XVIII ст. Магчыма, што менавіта гэта пабудова згадваецца ў апошнім інвентары Крэўскага замка 1789 г.

Крыху глыбей у нашых раскопках мы прасачылі рэшткі кафляных печаў канца XVI — XVII ст., а таксама каменныя падмуркі (камяні, што клаліся пад ніжнія бярвёны) ад тагачасных драўляных будынкаў. У гэты час у Крэўскім замку была распаўсюджана каробкавая кафля, як непаліваная (тэракотавая), так і зялёнапаліваная з квадратнай або прамакутняй (асноўныя памеры 16,5×16,5 см; 17,5×17,5; 19×19; 19,5×19,5; 16×20,5 см) вонкавай пласцінай, па краі якой праходзіла рамка шырынёй 0,6—1 см. Па месцы ў аблямоўцы печаў знойдзеная кафля падзяляецца на сцянную, гзымсавую, паясковую, кутнюю, каронкі або гарадкі. Крэўская кафля аздаблялася розным арнаментам: геаметрычным (кропачкі-зорачкі, як на суседняй гальшанскай ці ашмянскай кафлі, ці квадрат з кропачкамі ў цэнтры) або раслінным













0 5 10 15 см

Мал. 1. Крэўская кафля канца XVI—XVIII ст.

14



15



16



17



18



19



20






Мал. 2. Крэўская кафля канца XVI—XVII ст.

9



10



11



12



13



14



15



Мал. 3. Крэўская кафля канца XVI—XVIII ст.

(матывы, пабудаваныя па прынцыпу чатырохскладовай сіметрыі, калі па чацвёртай частцы выявы можна аднавіць цалкам увесь малюнак; выява букета кветак у вазоне, а таксама выявы валошак). Некаторыя кафлі мелі выявы гербаў гаспадароў будынкаў, з манаграмамі ўладальнікаў. Гзымсавыя, а таксама паясковыя кафлі аздабляліся рэльефнымі малюнкамі галовак анёлаў з крылцамі (мал. 1, 2). Найбольшую цікавасць сярод знойдзеных экземпляраў уяўляе паясковая кафля памерам 10×18 см з малюнкам палявання на аленя з сабакамі (мал. 3:*12*). Аналагічная кафля знойдзена падчас раскопак Старога замка ў Гродне, а таксама ў Навагрудку [3].

На глыбіні 70—90 см прасочаны глінабітныя развалы больш старажытных печаў, што былі складзены з гаршковай кафлі. Гаршковыя кафлі XIV — XV стст. маюць цыліндрычнае тулава і вусце-адтуліну розных канфігурацый (круглае ці чатырохпялёсткавае) (мал. 3:*1—4*) [9].

Падчас раскопак было сабрана 8583 кавалкі кафляў, прычым гаршковых з іх — 6206 фрагментаў. Па форме венца, характары і прафілёўцы вусця вылучаны 12 тыпаў гаршковай кафлі (мал. 4). У XV ст. з'яўляецца гаршковая кафля з квадратным вусцем, якая існуе да канца XVI ст. Для кафлі XV — пачатку XVI ст. уласцівы даволі тоўстыя сценкі і донцы, цеста з дамешкамі буйнога пяску, роўныя ўнутраная і вонкавая паверхні. Кафля другой паловы XVI ст. мае крыху іншы характар. Яна добра абпалена і зроблена з добра прамешанага цеста. Донца зрэзана з ганчарнага кола ніткай, а на вонкавай і ўнутранай паверхні тонкіх сценак маюцца барозны для лепшага замацавання ў глінабітнай аблямоўцы печы. Кафля XVI ст. невысокая (10,5—14,5 см). Памеры квадратных вусцяў вагаюцца ад 8,8×8,8 да 18×18 см. Дыяметр круглых вусцяў кафлін другой паловы XVI ст. роўны прыкладна 15 см (мал. 5). Мы сабралі шмат кавалкаў абпаленай гліны, якая некалі змацоўвала між сабою гаршковую кафлю XVI ст. Варта адзначыць, што вусці кафлін не датыкаліся адна да другой, а раздзяляліся палоскамі гліны шырынёю ў некалькі сантыметраў. Некаторыя кафліны XVI ст. з квадратным вусцем знутры былі пакрыты зялёнай палівай.

Калі зрабіць стратыграфічны (гэта значыць паслойны) аналіз сценак археалагічных раскопаў, якія складаюцца з культурнага слою (глеба з рознымі будаўнічымі рэшткамі, што адклалася на замкавым двары пачынаючы




| Ф \ N | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ф вусця | 12,5 | 15,0 | 12×12 | 16,0 | 11,0 | 13,5 | 11,5 | 15,5 | 12,0 | 12,0 | 8,5 | 14,5×14,5 |
| Ф донца | 7,0 | 13,0 | 7,0 | 11,0 | 7,5 | 10,5 | 8,0 | 9,5 | 8,5 | 7,0 | | 10,0 |

0 5 10 15 см

Мал. 4. Гаршковая кафля XIV—XVI стст.



Мал. 5. Гаршковая кафля XVI ст.

з XIV ст.), можна адразу вылучыць самы старажытны слой цёмнага колеру таўшчынёй ад 20 да 40—50 см. У яго верхняй частцы было шмат вуголляў і попелу. Менавіта ў гэтым слоі выяўлены ў асноўным знаходкі XIV — XV стст.: каменныя ядры, вялікапамерная цэгла, паўцыркульная дахоўка, непаліваны гліняны посуд і гаршковая кафля. Праслойку вугалю і попелу можна аднесці да штурму і пажару замка ў 1433 г.

Значную цікавасць уяўляе калекцыя керамічных вырабаў, якімі здаўна славіліся крэўскія ганчары. Зроблены на ручным ганчарным крузе непаліваны посуд XIV — XVI стст. мае дамешкі жарствы ў глінянай масе і носіць на сабе сляды абварвання. На донцах некаторых гаршкоў XIV — XV стст. ёсць ганчарныя клеймы. Найбольш распаўсюджаныя тыпы арнаментаў — шматрадковы стужкавы, хвалісты, лукатка, наколы. У канцы гэтага перыяду крэўскі посуд вылучаецца разнастайным асартыментам: гэта розныя па памерах і афармленні венца гаршкі без ручак, міскі ў форме абрэзанага гаршка ці са злёгку або амаль гарызантальна адагнутым венцам (аналогіі вядомы па матэрыялах з Гродна, Ліды, Крычава: часам першы тып місак выкарыстоўваўся як друшляк), макотры з аналагічна афармленым ці проста зрэзаным краем з наляпным жгутом і без яго, розныя па глыбіні і дыяметры венцаў круглыя патэльні (накшталт віцебскіх) з вертыкальным венцам (апошнія маглі мець полае дзяржальна). У гэты ж час ужываецца характэрнае для гарадоў Панямоння

начынне з вертыкальным горлам (прататып пазнейшых гладышоў) (мал. 6, 7).

У XVI — XVII стст. да непаліванага дадаецца разнастайны сталовы і кухонны паліваны посуд (паліва зялёная і карычневая розных адценняў), звычайны для асартыменту гэтага часу ўсёй Беларусі: плыткія рынкі, што паступова змянілі патэльні без ножак, паліваныя і распісаныя па белым ангобе каляровымі фарбамі пад бясколерную паліву талеркі і паўміскі розных памераў (паліваныя аздоблены шматрадковым грабеньчыкам па борціку, а часам і канцэнтрычнымі кругамі з лукаткай паміж імі па донцы, як у магілёўскіх, мсціслаўскіх ці віцебскіх талерках), збаны з шырокімі ручкамі, глякі з носам-злівам і без яго, круглыя і авальныя біклагі з вушкамі для пасачка па баках; кубачкі і куфлі, а таксама разнастайны дымлены і чорнаглянцавы посуд (талеркі, місачкі з вузкім гарызантальным борцікам і міскі з вертыкальным борцікам, упрыгожаныя галінкавым ці сеткавым глянцавым арнаментам).



Мал. 6. Гаршчок XIV — пачатку XV ст.

У другой палове XVI — пачатку XVII ст. беларускія ганчары аднавілі тэхналогію вытворчасці маёлікі. З першай паловы XVI ст. вядомы першыя паліхромныя кафлі, а крыху пазней пачынаюць выраблядь і маёлікавы посуд, выяўлены амаль ва ўсіх беларускіх гарадах і мястэчках. Прыёмы нанясення каляровых паліваў на бытавое начынне часта выкарыстоўваліся тыя ж, што і ў кафлярстве. Густую эмаль (паліву) тоўстым слоем наносілі проста на чарапок пасля лёгкага ўтыльнага абпалу. Пасля другога абпалу пры тэмпературы 950° фарбы набывалі прыемны бляск, а чыстыя, насычаныя жоўты, сіні, белы, зялёны колеры талерак, місак, куфляў, збаноў выдатна выконвалі сваю дэкаратыўную функцыю. Але пры такой тэхналогіі разліў эмалі атрымліваўся няроўны, месцамі паліва злушчвалася, ішла пухірамі.

Магчыма, што ўдасканаленне тэхнікі роспісу ангобамі пад паліву спрыяла развіццю прыёмаў дэкаравання маёлікі. Як сведчыць археалагічны матэрыял Мірскага і Крэўскага замкаў, а таксама Віцебска, беларускія цаніннікі XVII ст. валодалі навыкамі роспісу пэндзлем непасрэдна



Мал. 7. Макотра XV ст.



Мал. 8. Шпора XVI ст. і наканечнікі стрэлаў

па чарапку і па сырой эмалі. Добрым прыкладам такога жывапісу можа паслужыць вялікі паліхромны куфель з прамакутняй па форме ручкай, што знойдзены ў Крэўскім замку ў слаях канца XVI — першай паловы XVII ст. Уся яго паверхня, за выключэннем ручкі, аздоблена раслінным арнаментам [2].

Акрамя посуду, крэўскія рамеснікі выраблялі паліваныя скарбонкі і люлькі, дымленыя падсвечнікі, тэракотавыя біканічныя і цыліндрычныя цяжары для рыбацкіх сетак, а таксама дзіцячыя цацкі. Пазней, у XIX — пачатку XX ст., мястэчка Крэва стала буйным цэнтрам ганчарнай вытворчасці [10].

Цікавую калекцыю складаюць вырабы з жалеза. Акрамя розных рамесных прылад, свярдзёлкаў, шылаў, іголак знойдзена 20 нажоў з вузкім і шырокім лязом. Цікавасць уяўляюць розныя тыпы замкоў, сярод якіх ёсць цыліндрычны XIV — XV стст., трохкутні замок першай паловы XVII ст. і вінтавы XVIII — XIX стст. У слаях XVII ст. археолагі натрапілі на цэлую звязку ключоў (13 штук) розных памераў. Шмат сабрана скабяных вырабаў. Найбольш ранняй з'яўляецца «эсавідная» завеса з перакручанымі завіткамі XVI ст., выкананая ў познегатычным стылі.

Да XIV — XV стст. адносіцца масіўная спражка паўкруглай формы з фігурным выступам для зашчэпкі. Такія

спражкі насілі багатыя гараджане Рыгі. Агонь жыхары Крэўскага замка здабывалі пры дапамозе крэсіва. Адна з такіх прылад, што мае два лёзы, ляжала ў слаях XVII ст. У XVI — XVIII стст. абаронцы і жыхары Крэўскага замка насілі скураныя боты з высокімі абцасамі, якія падбіваліся спецыяльнымі трохшыпнымі падкоўкамі. Іх археолагі сабралі каля чатырох дзесяткаў.

На ўзбраенні салдат Крэўскага гарнізона была як халодная, так і агнястрэльная зброя. Да XVII ст. абаронцы замка карысталіся лукамі. Пра гэта сведчаць тры чарашковыя наканечнікі стрэлаў (мал. 8). На сценах замка заўсёды стаялі гарматы і балісты, якія да XVI ст. стралялі каменнымі ядрамі. Знойдзеныя ў замку ядры мелі як круглую, так і авальную формы. Дыяметр найбольш вялікіх экземпляраў дасягае 25—26,5 см.

На замкавым двары заўжды знаходзіліся ўзброеныя вершнікі. Археолагі знайшлі шпору XVI ст., жалезныя канцы ад цугляў, падковы, каваныя конскія путы і цэлую скрабніцу для чысткі каня. Яна ўяўляе сабою жалабок з зубчастымі краямі, да якога прымацаваны чаранок для драўлянай ручкі (не захавалася) (мал. 9).

Да ювелірных вырабаў можна аднесці два медныя пярсцёнкі XV — XVI стст.

Сярод насельнікаў замка было шмат даволі заможных людзей. Гэта яскрава пацвердзілі археалагічныя раскопкі. Толькі ў 1985 г. было знойдзена 17 сярэбраных і медных манет. Гэта паўгрошы Яна Ольбрахта і Сігізмунда II Аўгуста, двайны дэнарый 1569 г., соліды часоў Стэфана



Мал. 9. Скрабніца

Баторыя, Сігізмунда III Вазы і Яна Казіміра, рыжскія соліды XVII ст. (што сведчыць аб трывалых сувязях з Прыбалтыкай), а таксама дзве медныя расійскія дзяньгі 1748 года чаканкі.

Аб шырокіх гандлёвых сувязях жыхароў Крэва з краінамі замежжа таксама сведчыць калекцыя імпартнага шклянога посуду. Гэта кавалкі шыкоўнай вазы для кветак, сценкі якой былі аздоблены рэльефнымі вертыкальнымі і гарызантальнымі спіральнымі палоскамі малочнага колеру. Тулава вазы ўпрыгожвалі наляпныя, адціснутыя ў спецыяльнай форме, маскароны. Мяркуючы па характары дэкору, гэта начынне магло быць зроблена ў Іспаніі ў канцы XVI ст. [4]. Значная колькасць імпартнага шкла зроблена ў Венецыі [1]. Гэта флаконы бясколернага шкла з філігранным дэкорам, збаночак з празрыстага сіняга шкла з адмысловай ручкай, талерка з глушанага малочнага шкла і фрагменты цыліндрычных начынняў з празрыстага ці фіялетавага шкла. Відаць, з рук нямецкага шкладува выйшаў фрагмент рэльефнага начыння, зробленага са светла-жоўтага, празрыстага шкла.

Да XVII ст. адносіцца шкляны посуд, упрыгожаны гравіроўкай. Гэта стопкі бясколернага шкла з гравіраваным пасам па краі і фрагменты флакона з празрыстага жоўтага шкла, гравіраванага раслінным арнаментам.

Шырокі асартымент шклянога посуду, знойдзенага ў Крэве, зроблены беларускімі гутнікамі. Гэта начынне для захавання і перавозкі вадкасці (кварты, паўкварты, бутэлькі, бутлікі, флягі і флаконы), а таксама сталовы і аптэчны посуд (стопкі, шклянкі, куфлі, бакалы, чаркі і келіхі). Археолагі сабралі некалькі сот кавалкаў прамакутняга і круглага ваконнага шкла XVI — XVIII стст. жоўтага і светла-зялёнага колеру.

Маецца ў археолагаў і калекцыя касцяных вырабаў. Гэта касцяныя накладкі, ручкі відэльцаў і нажоў. Значную цікавасць уяўляе вялікая касцяная люлька, аздобленая адмысловым арнаментам. Калекцыю астэалагічнага матэрыялу апрацавала археолаг з Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі спадарыня Н. Александровіч. Знойдзеныя косткі некалі належалі свойскай жывёле (коні, каровы, авечкі, свінні і козы) і дзікім звярам, на якіх палявалі насельнікі Крэўскага замка. Ахвярамі іх паляванняў былі ласі, зубры, дзікі і касулі.

Такім чынам, крэўская зямля падарыла археолагам значныя археалагічныя скарбы, якія сведчаць аб тым,

што замкавы падворак быў заселены з XIV да канца XVIII ст. і тут адбывалася інтэнсіўнае жыццё, нягледзячы на шматлікія войны і пажары.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Анри де Моран. История декоративно-прикладного искусства. М., 1982. С. 349. Рис. 558; Большая иллюстрированная энциклопедия древностей. Прага, 1980. С. 125.
2. Ганецкая І., Здановіч Н., Трусаў А. Вытокі беларускага фаянсу // Мастацтва Беларусі. 1988. № 6. С. 59.
3. Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV — XVIII стст. Мн., 1991. С. 119. Мал. 31:18.
4. Михайлова О. Э. Испанское стекло в собрании Эрмитажа. Л., 1970.
5 Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст. Мн., 1978. С. 35.
6. Ткачев М. А., Трусов О. А. Исторические и архитектурно-археологические исследования Кревского замка // Lietuvos TSR architektūros klausimai. 9(1). 1988.
7. Трусов О. А. Изучение замка в Гродненской области // Археологические открытия 1985 года. М., 1987. С. 466—467.
8. Трусаў А. А. Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990. С. 55.
9. Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI — XVII вв. Мн., 1988. С. 135.
10. Этнаграфія Беларусі (Крэўская кераміка). Мн., 1989. С. 278.

*Алесь Краўцэвіч*

# АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ ЛАЎРЫШАЎСКАГА МАНАСТЫРА НА ПАНЯМОННІ

Лаўрышаўскі манастыр — адзін з самых старажытных на Беларусі — вядомы з 13 ст. Ипацьеўскі летапіс паведамляе пад 1262 г., што князь Войшалк заснаваў яго «на реце на Немне межи Литвою и Новымъгородком» [2]. Магчыма, назву манастыра можна звязваць з Рымонтам, сынам князя Трайдэна (княжыў у 1270—1282 гг.). Рымонт стаў манахам і атрымаў імя Лаўрыш [4]. Як паведамляе беларускі летапіс, ён збудаваў манастыр «в пуще, около реки Немана... построил в монастыре церковь Святого Воскресения (Господня)... и от того был назван Лавришевский монастырь...» [3].

З цягам часу гэты асяродак культавага жыцця стаў адным з буйнейшых на Беларусі, пасля Брэсцкай царкоўнай уніі ён быў базылянскім. У 1836 г. манастыр быў зліквідаваны царскімі ўладамі, а манастырская Успенская царква стала прыходскай. Гэты драўляны храм, збудава-

ны ў 1768 г., захаваўся да нашых часоў. І сёння стаіць ён на ўскрайку вёскі Лаўрышава, што ў Навагрудскім раёне.

Прынята лічыць, што напачатку манастыр знаходзіўся ў іншым месцы, менавіта ў 4 км ад Лаўрышава на правым беразе Нёмана насупраць вёскі Гнесічы. Тут маецца пясчаная дзюна (урочышча Нязвішча), большая частка якой зарасла маладым сасновым лесам. Яна прыкметна выдзяляецца сярод пляскатай поймы Нёмана. Менавіта з гэтай дзюнай легенда звязвае першапачатковае месцазнаходжанне Лаўрышаўскага манастыра. Тут шукалі яго М. А. Ткачоў (1971 г.) і А. М. Кушнярэвіч (1988 г.). Першы адкрыў стаянку каменнага веку, другі каля паўднёва-заходняга ўскрайку пагорка выявіў падмуркі царквы пачатку 20 ст. Гісторыкам Р. В. Баравым знойдзены праект гэтай царквы ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, датаваны 1908 г. [5]. Невысокі цэнтрычны храм з высокай вежай-званіцай збудавалі «на горе Св. Елисея в Лавришевском монастыре Новогрудского уезда». Паводле інфармацыі, атрыманай ад мясцовых жыхароў, царква была разбурана ў часы першай сусветнай вайны. Дакладны час пераносу манастыра да вёскі Лаўрышава невядомы.

У маі 1990 г. па заказу Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі аўтарам было праведзена абследаванне наваколля вёскі Лаўрышава і самой вёскі з мэтай выяўлення месцазнаходжання старажытнага Лаўрышаўскага манастыра. Ва ўрочышчы Нязвішча на пясчанай, незанятай лесам паўночнай частцы дзюны сабраныя крэмневыя прылады эпохі мезаліту (вызначэнне В. Л. Ліпніцкай). Існаванне ў названай мясціне манастыра выклікае сумненне. Пясчаная дзюна, якая падчас разліваў Нёмана з усіх бакоў была акружаная вадой, мала падыходзіла для размяшчэння чалавечага жылля.

Намі праведзеныя разведвальныя раскопкі на тэрыторыі вёскі Лаўрышава каля Успенскай царквы. Храм размешчаны на паўднёвай ускраіне вёскі каля маста цераз рэчку Валаўку.

Закладзены тры шурфы агульнай плошчай 6 кв. м. Паколькі гэта першыя археалагічныя раскопкі ў Лаўрышаве, варта разгледзець іх дэталёва.

Шурф 1 (2×2 м) закладзены на самым схіле пагорка, ён, відавочна, трапіў на задворкі старажытнага паселішча, куды ў 17 ст. выкінулі разбітую кафляную печку. На глыбіні 0,4—0,6 м залягае светла-шэры культурны слой




Мал. 1. Схема размяшчэння шурфоў

са знаходкамі: у верхняй частцы 18—19 стст., у ніжняй — 17 ст.

Ніжні вільготны цёмна-шэры слой магутнасцю 0,8—1 м утрымлівае праслойкі ад развалу кафлянай печы (на глыбіні 0,5—1,1 м). Паколькі не знойдзена якіх-небудзь аформленых плямаў гліны, а фрагменты кафлі раўнамерна раскіданыя па шурфе, напрошваецца выснова, што ў гэтым месцы печкі не было, гліна і фрагменты кафлі прынесеныя з іншага месца. Па знаходках керамічнага посуду і кафлі печка датуецца 17 ст.

У ніжняй частцы цёмна-шэрага вільготнага слою выяўленыя рэчы 16 ст., знойдзена некалькі фрагментаў непаліваных гаршкоў 14—15 стст. (адзін фрагмент, магчыма, больш ранні).

У шурфах 2 і 3 (1×1 м) зафіксаваны амаль аднародны светла- і цёмна-шэры слой таўшчынёй 0,7—0,8 м са зна-




Мал. 2. Кафля з геральдычнай выявай

ходкамі 17—19 стст. Зандажы ў іншых месцах пагорка наводзяць на думку, што культурны слой трэба шукаць галоўным чынам па краях пагорка (у цэнтры яго размешчана Успенская царква).

У археалагічнай калекцыі першае месца па колькасці знаходак займае **кафля**. Сабрана яе 548 фрагментаў (з іх 253 дробныя фрагменты румпы ў калекцыю не ўзятыя). Амаль уся кафля, за выключэннем некалькіх фрагментаў, выяўлена ў шурфе 1 (542 адз.). Большасць кафлі з шурфа 1 сабрана ў пласце 4 (477 фрагментаў). Кафля была перамешаная з глінай, пласт 4 давялося выбіраць нажамі, каб не пашкодзіць шматлікія фрагменты. На наш погляд, наяўнасць бессістэмнага нагрувашчвання кафлі і гліны ў адным месцы каля самага краю жылой пляцоўкі на схіле пагорка сведчыць аб тым, што мы натрапілі на месца, куды выкінулі разбітую кафляную печку. Калі будзе магчымасць правесці тут большыя па аб'ёме даследаванні, то, несумненна, калекцыя кафлі папоўніцца. Ужо зараз можна спрабаваць рабіць рэканструкцыю вонкавага выгляду печы. Больш за ўсё (96 адз.) сабрана кафлі з геральдычнай выявай: дзяржаўныя гербы Польскага каралеўства, Вялікага княства Літоўскага і нявызначаны геральдычны знак, які напамінае дзядоўнік (мал. 2). Толькі два фрагменты тэракотавыя, са слядамі пабелкі, астатнія пакрытыя зялёнай палівай.

На другім месцы па колькасці фрагменты кафлі з выявай аркі, створанай паралельнымі лініямі (мал. 3:*3*) — зялёнапаліванай (17 адз.) і тэракотавай (3 адз.). Падобныя кафліны выяўленыя ў Навагрудку [1]. Фрагменты з сіметрычнай выявай анёлаў вакол вазы (мал. 3:*1* — 4 адз.) і фрагменты з сіметрычным геаметрычна-раслінным арнаментам (мал. 3:*4*—6 адз.), відаць, належаць да адной і той жа гзымсавай кафлі (аналагі таксама маюцца ў Навагрудку). Усе яны пакрытыя зялёнай палівай, бакавыя рамкі адсутнічаюць. Па адным фрагменце знойдзена ад кафлі зялёнай палівы з сіметрычным раслінным арнаментам (мал. 3:*2*), ад кафлі з выявай гронкі вінаграду і гзымсавай кафлі з выявай лісцяў аканту. Усе названыя кафліны знойдзены ў шурфе 1 і датуюцца 17 ст. Да гэтага ж часу належаць дробныя фрагменты, тып арнаменту якіх не вызначаецца (44 зялёнапаліваныя, з іх 6 ад гзымсавых, 8 ад тэракотавых кафлін), і большая частка фрагментаў румпаў (103 адз., ды яшчэ падчас раскопак не ўзяты 253 фрагменты). Дробны кавалак




Мал. 3. Фрагменты зялёнапаліваных кафляў 17 ст.

зялёнапаліванай кафлі 17 ст. знойдзены і ў шурфе 3. Акрамя таго, у шурфах 1 і 2 выяўлены фрагменты гладкай зялёнапаліванай кафлі 18 ст. (шурф 1—4 адз., шурф 2—3 адз.).

**Керамічны посуд.** Знойдзена 468 фрагментаў непаліванага, 47 фрагментаў дымленага і 30 фрагментаў паліванага керамічнага посуду (з іх не ўзята ў калекцыю 276 дробных фрагментаў непаліваных і 6 — дымленых начынняў). Непаліваны посуд прадстаўлены амаль выключна гаршкамі (ёсць яшчэ макотры). Самымі старажытнымі з'яўляюцца венцы гаршкоў 14—15 стст. (мал. 4:*1, 12а* — апошняе венца, магчыма, адносіцца да больш ранняга часу).

Некалькі венцаў гаршкоў датуюцца канцом 15—16 ст. (мал. 4:*4—6, 10*). Да гэтага ж часу можна аднесці і венца макотры (мал. 4:*8*). Асноўная маса начынняў належыць да 17 ст. (мал. 4:*3, 9, 7, 12*) і 17—18 стст. (мал. 4:*2, 11*).

У асартымент невялікай калекцыі моранага (дымленага) посуду акрамя гаршкоў уваходзяць рынкі (мал. 4:*13*), збаны, глёк. На некалькіх фрагментах сценак выяўлены глянцаваны арнамент. Дымлены посуд быў распаўсюджаны ў канцы 16—19 ст.

Асноўная маса паліванага посуду датуецца 18—19 стст. Ён пакрыты карычневай і зялёнай палівай розных адценняў (наносілася большай часткай толькі знутры). Венца адной з талерак з зялёнай патрэсканай, відаць, ад агню палівай знутры (мал. 4:*14*) разам з некалькімі гаршкамі можна аднесці да 17 ст.

**Вырабы са шкла і жалеза.** Знойдзены два фрагменты шкляных квартаў: адзін — празрыстага шкла (мал. 4:*17*), другі — зеленаватага шкла; донца стопкі (мал. 4:*18*) 18—19 стст., два фрагменты ваконнага шкла (каля 1 мм таўшчынёй), тры фрагменты начынняў 19 — пачатку 20 ст. Металічныя вырабы прадстаўлены дзвярной завесай 19—20 стст. і цвікамі 17—19 стст. (мал. 4:*15, 16*). Знаходкі захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі ў Гродне.

На падставе здабытага падчас раскопак археалагічнага матэрыялу можна сцвярджаць, што мы знайшлі культурны слой Лаўрышаўскага манастыра, бо яшчэ ў 19 ст. манастыр тут існаваў. Нельга выключаць верагоднасць таго, што старажытны Лаўрышаўскі манастыр з самага пачатку знаходзіўся на гэтым месцы, каля сучаснай вёскі Лаўрышава, а не на Нязвішчы. Такому меркаванню




Мал. 4. Керамічны посуд, вырабы са шкла і металу

спрыяюць знаходкі 14—15 стст. Трывалая легенда аб першапачатковым месцазнаходжанні манастыра на пясчаным пагорку насупраць Гнесічаў, магчыма, звязана з выключным рэльефным становішчам гэтага пагорка. Ён — самая высокая мясціна ў ваколіцы і вельмі прыкметна выдзяляецца на шырокай і нізкай пойме Нёмана (каля 1,5—2 км шырынёй).

Магчыма, далейшыя раскопкі ў Лаўрышаве дазволяць праясніць сітуацыю.

### СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Краўцэвіч А. К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV — XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991. С. 119. Мал. 31:8.
2. ПСРЛ. Т. 11. Стб. 859.
3. ПСРЛ. Т. 35. С. 94—95.
4. Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 146.
5. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 309, воп. 2, адз. зах. 149.

*Юрась Бохан*

## УЗБРАЕННЕ ВЕРШНІКАЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў КАНЦЫ XIV — ПАЧАТКУ XV ст.
### (па матэрыялах княскіх пячатак)

XIV — XV стагоддзі былі пераломнымі ў развіцці вайсковай справы ў Еўропе. Удасканаленне наступальнай зброі і з'яўленне зброі агняпальнай прывялі ў рэшце рэшт да ўзнікнення цэльнакаванага даспеха на Захадзе. Неабходнасцю барацьбы з татарамі была абумоўлена арыенталізацыя вайсковай справы ва ўсходнерускіх княствах. Эвалюцыя ва ўзбраенні не абышла і Вялікае княства Літоўскае, значную частку якога складалі этнічна беларускія землі. Да гэтага часу належаць першыя ўзгадкі пра айчыннае рыцарства, блізкую да еўрапейскай тактыку, а таксама зброязнаўчую тэрміналогію. Аднак недахоп археалагічных матэрыялаў, якія б дазволілі падрабязна рэканструяваць узбраенне вояроў Вялікага княства ў XIV — XV стст., прымушае шукаць іншыя крыніцы, карысныя ў гэтым плане, і надае ім асаблівае значэнне.

Да падобных матэрыялаў належаць чатыры пячаткі літоўскіх князёў, выяўленыя ў зборы пергаментных даку-

ментаў Галоўнага архіва Даўніх Актаў у Варшаве супрацоўнікам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Жлуткам і аўтарам. У пэўнай ступені выявы на пячатках маюць для вывучэння зброі некаторыя перавагі над археалагічнымі знаходкамі. Знаходка той ці іншай зброі, якая магла быць згублена прадстаўнікамі варожага боку, узята ў якасці трафея і г. д., не заўсёды сведчыць пра распаўсюджанне яе на той тэрыторыі, дзе яна знойдзена. Між тым як на пячатках, па ідэалагічных меркаваннях, павінен быў змяшчацца баявы ўбор, уласцівы менавіта для гэтых зямель. Акрамя таго, выявы паказваюць спосабы нашэння, спалучэння тых ці іншых відаў узбраення, даюць уяўленне аб такіх элементах, якія ў зямлі захоўваюцца дрэнна.

Аднак, з іншага боку, пэўная ўмоўнасць, схематычнасць выяў не дазваляе рэканструяваць дробныя дэталі рыштунку без прыцягвання аналагаў у выпадку, калі гэта абумоўлена тыпалагічна.

Найбольш ранняя з разглядаемых пячатак належыць ноўгарад-северскаму князю Дзмітрыю Карыбуту і датуецца 1386 г. [1]. Узровень выканання і стан захаванасці пячаткі досыць добры (мал. 1; 4:*1*). На ёй паказаны вершнік з надзвычай цікавым узбраеннем, у якім спалучаюцца элементы як Усходу, так і Захаду (мал. 4:*1а*).



Мал. 1. Пячатка ноўгарад-северскага князя Дзмітрыя Карыбута 1386 г.

На галаве вершніка шлем старажытнарускай, сферака-нічнай формы тыпу ІІБ, паводле класіфікацыі А. Кірпічнікава [8, с. 24]. Такія шлемы ўжываліся ў XIV ст. без наносніка і мелі толькі калявочныя выразы і характэрны шарык — «яблык» на шпілі [8, с. 29]. Шлем мае кальчужную барміцу з выразам для твару.

Цела воіна ахоўвае кальчуга з доўгімі рукавамі, на кісцях рук — рукавіцы. На нагах — верагодна, кальчужныя панчохі з металічнымі ці характэрнымі для таго часу скуранымі [13, с. 279] накаленнікамі. Шпоры доўгія, рыцарскія, з вялікай зорачкай. Торс вершніка засцерагае баявое пакрыццё пукатай формы, найверагодней так званая крытая кіраса, пашыраная ў Еўропе з сярэдзіны XIV ст. Яна складалася з буйных металічных частак, абцягнутых зверху тканінай ці скурай, якая ў шэрагу выпадкаў мела не толькі утылітарнае, але і дэкаратыўнае значэнне. Ужыванне крытых кірас на землях Вялікага княства Літоўскага, у прыватнасці імпарт іх з Польшчы, фіксуецца ў пісьмовых крыніцах. Цікава, што кошты на іх набліжаліся да мабілізацыйных коштаў на тэрыторыі Прусіі [16, с. 66—70].

Узброены вершнік лёгкай кідальнай дзідай — суліцай з рамбавідным наканечнікам тыпу II (класіфікацыя А. Кірпічнікава [7, с. 7]), маленькім, выгнутым па вертыкалі шчытом — тарчай [10, с. 45] і, як можна меркаваць па перавязі, мячом. Акрамя перавязі, талію воіна сцягвае так званы рыцарскі пас. У XIV ст. такія пасы складаліся са злучаных паміж сабой асобных металічных частак [12, с. 58]. Звычайна яны насіліся нізка на клубах і да іх непасрэдна прывешваўся меч, але часам, пры наяўнасці дадатковай перавязі, пас мог змяшчацца і на таліі, падобна як на карыбутаўскай пячатцы.

У цэлым узбраенне вершніка досыць лёгкае (адсутнасць доўгай дзіды, пераважна кальчужнае пакрыццё рук і ног), хаця пасадка на кані рыцарская, з выпрастанымі нагамі. Цікава, што пад Грунвальдам у 1410 г. Ноўгарад-Северская харугва была далучана да аддзела польскіх рыцараў, паколькі складалася выключна з лёгкіх коннікаў [5, с. 226]. Не выключана, што на пячатцы паказаны ўзор лёгкага вершніка Вялікага княства Літоўскага.

Другая пячатка датуецца 1387 г. і прыкладаецца да дакумента троцкага і полацкага князя Скіргайлы, які запэўнівае польскага караля ў вернасці [2]. Змешчаны на пячатцы вершнік (мал. 2; 4:*2*) акрамя доўгай дзіды

ўзброены трохкутным шчытом, найбольш характэрным для Еўропы XIV ст. [11, с. 93], і мячом з доўгай, крыху выгнутай да вастрыя крыжавінай тыпу 6 ці 7, паводле класіфікацыі Оўкешота [12, с. 60—61]. Меч падвешаны, відаць, на перавязі, паколькі крыжавіна яго знаходзіцца значна ніжэй рыцарскага паса, які ідзе наўскос.

Галаву рыцара ахоўвае высокі завостраны шлем з кальчужнай барміцай і заслонай. Шлемы падобнай выцягнутай формы з падоўжаным з бакоў і ззаду звонам, што дазваляла бараніць вушы і карак воіна, прынята называць баскінетам (ад англ. і фр. bascinet ці bassinet) [13, с. 18]. У залежнасці ад наяўнасці заслоны баскінеты дзяліліся на закрытыя і адкрытыя. Закрытыя баскінеты з'яўляліся першымі формамі прылбіц (прылбіцамі ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім называлі ўсе шлемы з рухомай аховай твару), ці прылбіцамі старэйшага тыпу [13, с. 182]. Прылбіцы, падобныя змешчанай на скіргайлаўскай пячатцы, мелі назву «псіны каптур» ці «псіная пыса», якую атрымалі ад нямецкага тэрміна «hundsgugel» дзякуючы своеасаблівай выцягнутай форме звона і засло-



Мал. 2. Пячатка троцкага і полацкага князя Скіргайлы 1387 г.

ны [13, с. 182—183]. «Псіныя пысы» былі распаўсюджаны ў Еўропе ў другой палове XIV — пачатку XV ст. Ранні іх варыянт, які мы бачым на пячатцы, забяспечваўся заслонай, што мацавалася на адной лобнай завесе, і з'яўляўся сведчаннем нямецкага ўплыву, паколькі такая сістэма падвескі заслоны была ўласцівая пераважна для Германіі [14, с. 15].

З-за пэўнай умоўнасці выявы астатнія дэталі ўзбраення рэканструяваць цяжка. На падставе бліжэйшых аналагаў, у прыватнасці даспеха, знойдзенага ў мясцовасці Седленткаў Серадскага ваяводства ў Польшчы, які мае прылбіцу падобнага тыпу [15, с. 48], можна меркаваць, што вершнік на скіргайлаўскай пячатцы апрануты ў характэрную для XIV ст. брыгандыну (камізэльку з прымацаванымі з сярэдзіны шчыльна падагнанымі адна да адной невялікімі пласцінамі) альбо крытую кірасу [16, с. 66—67] і мае ахову рук і ног з буйных металічных частак (мал. 4:*2а*).

Трэцяя пячатка, якая датуецца 1394 г., належыць, відавочна, Вітаўту і завярае пергамент Вітаўта, Скіргайлы, кіеўскага князя Уладзіміра і Фёдара Ратненскага да караля Уладзіслава Ягайлы па справе Андрэя Полац-



Мал. 3. Пячатка князя Вітаўта 1394 г.

кага [3]. Пячатка мае высокую якасць выканання і знаходзіцца ў добрым стане, калі не лічыць крыху змазаных мяча і нагі рыцара (мал. 3; 4:*3*).

Выява ўяўляе сабой, падобна папярэдняй, варыянт «Пагоні» з дзідай, але ў адрозненне ад яе тут на шчыце змешчаны шасцікутны крыж Ефрасінні Полацкай (арцыбіскупскі). Узбраенне вершніка цяжкае, класічнае для рыцарскай кавалерыі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы канца XIV ст. (мал. 4:*3а*). Доўгая дзіда забяспечана трохкутным падоўжаным сцяжком з крыжам, які, верагодна, паўтарае выяву крыжа на шчыце. Шчыт вялікі, трохкутны, традыцыйнай формы, падвешаны цераз плячо на перавязі. Меч знаходзіцца нізка, на рыцарскім пасе ці перавязі, мае навершша грушавіднай, «келіхаватай» формы тыпу Т [12, с. 58—59] і выгнутае перакрыжаванне тыпу 6 ці 7 [12, с. 60—61] (класіфікацыя навершша і перакрыжавання паводле Оўкешота).

Шлем — «псіная пыса», упрыгожаная султанам з пер'яў; заслона мацуецца на бакавых завесах-шарнірах. Ахова рук і ног рыцара складаецца са сталёвых наплечнікаў, зарукаўяў, набедранікаў, нагаленнікаў, завостраных, вырашаных у адным стылі з прылбіцай налакотнікаў і накаленнікаў, а таксама вастраносых гатычных чаравікаў з доўгімі, загнутымі ўгару шпорамі з зорачкай.

Торс вершніка пакрыты хітонам-котай, якая, як можна меркаваць па «заходнееўрапейскім» характары ўзбраення ў цэлым, магла быць апранута паверх брыгандыны ці крытай кірасы. Конь таксама задрапіраваны глухой папонай — «кропежам», што хавае яго з галавы да ног. Сядло мае крэслападобную заднюю луку, і гэта дазваляе залічыць яго да рыцарскіх высокіх сёдлаў, якія забяспечвалі вершніку ўстойлівую пасадку на кані [9, с. 40].

Апошняя з пячатак прыкладзена да паслання Вітаўта да Ягайлы, што датуецца 1404 г. [4]. Цікавасць гэтай пячаткі перш за ўсё ў тым, што на ёй паказаны воін у «белым», не пакрытым ніякімі шатамі даспеху, пра што сведчыць бачная акруглая кіраса і набраны з гарызантальных пласцін фартух (спаднічка), заслоненыя толькі часткова невялікім трохкутным шчытом (мал. 4:*4*). Калі ўлічыць, што век «белых» латаў пачаўся толькі з 1410 г. [13, с. 280], то трэба прызнаць, што перад намі адзін з даволі ранніх прыкладаў цэльнакаванага непакрытага даспеха (мал. 4:*4а*). Дарэчы, наяўнасцю падобнай дасканалай аховы цела тлумачыцца хутчэй за ўсе і памер шчыта,




Мал. 4. Прамалёўкі выяў вершнікаў на пячатках і рэканструкцыі ўзбраення

які тут значна меншы за ўзоры, пададзеныя на пячатках 1387 і 1394 гг., паколькі тэндэнцыя да змяншэння гэтага тыпу зброі ўзрастала ў залежнасці ад узмацнення ахоўных якасцяў даспеха [13, с. 260].

Ахова ног вершніка цэльнаметалічная, пласцінкавая, з буйных частак (накаленнікі, набедранікі, нагаленнікі і чаравікі). Бачная правая рука паказана схематычна, але, відавочна, пакрыццё рук таксама складалася з буйных металічных частак.

На галаве рыцара — баскінет з кальчужнай барміцай, хаця цяжка вызначыць, адкрыты ён ці закрыты, паколькі гэта месца пячаткі пашкоджана.

З наступальнага ўзбраення адлюстраваны толькі меч з доўгім, звужаным да вастрыя лязом і вялікай, магчыма ў паўтары рукі, рукаяццю. Падобна, што гэта меч тыпу XVII, паводле класіфікацыі Оўкешота [12, с. 53]. Такія мячы выкарыстоўваліся ў Цэнтральнай Еўропе з сярэдзіны XIV да канца першай чвэрці XV ст., не мелі долу, былі прыстасаваны як для ўдараў, так і для ўколаў і з'яўляліся вынікам эвалюцыі нямецкага «вялікага мяча» [12, с. 67]. Крыжавіна мяча доўгая, простая, тыпу I [12, с. 60], навершша дыскападобнае, тыпу G, H, I, J ці K [12, с. 55—56] (класіфікацыя Оўкешота).

Такім чынам, на падставе выяў на разгледжаных вышэй пячатках можна меркаваць, што на землях Вялікага княства Літоўскага ў канцы XIV — пачатку XV ст. бытавалі ўзоры тыповай, а часам нават перадавой для тагачаснай Еўропы зброі, такой, напрыклад, як «белы» даспех. Ужыванне закрытага шлема-прылбіцы, глухога, з галавы да ног, цэльнаметалічнага пакрыцця воіна, рыцарская пасадка ў сядле і адпаведны камплект наступальнага ўзбраення сведчаць пра існаванне тут у гэты час цяжкай кавалерыі. Наяўнасць такой кавалерыі вызначала агульны характар войска Вялікага княства і яго тактыку. Паказальна, што на Грунвальдскім полі войска Вітаўта выкарыстоўвала тыповую рыцарскую пабудову — клін, дзе добра ўзброеныя рыцары на моцных конях абкружалі змешчаных у цэнтр лёгкіх вершнікаў, і такую пабудову храніст называе для Літвы традыцыйнай [6, с. 72].

Заходнееўрапейскія ўплывы на эвалюцыю ўзбраення Вялікага княства Літоўскага ў канцы XIV — пачатку XV ст. ажыццяўляліся, найверагодней, праз яго асноўнага праціўніка — Германію ў асобе Тэўтонскага ордэна

і асноўнага саюзніка — Польшчу, якая ў сваю чаргу таксама адчувала ўздзеянне нямецкай вайсковай справы. Гэта знайшло сваё выяўленне ў бытаванні на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага прылбіц «псіная пыса» з характэрным для Германіі мацаваннем заслоны на адной лобнай завесе і сякуча-колючых вялікіх мячоў, пашыраных у Германіі і Скандынаўскіх краінах, у адрозненне ад Італіі, Францыі, Іспаніі і Англіі, дзе аддавалася перавага колючым мячам [12, с. 54].

У той жа час ужываліся і тыя элементы ўзбраення ўсходу Еўропы, якія па сваіх баявых якасцях мала адрозніваліся ад аналагічных заходніх узораў (сфераканічны шлем у параўнанні з адкрытым баскінетам), альбо тыя, якія не мелі аналагаў на Захадзе (суліца), але эфектыўнасць якіх выкарыстоўвалася супраць цяжкаўзброенага ворага настолькі ўдала, што прымушала апошніх раз-пораз да пераймання [6, с. 107].

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ


1. Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Dokumenty pergaminowe, п. 4435.
2. Там жа, п. 4439.
3. Там жа, п. 4446.
4. Там жа, п. 4448.
5. Wapowski B. Dzieje korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1847.
6. Длугош Я. Грюнвальдская битва. М.; Л., 1962.
7. Кирпичников А. Древнерусское оружие. Вып. 2: Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX — XIII вв. М.; Л., 1966.
8. Кирпичников А. Древнерусское оружие. Вып. 3: Доспех, комплекс боевых средств IX — XIII вв. Л., 1971.
9. Кирпичников А. Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX — XIII вв. Л., 1973.
10. Кирпичников А. Военное дело на Руси в XIII — XV вв. Л., 1976.
11. Nadolski A. Broń i stroj rycerstwa polskiego w średniowieczu. Wrocław, 1979.
12. Nadolski A. Polska broń. Broń biała. Wrocław, 1984.
13. Kwaśniewicz Wł. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989.
14. German Mediewal armies 1300—1500. Osprey. Men-at-arms series.
15. Broń średniowieczna z ziem polskich. Katalog. Lódź, 1978.
16. Uzbrojenie w Polsce średniowiecznej 1350—1450. Lódź, 1990.

*Алег Дзярновіч*

# ШЛЯХІ ПРАНІКНЕННЯ КАФЛІ НА БЕЛАРУСЬ:
## Да пытання беларуска-нямецкіх кантактаў

З'яўленне кафлі на Беларусі было значнай падзеяй, і звязана гэта з традыцыямі мураванага дойлідства. Адны з першых грамадзянскіх мураваных пабудоваў нашага краю зафіксаваны ў Полацку [9, с. 92] і Гродне [9, с. 94, 99; 1, с. 136]. Гэтыя хорамы апошняй трэці XII ст. не мелі ацяпляльных прыстасаванняў і адпаведна не маглі выкарыстоўвацца ў якасці пастаяннага жытла. Падобная сітуацыя склалася і з абарончымі вежамі-«стаўпамі». Яны вельмі блізкія да вежаў-данжонаў, што пачалі распаўсюджвацца ў Заходняй Еўропе з IX ст. і скарыстоўваліся як пастаяннае рыцарскае жытло. Нашыя ж «стаўпы» не мелі яшчэ эфектыўнай сістэмы ацяплення, галоўнае іх прызначэнне — абарончае. Таму іх трэба класіфікаваць як вежы **тыпу** данжон. З'яўленне ж на Беларусі кафлі і кафляных печаў зрабіла магчымым пастаяннае круглагадовае пражыванне ў мураваных пабудовах, унесла змены ў ландшафт нашага краю. Абжытыя замкі, мураваныя палацавыя комплексы і бюргерскія камянічкі сталі неад'емнай часткай беларускага гістарычнага краявіду. Характэрны прыклад таму — Крэўскі замак. Паводле апошніх даследаванняў, дадзены замак — першая цалкам мураваная кастэль у Вялікім княстве Літоўскім, пабудаваная на мяжы XIII і XIV стст. [10, с. 19]. Княская вежа Крэўскага замка — данжон у поўным сэнсе слова, абарончая вежа, у якой жылі альбо знаходзіліся ў зняволенні вялікія князі. Інтэр'еры вежы былі аздоблены фрэскамі. Аналіз гэтых фактаў дазволіў І. Чарняўскаму прыйсці да высновы, што на працягу XIV ст. са з'яўленнем і распаўсюджаннем на Беларусі кафляных печаў адбываецца паступовы зрух у прызначэнні мураваных пабудоў, якія пачынаюць выкарыстоўвацца для жытла [14, с. 112].

Яшчэ адзін прынцыповы момант — існуе трывалае ўяўленне аб тым, што беларускія запазычанні агульнаеўрапейскіх дасягненняў адбываліся праз Польшчу, якая выконвала ролю спасярэдніка ў стасунках Беларусі з Заходняй Еўропай. Хутчэй жа размова можа ісці пра ўзаемаабмен, калі і сама Польшча адчувала пэўны ўплыў Беларусі альбо — праз яе — візантыйскай культурнай

традыцыі. Такім чынам, акрэсліваецца праблема абмену інфармацыяй, што, уласна, і фарміравала еўрапейскую цывілізацыю. Высвятленне канкрэтыкі гэтых інфармацыйных кантактаў дазваляе лепей уявіць працэсы развіцця матэрыяльнай культуры, а таксама ўдакладніць чыста гістарычныя пытанні.

Закранаючы непасрэдна тэму кафлі, зазначым, што існуе думка аб пранікненні кафлі на Беларусь праз Польшчу. Такога гледжання прытрымліваецца латышская даследчыца І. Осэ [6, с. 143—144]. Не адвяргаецца такі варыянт і беларускімі археолагамі, але прызнаецца магчымасць непасрэдных кантактаў з Германіяй (сувязі Полацкай зямлі з Ганзейскім саюзам) [4, с. 12]. Як кампрамісны варыянт разглядаецца пранікненне кафлі рознымі шляхамі з розных цэнтраў (праз Польшчу, Чэхію, а таксама з Германіі) [4, с. 12]. А. Трусаў лічыць найбольш верагодным пранікненне кафлі на Беларусь з Ніжняй Германіі [12, с. 130].

Таму неабходна прасачыць генезіс кафлі ў сярэднявечнай Еўропе. У XII — XIII стст. пячная кафля была вядома ў раёнах Альпаў і Саксоніі [18, с. 356—358]. Толькі ў пачатку XIV ст. з'яўляецца яна ў Сярэдняй Германіі. У XIV ст. значнымі цэнтрамі вырабу кафлі былі Швейцарыя і горад Буда. У паўночна-нямецкіх гарадах кафля атрымала шырокае распаўсюджанне ў канцы XIV ст., у Скандынавіі кафляныя печы пашырыліся ў XV ст. На тэрыторыі Латвіі кафляныя печы пачалі шырока выкарыстоўвацца з XVI ст. Іх увядзенне ў больш ўжытак, пэўна, тармазілася шырокім бытаваннем пячэй, што абаграваліся непасрэдна адкрытым цёплым паветрам, так званымі гіпакаўстамі [6, с. 143]. Першая кафля на Беларусі зафіксаваная ў Полацку і датуецца самым пачаткам XIV ст. Пад час раскопак на Верхнім замку былі знойдзеныя падмуркі мураванага харама і драўлянай пабудовы каля яго. У драўляным памяшканні выяўлены рэшткі печы, адначасовай пабудове. Дэндрахраналагічны аналіз, які правяла Н. Чарных, дазволіў вызначыць дату ніжніх плахаў — 1304 г. [9, с. 99]. Тое, што падмуркі закладаліся не пазней гэтай даты, ускосна пацвярджаюць і наступныя меркаванні. Ва ўмовах Полацкай зямлі, як паказалі даследаванні Мінска, год рубкі дрэва можна прыняць за год будаўніцтва [3, с. 146]. Больш таго — у нашым выпадку мы маем дату плахаў, а патрабаванні да сцен пабудовы былі куды больш строгімі і прасушвалі

найхутчэй бярвенні сцен, але не падмуркавыя плахі. Усё гэта і дазваляе аднесці пабудову кафлянай печы да пачатку XIV ст., умоўна да 1304 г. Полацкая гаршковая кафля досыць архаічнага тыпу з круглым вусцем, выраблена з чырвонай гліны з дамешкамі буйной жарствы, падчас абпалу яна набыла цёмна-карычневы колер. Кафля высокая (21,5—24 см), з прамымі і патоўшчанымі ў прыдоннай частцы сценкамі, якія пашыраюцца ад донца (дыяметр 10 см) да вусця (дыяметр 13,5 см) [8, с. 274].

Польскія матэрыялы, напрыклад, у параўнанні з нашымі больш познія. Знаходкі на Старым Мясце ў Варшаве датуюцца сярэдзінай XIV ст., кафля з Кракава даволі неакрэслена — XIV ст. [17, с. 28—38, 79]. Гэта гаршковая кафля з квадратным вусцем, якая з'яўляецца ў выніку эвалюцыйнага развіцця некалькіх папярэдніх варыянтаў гаршковай кафлі. Па матэрыялах Беларусі такая кафля датуецца канцом XIV ст. [8, с. 135]. Магчыма, і польскія матэрыялы крыху пазнейшыя. Ва ўсякім разе, кафля на тэрыторыі ўласна Польшчы ні стратыграфічна, ні тыпалагічна раней сярэдзіны XIV ст. не датуецца. Гданьск і іншыя паморскія гарады, дзе знойдзена кафля першай паловы XIV ст., трэба адносіць у той час да зоны нямецкай прысутнасці.

У Германіі ж вядомыя і досыць раннія знаходкі — у Віпрэхтсбургскім замку пад Лейпцыгам і ў Любеку (дзе рэшткі печаў былі апісаныя ў пісьмовых крыніцах) кафля датуецца XII — пачаткам XIII ст. [6, с. 138]. Наяўнасць інфармацыі пра Любек прынцыповая. Менавіта гэты горад стаў цэнтрам пранікнення нямецкіх купцоў і місіянераў на паўднёва-ўсходняе ўзбярэжжа Балтыкі і адпаведна ў Беларусь [11, с. 11]. А Смаленская гандлёвая грамата («Праўда») 1229 г., рэгулюючы тавараабмен Смаленска, Полацка і Віцебска з Рыгай, асобна абумоўлівала магчымасць гандлёвых экспедыцый беларускіх купцоў да Любека: «Али которыи Русин хочетъ поити с Готьского берега в Немецьскую землю в Любек, Немцом не боронити им того путе» [7, с. 64—65]. Маюцца шматлікія спісы Смаленскай дамовы. З пачаткам княжання новага князя гэтая дамова пацвярджалася, дакумент перапісваўся ў чарговы раз [5, с. 302].

Паспрабуем суаднесці датаванне полацкай кафлі з рэальнымі гістарычнымі падзеямі. У 60-х гадах XIII ст. у Полацку некалькі гадоў правіў Гердзень, які імкнуўся знайсці падтрымку Лівонскага ордэна на выпадак вайны

з Войшалкам і заключыў 28 снежня 1264 г. з ордэнам мірную дамову. Нямецкім купцам было дазволена бесперашкодна гандляваць у Полацкай зямлі, купцы якой адпаведна атрымалі права «волно гостити в Ригу и Готьскы берегь» [2, с. 146]. Тым часам полацкія князі мяняліся вельмі часта. Адзін з іх, невядомы па імені, уключыў Полаччыну ў сферу ўплыву рыжскага арцыбіскупа (па гістарычнай легендзе — не маючы нашчадкаў, перадаў Полацкую зямлю арцыбіскупу). Немцы здолелі заснаваць на Полаччыне нават два біскупствы: «Duae solennes cathedrales, Colomensis, et Rutheniensis ecclesiae» [2, с. 153]. Толькі ў 1307 г. палачане разам з князем Віценем выцеснілі немцаў з горада і воласці, Полацк увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага [15, с. 14]. Менавіта ў час нямецкага кантролю над Полацкам і магло адбыцца пранікненне сюды кафлі. У пачатку XIV ст. кафля з'яўлялася найноўшым вынаходніцтвам, якое толькі распаўсюджвалася ў Паўночнай Германіі. І не выпадкова ранняя кафля вядома ў Любеку, з якім Полацк меў асаблівыя адносіны, часам непасрэдныя, часам праз рыжскіх пасрэднікаў.

У беларуска-нямецкіх стасунках пэўную значнасць мае 1282 г.— менавіта тады Рыга далучылася да Ганзейскага саюзу. Па рыжскіх кнігах пазыкаў бачна, што найбольшая колькасць гандлёвых пагадненняў была заключана ў 80—90-я гады XIII ст. [5, с. 309]. У гэты перыяд якраз абвастрыліся адносіны Лівонскага ордэна з Вялікім княствам Літоўскім і Рыжскім арцыбіскупствам — адпаведна магчымасці кантролю над Рыгай (горадам) з боку ордэна паменшыліся. Рыга пачала адцясняць іншых удзельнікаў Ганзы, перакрываючы ім шлях у Падзвінне. Адначасова Рыга ўскладняе праезд беларускім купцам у Любек, Брэмэн ды іншыя нямецкія гарады. А ў 1297 г. пачалася вайна паміж Рыгай і Лівонскім ордэнам, у якой ордэн дамагаўся падпарадкавання Рыгі. У гэтай вайне Рыга абапіралася на падтрымку Вялікага княства Літоўскага. Вельмі верагодна, што ў дадзеных умовах паўночна-нямецкія гарады, у тым ліку і Любек, у стасунках з Полацкам дзейнічалі праз пасрэдніцтва рыжскага арцыбіскупа.

Але пранікненне кафлі на Беларусь зафіксавана не толькі праз полацкія знаходкі. Аналагічная полацкай выяўлена кафля ў Лідскім замку. Яна злеплена ўручную з грубай фармовачнай масы, у цесце прысутнічаюць

дамешкі буйной жарствы. Таўшчыня сценак да 1,5 см, вышыня кафлі 24—26 см, дыяметр донца 8—9 см [13, с. 196]. Кафля знойдзена ў перадмацерыковым слоі, што адпавядае часу будаўніцтва замка — 1323—1328 гг. Узвядзенне першых цалкам мураваных замкаў, якія да таго яшчэ мелі прататыпам крыжацкія кастэлі, было справай новай. Таму па першым часе натуральная прысутнасць нямецкіх майстроў, якія дапамагалі ў гэтай новай для Вялікага княства будоўлі. З імі і магла патрапіць гаршковая кафля ў Лідскі замак.

Пра непасрэднае запазычанне кафлі ад немцаў сведчыць і сам тэрмін. Акрамя стаўшага нарматыўным у старабеларускай мовеназіралася варыятыўнасць формаў слова «кафля»: кафель, кафля, кахель, кахля. Найбольш цікавыя тут дзве апошнія формы — у параўнанні з ням. Kachel. У наш час у паўночна-заходніх гаворках Беларусі таксама зафіксавана слова «кахля» [16, с. 313—314]. Нарматыўнае польскае слова Kaf//el-la. Зафіксаваны таксама Kafel, Kachel, Kafla, Kachla. Як старапольскае вядома kachel [19, с. 216]. Наяўнасць значных падабенстваў гаворыць аб пранікненні ў польскую і беларускую мовы гэтага слова хутчэй з адной крыніцы-мовы, чым аб пасрэдніцтве польскай мовы ў пранікненні слова ў мову беларускую. У адваротным выпадку быў бы адчувальным больш польскі, чым нямецкі ўплыў.

Падсумоўваючы ўсё вышэй згаданае, можна сфармуляваць наступныя высновы:

1. З'яўленне кафлі спрыяла не толькі зменам у прызначэнні мураваных пабудоў, а і ў пашырэнні самога мураванага будаўніцтва.

2. Кафля на Беларусь хутчэй за ўсё патрапіла непасрэдна з Паўночнай Германіі, верагодна з Любека, пры пэўным пасрэдніцтве Рыгі і Рыжскага арцыбіскупства.

3. Звядзенне беларуска-нямецкіх кантактаў таго часу фактычна толькі да вайсковых сутычак з'яўляецца спрашчэннем сітуацыі. Неабходна ўлічваць той станоўчы культурна-эканамічны эфект, што нёс гэты кантакт беларусам.

4. Усё гэта ўдакладняе гісторыю ўзаемаадносінаў Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага, падкрэсліваючы самабытнасць развіцця ў XIV ст. апошняга.

## СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Воронин Н. Н. Древнее Гродно // Материалы и исследования по археологии СССР. М., 1954. Вып. 41.
2. Данилевич В. Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV в. Киев, 1896.
3. Загорульский Э. М. Возникновение Минска. Мн., 1982.
4. Заяц Ю. А. Заслаўская кафля. Мн., 1990.
5. Муравская Е. Организация торговли Риги с Полоцком, Витебском и Смоленском в XIII — XV вв. // Уч. зап. Латвийского гос. ун-та. Рига, 1961. Том 40. Вып. 3.
6. Осе И. Возникновение изразцовых печей в Латвии // Археология и история западных балтов. Клайпеда, 1989.
7. Памятники русского права. М., 1953. Вып. 2.
8. Паничева Л. Г. Изразцы и изразцовые печи позднесредневекового Полоцка // Советская археология. 1981. № 3.
9. Раппопорт П. А., Шолохова Е. В. Дворец в Полоцке // Крат. сообщ. Ин-та археологии АН СССР. № 164. М., 1981.
10. Ткачев М. А., Трусов О. А. Исторические и архитектурно-археологические исследования Кревского замка // Вопросы архитектуры Литовской ССР. 9(1): История архитектуры. 1988.
11. Топоров В. Н. Язык и культура: Об одном слове-символе // Балтославянские исследования 1986. М., 1988.
12. Трусов О. А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI — XVII вв.: Архит.-археолог. анализ. Мн., 1988.
13. Трусаў А. А., Угрыновіч У. В. Тыпалогія і храналогія лідскай кафлі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні. Мн., 1989.
14. Чарняўскі І. М. Грамадзянскае мураванне дойлідства Беларусі ў XII — XV стст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні. Мн., 1989.
15. Штыхов Г. В. Древний Полоцк IX — XIII вв. Мн., 1975.
16. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1988. Т. 4.
17. Dąbrowska M. Kafla i piec kaflowe w Polsce do końca 18 w. Wrocław etc., 1987.
18. Hildebrandt R. Ton und Topf // Deutsche Wortforschung in europäischen Bezügen. Gießen, 1963.
19. Słownik staropolski. Wrocław etc., 1960—1962. T. III.

*Валеры Шаблюк*

## ПАСЕЛІШЧА XVI — XVIII стст. КАЛЯ в. СЯМЁНАВІЧЫ

За апошнія гады кола даследаваных археалагічных помнікаў на Беларусі значна пашырылася. Разам з гарадзішчамі, замкамі, старажытнымі гарадамі, пахавальнымі помнікамі ў розных рэгіёнах рэспублікі ўсе больш актыўна сталі вывучацца і сярэднявечныя сельскія паселішчы.

Разнастайныя археалагічныя матэрыялы былі атрыма-

ны, напрыклад, пры раскопках селішчаў XIV — XVIII стст. на тэрыторыі Верхняга Панямоння. Адным з найбольш даследаваных у вытоках Нёмана з'яўляецца паселішча ля в. Сямёнавічы (Уздзенскі р-н). Першыя пісьмовыя звесткі пра Сямёнавічы адносяцца да другой паловы XVI ст. [4]. У гэты час тут ужо існавалі сяло і двор феадала, якімі валодалі Алелькавічы, а потым Пацы. На працягу XVII — XVIII стст. сярод уладальнікаў Сямёнавіч мы сустракаем прозвішчы Уластоўскіх, Кавячынскіх, Чарнецкіх, Завішаў, Грабоўскіх. З дакументаў першай паловы XVIII ст. вядома, што насельніцтва Сямёнавіч складалася з баяр [3, арк. 439—440]. Яны адносіліся да катэгорыі ваенна-служылага сельскага насельніцтва. Значная частка баяр па свайму сацыяльнаму і прававому становішчу набліжалася да сялян.

Сляды паселішча XVI — XVIII стст. прасочваюцца на ўсходняй ускраіне сучаснай вёскі практычна на ўсёй яе працягласці (больш за 1 км). Першапачаткова вёска займала край тэрасы правага берага р. Вуса. У далейшым сялянскія двары былі перанесены вышэй па тэрасе ад ракі. Найбольш насычаны і магутны культурны пласт (месцамі да 1 м) адзначаны ў цэнтральнай і паўночнай частках вёскі.

Раскопкамі было ахоплена больш за 400 кв. м, пераважна на паўночнай ускраіне вёскі, на тэрыторыі сярэдняй школы. У выніку археалагічных даследаванняў было ўстаноўлена, што першае насельніцтва з'явілася на гэтым месцы яшчэ ў каменным веку, а наступны этап функцыяніравання паселішча прыходзіцца на XVI — XVIII стст. На жаль, культурны пласт гэтага селішча, як і многіх іншых, не захоўвае дрэва — асноўнага будаўнічага матэрыялу ў мінулым. Тым не менш на селішчы выяўлены сляды аднаго жытла і гаспадарчай пабудовы. Ад жылля захаваліся рэшткі печы. Пячны развал адзначаны на глыбіні 0,2—0,3 мм у шурфе № 4. Печ была выкладзена з цэглы фарматам ?×13,5×5,5 см, змацаванай глінай. У якасці апорнай пляцоўкі таксама выкарыстоўвалася гліна. Большасць цэглы абпалена. У муроўцы ўжывалася і тэракотавая кафля XVII — XVIII стст. Вышыня часткі печы, якая захавалася, 0,5 м. Памеры печы складалі прыблізна 1,5×1 м. На месцы пячнога развалу знойдзены шматлікія фрагменты кухоннага посуду XVII — XVIII стст. і тры манеты (1800 і 1811 гг.). Найбольш верагодны час існавання дома, у якім знаходзілася печ,—

XVIII — пачатак XIX ст. Слой гліны амаль на ўсёй плошчы шурфа сведчыць, што пабудова мела глінабітную падлогу. У раскопе № 3 была выяўлена частка фундамента невялікай гаспадарчай пабудовы. Даўжыня аднаго з бакоў фундамента каля 1,3 м. Крайнія камяні муроўкі (35—45 см у папярочніку) пастаўлены на рабро. У цэнтральнай частцы муроўкі камяні пакладзены ў радок і ўмацаваны ў слоі гліны. Паміж камянямі трапляюцца кавалкі бітай цэглы.

На плошчы раскопаў было выяўлена звыш дзесяці авальнай ці круглявай формы ямаў дыяметрам 1—2 м. Глыбіня іх ад 0,3 да 1,1 м. Яны запоўнены цёмна-шэрым супескам з праслойкамі гліны і вугалькоў. Амаль ва ўсіх ямах сустракаюцца колатыя абгарэлыя камяні. Менавіта тут выяўлена большасць археалагічных знаходак на селішчы (кераміка, кафля, шкляныя вырабы і г. д.).

Асноўную частку знаходак складаюць фрагменты бытавой (пераважна кухоннай) керамікі. Усяго ў калекцыі глінянага посуду налічваецца больш за 30 тысяч фрагментаў. Гліняны посуд зроблены з карычневай ці чырвонай гліны з дамешкамі пяску. Паверхні пасудзін маюць розныя адценні карычневага ці шэрага колеру. У зломе чарапкі альбо шэрыя (аднаслойнае абпальванне), альбо шэра-карычневыя (двух- ці трохслойнае абпальванне). Таўшчыня сценак 0,3—1 см. Жыхарамі паселішча шырока выкарыстоўваўся так званы абварны посуд. Сутнасць «абваркі» заключалася ў тым, што распаленыя пасудзіны выцягваліся з печы і вымочваліся ў спецыяльнай рошчыне (як правіла, з жытняй мукі). Такім спосабам павялічваліся ахоўныя якасці посуду. Пры гэтым ён атрымліваў характэрную плямістую афарбоўку. Паводле даследаванняў этнографаў, у пачатку XX ст. Сямёнавічы і іх наваколле з'яўляліся адным з цэнтраў вырабу абварной керамікі на тэрыторыі Беларусі [2, с. 92]. Вынікі археалагічных раскопак сведчаць, што традыцыя вытворчасці абварнога посуду ў Сямёнавічах бярэ свой пачатак у XVI ст., а найбольшага ўздыму дасягае ў XVII — XVIII стст. Менавіта гэтым часам датуюцца знаходкі бытавой керамікі на селішчы (фрагменты гаршкоў, макотраў, місак). Аналагічны посуд XVI — XVIII стст. быў знойдзены і на селішчы ля в. Буковічы, што па суседству з Сямёнавічамі. Паводле расказаў мясцовых жыхароў, у канцы XIX — пачатку XX ст. некаторыя сяляне ў Буковічах займаліся ганчарствам. Пісьмовыя крыніцы канца

XVI ст. паказваюць, што ў Сямёнавічах у гэты час таксама жылі ганчары [1, с. 134—135]. Такім чынам, археалагічныя і этнаграфічныя даследаванні дазваляюць гаварыць пра існаванне на працягу XVI — пачатку XX ст. у Сямёнавічах і Буковічах мясцовага цэнтра па вытворчасці абварной керамікі.

У побыце жыхароў Сямёнавіч выкарыстоўвалася таксама мораная і чорнаглянцавая кераміка, з якой выраблялiся гаршкі, збаны, міскі і талеркі.

Асноўную частку глінянага посуду, знойдзенага на селішчы, складаюць гаршкі (мал. 1:*1, 6, 7*). Па афармленню верхняй часткі тулава вылучаецца шэсць асноўных тыпаў гаршкоў. Тып I — шырока распаўсюджаныя ў XVI — XVIII стст. на ўсёй тэрыторыі Беларусі гаршкі з вельмі кароткім венчыкам, якія адразу пераходзяць у высокія плечукі. Дыяметр венчыкаў 14—22 см. На асобных фрагментах плечукі аздоблены хвалістым арнаментам. Тып II — кароткі, адагнуты вонкі, коса зрэзаны венчык, маленькая шыйка, высокія плечукі. Сярод іх вылучаецца варыянт з акруглым венчыкам. Дыяметр венчыкаў 12—17 см. Тып III — вертыкальны акруглы венчык, невялікая, плаўна выгнутая шыйка, высокія плечукі. Дыяметр венчыкаў 21 см. Тып IV адрозніваецца ад папярэдняга высокай шыйкай. На некаторых фрагментах на шыйцы зроблены хвалісты арнамент. Дыяметр венчыкаў 15 см. Тып V — характэрныя для XVII ст. гаршкі з вертыкальным акруглым венчыкам, плаўна выгнутай шыйкай і невысокімі плечукамі. Дыяметр венчыкаў 14—16 см. Тып VI — вертыкальны, высокі венчык, ледзь прыкметная шыйка, сярэдневыпуклыя плечукі. Дыяметр венчыкаў 16—18 см. Знойдзена некалькі гаршкоў з поўным профілем. Чатыры з іх адносяцца да тыпу II і маюць наступныя параметры: вышыня 12—15 см, дыяметры венчыкаў 12—17 см, днішчаў — 10—13 см. Ёмістасць гэтых гаршкоў ад 2 да 4 л. Вялікі чырвонагліняны абварны гаршчок адносіцца да тыпу VI. Вышыня яго 27,5 см, дыяметр венчыка 18 см, дна — 14 см. Ёмістасць складае прыблізна 9 л (мал. 1:7). Маленькі гаршчок (ёмістасць 180 мл) з акруглым венчыкам і невыразнай шыйкай мае вышыню 7,5 см, дыяметр венчыка 8,5 см, дна — 6,5 см.

Аздабленне арнаментам сустракаецца толькі на асобных гаршках. Найбольш часта ўжываўся хвалісты арнамент. Некаторыя гаршкі афармляліся суцэльнымі гарызантальнымі лініямі, кароткімі касымі насечкамі, дугападоб-




Мал. 1. Гліняны посуд XVI—XVIII стст. з в. Сямёнавічы: *1, 6, 7* — гаршкі; *2* — збан; *3—5* — макотры; *8* — міска. Выканала А. Марковіч

нымі штрыхамі, радком кароткіх гарызантальных рысак і г. д.

Другім па колькасці знаходак відам посуду з'яўляюцца міскі (мал. 1:*8*). Ужываліся як чырванагліняныя, так і мораныя міскі. Па форме верхняй часткі можна адзначыць два асноўныя тыпы: з вертыкальным і гарызантальна адагнутым венчыкам. Вышыня місак 5—8 см, дыяметр венчыкаў 20—27 см, дна — 11—14,5 см. Некаторыя мораныя міскі аздоблены звонку лінейным арнаментам. Адзначым фрагмент міскі-адстойніка, па акружнасці днішча якога зроблены адтуліны дыяметрам 0,5 см. Макотры вырабляліся з чырвонай гліны са значным дамешкам пяску. Яны адрозніваюцца прамым альбо крыху адагнутым вонкі кароткім венчыкам (мал. 1:*3—5*). Таўшчыня сценак макотраў вагаецца ад 0,5 да 1,2 см. Вышыня гэтых пасудзін складала ад 10 да 18 см, дыяметр венчыкаў 16—26 см, дна — 12—16 см. Асобныя макотры пакрываліся з сярэдзіны палівай зялёнага альбо карычневага колеру.

Большасць збаноў адносіцца да мораных пасудзін. Яны маюць цыліндрычнае горлачка вышынёй 8—9 см і дыяметрам 11—14 см (мал. 1:*2*).

Сярод талерак сустракаюцца тэракотавыя, мораныя і паліўныя экземпляры. Вышыня талерак 3,5—7 см, дыяметры венчыкаў 23—31 см, дна — 13—14,5 см.

З астатніх відаў бытавой керамікі жыхарамі Сямёнавіч ужываліся рынкі (патэльні на трох ножках), кубкі, вазоны для кветак. Некалькі фрагментаў адносіцца да белаглінянага посуду, прывезенага з Германіі (так званы каменны тавар).

У выніку раскопак высветлілася, што ў некаторых дамах паселішча бытавалі кафляныя печы. Калекцыя кафлі з раскопак селішча складаецца ў асноўным з тэракотавых пласцін. Па размяшчэнню на печы вылучаюцца сцянныя, паясковыя, гзымсавыя і кутнія кафлі. Пераважаюць рэльефныя рамачныя пласціны, якія датуюцца XVII ст. Кафлі аздоблены раслінным ці геральдычным арнаментам, а таксама элементамі іх спалучэнняў. Пры гэтым можна адзначыць чатыры асноўныя тыпы арнаментаў на пласцінах.

Тып I. У цэнтры пласціны знаходзіцца кветка (лілея?). У верхнім левым куце змешчаны лацінскія літары S і Z, а ў правым верхнім — надпіс «ГЛЯ». Памеры пласцін 22,5×21 см.

Тып II. Паясковая кафля з моцна стылізаваным раслінным арнаментам (18,5×11 см).

Тып III. Геральдычная кафля з выявай арла. Хутчэй за ўсё гэта быў герб Радзівілаў, чые маёнткі (Магільнае, Пясочнае) знаходзіліся побач з Сямёнавічамі. Памеры гэтай кафлі 23×20,5 см.

Тып IV. У цэнтры пласціны знаходзіцца малюнак галінкі стылізаванай расліны, а па кутах — асобныя лацінскія літары (F, L, M, I).

На селішчы знойдзена некалькі невялікіх фрагментаў гладкіх тэракотавых, рэльефных зялёнапаліваных і паліхромных кафляў XVII — XVIII стст. Трэба адзначыць, што кафлі тыпаў I і III былі выяўлены пры раскопках паселішча ва ўрочышчы «Комалава» (Дзяржынскі р-н), што знаходзіцца прыблізна ў 25 км на поўнач ад Сямёнавіч.

Пад час раскопак атрымана разнастайная калекцыя шкляных вырабаў. Яны падраздзяляюцца на дзве катэгорыі: аконнае шкло і шкляны посуд. Аконнае шкло сустракаецца ў выглядзе прамавугольных, квадратных ці невялікіх круглых (дыяметр 10—12 см) дыскаў. Сярод посуду знойдзены фрагменты шклянак, бутэлек, кварт, скляніц, стопак, келіхаў. Гэты посуд выраблялі з зялёнага, карычневага, цёмна-сіняга альбо бясколернага шкла. Шклянкі маюць роўныя ці крыху выгнутыя ў сярэдзіну донцы дыяметрам 4,5—5,5 см. Сценкі гладкія і гранёныя таўшчынёй 0,1—0,2 см. Ад бутэлек захаваліся часткі выгнутых унутр на 1,5—3 см донцаў, дыяметр якіх 6—8 см, а таксама цыліндрычнай альбо конусападобнай формы рыльцы вышынёй 7,5—8 см і дыяметрам 1,8—2,5 см. Некаторыя рыльцы пераплецены ў верхняй частцы жгутом. Скляніцы прадстаўлены фрагментамі вусцяў дыяметрам 6—8 см. У калекцыі шкла даволі шмат фрагментаў стопак, у тым ліку некалькі экземпляраў з цэлымі формамі. Вышыня гэтых стопак 6—6,3 см. Дыяметры донцаў 2—3,5 см, вусцяў — 4—5 см. Донцы плоскія ці трохі выгнутыя ў сярэдзіну. Выклікаюць цікавасць фрагменты мініяцюрных сасудаў з гладкімі альбо гранёнымі сценкамі. Дыяметры іх донцаў 1,1—1,6 см, таўшчыня сценак 0,1—0,3 см. Калекцыя шклянога посуду з Сямёнавіч сведчыць, што ў XVII — XVIII стст. ён ужо трывала ўвайшоў ва ўжытак сельскіх жыхароў.

Металічныя рэчы з раскопак селішча прадстаўлены прыладамі працы і бытавым інвентаром. З прыладаў

працы перш за ўсё трэба адзначыць сякеру, якая прызначалася для гаспадарча-плотніцкіх работ. Яна датуецца XVII — XVIII стст. Шматлікай катэгорыяй знаходак з'яўляюцца нажы. Па функцыянальных асаблівасцях можна вылучыць наступныя групы нажоў: рабочыя, сталовыя, кухонныя, складныя. Нажы, якімі карысталіся пры выкананні гаспадарчых работ, звязаных з апрацоўкай дрэва і скуры, вызначаюцца большымі памерамі і арыгінальнымі формамі ляза. Да іх адносяцца, напрыклад, шавецкія нажы, канец ляза якіх скошаны (мал. 2:*9, 10*). Сталовыя нажы адрозніваюцца тонкім і вузкім (1—1,3 см) лязом (мал. 2:*7, 8*). Ручкі такіх нажоў часта мацаваліся пры дапамозе штыфтоў. Кухонныя ж нажы мелі звычайна шылападобныя чаранкі. З металічных вырабаў бытавога прызначэння адзначым частку замка, ключ, спражкі, падкоўкі пад абутак (мал. 2:*3, 5*). Цікавасць выклікае даволі рэдкі від археалагічных знаходак —




Мал. 2. Прылады працы і рэчы хатняга ўжытку XVI—XVIII стст.: *1* — тачыльны брусок; *2, 7—10* — нажы; *3* — падкоўка; *4* — грузіла; *5* — спражка; *6* — прас. Выканала А. Марковіч

прас (мал. 2:6). Яго трохкутны корпус выкаваны з жалезнага бруска даўжынёй 14 см і таўшчынёй 1,5 см. Да корпуса прыварана ручка з загнутага жалезнага прута вышынёй 5,5 см.

Катэгорыю гліняных вырабаў акрамя посуду складаюць грузілы для сетак, люлькі, фрагмент свістулькі ў выглядзе жывёліны.

З рэчаў зброі знойдзены зроблены з каляровага металу наканечнік похваў шаблі, а таксама ружэйныя крамяні.

Жаночыя ўпрыгожанні прадстаўлены жоўтымі, блакітнымі шклянымі, бурштынавай пацеркамі і круглай бронзавай падвескай.

У калекцыі манет налічваецца 15 адзінак. Найбольшую частку з іх складаюць медныя «денги» Расійскай імперыі часоў Елізаветы Пятроўны (1741—1761). Акрамя іх, выяўлены «барацінкі» Яна II Казіміра (1649—1668), грош Аўгуста III (1733—1763), капейкі Паўла I (1796—1801) і Аляксандра I (1801—1825).

Па выніках археалагічнага даследавання паселішча каля Сямёнавіч можна зрабіць наступныя высновы. Такія катэгорыі археалагічнага матэрыялу, як кафля, шкляныя вырабы, імпартны гліняны посуд, манеты і г. д., паказваюць на трывалыя сувязі вясковых гаспадарак з рынкам. Увесь комплекс знаходак сведчыць пра высокі ўзровень матэрыяльнай культуры мясцовых жыхароў на працягу XVI — XVIII стст.

### СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею для разбора древних актов. Вильна, 1906. Т. 31.
2. Милюченков С. А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984.
3. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1727, воп. 1, спр. 10.
4. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай Рэспублікі, ф. СА, спр. 17.

*Вольга Кукуня, Алесь Кушнярэвіч*

## ФРАНЦЫСКАНСКІ КЛЯШТАР У ГАЛЬШАНАХ

Ансамбль францысканскага кляштара размешчаны ў цэнтры Гальшан і займае адну з частак гандлёвай плошчы. Касцёл з'яўляецца дамінантай не толькі плошчы, але і ўсёй забудовы мястэчка.

Першае ўпамінанне пра Гальшаны адносіцца да

XIII ст. Князі Гальшанскія, вядомыя сваёй палітычнай і ваеннай актыўнасцю, валодалі Гальшанамі да 1555 г. Апошні ўладальнік Гальшан — князь Павел быў біскупам, а значыць, і каталікам. У літаратурных крыніцах датай будаўніцтва першага касцёла ў Гальшанах называецца XV ст.

Пасля смерці Паўла Гальшанскага ў 1555 г. Гальшаны перайшлі ва ўладанне Сапегаў. У сярэдзіне XVI ст. на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага шырокае распаўсюджанне атрымалі ідэі кальвінізму. У гэты час Сапегі таксама былі кальвіністамі і менавіта з імі звязана з'яўленне ў Гальшанах кальвінскага збора.

Звестак пра гальшанскі кальвінскі збор маецца няшмат. Так, у адных крыніцах адзначана, што ў сярэдзіне XVI ст. пры распаўсюджанні пратэстантызму шмат каталіцкіх храмаў было прыстасавана пад кальвінскія зборы. У якасці прыкладу названы Варнянскі, Кабыльніцкі, Жупранскі, Смаргонскі, Ваверскі, Віленскі, Альшанскі і іншыя храмы. Па другіх звестках, гальшанскі кальвінскі збор быў пабудаваны ў XVI ст., а затым прыстасаваны пад касцёл.

Такім чынам, паводле літаратурных крыніц, існаванне ў Гальшанах кальвінскага збора звязана з будынкам касцёла. Аднак у іх не прыведзена фактаў, якія б сведчылі, ці маецца сувязь паміж сучасным будынкам касцёла і кальвінскім зборам.

Калі ў літаратурных крыніцах існуюць супярэчнасці адносна будаўніцтва ў Гальшанах у XV ст. касцёла і ў XVI ст. кальвінскага збора, то ўзвядзенне Паўлам Сапегам касцёла францысканскага кляштара адзінадушна датавана 1618 г. [11, с. 35].

Вялікую дапамогу ў асвятленні далейшай гісторыі кляштара аказаў інвентар 1675 г., выяўлены С. Ф. Адамовіч у Рукапісным аддзеле бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. У ім прыведзена апісанне касцёла, кляштара, званіцы, а таксама гаспадарчыя дакументы [7].

Паводле гэтага інвентара, у 1675 г. асноўны аб'ём касцёла меў план прамавугольнай формы, заканчваўся прэсбітэрыем і апсідай. Над прэсбітэрыем знаходзілася глаўка, пакрытая гонтай. Да асноўнага аб'ёму прымыкалі дзве капліцы. Над капліцай Св. Францыска «восем вокнаў з крыжам токарскай працы, мітра з дошчачак, а сам купал пакрыты саломай, у сярэдзіне не мае перакрыцця, дошкамі і памошчаны і пафарбаваны». На працi-

леглым фасадзе касцёла знаходзілася фундатарская капліца. Яна была пакрыта гонтам, вокнаў тут сем, восьмае выбіў вецер, там жа і жалезны крыж вялікі, які зараз знаходзіцца ў трапезнай, сам жа каменны, вымураваны акруглым. У цэнтры касцёла быў вялікі купал.

З пагоста можна было трапіць у касцёл праз вялікі прытвор, які меў вялікія двухстворчатыя дзверы з брамкай і невялікім акенцам. Прытвор быў злучаны з галерэяй кляштара, які ў плане меў П-падобную форму. На першым паверсе па перыметры кляштара праходзіла галерэя. Ва ўнутраным дворыку, клуатры, быў невялікі агародзік.

Далей з інвентару вынікае, што першае памяшканне, якое прымыкала да кляштара,— рызніца. У яе вяло двое дзвярэй. Першыя былі зроблены з ліпы, а другія — з дубу з накладнымі ўпрыгожаннямі. Рызніцу перакрывалі скляпенні. У ёй быў камін і драўлянае акно з жалезнай кратай. З рызніцы можна было трапіць у скарбніцу, якая мела акно з кратамі без шкла і лесвіцу на другі паверх. Далей знаходзіліся сенцы з дзвярыма ў дзве каморы. Там было акно з кратамі і печы.

На другім баку галерэі былі дзверы, якія вялі ў сенцы. З іх — дзверы ў алькеж, дзе знаходзілася акно з жалезнымі кратамі. У сенцах было сутарэнне. Далей меліся дзверы ў камору. Над імі змяшчалася ікона з выявай Св. Антонія. У тых сенцах былі дзверы да выхаду на завесах з прабоямі. Справа была «камора», перакрытая скляпеннем, з адным акном і жалезнай кратай. У ёй стаяла печ з гербам фундатара. Наступная «камора» мела адно «драўлянае старое акно напалову ў волава апраўлена». Тут стаялі тры бочкі піва і «палова салянкі» солі. У наступнай «хаце» знаходзіўся склад, дзе захоўвалася палова воза зярна, а «іншага зярна тры кубы, таксама і тры бочкі піва». Там была печ і адно акно з жалезнай кратай. Побач з гэтым памяшканнем быў «алькеж», які меў тры вокны з жалезнымі кратамі на завесах.

У трэцяй частцы галерэі, як паведамляе інвентар 1675 г., трэба было прайсці праз дзве «каморы» з агульнымі сенцамі, каб трапіць у трапезную. У адной «каморы» было адно акно з жалезнымі кратамі і дзве печы — адна для гатавання ежы, другая для абагрэву. Тут жа стаяў кухонны стол. Другая «камора» — кухня, дзе быў вялікі кухонны камін. З кухні ў трапезную выходзіла акно з аканіцай. У трапезную вялі разныя драўляныя дзверы.

У ёй былі чатыры вокны з жалезнымі кратамі, а таксама стаялі тры сталы. З трапезнай двое дзвярэй вяло ў «каморы». У першай меліся тры вокны з жалезнымі кратамі, шкло было апраўлена ў волава. Другая асвятлялася праз акно з металічнымі кратамі. Пад трапезнай былі сутарэнні, перакрытыя скляпеннямі. Кляштар пакрыты часткова гонтай, часткова дахоўкай.

У гэтым жа вопісе касцёла 1675 г. згадваецца сем алтароў. Галоўны алтар Св. Іаана Хрысціцеля быў драўляным і старым ад часу. Перад алтаром знаходзілася драўляная крата. Другі алтар Св. Крыжа быў фундатарскім і размяшчаўся ў капліцы. У цэнтры яго знаходзілася распяцце, па баках віселі дзве іконы, напісаныя на дошках. На адной была выява Божай Маці, на другой — Іаана. У інвентары адзначана, што «сам алтар вельмі прыгожы, але іконаў вакол не хапае».

У фундатарскай капліцы знаходзілася надмагілле Паўла Сапегі і трох яго жонак. У інвентары сказана, што надмагілле мела выгляд алтара, дзе былі размешчаны адна над другой тры жаночыя фігуры, «сам чацвёрты ўверсе царствуючы». Акрамя гэтых чатырох фігур у алтары па баках было яшчэ дзевяць вялікіх фігур з алебастру і дзве скульптуры анёлаў.

Трэці алтар стаяў у капліцы Св. Францыска і быў прысвечаны гэтаму святому. Алтар быў выразаны з дрэва і ў інвентары названы старым. Каля іконы Св. Францыска былі чатыры скульптуры прадстаўнікоў княскага роду. Акрамя гэтых скульптур названы яшчэ чатыры, якія «стаялі збоку».

Месцазнаходжанне астатніх чатырох алтароў не ўказана. Прыведзена толькі іх кароткае апісанне. Чацвёрты алтар — распяты Хрыстос. На чырвоным бархаце была выява распятага Хрыста з дзвюма фігурамі — Божай Маці і Іаана.

Пяты алтар быў прысвечаны Св. Антонію. Выява Св. Антонія і сам алтар былі старымі. Шосты алтар — Божай Маці. Аўтар інвентара пісаў, што «алтар Божай Маці выключна прыгожы». Тут жа знаходзіўся амбон, пра які сказана, што ён патрабуе рамонту. Сёмы алтар — Св. Ганны. У ім знаходзілася ікона гэтай святой [7, л. 165—166].

Акрамя апісання алтароў у інвентары таксама адзначана, што пасярэдзіне касцёла знаходзіліся два хоры з роспісамі фігур Святых Апосталаў. Магчыма, выхад

на хоры быў з другога паверха кляштара. Дзвярны праём, які раней існаваў у гэтым месцы, зараз замураваны.

Такім чынам, на аснове інвентара 1675 г. можна сцвярджаць, што касцёл, пабудаваны ў 1618 г., меў іншы архітэктурны воблік, чым зараз. Шэраг змен назіраецца таксама і ў архітэктуры кляштара, бо ў вышэйзгаданым інвентары ёсць упамінанне дзвюх вежаў на кутніх частках. З гэтых вежаў захавалася да нашага часу толькі паўночна-заходняя. Адсутнічае галерэя, якая была пабудавана ўздоўж паўднёвай сцяны касцёла. Значна зменена таксама першапачатковая ўнутраная планіроўка кляштара.

Адным з самых складаных пры даследаванні з'яўлялася пытанне пра перабудову ў XVIII ст. касцёла. Наконт гэтага ў літаратуры маецца вельмі лаканічная інфармацыя, што касцёл узведзены ў 1618 г. у стылі барока і перабудаваны ў сярэдзіне XVIII ст.

Першае пытанне, якое ўзнікла пры даследаванні гэтай праблемы: чаму быў перабудаваны касцёл? Здавалася лагічным, што перабудова адбылася па прычыне змены ўладальніка Гальшан. У сярэдзіне XVIII ст. Гальшаны знаходзіліся ва ўладанні роду Жабаў. У 1746 г. Ельяш Масіевіч перадае Гальшаны Іераніму Жабе. Жабы валодалі Гальшанамі да сярэдзіны XIX ст.

Вырашэнне гэтага пытання ўскладнілася тым, што адсутнічаюць інвентары, складзеныя паміж 1675 і 1798 гг. У інвентары 1798 г. прыведзена апісанне касцёла, якое адпавядае яго сучаснаму выгляду [1, л. 392 адв.]. Пра пераробкі касцёла ў ім не паведамляецца. З аналізу дакументаў пра гаспадарчую дзейнасць Жабаў у Гальшанах бачна, што яны не праводзілі перабудову касцёла і будаўнічых прац у кляштары. Больш таго, адносіны паміж Жабамі і францысканцамі ў Гальшанах былі вельмі напружанымі. Напрыклад, частымі былі разбіральніцтвы ў судзе па фінансавых пытаннях і тэрытарыяльных спрэчках, якія былі звязаны з фундушавымі землямі кляштара. У адной судовай скарзе францысканцы нават пішуць, што на кляштар напалі рабаўнікі, якія дзейнічалі пад аховай уладальніка замка [2]. Пры такіх складаных адносінах непраўдападобнай выглядае перабудова касцёла новым уладальнікам Гальшан.

У інвентары 1798 г. адзначана: «кляштар і касцёл стараннем ордэна знаходзяцца ў добрым стане», што немагчыма растлумачыць без дадатковых матэрыялаў. Цікава, што гэтая фраза не сустракаецца больш ні ў ад-

ным з інвентароў. Яе зразумелі толькі пасля выяўлення дакументаў судовага разбіральніцтва паміж гальшанскім францысканскім кляштарам і ксяндзом М. Токелем.

Кляштар падаў скаргу ў суд, што пад кіраўніцтвам ксяндза М. Токеля быў разбураны амаль да руін касцёл францысканскага кляштара. У скарзе гаварылася, што не было неабходнасці ў разбурэнні касцёла. Да прыезду М. Токеля ў Гальшаны будынак касцёла патрабаваў рамонту. У прыватнасці, трэба было рэстаўрыраваць галоўны купал і паднавіць дах касцёла [3, л. 6 адв.]. Аднак замест рамонту касцёл значна пашкодзілі. Асабліва па-варварску аднесліся да надмагілля Сапегаў. Іх капліца была развалена, а надмагілле зламана, калі яго здымалі. Былі пашкоджаны скульптуры Паўла Сапегі, яго жонак і астатнія, што ўваходзілі ў надмагілле. Перад разборкай надмагілля не зрабілі яго графічнай фіксацыі.

У працэсе аднаўлення касцёла не было прадугледжана месца для ўстаноўкі надмагілля. Зараз цяжка адказаць, чаму так здарылася. Пазней скульптуры былі пакладзены на невялікі п'едэстал. Так яны захоўваліся ў касцёле да перавозкі на часовае захаванне ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.

У 80-я гады XVIII ст. касцёл быў адбудаваны. На пачатку 90-х гадоў была ўпрыгожана манументальным жывапісам алтарная частка і прыкалонныя алтары.

Такім чынам, касцёл сапраўды падтрымліваўся і быў адрамантаваны на сродкі францысканцаў, што было адной з прычын судовай справы паміж кляштарам і ксяндзом М. Токелем. У далейшым візітатары не прыпаміналі непрыемную для гальшанскіх францысканцаў гісторыю разбурэння старога касцёла і няўважлівых адносін да мемарыяльнага надмагілля фундатара кляштара.

Шматлікія інвентары сведчаць, што ў канцы XVIII ст. будынак касцёла быў падоўжаным у плане з высокім дахам над цэнтральным нефам. Дах над бакавымі нефамі быў вышэйшым. Для яго пакрыцця была выкарыстана дахоўка. Над дахам узвышалася вежачка з крыжам. Вялікія двухстворчатыя дзверы служылі ўваходам у касцёл. Унутры касцёла над уваходам знаходзіліся хоры, якія абапіраліся на чатыры слупы. На хоры можна было падняцца па ўсходах, размешчаных збоку. У касцёле было 22 акны са шклом, устаўленым у волава. Скляпенні яго абапіраліся на 8 слупоў. Пад касцёлам знаходзіліся чатыры сутарэнні, дзе былі пахаванні [4, л. 1].

Пасля перабудовы ў касцёле стала 8 алтароў, шэсць з іх прыкалонныя, а два прысценныя. Галоўны алтар Іаана Хрысціцеля і Іаана Евангеліста размешчаны ў алтарнай частцы цэнтральнага нефа. На плоскай сцяне алтарнай часткі маляўніча выпісаны паўкруглы алтар, які з'яўляецца галоўным эмацыянальным акцэнтам усяго касцёла. Архітэктурныя формы прыкалонных алтароў выкананы з выключнай вытанчанасцю.

У канцы паўднёвага нефа знаходзіцца алтар Ісуса Хрыста. Алтар аднаярусны, размешчаны паміж дзвюма калонамі па баках. Пафарбаваны пад мармур. У цэнтры яго знаходзілася драўляная скульптура Ісуса Хрыста, у якога звязаны рукі. Прыкалонныя алтары былі прысвечаны Св. Антонію, Св. Ганне, Св. Іосіфу, Св. Францыску, Св. Фадзею Апосталу, Бязгрэшнаму Зачаццю Божай Маці.

29 лістапада 1830 г. у Варшаве пачалося паўстанне супраць царскай Расіі. У пачатку 1831 г. для яго падрыхтоўкі на Беларусі і Літве быў створаны Віленскі цэнтральны паўстанчы камітэт. У сакавіку 1831 г. паўстанне распаўсюдзілася на Літву і заходнюю частку Беларусі: Браслаўскі, Віленскі, Дзісенскі і Ашмянскі паветы. У канцы мая паўстанцы Віленскай і Мінскай губерняў былі разгромлены. Адной з рэакцый царскага ўрада на гэта паўстанне было закрыццё на Беларусі каталіцкіх кляштараў. У 1832 г. быў закрыты францысканскі кляштар у Гальшанах. Пасля кляштар выкарыстоўваўся пад казармы для размешчаных у Гальшанах войскаў [5, л. 51].

У дакументах другой паловы XIX ст. адзначана, што касцёл патрабуе рамонту. У хуткім часе дах над бакавымі нефамі пакрылі бляхай, а над цэнтральным нефам — дахоўкай.

У 1891 г. у Віленскую рымска-каталіцкую кансісторыю прыйшло прашэнне на выдзяленне грошай для рамонту касцёла. Планавалася зрабіць новую цэментную падлогу ў касцёле, адрамантаваць дах, аднавіць алтар, пафарбаваць унутры касцёл, адрамантаваць амбон і пафарбаваць яго маслянай фарбай. Рамонт быў праведзены ў 1893 г. [6, л. 82]. На віленскім заводзе «Марсельская дахоўка» С. Р. Паплаўскага было закуплена 13 тыс. штук дахоўкі на суму 325 руб. У купца другой гільдыі Г. Пярковіча былі набыты дзве тэракотавыя фігуры святых апосталаў Пятра і Паўла. Скульптар Абдон Зімадро выканаў «пераробку і пазалачэнне цыборыума на Вялікім алтары». Май-

стар-муляр Осіп Арцюшкевіч аднавіў тынкоўку ў касцёле і на званіцы. Ён жа паклаў у даху над цэнтральным нефам новую дахоўку. У 1896 г. быў адрамантаваны хор і арганы, у 1906 г.— праведзены вонкавы рамонт касцёла. Тады яго атынкавалі, пакрылі бляхай гзымсы, падваконнікі, пафарбавалі дах над бакавымі нефамі, вокны, зрабілі новыя крыжы. Пазней вялікія рамонты касцёла не праводзілі. У 1950-я гады касцёл быў закрыты. У кляштары доўгі час знаходзілася школа-інтэрнат. Зараз касцёл перададзены вернікам.

Кляштар складаецца з касцёла, жыллёвага корпуса, які абнесены мураванай агароджай з цаглянымі брамамі і двух'яруснай званіцай, што размешчана насупраць галоўнага ўваходу. Касцёл уяўляе трохнефавую прамавугольную ў плане базіліку, перакрытую крыжовымі скляпеннямі. Да паўднёвай сцяны касцёла прымыкае П-падобны ў плане корпус кляштара. Комплекс размешчаны на гандлёвай плошчы мястэчка, дзе перасякаюцца галоўныя вуліцы.

У сувязі з распрацоўкай праекта рэстаўрацыі помніка намі ў 1985 г. было распачата яго архітэктурна-археалагічнае вывучэнне, якое з нязначнымі перапынкамі працягвалася да 1990 г. Археалагічныя даследаванні далі магчымасць канкрэтызаваць і асвятліць будаўнічую гісторыю кляштара.

Падчас архітэктурна-археалагічных даследаванняў (1985—1987, 1990) установлена, што касцёл і кляштар узведзены на працягу некалькіх будаўнічых перыядаў. На аснове вывучэння тэхнікі падмуркаў і цэглы, ужытай для іх узвядзення, выдзелены тры этапы будаўніцтва касцёла. Кожнаму з іх адпавядае свая тэхніка муроўкі падмуркаў. Яны дазваляюць больш дакладна вызначыць гэтыя этапы, чым сцены, якія ўзведзены ў тэхніцы рэнесансавай муроўкі на вапнава-пясчанай рошчыне. Усходняя ж частка касцёла, у якой зроблены ўваход і хоры, пабудавана ў тэхніцы лажок-тычок.

Муроўка 1 выканана ў змешанай тэхніцы з цэглы (29—29×14—15×6—7 см; 25—26×11—12×6—6,5 см), якая мае канаўкі на адной з шырокіх паверхняў, і валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне. У муроўцы валуны размеркаваны вельмі рэдка. Прамежкі паміж імі запоўнены цэглай. Цэгла першага фармату пераважае ў муроўцы і блізкая па памерах да цэглы шэрагу помнікаў XVI ст. (царква

ў Мураванцы, касцёл у Гнезне). Амаль аналагічнага фармату цэгла ўжыта пры будаўніцтве паўночна-заходняга корпуса з бакавой вежай Гальшанскага замка. І. М. Чарняўскі, які праводзіў яго археалагічнае даследаванне, лічыць, што гэта частка замка пастаўлена ў другой палове XVI ст. (9, с. 42). На аснове фармату цэглы, тэхнікі муроўкі падмуркаў і сцен гэту частку касцёла можна датаваць другой паловай XVI — пачаткам XVII ст.

Муроўка 2 выканана ў рэнесансавай тэхніцы з цэглы (29—30,5×14,5—16,5×7—9 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Па фармату гэта цэгла амаль адпавядае ўжытай у браме Заслаўскага замка і замкавым бровары канца XVI — першай паловы XVII ст. у Магілёве [10, с. 107]. Памеры цэглы, тэхніка муроўкі падмуркаў сведчаць, што заходняя частка касцёла ўзведзена ў другой палове XVI — першай палове XVII ст.

У муроўцы 3 выкарыстаны валуны і цэгла (27—28,5×14—15×6—7 см; ?×11,5—12×6—6,5 см), якія па памерах ідэнтычныя той, што ўжыта ў муроўцы 1. Прасочаны таксама асобныя кавалкі цаглянай муроўкі, пакрытыя тынкоўкай. Яны сведчаць, што для гэтых падмуркаў бралі цэглу з раней пабудаванага касцёла ў працэсе яго вялікай перабудовы ў XVII ст.

Муроўка 4 выканана ў раўнаслойнай тэхніцы з цэглы (28—30×15—16,5×7—8 см), якая мае канаўкі, на вапнава-пясчанай рошчыне. Кампазіцыя фасадаў паказвае, што ўсходняя частка касцёла пастаўлена ў XVIII ст.

Звонку ў шурфах паміж гэтымі муроўкамі перавязка не прасочана. Яе таксама не выявілі на паўночным і паўднёвым фасадах паміж асобнымі праслaмі сцен, што сведчыць пра несінхроннасць іх будаўніцтва. Аднак унутры касцёла перавязка маецца паміж муроўкамі 1 і 2 падмуркаў.

Каштоўныя звесткі для рэканструкцыі першапачатковай планіровачнай і аб'ёмнай кампазіцыі помніка былі атрыманы ў яго інтэр'еры. Там расчышчаны падмуркі трох слупоў — двух паўднёвых і паўночнага. У аснове яны мелі квадратную форму (1,35×1,36 м). Цагляная муроўка захавалася на вышыню 0,14—0,25 м ад верхняга абрэзу іх падмуркаў. Ужыта цэгла 25—25,5×11×6—6,5 см. Швы муроўкі слупоў загладжаны і маюць роўную паверхню. Іх падмуркі зроблены з валуноў вялікіх і сярэдніх памераў на вапнава-пясчанай рошчыне.




Францысканскі кляштар у Гальшанах. Стратыграфія тыпаў муровак. Выканаў У. Маскалёў

Знойдзены таксама падмуркі трох сцен касцёла, якія існавалі раней. Аснова паўднёвай сцяны была зроблена ў рэнесансавай тэхніцы муроўкі з аналагічнай, што і слупы, цэглы, а таксама фарматам 28—29,5×13,5—15×7—8 см. Такім жа чынам апрацаваны швы муроўкі гэтай сцяны. Усходняя і паўночная сцены былі цалкам разбураны. Памеры цэглы, склад рошчыны, тэхніка муроўкі сведчаць, што выяўленыя ўнутры касцёла сцены і слупы былі пабудаваны адначасова ў сярэдзіне — другой палове XVI ст.

Цікава, што падмуркі слупоў на глыбіні 0,3 м ад сучаснай падлогі перакрывае падлога, набраная з цэглы (28—30×14,5—16×6—6,5 см; 25—25,5×13—14×6—6,5 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Выяўленую падлогу можна датаваць канцом XVI — першай паловай XVII ст., таму што ў другой палове XVII ст. таўшчыня брусочнай цэглы была зменшана да 5—5,5 см. У падлозе прасочана, хоць і не ў вялікай колькасці, цэгла квадратнай формы (21,5×21,5×5,5 см; 23,5—24×23,5—24,5×5,5; 25,5—26×22,5×5,5 см). Былі выкарыстаны таксама зялёныя паліваныя пліткі (24,5×24,5×4 см).

Важна адзначыць, што падлога гэтага яруса ляжыць вышэй ніжняга краю тынкоўкі заходняй сцяны касцёла. Значыць, яе набралі пасля афармлення яго інтэр'ера. Адначасова яна прымыкае да рэшткаў сцен, што ўказвае на паўторнае выкарыстанне калі не іх, то іх падмуркаў. Гэта падлога прасочана ва ўсіх шурфах унутры касцёла, што нельга сказаць пра падлогу, выяўленую на глыбіні 0,58 м ад сучаснай. Яна знойдзена толькі каля рэшткаў паўднёвай сцяны першапачатковага храма, дзе і ўжывалася. Высцелена з цэглы (25,5—26×13,5—15×6—7 см; 30×15,5×7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Адна з шырокіх паверхняў цэглы гэтай падлогі, як і вышэйапісанай, вельмі выцертая ад працяглага тэрміну выкарыстання. Лічым, што гэта фрагмент падлогі храма сярэдзіны — другой паловы XVI ст., якую затым, відаць, выкарысталі падчас яго перабудовы.

Сучасная падлога зроблена з цэментных плітак (23×22,5×3 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Адна з шырокіх яе паверхняў адпаліравана. Гэтыя пліткі пакладзены на падрыхтоўку з цэглы квадратнай формы (38×38×3,5 см; 25—27×25—27×3—5 см) і зрэдку брусочнай (29×14,5×7 см). На адной з плітак (26×27,5×2 см) падрыхтоўкі захаваўся надпіс: «Его

благородию господину ксензу гольшанскому духовного заведения в костел Гольшаны. Фабрикант Кунгель-Мовшович. Червень 1884 г.» Гэта знаходка дазваляе датаваць падлогу ў касцёле канцом XIX ст.

На глыбіні 0,25 м ад гэтай падлогі, у шурфе каля аднаго з слупоў паўночнай часткі касцёла, прасочана вельмі цікавая муроўка, якая пакрывае верхні абрэз падмурка гэтага слупа. Пры яе даследаванні склалася ўражанне, што гэта фрагмент яшчэ аднаго яруса падлогі, якую, напэўна, высцелілі пасля перабудовы касцёла ў XVIII ст. Ужыта цэгла (30×15×5,5—6 см), якая не мае канавак на адной з шырокіх паверхняў.

Падчас археалагічных даследаванняў у цэнтральнай і алтарнай частках касцёла сабрана шмат фрагментаў тынкоўкі, пакрытай фрэскамі, якія агледзела даследчык беларускага мастацтва Н. Ф. Высоцкая. Яна іх датуе XVI — пачаткам XVII ст. Дрэнная захаванасць фрэсак не дазваляе нам вызначыць іх змест. Пры расчыстцы сутарэнняў касцёла знойдзены архітэктурныя дэталі надмагілля Сапегаў, выкананыя з шэра-чырвонага мармуру.

Падчас археалагічнага вывучэння кляштара на яго паўднёва-ўсходнім вугле расчышчаны падмуркі двух вежаў. Падмурак першай вежы пабудаваны ў тэхніцы змешанай муроўкі з цэглы (30,5—32×15—17×6,5—7 см) жоўтага і чырвонага колераў, а таксама валуноў на вапнава-пясчанай рошчыне. Прасочана тры рады валуноў. Кожны рад выроўніваецца адным — трыма радамі цэглы. У радах прамежкі паміж валунамі запоўнены таксама цэглай. Падмурак вежы захаваўся на вышыню 1,3 м. Узведзены ён пад нахілам унутр і мае профіль прыступкавай формы. Верхні абрэз падмурка мае шырыню 0,2 м. У аснове падмуркаў зроблена падушка вышынёй 0,5 м з валуноў, якія пакладзены насуха. Верх падушкі выраўнены цэглай.

Сцены вежы таўшчынёй 1,8 м маюць лускавую канструкцыю, якая ў беларускім дойлідстве выкарыстоўвалася да сярэдзіны XVII ст. У аналагічнай тэхніцы выкананы ўнутраныя сцены першага паверха ўсходняга корпуса кляштара. Падэшва падмурка вежы знаходзіцца на глыбіні 2,8 м. Паміж падмуркам яе і кляштара прасочваецца перавязка, што сведчыць пра адначасовасць іх будаўніцтва. На аснове фармату цэглы і тэхнікі муроўкі сцен час будаўніцтва вежы можна

